Вячаслаў Швед

# ЛЕТАПІС ГРОДНА

## 1005 – 1995

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2020

УДК 82-94
ББК 63.3
Ш 72

Р э ц э н з е н т ы:

**Госцеў А.П.,**
краязнавец, сябра Саюза журналістаў Беларусі,
член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі ноосферы,
лаўрэат прэміі Ю. Ядкоўскага;

**Чарнякевіч А. М.,**
*кандыдат гістарычных навук,*
*аўтар кніг па гісторыі Гродна.*

**Швед В.В.**

Ш 72 Летапіс Гродна (1005 – 1995 гг.) / В.В. Швед. – Гродна: “ЮрСаПрынт”, 2020. – 324 с.

ISBN 978-985-7257-07-2.

Дадзеная кніга не з’яўляецца звычайным дапаўненнем і пашыраным выданнем кнігі “Кронан: Летапіс горада на Нёмане. 1116-1990 гг.”. Гэта канцэптуальна новы твор. Збліжае дзве кнігі храналогія Гродна, але яна пададзена значна глыбей і шырэй па праблематацы і цалкам у рамках новай перыядызацыі гісторыі горада. Інфармацыйны рад дапаўняюць фрагменты дакументаў нярэдка недаступныя масаваму чытачу.

**УДК 82-94**
**ББК 63.3**

**ISBN 978-985-7257-07-2**

*Жыве ў нас памяць пра вялікае былое…*
*Са шведскага гімна*

# Уступнае слова аўтара да 25-годдзя выдання кнігі "Кронан"

На маім стале – прывезеная дачкой са Швецыі стэарынавая свечка, на якой намаляваны карабель з надпісам "Kronan. 1676". Тая свечка нястомна напаміналa мне пра абяцанне, дадзенае чытачам у 1993 г., калі выйшла наша сумесная з Алесем Госцевым кніга "Кронан. Летапіс горада на Нёмане (1116–1990 гг.)" – выдаць кнігу на беларускай мове. І вось цяпер, праз шмат гадоў, я вырашыў яго выканаць – падарыць кнігу па слядах "Кронана" ў іншым фармаце.

"Кронан" нарадзіўся як вынік нашай сумеснай працы з Алесем Госцевым.

Я пачаў працаваць у Гродзенскім універсітэце з 1982 г. Недзе ў канцы 1980-х гадоў доктар гістарычных навук прафесар М.А. Ткачоў пазнаёміў мяне з гродзенскім краязнаўцам Алесем Госцевым. Той прынёс яму камп'ютарную раздрукоўку сваёй храналогіі Гродна. Міхаіл Аляксандравіч папрасіў, каб я паглядзеў яе і адказаў, ці варта публікаваць. Я ўважліва прачытаў і зрабіў чырвоным стрыжнем заўвагі па тэксце. Іх было столькі, што Алесь прапанаваў мне разам з ім напісаць храналогію Гродна. Я згадзіўся і ў працэсе працы выказаў ідэю пра неабходнасць другой часткі кнігі – асобы, якія звязаны з горадам і пра якіх успамінаецца ў першай частцы. Такой кніга пад назваю "Кронан: Летапіс горада над Нёманам" і з'явілася ў 1993 г. У пачатку кнігі напісана: "Светлай памяці Міхася Ткачова прысвячаецца".

Успамінае Алесь Госцеў: “Спачатку я паставіў задачу храналагічнай сістэматызацыі. Пасля я дапасаваў да гэтага электронна-вылічальныя машыны, якія ў канцы 1970-х гадоў мінулага стагоддзя пранiклі на многія буйныя прадпрыемствы. Я працаваў тады праграмістам на гарадзенскім хімічным камбінаце, таму ўся гэтая тэхніка была пад рукой. Праграма мне вельмі дапамагла сартаваць гістарычныя дадзеныя. Напэўна, я быў першым у вобласці, хто пачаў выкарыстоўваць электронна-вылічальную тэхніку для краязнаўчых прац. У канцы 1980-х, калі я паказаў свае напрацоўкі Міхасю Ткачову, то ён вельмі зацікавіўся”. В. Парфёненка, які прывёў успаміны Госцева ў сваім артыкуле, далей піша: “Пабачыўшы напрацоўкі краязнаўцы, Швед праз некалькі дзён прынёс вялікі стос сваіх картак і прапанаваў таму (Госцеву. – В.Ш.) самому вырашаць: зробіць ён яму ў сваёй кніжцы па гісторыі Гродна імянную падзяку за папаўненне звестак ці пагодзіцца зрабіць яго сааўтарам. “Я бачу, што ты амаль на траціну павялічыў інфармацыю, – адказаў Госцеў, – думаю, што ад гэтага нашае сумеснае выданне толькі выйграе. Амбіцый я не маю. Давай, калі ты згодны, будзеш маім сааўтарам”.

Назва кнігі – “Кронан” за больш чым 20-гадовае існаванне атрымала самастойнае жыццё. Праз некаторы час пасля выхаду кнігі пазванілі з ТАА “Кронан” і запыталіся, ці не будзем супраць назвы “Кронан” для дзіцячага і моладзевага ровара, які будзе прадавацца за мяжой. “Кронанам” сталі называць гатэлі, водку, цыгарэты, хлеб. Гродзенскі “Кронон Парк Гатэль” запрашае ў свой рэстаран “Кронан”, дзе прадстаўляе еўрапейскую і беларускую кухню. З’явіліся гродзенская гандбольная каманда “Кронан”, каманда з Гродна па інтэлектуальнай гульні брэйн-рынг, клуб спартыўнага арыентавання. Часам даходзіла да парадоксаў: аднойчы ўбачыў у рэкламным акне кінатэатра “Чырвоная зорка” запрашэнне на мерапрыемства ў час святкавання дня горада Кронана (відаць, аўтар падумаў, што так называлі калісьці Гродна).

Прайшло больш за 25 гадоў з выдання "Кронана". З'явілася шмат новых крыніц, напісаны новыя кнігі, новы погляд на некаторыя праблемы гісторыі горада выказалі маладыя гарадзенскія гісторыкі. Не спыняліся самі аўтары ў сваіх пошуках матэрыялаў па гродназнаўстве. У 2009–2010 гг. у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце выйшаў дапаможнік па курсе "Краязнаўства" для студэнтаў гуманітарных спецыяльнасцей. У 2012 г. на яго аснове напісана ілюстраваная кніга "Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада". Але хацелася выканаць абавязак, дадзены на прэзентацыі "Кронана" – падрыхтаваць новае выданне на беларускай мове. Акрамя таго, змянілася тэхніка выдаўніцтва, якая дазваляе цяпер апублікаваць кнігу прыгожую, з каляровымі ілюстрацыямі, з добрай вокладкай. Таму і выспела неабходнасць выдаць новую кнігу па храналогіі Гродна. Алесь Госцеў, заняты сваім праектам, пагадзіўся, што гэтае зрабіць аўтар дадзенай кнігі, былы сааўтар "Кронана".

*Тэрмін “Чорная Русь”, побач з “Белай Руссю”, ёсць у Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай (XVI ст.). Баварскі гісторык Рыхэнталь пісаў, што ў час Канстанцкага сабору (1414–1418) у пасольстве Вітаўта былі “князі з Белай і Чорнай Русі”. У пачатку XVII ст. у Хроніцы еўрапейскай Сарматыі піша пра Белую, Чорную і Чырвоную Русь польскі гісторык А. Гваньіні. Сучасны даследчык Ю. Весялкоўскі адзначыў, што Чорная Русь абдымала абшырную тэрыторыю з такімі гарадамі, як Ваўкавыск, Горадня, Драгічын, Клецк, Ліда, Мір, Наваградак, Нясвіж, Рэчыца, Слонім, Слуцк. Значыць, Чорнай Руссю азначалі заходнюю частку Беларусі з цэнтрам у Навагрудку.*



# ГОРАДЗЕН – ЦЭНТР УДЗЕЛЬНАГА КНЯСТВА

Гарадзенскае княства – удзельнае княства пач. XII – пач. XV ст. з цэнтрам у Горадзене (Горадні), вядомае па летапісах з 1116 г. з нагоды шлюбу Усевалада Давыдавіча з дачкой Уладзіміра Манамаха Агаф'яй. Мела выгаднае размяшчэнне ў басейне сярэдняга Нёмана, які выводзіў на Балтыйскае мора і быў адгалінаваннем шляху "з вараг у грэкі". Гэта спрыяла эканамічнаму і культурнаму развіццю княства. Палітычная залежнасць княства ад вялікага князя кіеўскага прымушала ўдзельнічаць у яго паходах супраць Полацка, Літвы, Галіча, полаўцаў. Пасля 1183 г. у Іпацьеўскім летапісе не знаходзім звестак пра Гродна і яго князёў, бо, верагодна, у Гарадзенскім княстве нічога выбітнага не адбывалася, а князі перасталі актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці Паўднёвай Русі. У гэты час роля Кіева як палітычнага цэнтра падала, і гарадзенскія князі, як і іншыя ўскрайныя, сталі праводзіць больш самастойную палітыку ўдзельнага княства. Такое існаванне працягвалася да мангола-татарскага нашэсця на Кіеўскую Русь. Успамін пра "трубы гучаць гарадзенскія" ў "Слове пра полк Ігаравы" гаворыць пра тое, што Горадзень цяжка ўспрыняў паражэнне аднаго з полацкіх князёў – абаронцаў паўночна-заходніх межаў Русі. Цяпер гарадзенцы засталіся самі на памежжы двух вялікіх плямён: яцвягаў і аўкштайтаў (летувісаў). У апошняй чвэрці XII ст. склалася гродзенская школа архітэктуры. З пачатку 1240-х гадоў, пасля нападу мангола-татараў, княства знаходзілася ў складзе ВКЛ. З 1253 па 1277 г.

адбывалася барацьба за княства паміж літоўскім і галіцка-валынскімі князямі, пакуль Тройдэн не спыніў набегі апошніх на землі княства. У 1276 г. ён пасяліў у ваколіцах Горадзена прусаў. З 1284 па 1402 г. адбываліся на княства крыжацкія напады, якія ў 1300–1326 гг. паспяхова адбіваў кашталян гарадзенскага замка Давыд Гарадзенскі. З канца XIV ст. княства становіцца ўладаннем Вітаўта, а пасля заключэння Гарадзельскай уніі 1413 г. ператвараецца ў Гарадзенскі павет Трокскага ваяводства ВКЛ.

## 1005 г.

Вялікі князь кіеўскі Уладзімір Святаслававіч выдаў устаўную грамату на арганізацыю Тураўскай епархіі па грэчаскім узоры. У ёй было напісана: “Се аз, князь великий киевский Василии, нарицаемыи Владимер, умыслих со свое княгинею Анною и з детьми своими: с сыном Изяславом и Мьстиславом, Ярославом и Всеволодом, Борисом и Глебом, и со всеми детми, и з боляры своими третие богомолие епископию постави в Турове в лето 6513 [1005 г. – В.Ш.] и придах к неи городы с погосты в послушание и священие и благословение держати себе Туровскои епископии: Пинск, Новгород, Городен, Слоним, Берестеи, Волковыеск, Здитов, Небле, Степан, Дубровица, Высочко, Случеск, Копыл, Ляхов, Городок, Смедян…” (цыт. па: Щапов Я.Н. Туровские уставы XIV века о десятине // Археографический ежегодник за 1964 год. – С. 271–272). Дакумент, публікуемы Шчапавым, захоўваўся ў той час у Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна, Троіцкі збор, № 714, л. 73–74. У наш час дакумент працытаваў Чаромін (руск. Черёмин) А.А. у сваёй кнізе “Туровское княжество (X–XIV века)” ( Москва – Минск, 2012. – С. 36–37).

Супрацоўнік НАН Беларусі Лысенка П.Ф. піша: “Вырашана за дату заснавання Тураўскай епархіі прыняць 1005 г., якім датуецца гэтая падзея ў Кіева-Пячэрскім пацерыку пад рэдакцыяй Іосіфа Трызны (1657 г.)”. Большасць гісторыкаў праваслаўнай царквы лічаць дакумент недаставерным і дату заснавання Полацкай і Тураўскай епархій перасоўваюць на час “усталявання старажытных епіскопій на Русі” (Лысенко П.Ф. Сказание о Турове. / П.Ф. Лысенко. 2-е изд. – Минск: Беларуская наука, 2007. – С. 111.). Гэта значыць, канец X ст., пры Уладзіміры.

Дадзеная дата ўпершыню звязваецца з гісторыяй Гродна. Аўтар разумее, што яна патрабуе яшчэ навуковай працы над гістарычнымі крыніцамі, але публікуе яе для актывізацыі дзейнасці ў гэтым напрамку. Вялікай памылкі не дапускаецца, бо археолагі лічаць, што Гродна ўжо існаваў

у X стагоддзі. Ваўкавыск, які ўпамінаецца ў цытаваным дакуменце, зыходзячы з 1005 г. адсвяткаваў сваё 1000-годдзе.

### 1064 г.

Па словах протаірэя І. Карчынскага і даследчыка Ю. Віцьбіча, магчымы год заснавання царквы святых Барыса і Глеба на Каложы. На думку маскоўскага даследчыка Р. Раманава, – год пабудовы царквы-прадвесніка Барысаглебскай.

### 1116 г.

З Іпацьеўскага летапісу: "6624...в се же лето преставися Мстиславъ внукъ Игоревъ. Томъ же лете Володимеръ [Мономах, А.Г., В.Ш.] отда дщерь свою Огафью за Всеволодка". Гэтыя падзеі прадвызначылі заснаванне крэпасці Горадзен і дынастыі гарадзенскіх князёў. Названы Усеваладка – Усевалад Давыдавіч – першы гарадзенскі князь. Жонкай Усевалада Давыдавіча была Агаф'я Уладзіміраўна (канец XI ст.? – другая палова XII ст.?), дачка вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха і англійскай прынцэсы Гіты, унучка англійскага караля Гаральда, праўнучка Яраслава Мудрага і візантыйскага імператара Канстанціна Манамаха, прапраўнучка Уладзіміра Святога і Рагнеды Полацкай. Мела з гарадзенскім князем трох сыноў (Барыса, Глеба і Мсціслава) і двух дачок. Палітычна Гарадзенскае княства залежала ад вялікага кіеўскага князя, а ў рэлігійным плане падпарадкоўвалася Тураўскай епархіі. Пра гэта яшчэ ў 1988 г. пісаў П.А. Рапапорт.

### 1127 г.

11 ці 14 жніўня. Горадзен упершыню ўпамінаецца ў летапісах.

Радзівілаўскі летапіс: "6635... в то же время посла князь Мстиславъ братию свою на Кривичи четырми пути; Вячеславъ ис Турова, Андрэй из Володимеря, а Всеволодка из Городна, и Вячеславъ Ярославича ис Кляцка. Тем повеле ити и ко Изяславлю... рек имъ: «Во одинъ день всем пустити на воропъ, августа 14»". Гэта літаратурны помнік пачатку XIII ст., які захаваўся ў двух спісах XV ст.: Радзівілаўскім і

Маскоўска-Акадэмічным.

Лаўрэнцьеўскі летапіс: “6635. В то же лето посла князь Мстиславъ братью свою на Кривиче четырми пути. Вячеслава ис Турова, Андрея из Володимеря. А Всеволодка из Городна. И Вячеслава Ярославича ис Клечьска. Тем повеле ити къ Изяславлю”. Дадзены гісторыка-літаратурны твор напісаны ў 1377 г. і з’яўляецца копіяй летапісанага зводу 1305 г. (у аснове якога ляжыць вялікакняскі Уладзімірскі звод – дапоўненая копія зводу 1281). Капіраваннем займаліся тры перапісчыкі, але асноўную працу выканаў мніх Ніжагародскага Пячэрскага манастыра Лаўрэнці, імем якога і назвалі летапіс.

Іпацьеўскі летапіс: “6636...Того же лета посла князь Мстиславъ с братьею своею многы Кривичи четырьми путьми...Всеволодка из Городка [у выданні 1908 г., стб. 292 літара “к” перароблена з “н”, а ў выданні 1843 г., с. 11, назва горада пададзена правільна: «Всеволодка из Городна» – В.Ш.] ...тем повеле ити къ Изяславлю ...рекъ им динъ день всим пустити на воропъ мца августа 11 дня”. Гэта падзея датавана ў летапісе па ультрасакавіцкаму календарнаму стылю і пры правільным перакладзе на сучаснае летазлічэнне атрымаецца таксама 1127 г. Дадзены летапіс з’яўляецца паўднёварускім летапісным зводам канца XIII ст. Падзеі, якія цікавяць нас, знаходзяцца ў другой частцы і паходзяць з Кіеўскага зводу канца XII ст.

Выдатны расійскі гісторык С.М. Салаўёў у “Истории России с древнейших времён” (першае выданне ў 1893 г.) пра згаданы паход на князёў полацкіх пісаў: “Покончивши с черниговскими, в том же 1127 году Мстислав послал войско на князей полоцких: есть известие, что они не переставали опустошать пограничные волости Мономаховичей” (Сочинения, кн. 1, т. 1–2. – М.: Мысль, 1988. – С. 401). Гродзенскі гісторык Я.Ф. Арлоўскі ў кнізе “Гродненская старина. Часть 1. Гор. Гродна” пісаў: “Летописные упоминания о г. Гродне под годами 1127, 1132, 1142, 1144, 1183 относятся к городу Гродне – губернскому” (Гродна, 1910. – С. 20).

Чаму ж да сённяшняга дня на рэкламнай прадукцыі, плакатах, у некаторых публікацыях, у меркаваннях гродзенскай улады з'яўляецца памылковая дата 1128 год? Яна, відаць, умацавалася ў гісторыі горада з падачы савецкага гісторыка М. Вароніна, хаця сам ён у кнізе "Древнее Гродно", гаворачы пра паход князёў, піша: "Гродненские силы названы при этом на третьем месце после Владимира-Волынского и Турова. Следовательно, в это время Гродно уже существует. Есть и Гродненское княжество, представляющее значительную военно-феодальную единицу, стоящую в ряду старых Волынских и Туровских княжеств. Очевидно, что Гродно – стольный град Всеволодки. Однако источники молчат о времени появления этого русского форпоста на Немане" (М., 1954. – С. 13).

Дата 1128 г. з'явілася ў кнізе пра Гродна, апублікаванай дзвумя выданнямі ў 1960 і 1964 гадах пад рэдакцыяй З.Ю. Капыскага і Б.М. Фіха (с. 10). Раздзел "Гродна – феадальны беларускі горад (XII–XVII ст.)" пісаў Якаў Навумавіч Мараш. Выдатны гісторык і краязнаўца памыліўся сам ці не правяраючы падаў дату "1128 г." З таго часу яна і пайшла „гуляць" па публікацыях. Праўда, часам заўважалі нестыкоўку па розных летапісах, але спасылаліся на памылку летапісцаў.

На самой справе летапісцы не памыляліся (за гэтае можна было і галаву страціць). Памылка атрымалася ад звычайнага няведання. Пры вылічэнні даты на сённяшні каляндар па Радзвілаўскім і Лаўрэнцьеўскім летапісах трэба ад 6635 года адняць прынятую гісторыкамі лічбу 5508. Атрымаем 1127 год – год першага ўспаміну Гродна. А калі ўзяць 6636 год па Іпацьеўскім летапісе, дык трэба ўлічыць існаванне ў той час ультрасакавіцкага каляндарнага стылю, які выкарыстаў летапісец. У гэтым выпадку гісторыкі пры перакладзе на сённяшні каляндар павінны адымаць 5509 гадоў. Атрымоўваецца ў выніку той жа 1127 год (6636 – 5509).

У акадэмічнай, навуковай і папулярнай літаратуры, якая выйшла ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, 1127 год

знайшоў сваё належнае месца. Рэдакцыя “Беларускай энцыклапедыі” прызнала гэты год у такіх выданнях, як “Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі” (Мн., 1995. – С. 29); “Энцыклапедыя гісторыі Беларусі” (Мн., 1996, т. 3. – С. 147); “Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя” (Мн., 2009. – С. 514), “Города, местечки и замки Великого княжества Литовского: Энциклопедия” (Мн., 2009, – С. 128). Інстытут гісторыі АН Беларусі таксама датай нараджэння Гродна палічыў 1127 г. Напрыклад, у «Нарысах гісторыі Беларусі” (Мн., 1994. – С. 87, 101). У дапаможніку для вучняў і настаўнікаў “Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI–XV стст.)” (Мн., 1998. – С. 38) прафесар Г.В. Штыхаў у каментары да дакумента пра паход Мсціслава на крывічоў указвае 1127 г.

## 1130-я гг.

Пабудаваны адзін з першых гарадзенскіх храмаў, сямейная царква Усеваладкавічаў – Ніжняя царква, якую гродзенскі гісторык І. Трусаў называе Сямёнаўскай.

## 1132 г.

Паход Мсціслава Уладзіміравіча на Літву разам з Усеваладам Гарадзенскім.

## 1141 г.

Пасля 22 студзеня. З Іпацьеўскага летапісу: “6649...в се же лето преставися Всеволодъ Городенский”.

## 1144 г.

Восень. Гарадзенскія князі Барыс і Глеб Усеваладавічы разам з кіеўскім князем Усеваладам удзельнічаюць у паходзе на Галіч, на “многоглаголивого Владимирка”.

Зіма. Кіеўскі князь Усевалад аддае замуж дочак гарадзенскага князя Усевалада Давыдавіча (Усевалада Гарадзенскага): адну за Уладзіміра Давыдавіча (Чарнігаўскага), а другую за Юрыя Яраславіча (Тураўскага).

## 1151 г.

Сакавік. Барыс Усеваладавіч дапамагае са сваімі палкамі князю Ізяславу Мсціславічу ў барацьбе за кіеўскі стол.

Іпацьеўскі летапіс: “6658... Поусти Изяславъ брата своего Святополка во Владимеръ...

а самъ поиди съ братомъ своимъ Володимеромъ и съ сыномъ своимъ Мстиславомъ и съ Борисомъ Городенским и съ Угры къ Дорогобужю".

Красавік. Паход Барыса Усеваладавіча з іншымі князямі на Кіеў. Пасля асады горада гарадзенскі князь пераследуе да Белгарада палкі Юры Суздальскага.

## 1166 г.

Князь Глеб Усеваладавіч Гарадзенскі ахоўвае ў Канева купецкія караваны ад полаўцаў.

## 1167 г.

Князь Мсціслаў Усеваладавіч Гарадзенскі ўдзельнічае ў міжусобнай барацьбе за кіеўскі стол на баку Мсціслава Ізяславіча.

## 1168 г.

2 сакавіка. Мсціслаў Усеваладавіч удзельнічае ў паходзе на полаўцаў, арганізаваным Мсціславам Ізяславічам.

## 1170 г.

8 лютага. Глеб і Мсціслаў Усеваладавічы аказваюць дапамогу Мсціславу Ізяславічу ў яго барацьбе за Кіеў, за што ён заключыў з гарадзенскімі князямі дамову.

22 лютага. Па запрашэнні Мсціслава Ізяславіча Мсціслаў Усеваладавіч Гарадзенскі ўдзельнічае ў паходзе на полаўцаў.

## 1173 г.

Красавік. Паход Андрэя Багалюбскага на Кіеў з удзелам гарадзенцаў на чале з Глебам Усеваладавічам.

## 1180-я гг.

Пераезд будаўнічай арцелі Пятра Міланега з Турава ў Горадзен. Аб'яднанне яе з полацкімі плінфатворцамі і мясцовымі рамеснікамі прыводзіць да ўзнікнення самабытнай гарадзенскай архітэктурнай школы XII стагоддзя.

Будаўніцтва Ніжняй царквы на Замкавай гары і Прачысценскай царквы побач з дзядзінцам (арх. Пётр Міланег).

"Сярод тагачасных дрымучых лясоў і пушчаў Панямоння летапісны горад Горадзен глядзеўся як незвычайны яркі аазіс, дзе на яго ўзбярэжным таржышчы біла ключом заможнае эканамічнае жыццё, дзе суровы быт змяк-

чаўся атмасферай высокай духоўнай культуры, дзе стаялі небывалай красы чатыры храмы (а магчыма і больш) і непрыступны мураваны замак. У гэтым немалы ўклад і дойліда Пятра Міланега” (М. Ткачоў).

## 1183 г.

Лета. З Іпацьеўскага летапісу: “6691...Городенъ погоре всь и церкы каменая от блистания молние и шибения грома”.

## 1184 г.

18 красавіка. Мсціслаў Усеваладавіч Гарадзенскі ўдзельнічае ў паходзе на полаўцаў сумесна з кіеўскім князем Святаславам Усеваладавічам.

Пачатак будаўніцтва Барыса-Глебскай царквы (арх. Пётр Міланег).

“Да моманту пачатку будаўніцтва Барыса-Глебскай царквы і манастыра гродзенская арцель будаўнікоў мела вялікі вопыт узвядзення мураваных храмаў – былі ўжо пабудаваны Ніжняя, Уваскрасення і Прачысценская цэрквы. Была адпрацавана сістэма вытворчасці плінфы, маёлікавай пліткі, связуючага раствора, апрацоўкі каменя. Іконапісцы, ювеліры, сталяры-чырванадрэўшчыкі, ліцейшчыкі мелі вопыт збудавання іканастасаў, ліцця званоў” (І. Трусаў. Православные храмы Гродно. (Краткий очерк истории). – Минск, Гродно: Мэджик Бук, 2008. – С. 47).

## 1185 г.

Стварэнне “Слова о полку Игореве”, у якім чытаем: “Загородите Полю Ворота своими острыми стрелами... – ...трубы трубятъ городенскіи”. Расійскі гісторык А.В. Салаўёў лічыў, што гарадзенскі князь мог удзельнічаць сваімі сіламі або ў саюзе з Раманам Валынскім у барацьбе з Літвой і ятвягамі.

## 1241 г.

Другая палова лютага. Памёр гарадзенскі князь Юры Глебавіч, верагодна, падчас сутыкнення войска княства з мангола-татарамі.

Згодна артыкулу польскага вайсковага гісторыка В. Заторскага “Першы напад манголаў на Польшчу ў 1240–1241 г.”, у сярэдзіне 1241 г. з Уладзіміра выйшла з мэтамі разведкі мангольскае войска на чале з Ордай (Урля, Курдж) у накірунку Літвы. Яны спалілі Пінск, На-

вагрудак і Слонім. У другой палове лютага 1241 г., каб забяспечыць сабе тыл падчас нападу на Польшчу, у напрамку Літвы з Уладзіміра рушылі войска манголаў на чале з Ордай у сіле аднаго тумена. На гэты раз ён ішоў праз Ваўкавыск, Лунна. Адбылася бітва паміж Астрына і Васілішкамі (на месцы Шайбакполя), дзе літоўскае войска было разбіта і, як мы думаем, загінуў Юры Глебавіч. Затым манголы патрапілі ў Гродна, разрабавалі яго і спалілі. Што тычыцца Кайдана (Кайду) і яго войска, дык яно ў гэты час захапіла Сандомір і Вроцлаў. Заторскі рабіў сваю рэканструкцыю, абапіраючыся на працы Длугаша, М. Стрыйкоўскага, Т. Нарбута (Przegląd historyczno-wojskowy. T. IX. – Warszawa, 1937. – S. 209–213).

У другім артыкуле, надрукаваным у гэтым жа часопісе, пра падобныя падзеі піша Ю. Пузыня, карыстаючыся акрамя вышэйназваных крыніц яшчэ літоўскімі (беларускімі) хронікамі. Ён лічыць, што Гродна было мэтай другога выведчага паходу мангола-татараў. Пачаўся ён не з Уладзіміра, а з Пшэмысля і далей прайшоў праз Хэлм – Уладаву – Пінск – Навагрудак – Слонім – Ваўкавыск – Лунна – Васілішкі, і затым татары вярнуліся назад праз Ваўкавыск – Хэлм. Пра бітву ў Гродне, на погляд аўтара, гавораць знаходкі Ю. Ядкоўскага на тэрыторыі Старога замка ў Гродне. Апошні знайшоў каля царквы, разбуранай маланкай і громам у 1185 г., каля 30 шкілетаў, раскіданых з боку берага Нёмана (а не па-хрысціянску пахаваных упарадкавана, да таго ж у адным з чарапоў знаходзіўся фрагмент стралы). Пузыня піша, што руіны царквы былі выкарыстаны падчас бітвы для абароны ад татараў, і калі б зрабіць раскопкі з іншага боку царквы (з боку нападу), дык можна было б знайсці яшчэ больш шкілетаў. Камандаваў татарамі Кайдан, брат Батыя, які разам з Ордай камандаваў адным з туменаў паўночнай арміі Байдара, і не трэба яго блытаць з палкаводцам Каданам, сынам Удыгея, які кіраваў адной з калон арміі татар у паходзе на Венгрыю (Przegląd historyczno-wojskowy. T. IX. – Warszawa, 1937. – S. 369–377, 394–395).

*Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае (скарочана ВКЛ, Літва) – біэтнічная балта-ўсходнеславянская дзяржава з дамінаваннем усходнеславянскага элемента, якая існавала ў XIII–XVIII стст. на тэрыторыі сучаснай Летувы, Беларусі і Украіны (апошняя да сакавіка – чэрвеня 1569 г.). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай менавіта ВКЛ было далучана да Расійскай Імперыі, а не Польшча, як памылкова лічылі дзеячы польскага нацыянальнага руху канца XVIII – першай паловы XIX ст., а пазней пісала большасць польскіх даследчыкаў. Савецкія гісторыкі стварылі міф пра ВКЛ як выключна літоўскую (летувіскую) дзяржаву, каб апраўдаць тры падзелы Рэчы Паспалітай і падаць анексію беларускіх земляў як вызваленне сваіх адзінакроўных славянскіх братоў з-пад літоўскага прыгнёту. Працы М. Ермаловіча, В. Насевіча, А. Краўцэвіча, М. Спірыдона гэты міф абверглі.*



# Раздзел II

# ГОРАДЗЕН У СКЛАДЗЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА, РУСКАГА І ЖАМОЙЦКАГА (ВКЛ)



# ДРУГАЯ СТАЛІЦА ЛІТВЫ

**1240-я гг.**

Пачатак 1240-х, пасля нападу мангола-татараў. Горадзен стаў удзельным горадам ВКЛ дзякуючы намаганням Міндоўга і Эрдзівіла Мантвілавіча.

З хронікі Быхаўца: "І ўчыніў князь вялікі Эрдзівіл тут сталіцу і назваўся вялікім князем навагарадскім. І, пайшоўшы з Навагарадка, заснаваў Эрдзівіл горад Горадзень, потым пайшоў да Берасця і знайшоў Берасце, Дарагічын і Мельнік Батыем спустошаныя і панішчаныя, і тыя гарады адбудаваў нанова, і пачаў у іх княжыць...".

А. Нарушэвіч дадае да названых гарадоў яшчэ Браньск і Бельск (Historya narodu polskiego. T. 3. Kraków, 1860. – S. 260).

**1252 г.**

Адзін з вайсковых атрадаў Галіцка-Валынскага княства захапіў Горадзен.

**1253 г.**

Данііл Раманавіч, князь Галіцкі, далучыў Горадзен разам з усёй Чорнай Руссю да Галіцка-Валынскай зямлі: "/Даниил/ ... посла с братом и сыном Романом люди своя, и взяста Городен... того же лета присла Миндог к Данилу, прося мира...", што замацоўваецца дамовай 1254 г.

**1259 г.**

Горадзен зноў захоплены Даніілам Раманавічам, але, верагодна, хутка вярнуўся ліцвінам.

**1270 г.**

Вялікі князь літоўскі Тройдэн захапіў Горадзен.

**1275 г.**

На Горадзен напалі войскі Галіцка-Валынскага княства, але страцілі шмат людзей і адышлі, парабаваўшы ваколіцы горада.

**1276 г.**

Горадзен захоплены галіцкім князем Раманам Данілавічам, але хутка ім згублены.

Пасля вяртання Горадзена

ў склад ВКЛ Тройдэн пасяліў тут прусаў і бартаў (барцян), якія збеглі ад крыжакоў. Крыжакі напалі на Пагезанію, забівалі яе насельніцтва і спальвалі дамы.

## 1277 г.

На Горадзен напалі галіцка-валынскія князі Мсціслаў, Уладзімір і Юрый. Апошні разам з Мсціславам, без ведама Уладзіміра, выслал на Гродна адборны атрад на чале з Туйма. Гарадзенскія прусы (наздраўцы і бартняне, што знайшлі ў Гродне апеку Тройдэна) выйшлі з горада, напалі на гэтае галіцкае войска, разбілі яго і захапілі значную колькасць баяр у палон. Хутка падышоў з Ваўкавыска Уладзімір і зрабіў штурм умацаванняў, захапіў каменную вежу, але вымушаны быў заключыць перамір'е, па якому ўсе палонныя былі вызвалены.

## 1284 г.

Лета. Першы напад крыжакоў на Горадню. Прычынай яго была ўцечка прусаў-судаўцаў ад разні крыжакоў у Гродна і яго ваколіцы. Вялікі магістр Тэўтонскага ордэна К. Тырнберг нападае на гарадзенскую крэпасць і захоплівае яе дзякуючы былому прадвадзіцелю яцвягаў Скоманду (Скомунду) і яго брату, якія добра ведалі ваколіцы горада. Ён скарыстаўся тым, што войска літоўскае (і магчыма, гарадзенскі атрад) адправілася ў паход на Польшчу. Тым не менш бітва адбылася жорсткая, бо храніст П. Дусбург піша, што “баязлівец не меў бы адвагі глядзець на яе. Калі адныя адважна атакавалі, акружаныя спрытна давалі адпор”. Крэпасць была спалена, узяты палонныя. Затым на тэрыторыю былога Гарадзенскага княства прыйшло каля 1 800 крыжакоў, якія спалілі дамы, зрабавалі насельніцтва, узялі вялікі палон і здабычу. З гэтага года Горадня становіцца галоўным пунктам абароны цэнтральнай часткі ВКЛ.

Пелас, сын нальшанскага князя Даўмонта, скрываецца ў Горадні ад праследу літоўскіх князёў. Расійскі даследчык А.М. Нарбут у “Генеалогии Белоруссии” (вып. 1. – М., 1995, с. 49) у радаводзе Даўспрунгаў указвае ў 6-м калене Даўмонта І (Цімафея), кня-

зя Пскоўскага, а ў 10-м калене Пеласа. На жаль, больш біяграфічных матэрыялаў пра апошняга мы не знайшлі.

## 1295 г.

20 мая. Пяць братоў ордэна і 150 крыжакоў з Самбіі і Натангіі выйшлі паходам на Горадзен. Па дарозе да яго сышлі з коней, пазабівалі на беразе Нёмана людзей у вёсцы і вырашылі далей плыць суднамі. Горадзенскі гарнізон выйшаў ім насустрач і адбылася бітва на статках, пасля якой крыжакі былі змушаны адмовіцца ад нападу на горад і паплылі да замка Юнігеды (Велоны ?), дзе селі на мель, і горадзенцы шмат каго забілі, астатнія збеглі.

## 1296 г.

Зіма. Комтур з Балгі Зыгфрыд Рэйберг з атрадам тэўтонцаў з Прусіі пайшоў да Горадзена. Падыходзячы да горада, яны ўбачылі на снезе сляды гараднян і, знайшоўшы іх, забілі. Потым спалілі падзамчышча крэпасці, зрабавалі насельніцтва і каля 200 чалавек узялі ў палон.

Вясна. Комтур Балгі Генрых Зуцверт напаў на Горадзен, калі князь Віцень пайшоў паходам на інфлянцкія землі. Рыцары сустрэлі моцны адпор гарнізона і вымушаны былі адысці. Шмат рыцараў было забіта і паранена.

## 1300–1326 гг.

Па словах даследчыка гродзенскай архітэктуры І. Трусава, у гэты час была пабудавана Верхняя (Сямёнаўская) царква дзякуючы намаганням гродзенскага кашталяна Давыда Гарадзенскага. Улічваючы, што ён быў зяцем Гедыміна, князем і, як сцвярджае польскі даследчык Ю. Шлівінскі, гарадзенскім князем, меркаванне І. Трусава мае пад сабой падставы. Ён жа піша, што ў гэты час адбыўся першы рамонт Барысаглебскай царквы.

## 1305 г.

Новы напад крыжакоў на Горадзен на чале з комтурам Брандэнбурга Конрадам Ліхтэнхагенам. Замак выстаяў, а ваколіцы былі разрабаваны і спалены. Але адыходзіць трэба было хутка, бо конніца ліцвінская падыходзіла да горада.

### 1306 г.

Конрад Ліхтэнхаген падчас адсутнасці князя Віценя (ён пайшоў на Польшчу) спрабаваў авалодаць Горадзенам нечаканым набегам атрада ў 400 вайскоўцаў. Калі яны наблізіліся да замка, паднялася моцная бура – людзям не было відаць адзін аднога. Крыжакі атакавалі падзамчышча, якое, па словах храніста Дусбурга, “было вялікім і людным, як горад”. Заваёўнікі спалілі яго і з нарабаваным вярнуліся дамоў.

Каралеўскі комтур Эбергард Вірнемберг, калі даведаўся пра вышэйсказаны поспех крыжакоў, вырашыў таксама паспрабаваць шчасця. Са 100 братамі-рыцарамі і 6000 коннікаў ён нападае на Горадзен. З узыходу сонца да палудня гарнізон вытрымлівае штурм і выходзіць неаднаразова з крэпасці, каб біцца з праціўнікам. Крыжакі страцілі 12 братоў і 30 вайскоўцаў. З боку абаронцаў таксама былі забітыя і параненыя (колькасць невядомая).

### 1311 г.

Люты. Отта фон Берган з 5000 вайскоўцаў спусташае ваколіцы Горадні.

Канец года. Генрых фон Плецке з атрадам у 400 коннікаў спрабуе авалодаць Градняй. Яго вёў на горад нейкі ліцвінскі шляхціц, вызвалены з палону, але гэтае не дапамагло – Віцень з войскам размеркаваўся пад сценамі замка і не даў магчымасці захапіць Горадню.

### 1312 г.

Гарадзенскім кашталянам прызначаны князь Давыд Даўмонтавіч (Давыд Гарадзенскі) – сын пскоўскага (былога нальшанскага) князя.

### 1314 г.

Верасень. Крыжакі захапілі Навагрудак, але ўзяць замак не здолелі. Давыд Гарадзенскі на чале войска ВКЛ дапамог навагрудчанам, напаўшы на абозы рыцараў і забіўшы там каля 30 чалавек аховы – ён забраў 1500 коней, харчаванне. Некаторыя рыцары елі сваіх каней, траву; шмат крыжакоў памерлі з голаду. Выжыўшыя толькі ў канцы шостага тыдня з пачатку паходу вярнуліся дадому.

## 1319 г.

Давыд Гарадзенскі са сваім атрадам у 800 вершнікаў ажыццявіў паход у Прусію, валоданні Ордэна. Але, на думку храніста Дусбурга, ён не ўдаўся.

## 1322 г.

Давыд Гарадзенскі абараняў ад рыцараў Пскоў.

Зімой дайшоў аж да Рэвеля, спаліў пасля рабавання шмат касцёлаў, 5 000 чалавек палону прывёў у Літву.

## 1323 г.

Сакавік. Давыд Гарадзенскі нападае на Мазовію і захоплівае 9 600 палонных.

Май. Давыд Гарадзенскі дапамагае Пскову адбіць чарговы напад нямецкіх рыцараў.

## 1324 г.

Пачатак красавіка. Крыжакі ў колькасці 143 братоў-рыцароў і 600 мужоў з Натангіі, абышоўшы Горадню, напалі на радавы маёнтак князя Давыда (магчыма, Верцялішкі) і спалілі яго. Забілі 38 чалавек, забралі 100 коней і вялікую колькасць жывёлы.

Лістапад. Па загаду вялікага князя літоўскага Гедыміна Давыд Гарадзенскі ажыццявіў паход у Мазовію і разбіў вялікае войска крыжакоў каля Пултуска. Затым разрабаваў і знішчыў агнём гэты горад – рэзідэнцыю біскупа плоцкага Фларыяна.

З ліста мазавецкіх князёў Земавіта, Тройдэна і плоцкага біскупа Фларыяна да папы Іаана XXII (Плоцк, 25.08.1325):

*“Бо напярэдадні бліжэйшага прайшоўшага дня Святой Цэцыліі [21 лістапада 1324] некаторы князь няверны імем Давід, падданы караля альбо князя таго ж Літвы, з вялізарным і шматлюдным войскам, патаемна прабраўшыся ў нашы землі, разрабаваў восемдзесят паселішчаў у нашых уладаннях і трыццаць сем біскупскіх алтароў і адзін неўмацаваны горад з многімі манастырскімі паселішчамі, конямі, быдлам і ўсімі рэчамі. І многія цэрквы разам са згаданымі паселішчамі, знеслаўляючы імя Бога нашага, ён спаліў датла, агнём і мячом кроў хрысціянскую неміласэрна праліў, аб чым з жалем і смуткам мы паведамляем, і больш як дзве тысячы хрыс-*

*ціян, мужчын і жанчын, у язычніцкую аблуду з сабой увёў, перавярнуўшы іх у вечнае нявольніцтва, за выключэннем самых малых, якія з-за галізны і моцнага холаду памерлі на шляху праз дзікія лясы і пушчы і былі пакінутыя на з'ядзенне звярам"* (Ліцкевіч А., Гародня і гарадзенскі рэгіён у другой палове XIII – XIV ст.: назва і межы // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. / Пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. – Гродна, 2013. – С. 44).

**1326 г.**

Давыд Гарадзенскі на чале 1200 коннікаў і з атрадам польскага войска па загаду Гедыміна, саюзніка палякаў, здзейсніў спусташальны рэйд на Брандэнбург. У час вяртання з паходу князь зрабіў у Мазовіі прывал – тут і сустрэла яго смерць. Падкуплены крыжакамі мазавецкі рыцар Анджэй Гост знянацку ззаду напаў на князя ў намёце і забіў яго дзідай (В. Лызлоў піша пра забойства Давыда кінжалам, калі ён паіў каня ў рацэ).

**1328 г.**

60 братоў і 3 000-ны атрад прусаў пайшлі на замак гарадзенскі. Калі даведаліся, што гарнізон яго папярэджаны, дык выслалі 400 мужоў і напалі на ваколіцы Горадні, зрабавалі яе і тады падышлі браты ордэна. Гарадзенцы, думаючы, што крыжакі ўжо пайшлі дадому, выйшлі працаваць на поле. У гэты час браты зноў напалі на ваколіцы, пачалі забіваць і рабаваць, спалілі ўсё на працягу 6 міль. 94 главы сямей (па іншых дадзеных 84) разам са сваёй службай далучыліся да крыжакоў (па іншых дадзеных былі захоплены ў палон) і атрымалі ў Прусіі "ласку" (у першую чаргу былі ахрышчаны).

**1345 г.**

У Горадні стаў правіць Кейстут, які кіраваў Літвой разам з братам Альгердам.

**1347 г.**

Пачалося праўленне ў Горадні Патрыка Кейстутавіча (да 1364 г.). Успамінаецца як уладар Горадзена ў дакуменце аб усталяванні мяжы паміж ВКЛ і Мазавецкім княствам ад 14.08.1358 г.

**1356 г.**

Гарадзенцы ўдзельнічаюць у паходзе на правінцыю Алланштат і горад Гуттенштат.

**1358 г.**

Стварэнне ў Горадні камісіі для вызначэння мяжы паміж ВКЛ і Мазовіяй. Яна пралягла па рэках Нёман і Бобр.

**1361 г.**

Беспаспяховая спроба тэўтонцаў пераправіцца праз Нёман каля Гродна.

**1362 г.**

Пачатак лета. Г. Шындзекапф прыводзіць пад Горадню атрад крыжакоў. Рыцары ўжо рыхтаваліся фарсіраваць Нёман, калі на іх нечакана напалі гараджане, прычым настолькі паспяхова, што праціўнік адмовіўся ад намераў захапіць горад.

**1364 г.**

Люты – сакавік. Фон Ханаў прыводзіць пад Горадню войска з Лівоніii (у т. л. 40 князёў з розных краін Еўропы). Гарадзенскі замак вытрымаў асаду, але войска чужынцаў, як адзначыў нават рыцарскі храніст, «не па-людску спустошылі ваколіцы горада, увялі шмат людзей у няволю». Відаць, гэта было адной з прычын таго, што Кейстут адабраў Гродзенскае княства ад Патрыка, узяў яго пад свой непасрэдны кантроль і прыслаў у Горадню свайго зяця з 300-асабовым вайсковым аддзелам.

Англійскія і шатландскія (?) рыцары на чале з Вінрых фон Кніпродэ (?) прыйшлі ў Горадню.

**1373 г.**

Жнівень. Новы разбуральны паход крыжакоў.

**1375 г.**

Беспаспяховы набег на Горадню Альберта фон Заксена.

**1376 г.**

Не пазней гэтага года Горадня перайшла ў валоданне Вітаўта.

**1377 г.**

Беспаспяховы набег на Горадню Теадорыха фон Эльнера.

**1379 г.**

Напад на Горадню крыжакоў: 2 000 аўстрыйскіх і іншых еўрапейскіх рыцараў.

**1382 г.**

Пераапрануўшыся ў жаночую сукенку, з дапамогай жончынай служанкі Вітаўт збег з Крэўскага замка да Януша Мазавецкага, свайго швагра, але той не вельмі хацеў дапамагаць сваяку, і тады Вітаўт звярнуўся да крыжакоў. Пасяліўся ў Мальбарку, куды прыехалі жонка Ганна, сябры Кейстута і жмудскія баяры.

**1383 г.**

Вітаўт прыняў хрышчэнне ў каталіцкай веры і атрымаў імя Віганд.

Паход з крыжакамі на Літву супраць Ягайлы.

**1384 г.**

Ягайла і Вітаўт заключаюць згоду. Вітаўт прыняў хрышчэнне ў праваслаўнай веры і атрымаў імя Аляксандр. Ягайла стварыў для яго ўдзел з Брэста, Драгічына, Камянца, Ваўкавыска, Горадні. Апошняя становіцца на пэўны час другой сталіцай ВКЛ. Тут жыве Вітаўт з жонкай Ганнай і дачкой Соф'яй. У яго тытуле напісана: "Dux Hrodnensis" ("Князь Гарадзенскі").

**1389 г.**

Вітаўт, асцерагаючыся трокскага князя Скіргайлы (брата Ягайлы), пакідае моцны атрад у гарадзенскім замку, а сам з жонкай бяжыць з Літвы і ўсімі баярамі, рыцармі і дваром да мазавецкіх князёў: спачатку да Януша, затым да Земавіта. Халодна прыняты імі, накіроўваецца да магістра прускага К. Цольнера і крыжакоў, якія ў той час былі ў варожых адносінах з Польшчай і Літвой.

18 чэрвеня. Гарадзенскія яўрэі атрымалі ад Вітаўта даравальную грамату, якая давала ім правы і вольнасці і вызначала адносіны яўрэяў да вялікага князя і да астатняга насельніцтва.

*"Ижъ жыдове Городенскіе на пляцах тых, на которых теперь мешкают, то есть, почавши отъ мосты замку Городенского ку рынку, обаполъ улицы, до улицы, которая идёт з улицы Замковое ку Подолю; тылом тыя пляцы до домов церковных и дому*

*Ивановского. А з другое стороны улицы до цмынтару, а поперек до цмынтара а пляцов костельных аж до речки Городницы. А около ку замку до малое церквы. На которых тых плацах над Городницею божница их жыдовская стоит. До копища их, где змерлых своих ховають, подле пляцовъ жыдовских над Городницею до самой речки Городницы, а жыдове до пляцу пана Ивана Федоровича, а з другое стороны вздлуж до улочки и до пляцов костельныхъ. С которого того копища так теперешнего, яко и на потом набытых пляцов, так теж пляцов божницы их жыдовское жадных податков а ни повинности доскарбу Нашого давати не мают…"* (Цыт. па: Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi Madni Ducis Lithuaniae. 1386–1430 /Zebral i wydal J. Ochmański. – Warszawa, Poznań, 1986. – S. 181).

Арыгінал не захаваўся, успамінаецца ў прывілеі Жыгімонта II Аўгуста ад 19.08.1547 і пацверджаны ў прывілеях Яна Казіміра ад 20.06.1655 г. і Станіслава Аўгуста ад 19.12.1785 г. Некаторыя гісторыкі лічаць названы прывілей Вітаўта фальсіфікатам. Напрыклад, Ежы Ахмянскі звяртае ўвагу на такія памылкі: памянёны ў дакуменце гараднічы Іван Федаровіч жыў у 1-й палове XVI ст.; індыкт 3 не згодны з 1389 г., павінен быць 12; спасылаюцца на брэсцкі прывілей, які таксама з'яўляецца фальсіфікатам.

**1390 г.**

16 лютага. Польскае войска аблажыла Горадню.

Сакавік. Вітаўт заключае пагадненне з Тэўтонскім ордэнам і даручае абарону горада маркграфу Зальцбаху. Гарадзенскі замак 50 дзён вытрымоўвае асаду польскага каралеўскага войска на чале з Уладзіславам Ягайлам. Спачатку ён захапіў Ніжні замак. Вітаўт прыйшоў на дапамогу з прускімі крыжакамі (яны сталі на левым беразе Нёмана). Каб аказаць дапамогу свайму гарнізону ў Старым замку, збудаваў наплаўны мост. Але Ягайла разбурыў мост, пусціўшы на яго зверху па плыні Нёмана зрубленыя дрэвы, і хутка авалодаў Старым (Верхнім) замкам, які трымаўся 6 тыдняў (да 8.04).

З Хронікі Яна Длугаша (пераклад з лацінскай мовы):

*Кн. Витовт, видя, что замок Городня не выдержит длительной осады, решил оказать ему помощь и прибыл с прусскими крестоносцами. Остановившись обозом против Городненского замка на другом берегу р. Немана, он хотел насыпать холм и на нем построить новый небольшой замок. Но эта его работа не принесла осажденным никакого облегчения, и после того, как нижняя часть замка была захвачена королевскими войсками, поражаемые непрестанными выстрелами из пушек, находясь в страхе и отчаянии, они посылали к Витовту донесения, что дальше не выдержат осады.*

*Взволнованные этой опасностью, Витовт и крестоносцы, не имея возможности сделать ничего большего, протянули через р. Неман железную цепь для того, чтобы при ее помощи поставить на реке лодки, раненых и больных перевезти из замка в свой лагерь, а осажденный отряд укрепить свежими силами, а также обеспечить осажденных продуктами, которые уже были на исходе. Но и эта попытка Витовта и крестоносцев была ликвидирована войсками короля. Дело в том, что польские рыцари, посоветовавшись между собой, нарубили в верхнем течении реки значительное количество больших сосен, которые вместе с ветками пустили по реке. Лес, пригнанный быстрым течением реки к замку, сорвал эту цепь и своей тяжестью уничтожил некоторые челны, потопив людей, которые стояли на них и безуспешно старались оттолкнуть деревья. Когда один из них, спасаясь от смерти, пытался вылезти на противоположный берег, где стоял королевский обоз, то крестоносцы кричали ему по-немецки, чтобы он лучше погиб, чем сдался неприятелю. Один из польских рыцарей Завиша из Ружскова протянул ему пику, которой и вытащил пруссака на берег. Пруссак рассказал полякам все о расположении войска крестоносцев и сообщил, что в следующую ночь они решили оставить свой лагерь и бежать. И случилось так, как он рассказал. Крестоносцы бежали вместе с Витовтом.*

*Осажденные в замке, потеряв всякую надежду, на 5-й день после Пасхи сдали замок королю Владиславу. Во время этой осады поляки и литовцы испытывали такой большой голод, что черный хлеб был для них единственной пищей, а лошадей кормили листьями с ветвей деревьев или соломой, содранной со старых крыш, но и ее вынуждены были искать на расстоянии 14 миль.*

**1391 г.**

Кароль польскі Уладзіслаў Ягайла вызваляе Горадню з-пад земскіх праў. Называе яе Arx Garthensis. Дакладны змест прывілея невядомы (ён не прыводзіцца ў кнізе прывілеяў горада, якая надрукавана ў 7-м томе актаў Віленскай археаграфічнай камісіі).

Лістапад. Вітаўт у саюзе з маршалкам Ордэна К. Валенродам захапіў Горадню і дазволіў рыцарам сяліцца ў раёне замка “Новы Гартэн” (Новая Горадня) – насупраць Старога замка. Крыжакі забілі 15 палякаў абаронцаў горада, а астатніх адаслалі ў Мальбарк.

**1392 г.**

Пасля міру Вітаўта з Ягайлам (пагадненне 5.08.1392 г. у Востраве, сённяшняя Астроўля пад Лідай Гродзенскай вобласці) абвастраюцца яго адносіны з ордэнам. Крыжацкі гарнізон Горадні замяняецца ліцвінскім, замак “Новы Гартэн” ліквідуецца.

Напад крыжакоў (нямецкіх, галандскіх, французскіх і англійскіх рыцараў) на чале з маршалкам Вернерам Тэцінгенам і вялікім комтурам Хелфенштэйнам. Пасля трохдзённай абароны замкі былі захоплены, каля 1 тыс. ліцвінаў было забіта, а 3 тыс. узяты ў палон, горад спалены, замкі зруйнаваны, ваколіцы спустошаны.

Вітаўт стаў вялікім князем літоўскім. Горадня перастала іграць ролю цэнтра яго ўладанняў, бо яе места заняла Вільня – цэнтр Княства. С цэнтралізацыяй дзяржавы Горадня страціла і ролю цэнтра асобнага княства. Яна знаходзілася ў асабістым валоданні Вітаўта.

Фундацыя Вітаўта драўлянага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

## 1393 г.

Гарадзенскі замак захоплены рыцарамі пасля 3-дзённай асады; замак спалены, узята шмат палонных.

## 1396 г.

Каля гэтага года ў Гродне і ваколіцах сталі пасяляцца татары: у Ласосне, Аульсе, Караліно, Тарусічах, Кадышы і інш. У горадзе была вул. Татарская / Баніфратарская, Свярдлова.

## 1398 г.

У адну з начэй адбываецца пажар у гарадзенскай крэпасці і Вітаўт з жонкай Ганнай Смаленскай ледзь не згараюць у сваім замку (малпа абудзіла іх і тым самым выратавала ад смерці). Новыя сцены замка ўзвялі з каменю-валуна і цэглы.

23 красавіка. Вітаўт заключае дамову з Конрадам фон Юнгінгенам аб саюзе з Тэўтонскім ордэнам: апошняму адыходзіць Самагітыя, мяжой ВКЛ прызнаецца лінія ад Салівандэра да Нарвы.

# XV стагоддзе

У раёне сённяшняга парку імя Ж.Э. Жылібера існавала Гараднiца (іншыя назвы Сухая даліна, Сухое сяло) – каралеўская вёска і княскі двор. Спачатку была ўмацаваная драўляная рэзідэнцыя, а з сярэдзіны XVI ст. – замак каралевы Боны, якой належалі вакольныя землі (двор займаў каля 1,178075 га). Драўляны замак у форме квадрата з залай пасярэдзіне быў пабудаваны Дыбоўскім Себасцьянам і меў дах, пакрыты гонтам. У 1655–1661 гг. фальваркавыя пабудовы двара Гараднiца былі знішчаны падчас маскоўскай акупацыі горада.

### 1402 г.

Рыцары двойчы спрабуюць захапіць Горадзен.

12 лютага. Вялікі маршалак Вернер Тэтцінген (Tettingen) нечакана напаў на Горадню, за 3 дні спустошыў Горадзенскую зямлю, забраў 300 коней і шмат жывёлы.

Насельніцтва Літвы рассылае па еўрапейскіх дварах скаргі, у якіх ёсць такі змест:

*“Выслухайце нас, прыгнечаных і змучаных! Выслухайце нас, князі духоўныя і свецкія! Ордэн не шукае душ нашых для Бога, ён шукае зямель нашых для сябе; ён давёў нас да таго, што мы павінны або хадзіць па свету, або рабаваць, каб мець сродкі да жыцця. Рыцары горш за турак! Усе плады зямлі нашай і пчаліныя вуллі рыцары ў нас забралі; не даюць нам ні звера забіць, ні рыбы злавіць, ні гандляваць з суседзямі; кожны год звозяць дзяцей нашых закладнікамі; старшынь нашых пасадзілі ў цямніцы, а іншых тут з усім родам спалілі; сясцёр і дочак нашых моцаю згвалцілі, а яшчэ носяць святы крыж! Пашкадуйце нас! Успомніце, што мы з вамі такія ж людзі, як і ўсе, створаныя па ўзоры і падобнасці Божай, а не звяры якія! Ад усяе душы хочам быць хрысціянамі, але хочам хрысціцца вадою, а не крывёю”.* (Исторические заметки о городах Северо-Западного края // Виленский календарь на 1890 (простой) год. – Вильна, 1889. – С. 211).

### 1403 г.

Напад крыжакоў.

### 1405 г.

Люты. Вітаўт нечакана нападае на Пскоў і разбурае ягоны пасад Каложу. Сцвярджэнні гісторыкаў, якія пішуць, што ён пасяліў палонных пад Гродна, не пацвярджаюцца летапісам.

"В лето 6914 приде поганый отступник правыя веры, сын диаволь, князь литовский Витовтъ с множеством ратных пришед град Коложе взя. А люди, сущая в граде и по волостем – овых иссече, а во плен сведе душ 11 тысящ" (Пскоўскі летапіс. – М., 1837. – С. 41).

### 1410 г.

У Горадні збіраюцца харугвы: Гарадзенская, Навагрудская, Лідская, Ваўкавыская.

15 ліпеня. Гарадзенская харугва (полк) удзельнічае ў Грунвальдскай бітве.

### 1413 г.

Па Гарадзельскай уніі Горадня стала павятовым горадам у складзе Трокскага ваяводства.

### 1414 г.

Вітаўт разам з Ягайлам праводзяць у Горадні Раство і ўладкоўваюць непаразуменні з Польшчай.

### 1415 г.

24 сакавіка. М. Кухмейсцер сустрэўся з Вітаўтам.

### 1416 г.

Ягайла, знаходячыся ў Горадні ў гасцях у Вітаўта, піша ліст Яну Сігізмунду – імператару Германіі, а затым адпраўляе да яго пасольства са скаргаю на лівонскіх рыцараў.

### 1418 г.

Ягайла з жонкай прысутнічаў у Горадні на вяселлі Вітаўта і Юльяны (трэцяй жонкі вялікага князя літоўскага). Былі таксама польскія і ліцвінскія вяльможы, замежныя госці.

З Гродна Ягайла адправіўся ў Вялюны да грасмайстра Кухмейсцера для вызначэння межаў паміж Польшчай і Прусіяй.

### 1424 г.

Уладзіслаў Ягайла прымаў угорскае пасольства.

**1425 г.**

Снежань. У Горадні быў з'езд прадстаўнікоў ВКЛ, Польшчы, Тэўтонскага ордэна. Польшча і ордэн пагадзіліся аб узаемных межах.

**1426 г.**

Восень. У Горадні пацверджана пагадненне з Кухмейсцерам аб узаемных межах Польшчы і Прусіі.

**1429 г.**

Сакавік. Вітаўт сустракаў польскае пасольства, якое прыехала, каб угаварыць яго адмовіцца ад каранацыі.

**1430 г.**

29 чэрвеня. У гэты дзень у Горадне павінна была адбыцца каранацыя вялікага князя літоўскага Вітаўта.

**1432 г.**

Май – канец ліпеня. Пераемнік Вітаўта Свідрыгайла часта бывае ў Горадні, дзе імкнецца заключыць саюз з Тэўтонскім ордэнам супраць Польшчы.

15 кастрычніка. У Горадні быў выдадзены прывілей караля Ягайлы, які ўраўняў у правах праваслаўных князёў і баяраў з феадаламі-каталікамі.

17 кастрычніка. Вялікі князь Сігізмунд Кейстутавіч насуперак баярам ВКЛ падпісвае акт прысягі на вернасць польскаму каралю.

**1434 г.**

Пачатак года. У маёнтку каля Горадні адбылася сустрэча Ягайлы і Сігізмунда Кейстутавіча, у выніку якой была падпісана дамова аб збліжэнні народаў Польшчы і ВКЛ, замацаваная каралеўскай пячаткаю і подпісамі 39 баяр і паноў ВКЛ.

**1437 г.**

У Горадні адбылося пасяджэнне паноў-рады ВКЛ.

**1440 г.**

Горадня пераходзіць у валоданне вялікага князя літоўскага Казіміра.

**1441 г.**

У грамаце вялікага літоўскага князя Казіміра Горадня названа сярод 15 самых буйных гарадоў ВКЛ.

**1444 г.**

У пятніцу пасля Белай нядзелі. Вялікі князь літоўскі Казімір у Брэст-Літоўску дае Горадні літоўскае (ці інакш, рускае) права.

**1445 г.**

15 кастрычніка. У Горадню прыбывае пасольства на чале з гнезненскім арцыбіскупам Вінцэнтам Котам для таго, каб запрасіць Казіміра Ягелончыка на польскі прастол. Напярэдадні да яго прыехала Соф'я, ўдава Ягайлы, каб угаварыць сына прыняць прапановы палякаў.

# 2-я палова XV стагоддзя

Пачатак масавай забудовы леваўзбярэжнай часткі горада.

**1463 г.**

У Горадзен – самы здаровы горад ВКЛ – у сувязі з эпідэміяй маравой язвы прыязджае вялікі князь літоўскі Казімір і часова жыве ў горадзе.

Адбылося пасяджэнне паноў-рады ВКЛ.

**1466 г.**

У Горадні мясцовы дзяк Яўстафій па замове пана Фёдара Валовіча перапісвае на старабеларускай мове "Трыёдзь Посную і Цветную". (Захоўваецца ў навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (Вільна).

**1469 г.**

Адбылося пасяджэнне паноў-рады ВКЛ.

Верасень. Пасяджэнні сейма ВКЛ.

**1473 г.**

Адбылося пасяджэнне паноў-рады ВКЛ.

**1483 г.**

На Каляды ў Горадню прыехаў цяжка хворы сын вялікага князя Казіміра Казімір.

**1484 г.**

Вялікі князь літоўскі Казімір прымаў маскоўскае пасольства.

4 сакавіка. У Горадзене памёр Казімір, сын вялікага князя Казіміра. Быў адметны фанатычнай рэлігійнасцю (захавалася паданне, што ён мог правесці ў малітвах ноч перад уваходам у Фару Вітаўта). У 1521 г. кананізаваны папай Львом Х. Лічыцца нябесным апекуном Вялікага княства Літоўскага.

**1486 г.**

Адбылося пасяджэнне паноў-рады ВКЛ.

**1492 г.**

Вялікі князь літоўскі Казімір прымаў прускае пасольства.

7 чэрвеня. Смерць вялікага літоўскага князя і польскага караля Казіміра IV у гарадзенскім каралеўскім замку ад вадзянкі. Яго беспаспяхова лячылі бернардзінцы "грубым хлебам і печанымі грушкамі".

Гарадзенскі сейм выбірае па просьбе паноў-рады вялікім літоўскім князем Аляксандра Ягелончыка.

**1494 г.**

У Горадні закладзены драўляны манастыр бернардзінцаў.

28 лютага. Вялікі літоўскі князь Аляксандр Ягелончык у сувязі са стратай першапачатковага дакумента аднаўляе фундушавы запіс Вітаўта на пабудову парафіяльнага касцёла N M P.

**1495 г.**

1-я палова. Згодна ўказу вялікага князя Аляксандра гарадзенскія яўрэі выганяюцца з ВКЛ, а іх гарадскія пляцы перадаюцца хрысціянам. Напрыклад, фальварак яўрэяў Канюковічаў атрымаў у 1495 г. дзяк Сысой, частка яўрэйскай маёмасці была падпарадкавана гораду, яўрэйскія дамы і фальваркі перададзены віленскаму біскупу Войцеху Табору.

Прывілей "Наданне жыдоўскага двара віленскаму ваявозе і канцлеру ВКЛ Мікалаю Радзівілавічу", 1496:

*"Сам Аляксандр Божю милостью велики князь литовскии рускии жомоитскии и иных.*

*Пану виленскому наместнику городенскому князю Александру Юрьевичу. Дали есмо дворъ жидовски в Городне Енков и его братии Яцковичов воеводе виленскому канцлерю нашому пану Миколаю Радвиловичу и*

*ты бы ему в тот дворъ оувазане дал. Писан оу Вилни июн 2 день индик 14.*

*При том был маршалок дворныи, наместник мерецкии и оникштенскии, пан Григореи Станиславович Остикович"* (Галоўны Архіў Старажытных Актаў, Варшава, Архіў Радзівілаў, dz. XVIII, sygn. 318, k. 3).

## 1496 г.

11 ліпеня. У дзень Св. Бенядзікта па прывілеі вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка Горадня атрымала замест "літоўскага, альбо рускага права" "тэўтонскае магдэбургскае права". Прывілей быў напісаны ў Берштах пісарам ВКЛ Эразмам Цёлкам у прысутнасці віленскага біскупа Войцеха, віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла, бельскага старасты і струкцаса Мікалая, макграбія Мікалая Ільініча. Пазней прывілей быў пацверджаны Жыгімонтам Старым (1506), Стэфанам Баторыем (1576), Жыгімонтам Вазам (1589), Уладзіславам IV (1633).

*"Да вечнай нашай памяці вялікі князь літоўскі, рускі, жмудскі і д.п. Пан і ўладальнік, азнаямляем ніжэй пададзенымі словамі каму належыць, усім існуючым і будучым, якія ў тым вядомасць будуць мець: Што мы памнажэння рэчы паспалітай пастаянна прагнучы і хочачы, каб стан места нашага Гродна быў лепшым і каб людзі ў ім жывучыя парадкам добрым і слушным у сваёй маёмасці сталі багацейшымі, яны з права Літоўскага альбо Рускага і якога-небудзь раней атрыманага, на права нямецкае, празванае магдэбургскім, пераносім, якое павінна існаваць вечна паводле свайго дасканалага і цэльнага кшталту, ліквідуючы ўсе правы трыманыя раней, і спосабы і традыцыі ўсякія, якія гэтаму праву Тэўтонскаму магдэбургскаму перашкаджалі б…"* (Прывілей Аляксандра).

Згодна прывілею, жыхары горада вызваляліся ад юрысдыкцыі ваяводаў, кашталянаў і стараст, суддзяў, падсудкаў і іх наместнікаў, а ўся адміністрацыйная і судовая ўлада перадавалася выбіраемай гараджанамі радзе, якая будзе судзіць па праву магдэбургскаму. Гораду дазва-

лялася пабудаваць на р. Нёман млын, у горадзе лазню, камяніцу для размяшчэння важніцы (на атрыманне прыбытку для войта) і васкабойні, праводзіць тры кірмашы працягам у тыдзень, адзін – у дзень Знаходжання Крыжа, другі – Св. Малгажаты, трэці – у дзень Св. Андрэя. Бязмытна і без падаткаў весці тавар у Коўна па Нёману, у Прусію па р. Неце. Дазвалялася пабудаваць у выгадным месцы ратушу з правам мець пры ёй камору для пастрygання сукна, меры для вадкіх і сыпучых рэчываў (бочку ратушную). Кіраўнікам горада дазвалялася валодаць пусташамі для засялення горада, і лугамі, дзе можна жыхарам пасвіць жывёлу. Аляксандр вызваліў гараджан ад гандлёвага мыта і талакі, а тры карчмы – ад падаткаў.

Падкрэслім, што ў прывілеі гаварылася, што гарадское ўпраўленне распаўсюджваецца і на гараджан, якія жывуць за Нёманам. Гэта першае дакументальнае сведчанне аб існаванні занёманскага пасаду.

## 1501 г.

Гродзенскі павет межаваў на поўначы з Ковенскім, на захадзе – з Прусіяй, на поўдзень, па р. Супраслі – з ваяводствам Падляскім, на ўсходзе – з ваяводствам Навагрудскім. На паўночным усходзе – з Лідскім паветам, да р. Ратнічанкі.

Жнівень. У Гродне адбыўся сейм ВКЛ.

20 верасня. Паводле роспісу ардыншчыны, збіраемай з гарадоў ВКЛ, Горадзен павінен быў аплаціць “сорок соболей, постав лунский, постав махальский, постав трицкий”.

## 1502 г.

16 ліпеня. Вялікі літоўскі князь Аляксандр пацвярджае прывілей Казіміра, дараваны мяшчанам Горадні: права горада валодаць маёнткамі, вёскамі, землямі, сенакосамі, набытымі пры Казіміры.

## 1502–1506 гг.

Горадня атрымоўвае права валодаць сялянамі вёсак Грандзічы, Мончына, Лапенкі, Капліца, Малахавічы, Вялікая і Малая Альшанкі, Цвіклічы, Гібулічы, Полатава.

## 1503 г.

Вялікі князь літоўскі Аляксандр дазваляе Івану з Куразвенак чаканіць літоўскую манету ў Горадні (да 1545 г.).

Гарадзенскія татары, галоўным чынам тыя, які жылі над р. Ласасянкай, падалі каралю польскаму Аляксандру прашэнне аб вызваленні іх ад выканання службы вартаўнікамі ў Гродне, да чаго змушае стараста Аляксандр Юр'евіч князь Гальшанскі. Кароль задаволіў просьбу татараў.

Першы ўспамін аб сталым мосце праз Нёман у прывілеі вялікага князя літоўскага Аляксандра, дадзеным гродзенскаму старасце Аляксандру Юр'евічу князю Гальшанскаму.

У Горадні абасноўваецца ордэн аўгусцінцаў (да 1673 г.).

27 сакавіка. У Горадню пачынаюць вяртацца яўрэі. Згодна прывілею вялікага князя літоўскага Аляксандра ад 22.03.1503, ім дазвалялася вярнуцца ў ВКЛ і выкупіць усю адабраную ў іх у 1495 г. маёмасць, уключна з пляцамі пад сінагогу і могілкі.

Князь Аляксандр піша гарадзенскаму старасце князю Аляксандру Юр'евічу Гальшанскаму:

*"Ино как они прйдутъ до Городна, и твоя бы милость домыихъ и местцо школы ихъ, кладовище, и теж фольварки и поля, и сеножати ихъ казал завести и имъ поотдавати. Нехай они домы свои и местцо школьное, и кладовища, и теж фольварки и поля, и сеножати свои маютъ къ своей руце по давнему и платы наши платять, как перед тым платили.*

*И тежъ били Нам челом, што дей многие князи и панове, и бояре, и мещаны Городенского повета винни имъ пенезьми и иными речьми и нехотятъ дей им того платити; про тож, до кого имъ будетъ дело, и твоя бы милость имъ зъ ними спаведливость чинил и казал имъ то платити, чим хто имъ будет винен…"* (Цыт. па: Бершадский С.А. Документы и регесты к истории литовских евреев. Т. 1. – СПб., 1882. – С. 62).

## 1506 г.

11 мая. Вялікі князь літоўскі Аляксандр дарue гараджанам права ўваходу ў каралеўскую

пушчу пад Прутцамі. Гараднянe могуць карыстацца лесам для будаўніцтва і ацяплення (“для будования домов и грева”). Ім, згодна прадстаўленню гарадзенскага старасты, адводзіцца ўчастак “от Мацутинаго поля, мимо Капличища, Ожескою дорогою к Прутцам... Вертилишскою дорогой” (Акты Западной России, т. VII).

Сакавік. Адну ноч у Старым замку начаваў польскі астраном, матэматык, канонік Мікалай Капернік, які прыехаў, каб паглядзець здароўе вялікага князя Жыгімонта (які тады не быў яшчэ ні вялікім князем літоўскім, ні каралём польскім). Як вядома, медыцынай Капернік займаўся тры гады ў Падуанскім універсітэце (1503–1506) і быў сакратаром і ўрачом свайго дзядзькі Лукі Ватцельродэ ў епіскапскай рэзідэнцыі Лідзбарку.

20 ліпеня. Каложскі манастыр набывае маёнтак Чашчаўляны.

5 жніўня. Гарадзенская харугва прымае ўдзел у бітве на р. Лані каля Клецка, дзе войска ВКЛ на чале з М. Глінскім ваявала супраць крымскіх татар.

Пасля 10 жніўня. Вялікі князь Жыгімонт пацвярджае грамату Вітаўта гарадзенскім яўрэям ад 18 чэрвеня 1389 г.

23 лістапада. Літоўскі сейм, на якім праціўнікі маршалка Глінскага дамагліся адхілення яго з пасады.

7 снежня. У Гародні вялікі князь ВКЛ Жыгімонт II выдаў прывілей, які замацоўваў юрыдычныя нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям, валасцям і гарадам ВКЛ. Ён пацвердзіў усе прывілеі, выдадзеныя Горадні Аляксандрам у 1496, 1502, 1506 гг.

## 1508 г.

2 лютага. Князь, маршалак вялікакняскага двара Аляксандра Міхал Глінскі забівае свайго палітычнага праціўніка Яна Забярэзінскага “ў асабістым яго доме” ў Горадні (па іншых дадзеных – каля моста праз Нёман) і падымае паўстанне. У выніку Глінскія пазбавяцца сваіх валоданняў у ВКЛ і абаснуюцца на землях Вялікага княства Маскоўскага.

## 1516 г.

23 лютага. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт І Стары пацвердзіў права гарадзенскіх мяшчан на ўваход у пушчу і вызваленне ад гандлёвага мыта.

## 1522 г.

Люты – сакавік. У Горадні адбыўся вальны сейм ВКЛ. Ён абмежаваў правы праваслаўных і пастанавіў не дапускаць дысідэнтаў да дзяржаўных пасад. Пазней кароль польскі Жыгімонт І абмежаваў рашэнне толькі грамадзянскімі пасадамі, але гэтыя абмежаванні так і засталіся фармальнымі. Па просьбе феадалаў, якія імкнуліся забяспечыць ахову сваёй маёмасці і правы, Жыгімонт І у якасці вялікага князя літоўскага Жыгімонта ІІ на гэтым сейме загадаў пачаць складанне Статута ВКЛ (уведзены 29.09.1529). У падрыхтоўцы Статута мог удзельнічаць Георгі Францішак Скарына як аўтар і друкар, як пішуць некаторыя даследчыкі-скарыназнаўцы. У час працы сейма ён наведваў Гродна, сустрэўся з нейкім гарадзенскім панам на прадмет адкрыцця школы спачатку ў яго маёнтку, а потым у іншых. Нейкім гарадзенскім панам, магчыма, быў гродзенскі староста Радзівіл Юры Мікалаевіч (гл. у дадатку СПІС СТАРАСТАЎ). Гэты аспект яшчэ слаба даследаваны. (Немировский Е.Л., Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя. – Минск: Мастац. літ-ра, 1990. – С. 414–415).

## 1526 г.

26 лютага. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт І Стары выдае рэскрыпт гарадзенскаму старасце Юрыю Мікалаевічу Радзівілу, каб ён загадаў сваімураднікам не пазбаўляць гарадзенскіх мяшчан правоў, якія дае ім магдэбургскае права. Староста абавязваўся рамеснікаў, прыпісаных да горада, не прыцягваць да замкавай службы; не ўстанаўліваць сваіх падаткаў і не судзіць мяшчан; не браць перасуды, калі выязджаў на копны суд і зарукі. Замкавыя людзі, якія мелі свае дамы ў горадзе, павінны былі плаціць гарадскія падаткі; валашчан, якія пасяліліся ў горадзе і займалі-

ся гандлем, вяртаць у вёску забаранялася.

3 мая. Грамата вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога гарадзенскаму старасце Юрыю Мікалаевічу Радзівілу аб дазволе палонным рускім купцам жыць у Гарадні на правах мяшчан.

12 мая. Грамата вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога гарадзенскаму старасце Юрыю Мікалаевічу Радзівілу, каб ён не прыцясняў гарадзенскіх мяшчан і яўрэяў.

## 1532 г.

Гарадзенскім гараднічым стаў С.Б. Адзінцэвіч (да 1541 г.).

Верагодна, у гэты час у Гарадню прывезены Супрасльскі летапіс.

## 1535 г.

Адбыўся чарговы Гарадзенскі сейм ВКЛ.

## 1539 г.

Па волі Жыгімонта I Старога ў Гродне пачаў дзейнічаць земскі суд для разгляду цывільных спраў. Гэты суд – найстарэйшы ў ВКЛ. Шляхта выбірала чатырох кандыдатаў, а кароль прызначаў з іх суддзю, падсуддзяў, пісара. Адначасова пачаў дзейнічаць і гродскі суд (да 1797 г.), з 1793 па 1831 гг. – павятовы суд, з 1831 г. – уездны.

У горадзе жыў і працаваў залатых спраў майстар Дамінік. Меў крамку, у якой гандляваў рэчамі сваёй вытворчасці.

## 1540 г.

У горадзе налічвалася 8 корчмаў, у якіх гандлявалі вінам, півам. Падаем па крыніцы АВАК: “в дому корчомном за Немном”, “в корчме Матея Тарусы”, “в дому корчемном у Гришки Переломца”, “в корчме у пана Григория Воловича”, “у водной корчме”, “у корчме на Индуре”, “в месте в Городне”, “в дому корчомном в Сидора”.

13 ліпеня. Вялікая княгіня літоўская і польская каралева Бона Сфорца пацвердзіла магдэбургскае права Гарадні. У горадзе дазволена праводзіць тры кірмашы, на якіх можна гандляваць бязмытна, а для падтрымання парадку ставіць вежы; усе до-

маўладальнікі, уключаючы і шляхту, што не мела прывілеяў, павінны падлягаць гарадской юрысдыкцыі; мяшчане могуць малоць на каралеўскіх і прыватных млынах, карыстацца ўваходамі ў каралеўскія пушчы; заплаціўшы адзін раз мыта за соль, гандляваць ёю па мястэчках; маставое аплачваецца ад вагі правозімых тавараў; яўрэі павінны ўдзельнічаць у гарадскіх павіннасцях. Войту і магістрату надавалася пячатка з гербам па звычаі Любліна. У якасці геральдычных сімвалаў гарадзенскага герба прымаюцца алень Св. Губерта, які пераскоквае праз агароджу – сімвал вольналюбства.

25 ліпеня. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст пацвярджае правы мяшчан Горадні на бязмытнае судаходства па Нёману і Неце.

С. Герберштэйн. Запіскі аб маскавіцкіх справах:

*“Столицей народа является Вильна; это обширный город, расположенный в долине между холмами, при слиянии рек Вилии и Вильны. Река Вилия в нескольких милях ниже Вильны впадает в Кронон. Кронон же течет вдоль города Гродно, название которого отчасти похоже на название реки, и отделяет некогда подвластные Тевтонскому ордену народы прусские (ныне они находятся в наследственном владении маркграфа бранденбургского, Альберта, с тех пор как он подчинился польскому королю, сложив с себя крест и орден) от самогитов в том месте, где впадает в Германское море. Там находится город Мемель, ибо германцы называют Кронон Мемелем, а на отечественном языке он называется Неманом…”*

## 1541 г.

Пракладзены першы водаправод.

13 студзеня. Жыгімонт I па просьбе каралевы зменшыў мяшчанам Гродна падатак ад продажу віна (капшчына) з 60 да 50 коп літоўскіх грошаў, прызначаючы гэты даход на прыбытак горада.

25 ліпеня. Прывілей каралевы Боны прадпісваў выбіраць гарадзенскіх бурмістраў і радцаў (праваслаўных і католікаў) з ліку годных людзей, пражываючых у горадзе для

“чынення справядлівасці”. У абавязкі ім уводзілася рабіць фінансавую справаздачу ў канцы свайго кіравання перад войтам, новымі бурмістрамі, радцамі, лаўнікамі і 8 асобамі з паспольства. Калі ў іх была запазычанасць перад горадам, яны павінны былі яе кампенсаваць. Прывілей вызначаў парадак захоўвання пячаткі пад наглядам “літоўскага бурмістра”, а тры ключы ад скрыні павінны былі быць у войта, “рускага” бурмістра і “літоўскага” радцы. Дбайна патрэбна было захоўваць месцкія кнігі, каб не было магчымасці рабіць фальшывыя дакументы. Абранае кіраўніцтва горада павінна было сачыць за станам мяшчанскіх дамоў, іх добраўпарадкаваннем.

У канцы прывілея Бона пісала: “Вельмі наказваем, каб князі, бароны і шляхта ў месцы нашым гродзенскім, маючыя дамы, палі і пляцы, якія асабістым лістом Нашых Князёў, Каралёў і Вялікіх князёў Літоўскіх, не былі вынятыя, плацілі мясцовыя падаткі, а цяжкасці нароўні з мяшчанамі неслі, а жыхары іх, хаця самых паноў пазбавілі ад падаткаў і цяжкасцяў, маюць юрысдыкцыі места быць паслухмяныя” (Цыт. па: Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana przez M. Balińskiego i Tymotensza Lipinskiego. T. IV. – Warszawa, 1886. – S. 303).

## 1543 г.

Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст доўгі час жыве ў Горадні і палюе ў пушчах “у прысутнасці ўсяго літоўскага двара”.

Ствараецца Літоўская капэла – адзін з набольш ранніх музычных калектываў на тэрыторыі Беларусі (у 1601 г. складалася з 15 музыкантаў і спевакоў).

## 1544 г.

21 снежня. Рэскрыпт вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста з забаронай гарадзенскаму старасце Станіславу Пятровічу (на якога была скарга мяшчан) прыгнятаць мяшчан і дапускаць адносна іх якія-небудзь шкоды: не падпарадкоўваць іх юрысдыкцыі замка; не судзіць іх замкавым судом і не

перашкаджаць шукаць справядлівасці ў магістрата; не кантраляваць піўных і мядовых шынкоў; не браць віна і не адымаць гарадскіх зямель.

**1550 г.**

Адбываецца чарговы Гарадзенскі сейм.

**1551 г.**

Па загаду каралевы Боны перабудоўваецца драўляная фара Вітаўта (касцёл P.W. Wniebowzięcia N.M.P).

9 кастрычніка. Фундацыя Боны на будаўніцтва касцёла і шпіталя Святога Духа.

**1553 г.**

Пры касцёле Св. Духа адкрыты прытулак для 24 убогіх і 2 чалавек служкаў, якія ўтрымоўваліся з каралеўскага скарбу. У 1929 г. тут знаходзіўся гатэль “Славянскі”.

Бона Сфорца фундавала ў Гродне касцёл Св. Тройцы.

**1558 г.**

Даведка: Горадня складаецца з дзвюх частак, падзеленых р. Нёман. У старым горадзе 27 вуліц і 2 рынкі. У Занёманскім фарштаце 4 вуліцы і 1 рынак. Насельніцтва горада каля 3,5 тыс. чалавек.

Каралеўскія рэвізоры С. Дыбоўскі і Л. Война пачалі інвентарны (увалочны) памер зямель Гродзенскай эканоміі.

У Горадні адбыўся сейм ВКЛ.

**1560 г.**

С. Дыбоўскі і Л. Война пачалі ўвалочны памер Горадні: у дакуменце названы ўсе вуліцы, плошчы і зямельныя ўчасткі (пляцы) гаспадароў – усяго 33 вуліцы, 3 рынкі, замак і каралеўскі дом, 9 праваслаўных цэркваў, 2 касцёлы, сінагога, ратуша, звярынец (за Нёманам, насупраць Старога замка), 716 дамоў. Пляцаў? Іншаземцы лічылі Гродна другім пасля Вільні горадам у Літве.

**1561 г.**

28 сакавіка. У Вільні вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст сваім прывілеем вызваліў гродзенскіх мяшчан ад уплаты 12 грошаў з валокі за талокі, а таксама 1 гроша ад прутовага, але абавязаў выконваць маставыя павіннасці (рамантаваць мост праз Нёман).

## 1562 г.

3 сакавіка. У Вільні вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст сваім прывілеем дае гарадзенскім мяшчанам 2,5 валокі (50 дзесяцін = 53,425 га) сенакосу вышей ракі Гарадніцы і далучае да горада землі за Нёманам (Занёманскі фарштат), дзе мяшчане маюць правa сяліцца. Горад атрымаў сядзібы, якія засталіся ад выселеных яўрэяў.

23 лістапада. Граматай вялікага князя Жыгімонта Аўгуста забаронены вываз солі праз Горадню за Нёман. Звернем увагу, што ў грамаце ўпершыню сустракаецца назва горада як сучасная – “Гродно”. Хаця выкарыстоўваецца і “Городно”.

## 1566 г.

11 снежня. На Гарадзенскім сейме ВКЛ (адбываўся да 6 студзеня 1567 г.) было працягнута абмеркаванне пытання, якое пачалі на пасяджэннях у Вільні і Брэсце (сакавік – жнівень 1566 г.), – субсідыі на вядзенне вайны з Маскоўскім княствам у сувязі з узбуджэннем шляхты ВКЛ грашовымі падаткамі і строгасцямі вайсковай службы. У канстытуцыі сейму з 38 пунктаў, падрыхтаванай А. Валовічам, удакладняецца дзяржаўная палітыка ВКЛ: земская ахова, новы парадак склікання і правядзення сеймікаў, абавязковая прысутнасць караля ў арміі падчас паходаў, служба ў вялікакняскім войску жыхароў Падляшша, запрашэнне палякаў да ўдзелу ў паходах супраць Масковіі. Асобае месца займае пункт аб пакаранні шляхціцаў, якія своечасова не заплацілі падаткі ў дзяржаўную казну.

26 снежня. На сейме Жыгімонт Аўгуст абвесціў рашэнне лівонскіх штатаў аб далучэнні да ВКЛ. Усе дэпутаты падпісалі акт уніі з Лівоніяй.

## 1567 г.

У Горадні надрукавана брашура, у якой аўтар выступае супраць усялякай улады і ўхваляе вольнасць веравызнання.

Ліпень. Чарговы сейм ВКЛ у Горадні.

24 ліпеня. Сігізмунд Аўгуст прымае ў Горадні пасольствы маскоўскае, турэцкае і

валашскае. Маскоўскае ўтваралі: Ф.І. Умноў-Колычаў, Р.І. Нагой, В.Я. Шчалкалаў і дваране – усяго каля 1200 чалавек (Іван IV накіраваў іх для заключэння перамір'я з Польшчай і для хадайніцтва аб выдачы А. Курбскага). Маскоўскае пасольства сустракаў І. Валовіч на левым беразе Нёмана. Г. Адэльгаўзер зрабіў з натуры малюнак гэтай падзеі.

Я.Ф. Арлоўскі:

*"А въ Городенъ послы пришли после Ильина дня, в первый четвергъ іюля 24; а встреча была у Городня отъ посаду съ версту... И поставили послов на Заретском посаде, всего десять дворовъ, а у воротъ приставили сторожей, чтобы в дворы посольских людей не ходилъ никто, а около двора въ день и ночь ходили дряби (драбанты) и конная застава была во всякий день... И іюля 26 въ субботу были послы у Короля на посольстве".*

## 1568 г.

25 красавіка – 12 ліпеня. У Горадні адбываецца апошні вальны сейм ВКЛ, які па сутнасці з'яўляецца першым генеральным сеймам Польшчы (Кароны) і ВКЛ (Літвы). У канстытуцыі сейму пазначаецца неабходнасць правак (змяненняў і дапаўненняў) да Статута ВКЛ 1566 г. Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў прывілеі, дадзеныя літоўскім татарам, і даў прывілей Вільні на права мець прадстаўніцтва на сеймах.

Гравёр М. Цюнт стварае па малюнку Г. Адэльгаўзера гравюру "Истинное изображение Гродно на Литве" (надпіс на гравюры).

Надпіс на абароце гравюры, прывезенай у Гродна Д.Н. Бацюшкавым у 1897 г. (пераклад з лацінскага Я.Ф. Арлоўскага): "...г. Гродна, расположенный на реке, которую называли прежде Крононом, а теперь – Неманомъ, отчасти на горе, а отчасти на равнине, сообразно съ обыкновениемъ, которое царитъ въ этой стране".

# 2. ПАВЯТОВЫ ГОРАД ТРОКСКАГА ВАЯВОДСТВА Ў ФЕДЭРАЦЫІ РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ АБОДВУХ НАРОДАЎ

Трокскае ваяводства з цэнтрам у г. Трокі – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў ВКЛ, утвораная у Трокскім і Гарадзенскім княствах, што існавала з 1413 г. пасля заключэння Гарадзельскай уніі да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. Трокскае в啟водства ў XVI–XVIII стст. значна паменшылася – у яе ўваходзілі Гарадзенскі, Ковенскі, Трокскі, Упіцкі паветы. Харугва Трокскага ваяводства мела выяву “Пагоня” ў чырвоным полі, а Гарадзенскі павет – “Пагоню” ў блакітным полі.

Рэч Паспалітая – афіцыйная назва федэратыўнай дзяржавы, у якую аб’ядналіся пасля Люблінскай уніі Польшча (Карона) і Вялікае княства Літоўскае. Акрамя іх у РП уваходзілі Інфлянцкае ваяводства, Курляндскае і Земгальскае герцагствы, Пільтэнская акруга (з XVII ст.), Прускае герцагства (васал РП у 1525–1657 гг.). Рэч Паспалітая існавала ў 1569–1795 гг. і была ліквідавана ў выніку трох падзелаў.

### 1569 г.

1 ліпеня. У выніку Люблінскай уніі ВКЛ і Польшчы Горадня, застаючыся ў складзе ВКЛ, адначасова апынулася ў федэрацыі Рэч Паспалітая Абодвух Народаў.

### 1570 г.

13 лютага. Гродзенскі магістрат зацвердзіў статут аб'яднанага цэха кавалёў, кацельшчыкаў, мечнікаў, слесараў (металістаў). Пазней да яго далучыліся латнікі, нажоўшчыкі, карэтнікі, шорнікі, сядзельнікі.

### 1572 г.

У Гродна 7 праваслаўных цэркваў.

13 жніўня. У час бескаралеў'я ў Кароне Польскай (1572–1576 гг.) адбыўся з'езд сенатараў ВКЛ. Сярод іх былі віленскі ваявода Мікалай Радзівіл, трокскі ваявода Стэфан Збараўскі, стараста жмудскі і маршалак земскі ВКЛ Ян Геранімавіч Хадкевіч, мсціслаўскі ваявода Ежы Осцік, полацкі ваявода Станіслаў Давойна, брэсцкі ваявода Ежы Тышкевіч, мінскі ваявода Гаўрыла Гарнастай, навагродскі ваявода Павел Сапега, трокскі кашталян Астафі Валовіч, смаленскі кашталян Дамінік Пац, мінскі кашталян Ян Глябовіч, жмудскі кашталян Мікалай Талвош, падскарбі земскі ВКЛ Мікалай Нарушэвіч, падчашы і гетман дворны ВКЛ Крыштаф Радзівіл. Прысутныя выбралі са свайго кола прадстаўнікоў на з'езд з палякамі ў Кнышын на 24 жніўня. Размова ішла аб выбары новага караля.

### 1575 г.

Пачынаецца будаўніцтва першай у Гродне каменнай сінагогі (скончана ў 1578 г.). Першы камень залажыў равін Мардухай бен Абрам Яфэ.

У Кёльне канонікам мясцовай катэдры Георгам Браўнам і гравёрам Францам Гогенбергам выдадзены атлас мап, планаў і відаў гарадоў "Civitates Orbis Terrarum". У другім томе на планшэце 48 змешчаны выгляд Горадні, які паўтарае кампазіцыю гравюры Маціяса Цюнта 1568 г.

*"Літва, якая раскінулася на вялікай" прасторы, уяўляе мясцовасць меней культур-*

*ную за Польшчу; апошняй яна кранаецца на Захадзе; амаль уся пакрытая балотамі і лясамі. Сталіца яе – Вільня, месцазнаходжанне біскупа, – горад, які займае прастору, адпаведную Кракаву з усімі яго прадмесцямі. Наступны за ім па значэнні г. Гродна, які знаходзіцца на рацэ, якую раней называлі Кронанам, а зараз Нёманам, часткова на гары, часткова на раўніне, адпаведна завядзёнцы, якая пануе ў гэтай краіне. У гэтым горадзе зусім мала прыбудаваных адзін да аднаго дамоў: невялікая колькасць дамоў цагляных, аднак збудаваных з груба апрацаванага матэрыялу. Горад не абнесены мурам і не мае перад сабою фартоў; брамы яго не ўмацованы, і ён не абаронены вежамі. Мае замак і каралеўскі палац, які месціцца на выдатным месцы і з'яўляецца бяспечнай рэзідэнцыяй караля Польшчы. У горадзе бачны тры храмы цагляныя (у той час як усе астатнія драўляныя); з іх адзін належыць палякам, а два рускім; у іх рускія ладзяць свае набажэнствы па асаблівым абрадзе. У прадмесцях рускія таксама маюць два храмы: адзін драўляны, круглы; другі – цагляны. Званіцы знаходзяцца не на храмах, але перад уваходам у царкву, як гэта бывае ў большасці выпадкаў: пабудова драўляная, узведзеная на слупах і балках, змацаваныя сваямі і пераплеценая папярэчнымі бярвеннямі. Наклаўшы груду камянёў, узводзяць вежу, на вяршыні якой знаходзяцца званы, якія склікаюць на духоўныя практыкаванні. Такой самай дакладна забудовы быкі падтрымліваюць драўляны мост, які злучае абодва берагі Нёмана. У 1567 г. Найяснейшы ўладыка Жыгімонт Аўгуст, кароль польскі, вялікі князь літоўскі, усёй Русі, Прусіі, Мазовіі і Жмудзі цар і спадчынны валадар у гэтым горадзе меў пасяджэнні, да якіх явіліся паслы вялікага князя маскоўскага, у ліку 1200 чалавек, з падарункамі, якім няма кошту: на паслах было вельмі шыкоўнае адзенне, якое надавала ім велічны выгляд. Для паслоў была выдзелена лужайка ў полі, паблізу горада; месца гэтае было абнесена плотам; тут яны самі зрабілі палаткі і жыллё, накшталт лагернага. Пакідаць гэтае*

*месца без праваднікa-паляка ім было забаронена. Сюды сабраліся з урачыстаю світаю, акружаныя неверагоднай шыкоўнасцю, паслы Турэцкія, Татарскія і Валашскія; яны былі прыняты польскай шляхтай у розных месцах, пад вольным небам...”* (тэкст Георга Браўна да выдання гравюры Гродна).

## 1576 г.

8–20 красавіка. Адбыўся з’езд станаў ВКЛ. Сярод прысутных былі жмудскі кашталян Мікалай Талвош, навагрудскі кашталян Рыгор Валовіч, віцебскі кашталян Павел Пац, біскуп жмудскі Мельхіёр Гедройц, кашталян трокскі Астафі Валовіч, віленскі ваявода Мікалай Радзівіл, кіеўскі біскуп Мікалай Пац, віленскі кашталян Ян Хадкевіч, брэсцкі кашталян Ян Хайко, мінскі кашталян Ян Глябовіч, стольнік ВКЛ Мікалай Кухмістровіч Алехновіча Дарагастайскі, маршалак гаспадарскі Лукаш Швірскі, маршалак ВКЛ Іван Валовіч, цівун рэтоўскі на Жмудзі Марэк Лаўрыновіч Внучка, стараста чачэрскі і прапойскі Крыштаф Зяновіч, сакратар гаспадарскі Матвей Пратасовіч, князь Пётр Фёдаравіч Друцкі-Гурскі, навагрудскі падсудак Юзаф Галаўня, суддзя земскі слонімскі Міхал Лаўрыновіч Сакалоўскі, пісар земскі рэчыцкі Ендржэй Халецкі, пісар земскі гарадзенскі Ендржэй Катовіч, Валенці Камінскі, Дзмітры Васіловіч Корсак, Міхайла Дзявочка, суддзя гродскі віленскі Габрыель Рыпінскі.

Сенатарам ВКЛ сямігродскі ваявода Стэфан Баторы прыслаў ліст, у якім прасіў іх згоды на ягоную элекцыю (выбранне) каралём. Пазней прыслаў запрашэнне на каранацыю ў Кракаў. На з’ездзе станаў былі падрыхтаваны лісты да маскоўскага цара Івана IV Жахлівага і да імператара Максіміліяна II Габсбургскага з мэтаю, “каб да мяча і да вайны не вырашылі збірацца...”, захавалі спакой на межах.

26 мая. Прывілей караля польскага Стэфана Баторыя, які дазваляе Горадні адкрыць склад для “крупястай солі”, якую прывозяць з Гданьска і Крулеўца (цяпер Калінінград) Нёмнам і сухапутным шляхам

і аплочваюць мытамі ў Коўне; з Горадні гандляваць па іншых месцах.

5 лістапада. На вальным сейме ў Торуні кароль польскі Стэфан Баторы пацвярджае ўсе прывілеі Гродна.

Прывілей Стэфана Баторыя вызваляе гарадскія саладоўні і бровары ад мыта, уведзенага Жыгімонтам Аўгустам у якасці вымушанай меры на выпадак вайны з Маскоўскім княствам.

## 1578 г.

Стэфан Баторы пацвярджае прывілеі гродзенскіх яўрэяў.

Выходзіць "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі" Аляксандра Гваньіні, у якой ёсць успамін пра Гродна.

*"Гродна горад драўляны, і замак мураваны на ўзвышшы над ракой Нёман стаіць. Рака гэтая ёсць слаўна судаводная, якая тавары з Літвы да Гданьска перавозіць. Прастора гэтага павета шырокая, якую перад гэтым называлі княствам. Харугва колеру лазуравага, з адным рогам, такім, як у в[ялікага] кн[яства] літ[оўскага], мужчына ўзброенны на кані з мячом. І д.п."* (Гвагнін А. Хроніка Еўрапейскай Сарматыі. – Кракаў, 1860. – С. 169).

## 1579 г.

Гродна стала цэнтрам Гродзенскай эканоміі (да 1795 г.)

2 лютага. Заснаваны кравецкі цэх паводле прывілея Стэфана Баторыя. Ён дазволіў яўрэйскім краўцам займацца сваей дзейнасцю побач з краўцамі хрысціянскімі з умовай узносу адпаведнай сумы ў касу мясцовага кравецкага цэха.

16–17 лютага. Пашыранае пасяджэнне рады, сената, прадстаўнікоў шляхты, на якім абмяркоўваліся планы вайны з Масквой. Пагадзіліся на выданне "серабршчыны" – надзвычайнага вайсковага падатку.

2 красавіка. Аб'яднаны цэх муляраў, ганчароў, цесляроў, бандароў атрымаў прывілей ад вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя.

26 мая. Стэфан Баторы дазваляе гродзенскім мяшчанам пабудаваць на Нёмане млын, а на Рынку (цяпер Савецкая

плошча)– гатэльную карчму і прадаваць у ёй віно без аплаты капшчызны (акцыза). Прыбыткі ад гэтых установ ішлі гораду. Сёння ў будынку былой карчмы знаходзіцца крама “Ратушная”.

Пасля 29 ліпеня. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Стэфан Баторы ўпершыню прыехаў у Гродна, які стаў з гэтага часу яго рэзідэнцыяй. У гэтым годзе ён двойчы прыязджае ў горад.

Пачатак перабудовы замка Вітаўта на Замкавай гары (да канца 80-х гг. XVI ст.).

Будаўніцтва каралеўскага палаца, так званай Баторыеўкі (арх. Скотта) на Рынку (зараз пл. Савецкая). Ёсць два меркаванні аб знаходжанні Баторыеўкі. Паводле першага, палац знаходзіўся там, дзе цяпер крама “Баторыя” (былы палац Сапег). Па сведчанні польскіх даследчыкаў Е. Лілейкі і прафесара Фішэнгера, у часы Стэфана Баторыя на гэтым месцы стаяла прыватная камяніца, а таму кароль польскі і вялікі князь літоўскі не меў да яе ніякага дачынення. Другое меркаванне: гродзенскі даследчык І. Трусаў лічыць, што Баторыеўкай быў трохпавярховы будынак у стылі позняга рэнесансу, пабудаваны каля 1540 г. Знаходзіўся насупраць Фары Вітаўта, каля сённяшняга Палаца тэкстыльшчыкаў.

19 кастрычніка – пачатак лістапада. Другое пражыванне Стэфана Баторыя ў Гродне пасля перамогі пад Полацкам.

7 лістапада. У Гродне памёр палітычны і вайсковы дзеяч, глава асабістага венгерсага войска ў Рэчы Паспалітай венгр Каспар Бекеш.

### 1580 г.

Італьянскім архітэктарам Скотта з Пармы перабудаваны Стары замак.

Канец лютага – пачатак красавіка. Побыт Стэфана Баторыя ў Гродне.

Кастрычнік 1580 – пачатак 1581. Побыт Стэфана Баторыя ў Гродне.

### 1581 г.

4 жніўня – побыт у Гродне Стэфана Баторыя на працягу месяца.

Прывілей Стэфана Баторыя Прачысценскай царкве, па якім на яе ўтрыманне вы-

дзяляецца 10 коп літоўскіх грошаў з гарадской казны.

Стэфан Баторы прымае паслоў Івана Жахлівага ў Гродне з нагоды заключэння міру ў перыяд Лівонскай вайны.

Створаны для Літвы Галоўны Трыбунал, які меў пасяджэнні ў Вільні і Гродне.

### 1582 г.

Стэфан Баторы загадвае не затрымліваць судны мяшчан з хлебам, якія плывуць у Кёнігсберг.

Пасяджэнне сенатараў (мажліва, у каралеўскім доме) з нагоды прэтэнзій Швецыі да Рэчы Паспалітай.

Жнівень. Развітацца з каралём у Гродна прыехаў Мікалай Радзівіл Сіротка. Ён адпраўляўся ў пілігрымства да Палестыны, Сірыі, Егіпту.

4 кастрычніка. На землях Рэчы Паспалітай уводзіцца грыгарыянскі каляндар (так званы новы стыль): наступным днём замест 5 кастрычніка лічыцца 15 кастрычніка.

### 1583 г.

Стэфан Баторы ўсталёўвае аплату прыватных лістоў незалежна ад адлегласці ў 4 польскіх гроша.

### 1584 г.

Стэфан Баторы дазваляе праваслаўным карыстацца юліянскім каляндаром.

Студзень – люты. 2-месячны побыт Стэфана Баторыя ў Гродне. Ён вырашае дзяржаўныя справы, якія тычацца Гданьска (Данцыга), прымае пасланніка англійскай каралевы Елізаветы Герберта, вырашае спрэчкі з прускім князем.

Люты ці сакавік. Стэфан Баторы запрашае ў Гродна правінцыяла Польскай правінцыі ордэна езуітаў Джаванні Паола Кампана і прапаноўвае яму праект арганізацыі двух калегіумаў – у Гродне і Брэсце. Кампана сустрэў праект без энтузіязму, спаслаўшыся на недахоп чалавечых рэсурсаў. Кароль усё ж запісаў 10 000 фларынаў у якасці фундацыі Гродзенскага калегіума і пачаў будаваць езуіцкі касцёл. Пазней эпідэмія ў Трансільваніі (памерла 26 езуітаў Польскай правіцыі) і смерць Стэфана Баторыя ў 1586 г. затрымалі арганізацыю калегіума.

Май – ліпень. 3-месячны побыт Стэфана Баторыя ў Гродне.

Канец чэрвеня. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, вярнуўшыся з пілігрымства, 9 дзён пражыў у Гродне, сустракаўся з каралём, каб падзякаваць яму за апеку над ім.

Канец кастрычніка – снежань. Побыт Стэфана Баторыя ў Гродне 2,5 месяцы. Па заданні Стэфана Баторыя зроблены праект перабудовы Фары Вітаўта з драўлянага храма ў мураваны (перабудова скончана ў канцы 1586 г.; майстар-муляр Антоні дэ Гротта, архітэктар – Санці Гучы або Дж.М. Бернардоні). У пачатку 1587 г. у Ватыкан паслана вестка, што касцёл цудоўны.

## 1585 г.

Лістапад 1585 – снежань 1586. На 13 месяцаў Гродна фактычна стала сталіцай Рэчы Паспалітай падчас побыту ў горадзе Стэфана Баторыя.

Зіма. З Гродна ў Маскву адпраўляецца пасольства Стэфана Баторыя – даведацца пра магчымасці саюза. Паслы сталі палоннымі рускага цара. Стэфан Баторы распрацоўвае планы пахода на Маскву.

## 1586 г.

Стэфан Баторы ў Гродне падпісаў прывілей братам Мамонічам – Казьме і Луку на выключнае права друкавання рускіх, славянскіх і грэчаскіх кніг на ўвесь час іх жыцця, а таксама на права продажу іх выданняў у Рэчы Паспалітай і за яе межамі беспадаткова.

4 красавіка. Стэфан Баторы даў прывілей гарадзенскаму цэху шаўцоў.

27 чэрвеня вечарам пачаўся пажар, які дайшоў да Старога замка і знішчыў яго.

Стэфан Баторы ў Гродне вырашае справу рыжан, якія не жадаюць прыняць грыгарыянскі каляндар.

Стэфан Баторы ў Гродне прымае пасольства цара Фёдара Іванавіча. Зноў узнікаюць праекты ваеннага саюза.

12 снежня. Смерць Стэфана Баторыя ў сваім палацы.

*“12 декабря 1586 года скончался Стефан Баторий (или от яда, или от неискусства врачей, как думали), один из знаменитейших Венценосцев в мире, один из опаснейших*

*злодеев России, коего смерть более обрадовала нас, нежели огорчила его Державу: ибо мы боялись увидеть в нем нового Гедимина, нового Витовта; а Польша и Литва неблагодарные предпочитали дешевое спокойствие драгоценному величию. Если бы жизнь и Гений Батория не угасли до кончины Годунова, то слава России могла бы навеки померкнуть в самом первом десятилетии нового века: столь зависима судьба Государств от лица и случая или от воли Провидения!”* (Мікалай Карамзін).

14 снежня. Ускрыццё цела Стэфана Баторыя ў будынку, які цяпер называецца Баторыеўка, – першае анатамічнае ўскрыццё ва Усходняй Еўропе.

З Гродна ад сакратара Яго Каралеўскай Вялікасці да Валганга Кавацкага, канцлера княства Семіградскага, адпраўлены ліст аб смерці Стэфана Баторыя.

### 1587 г.

У сувязі з заканчэннем будаўніцтва мураванай Фары Вітаўта драўляны храм быў разабраны.

29 красавіка. Цела Стэфана Баторыя адпраўлена ў Кракаў. У Гродна з’ехаліся ліцвінскія і польскія сенатары і ўраднікі, запрошаныя новым каралём. Адбылося жалобнае набажэнства. Усе цэрквы білі ў званы. Затым труну змясцілі на пахавальныя дрогі, і яна рушыла праз Нёман па старым тракце на Варшаву. 24 мая цела Стэфана Баторыя было змешчана ў Вавельскім замку.

### 1588 г.

Даведка: па дадзеным рэвізіі, ў Гродне 31 вуліца, болей за 700 дамоў, каля 4 000 жыхароў.

28 снежня. Згодна пастанове Кракаўскага сейма ад 28.12.1576 выйшаў указ караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы, адпаведна якому Гродзенскае староства аб’яўлена належачым каралеўскаму сталу. Такім чынам, Гродна стала цэнтрам гродзенскай каралеўскай эканоміі (да 1795 г.). Яна складалася з наступных мястэчак і фальваркаў: Гарадніца, Азёры, Котра, Краснік, Крынкі, Кузніца, Квасоўка, Лабна, Мілкаўшчызна, Ма-

сты, Новы Двор, Адэльск, Салацце, Скідзель, Верцялішкі.

Гэтым жа ўказам гродзенскім мяшчанам дазвалялася “молоть хлеб на частных мельницах, когда королевские завалены работой” з аплатай 12 пенязяў з бочкі.

### 1589 г.

2 лютага. Праз Гродна па дарозе ў Рэвель праехаў Жыгімонт III Ваза. Ён пацвердзіў прывілеі Гродна – малоць збожжа ў прыватных млынах, калі каралеўскія будуць занятыя, без аплаты казне, гандляваць віном.

14 лютага. Жыгімонт III даў прывілей Гарадзенскай ратушы на збіранне капшчызны ад водкі і забараніў гандляваць водкай іншым людзям, акрамя мяшчан.

### 1590 г.

Варшаўскі сейм дазволіў гарадзенцам пабудаваць спецыяльную сядзібу для пасяджэнняў земскага суда і аховы гродскіх кніг. Справа цягнулася яшчэ ў 1611 г., калі адна з пастаноў сейму давала каралеўскі пляц і мур драўлянага каралеўскага замка для пабудовы дома суда.

### 1591 г.

Стварэнне гродзенскага праваслаўнага брацтва, якое арганізавала сваю друкарню.

Заснаванне брацкай школы, у якой дзяцей навучалі “пісьму грэчаскаму і рускаму, арыфметыцы”.

### 1593 г.

Стварэнне аб’яднанага цэха домнікаў, вапнікаў, маляроў, ганчароў, муляраў і цесляроў.

### 1595 г.

Пляц для кляштара бернардзінскага касцёла (тэрыторыя былых каралеўскіх стайняў) ахвяравала княгіня Друцкая-Сакалінская, а ў наступным годзе суседні пляц падараваў Я.М. Тарасовіч. Касцёл Адшукання Святога Крыжа быў збудаваны паміж 1595–1600 гг. Рыцары вялікага князя Жыгімонта III ахвяравалі касцёлу па талеру “ад капыта”; значную суму даў Л. Сапега.

### 1596 г.

Напярэдадні Брэсцкай уніі ў горадзе дзейнічалі 7 праваслаўных цэркваў, 3 касцёлы, місіі 2 каталіцкіх манаскіх ордэнаў. Пасля яе падпісання адкрыты 2 уніяцкія храмы.

Жыгімонт III дазваляе гродзенскім яўрэям шынкарства і забараняе ім іншы гандаль.

30 лістапада. Кароль Жыгімонт III пацвярджае прывілей Стэфана Баторыя ад 5.11.1576 на ўтрыманне склада солі ў Гродне, якую прывозілі Нёманам.

## 1598 г.

Канстытуцыяй сейму Рэчы Паспалітай пацверджаны прывілей Гродна на правядзенне кірмашоў.

## 1600 г.

Гравюра Тамаша Макоўскага прадстаўляе панараму Горадні.

Каля 1593 г. папскія легаты Гогенберг і Брун наведалі горад і пакінулі такі ўспамін:

*"Другі па важнасці горад у Літве ёсць Гродна, на рацэ Кронане, цяпер называемай Ніемэ. Горад гэты пабудаваны на ўзвышшы, часткаю ў даліне, па звычаю краіны. У ім вельмі мала дамоў, якія цягнуліся б запар, шчыльна прыбудаванымі адзін да другога, мала дамоў цагляных, больш збудаваных проста з барвенняў. Горад не акружаны сцяной, не ўмацаваны, без брамы і без крапасных вежаў. Ёсць у ім толькі замак, або каралеўскі палац, размеркаваны на высокім узвышшы і служачы цалкам бяспечным месцам знаходжання караля польскага..."* ("Гродненские губернские ведомости". – 1865. – № 8).

## 1601 г.

14 жніўня. Гродзенскі магістрат атрымаў прывілей Жыгімонта III на права вядзення аптовага гандлю хлебам, соллю і селядцамі, а яўрэям забаранялася гандляваць гэтымі таварамі. У выпадку парушэння яны павінны былі заплаціць у скарб 1000 злотых, а тавар канфіскоўваўся (50 % – каралю, 50 % – ратушы). Але яўрэям дазволена трымаць шынкі, гандляваць галантарэйнымі таварамі.

## 1604 г.

Жыгімонт III вызваляе зернавы хлеб гродзенскіх мяш-

чан ад падатку пры завозе на прыватныя млыны.

### 1605 г.

Даведка: праз Гродна купцы вывезлі ў Польшчу і Прыбалтыку 78 відаў тавараў, у тым ліку 30 сартоў мяхоў, 9 відаў скур, 19 відаў сельскагаспадарчых прадуктаў. Увезены тавары 103 найменняў: 23 віды сукна, 9 – палатна, 11 – шарсцяных, шаўковых і інш. тканін, 14 – металаў і металавырабаў, 15 – прыправаў і фруктаў. Аднаго толькі сукна праз Гродна імпартавалі 160 тыс. м (усё з Польшчы).

1 сакавіка. Жыгімонт Ваза канфарміраваў прывілей Стэфана Баторыя шаўцам.

### 1607 г.

Адбыўся чарговы гродзенскі павятовы сеймік у Каралеўскім доме.

Ліпень. У Горадні складаецца канфедэрацыя, да якой далучаецца кароль польскі Жыгімонт III. З’яўляецца палітычны авантурыст Ілжэдзмітры II, які выдаваў сябе за расійскага царэвіча Дзмітрыя, сына Івана Жахлівага. Асоба яго не высветлена. У мемуарах Я.К. Хадкевіча напісана, што ў Рэчы Паспалітай сур’ёзна абмяркоўвалася пытанне аб перадачы Ілжэдзмітрыю II Гарадзенскага ўдзельнага княства.

### 1609 г.

Рэскрыпт Жыгімонта III прадпісвае земскаму падскарбію Ярашу Валовічу наглядаць, каб з гродзенскіх мяшчан не бралі мыта з зярна і солі.

### 1611 г.

У Старым замку адводзіцца месца для захоўвання актавых кніг гродскага суда (архіва) і для яго бюро.

Жыгімонт III дазволіў гарадзенскім яўрэям трымаць шынкі і гандляваць галантарэйнымі таварамі, але забараніў прадаваць харчаванне.

### 1613 г.

Адбыўся чарговы гродзенскі павятовы сеймік у Каралеўскім доме.

Вось што пісаў пра горад гэтага часу Аляксандр Гваньіні:

*“Горадня – драўляны горад і мураваны замак, што ляжыць на пагорку на рацэ Нё-*

*ман. Гэтая рака славутая, судаходная, па якой тавары перапраўляюцца з Літвы ў Гданьск. Плошча гэтага павета вялікая, раней ён быў княствам. Харугва лазурнага колеру, з адным кутом, такая ж. як і ў Княстве Літоўскім, узброены муж на кані з мячом…”* (*цыт. па: Уйма М. Горадня* ў мемуарнай літаратуры XVI–XVIII стст. // ARCHE. – 2014. – № 11. – С. 186).

Згарэла Васкрасенская царква.

## 1618 г.

Адбыўся чарговы гродзенскі сейм ВКЛ. Адно з галоўных пытанняў – вольнасць богаслужэння для праваслаўнай царквы.

Біскуп віленскі Яўстахій Валовіч кансекраваў касцёл бернардзінцаў мужскога кляштара.

Пачалося будаўніцтва жаночага кляштара бернардзінак.

Па Дэўлінскім перамір’і паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй вызваляліся польскія і літоўскія вязні. Сярод іх быў і маскоўскі патрыярх Філарэт, бацька заснавальніка дынастыі Раманавых Міхаіла Фёдаравіча. Прамежкавым пунктам па дарозе дадому з Мальбарка былі Вільня і Горадня.

## 1619 г.

У Гродне падчас паездкі у Маскву з Марыенбурга памёр князь Васілій Галіцын. Пахаваны каля Барысаглебскай царквы.

## 1620 г.

Адбыўся чарговы гродзенскі павятовы сеймік у Каралеўскім доме.

## 1622 г.

У канцы года ў горад прыбылі езуіты Адам Калаземскі і Захары Скарульскі для адкрыцця місіі. Жылі спачатку ў доме Масальскага, а потым у доме побач з Фарай, дзе ў наступным годзе і была адкрыта місія с капліцай.

## 1623 г.

Адбыўся чарговы гродзенскі павятовы сеймік.

У скарзе праваслаўнай шляхты Рэчы Паспалітай Варшаўскаму сейму на гвалт і пераслед, які робіцца з боку каталіцкай і ўніяцкай цэркваў

праваслаўнаму насельніцтву, сярод гарадоў ВКЛ упамінаецца і Гродна.

Адкрылася езуіцкая місія дзякуючы гродзенскаму старасце Станіславу Касабуцкаму, які запісаў у тэстаменце езуітам сваю вёску Сухая Баля. Першымі езуітамі былі Адам Калазембскі і Захары Скарульскі. Год яны жылі ў памяшканні, якое здымалі, пакуль каля Фары Вітаўта ім не купіў дом капелан каралевіча Уладзіслава Ян Лесеўскі. Для службы айцы мелі капліцу і трох канфесіяналаў, а з 1625 г. – маёнтак Свіслач.

**1625 г.**

У Гродне адкрываецца езуіцкая школа ніжэйшага ўзроўню, у якой выкладалі граматыку. Пазней пачалі працу школа паэтыкі – у 1633 г., рыторыкі – у 1645 г.

**1627 г.**

20 лістапада. Жыгімонт III дазваляе браць брукавае мыта з кожнага воза з цяжкім грузам у памеры 2 шелегі, ад мыта вызвалялася шляхта і духавенства. Атрыманыя грошы павінны ісці на ўтрыманне і рамонт бруку, які знаходзіўся на гэты час у дрэнным стане.

31 снежня. Жыгімонт III вызваляе Гродна ад кватаравання вайскоўцаў.

**1628 г.**

8 верасня. У Гродне заснавана брацтва Святога Анёла.

**1629 г.**

Адбыўся чарговы гродзенскі павятовы сеймік.

20 сакавіка. Прывілеем Жыгімонта III дазволена бурмістру Франдэбергу пабудаваць на свае грошы гарадскі рынак. Названы бурмістр атрымлівае пажыццёвае права на атрыманне гандлёвага і рынкавага падаткаў з прыезжых купцоў, бо ён упарадкаваў Рынак і правёў да яго водаправод праз драўляныя трубы.

**1630 г.**

10 студзеня. Жыгімонт III дае прывілей на арганізацыю цэха злотнікаў.

Кацярына і Фрыдэрык Пацы зрабілі фундацыю на пабудову кляштара і касцёла дамініканцаў.

У школе езуітаў усталява-

на Марыянская кангрэгацыя студэнтаў – самакіруемая грамадская арганізацыя вучняў. Школа атрымала фундацыю на музычную бурсу (3 000 злотых).

Пабудаваны мост на Нёмане, пра які гаварылі, што прыгажэй за яго не было ў Польшчы.

### 1631г.

Адбываецца чарговы гродзенскі соймік.

### 1632 г.

У Гродна пачынаюць сваю дзейнасць два каталіцкія ордэны: дамініканскі і Святой Брыгіты.

12 красавіка. Крыштаф і Фрыдэрык Сапегі, падкаморы віцебскі і староста астрынскі, пачалі будаваць на свае сродкі драўляны дамініканскі касцёл, які быў асвечаны ў імя Прасвятой Дзевы Марыі Ружанцовай у 1635 г. у прысутнасці караля Уладзіслава IV. Апошні пацвердзіў даравальны запіс Сапегаў (маёнтак Калбасіна і плошча пры Нямецкім рынку ў Гродне) на карысць дамініканскага кляштара.

Польскі гісторык Ю. Ядкоўскі датаваў будаўніцтва дамініканскага касцёла 1703 годам, а інвентар касцёла 1830 г. дае дату 1708 г. Цагляны двухпавярховы будынак у класічным стылі быў узведзены замест драўлянага ў 1735 г. айцом Т. Ганусевічам (архітэктар Л. Грынцэвіч), дабудаваны ў 1760-я гг.

### 1633 г.

12 лютага. Прывілей Жыгімонта III на фундацыю Фрыдэрыка і Хрысціны з Пацаў Сапегаў на будаўніцтва дамініканскага касцёла і кляштара.

14 сакавіка. Уладзіслаў IV дае ў Гродне ўніверсал аб вяртанні праваслаўным некалькіх цэркваў і манастыроў (не выкананы).

25 мая. Уладзіслаў IV праездам у Вільню спыняецца ў Гродне, жыве тут месяц. 6 чэрвеня. Ён прымае венецыянскае пасольства на чале з Цьепалі.

Пацвердзіў прывілей Стэфана Баторыя, дадзены шавецкаму цэху.

11 чэрвеня. Уладзіслаў IV падпісаў канфірмацыйны прывілей для Горадні. У гэ-

тым дакуменце, у адрозненне ад іншых, прыводзіцца кароткі змест 40 папярэдніх прывілеяў яго папярэднікаў.

**1635 г.**

Дзякуючы фундацыі старасты ўпіцкага Яўстаха Курча і яго жонкі Зузаны пачалося будаўніцтва францысканскага кляштара і касцёла на левым беразе Нёмана.

Гродзенскі сейм зацвярджае дамову ўніятаў і праваслаўных аб захаванні Барысаглебскага кляштара за ўніятамі.

Езуіцкая місія была павышана да рэзідэнцыі, а ў 1647 г. сеймавая пастанова зацвердзіла “пляцы ў месце Гродзенскім, на якіх касцёл і калегіум іх павінен быць размешчаны”. Калі ў 1656 г. Гродна занялі маскоўскія войскі, езуіты схаваліся ў вакольныя лясы, а іх будынкі былі спалены.

Адбываецца чарговы гродзенскі сеймік.

**1636 г.**

Гродзенскі староста Крыштаф Весялоўскі прызначаны маршалкам ВКЛ. Стварэнне партрэтаў сям’і Весялоўскага (магчымы мастак – Г. Хаецкі).

На працягу года быў пабудаваны драўляны кляштар і касцёл брыгітак на мураваным фундаменце, усё абнеслі мураванай сцяной з двумя брамамі. У гэтым жа годзе ў Гродна з Любліна прыбылі 8 манашак на чале з Даротай Фірлей, а 10 снежня адбылася элекцыя першай ігуменні брыгіцкага кляштара ў Гродне – Ганны Сабескай.

У Гродне пасяляюцца прадстаўнікі францысканскага ордэна. Староста ўпіцкі Яўстахі Курч у Занёманскім прадмесці Гродна падараваў мніхам мураваны дом.

12 верасня. Гарадскія ўлады зацвердзілі Статут гарадзенскага цэха злотнікаў. Адпаведна яму вучань-хлопец набываў статус таварыша пасля 4 гадоў навучання і практыкі; партачы (пазацэхавыя) і лёзныя (вандроўныя) рамеснікі не мелі права займацца ў Гродне вырабам залатых і срэбных рэчаў, пакуль не “ўпішуцца ў цэх”.

**1637 г.**

Кароль Уладзіслаў IV за-

цвярджае Статут гарадзенскага цэха злотнікаў.

### 1639 г.

Студзень. Уладзіслаў IV тры дні прымае (“великолепно угощал”) у Гродне курфюрста Брандэнбургскага Георга-Вільгельма – аднаго з дзеячаў Трыццацігадовай вайны.

Красавік. Частка майстроў шавецкага цэха адмаўляецца падпарадкоўвацца цэхавым уладам, перастае наведваць цэхавыя сходы, спыняе аплату ўзносаў; справа даходзіць да адкрытых сутыкненняў з цэхмайстрамі.

17 чэрвеня. Гродзенскі магістрат прымае рашэнне аб далучэнні шаўцоў-рамеснікаў, якія аддзяліліся, да гродзенскага цэха металістаў.

Рашэнне Гродзенскага магістрата аб далучэнні рамеснікаў да гродзенскага цэха металістаў (пераклад з польскай мовы):

*Того же дня. Дело ремесленников по поводу привилегий. Дело по иску именитых и почтенных цехмистров, мастеров и подмастерьев гродненского цеха ремесел слесарного, кузнечного, котлярского, оружейного и ножевщиков, действующих через своего уполномоченного, шляхетного пана Николая Кандида Аврка Вишневского, к ответчикам, почтенным мастерам и подмастерьям ремесел слесарного, каретного, шорного, шапочного и ремесла резчиков, а именно: к лавнику именитому пану Фоме Лозовскому, шапочникам Яну Виноградскому и Станиславу Вишневскому, лавнику пану Федору Юровичу, шорникам Андрею и Фоме Дмоховским, Яну Микояничу, столярам Давыду Струнку, Христофору Яновскому, Севастьяну Цеховичу, Николаю, резчику Фоме Федоровичу Стражинскому, каретнику Фоме Рубеновичу, гродненским мещанам и их подмастерьям. Еще предки перечисленных ответчиков объединились в одном этом цеху и по своей просьбе получили от е.вел. блаженной памяти короля Сигизмунда III привилегию, которая и ныне на счастье подтверждена. Несмотря на это, ответчики не соблюдают цеховых порядков, не несут никаких расходов на хоругвь и на церковь и не выполняют ни-*

*каких повинностей, в результате чего церковь, город и цех несут большие убытки. Это отражается и на деятельности магистрата.*

*Что касается ремесла шапочников, то они предъявили цеховой реестр, согласно которому гродненские шапочники Христофор Гродзицкий и Симон Рачицкий еще в 1593 г. вступили в этот цех.*

*Копия выданного им в марте 1608 г. гродненским магистратом устава хранится в цеховом ларе. Что касается шорного ремесла, то они ссылались на тот же реестр и доказали, что еще их предшественники Мартин Николаевич в 1582 г., а Важинец Моницкий, Войтех Веселовский, Станислав Радишевский и Станислав Вортковский в 1614 г. вступили в цех. Столяры вступили: Станислав Зеленко – еще в 1581 г., а Фома Кравч – в 1596 г. Каретник Ян Роматкович – в 1582 г. Ножевщики Павел Креме и нынешний ответчик Фома Федорович Стажинский – в 1582 г.*

*Из седельного ремесла – Станислав Левенденский и Севастьян Скарпевич – в 1618 г. Затем они предъявили соглашение от 15 февраля 1570 г., заключенное гродненским магистратом с мастерами ремесел слесарного, кузнечного, котлярного и оружейного относительно некоторых статей. Кроме того, они предъявили подтверждение привилегии е.к.вел. блаженной памяти королем Стефаном, датированное в Гродно года 1579 февраля дня 15, а также привилегию е.к.вел. блаженной памяти короля Сигизмунда III, датированную в Вильно 20 августа 1612 г., которой е.вел. король с добровольного согласия и по просьбе латников, ножевщиков, столяров, каретников, шорников, шапочников, седельников, резчиков распространил на них и полностью во всех пунктах подтвердил привилегию е.вел. короля Стефана. Они представили также грамоту е.к.вел. блаженной памяти Сигизмунда III, выданную в Гродно 5 июля 1612 г., направленную в гродненский магистрат, в которой во исполнение привилегии приказывается оказывать всяческую помощь перечисленным ре-*

*месленникам, объединенным в цех, в борьбе против нецеховых ремесленников в соответствии с привилегией е.к.вел. Стефана и со своим подтверждением ее. Представили также привилегию е.к.вел. Владислава IV, ныне счастливо царствующего, выданную в Гродно 31 мая 1638 г., в которой он подтверждает грамоту е.к.вел. короля Стефана, выданную в Гродно 13 февраля 1579 г. всем перечисленным выше ремесленникам, и грамоту е.к.вел. блаженной памяти короля Сигизмунда III, выданную в Вильно 20 августа 1612 г., и запрещает всем, не состоящим членами цеха, под угрозой конфискации товаров в пользу цеха привозить и продавать эти товары всюду, как на рынке, так и в лавках, кроме ярмарки, что должен контролировать магистрат. Выписка из дел магистрата от 30 марта 1639 г.*

*Каретники, седельники и резчики обязались вступить в цех. Фактически вступили 3 шорника: Христофор Обуховский, Ям Госинский и Войтех Веселовский. Два седельника Станислав Скальский и Ян Магниуш вступили 13 мая 1639 г., а пан Фома Дмоховский вступил того же года 3 июня.*

## 1640 г.

20 студзеня. Указ Уладзіслава IV па скарзе гродзенскіх цэхмайстраў: цэхавае рамяство церпіць страты з-за таго, што шмат рамеснікаў працуюць па замовах прыватных асоб, ды на рынак розныя гандляры прывозяць тавары з іншых гарадоў.

## 1641 г.

У арсенале гродзенскага замка маецца даспехаў на 600 чалавек, некалькі соцень мушкетаў і шпаг.

## 1642 г.

Фундацыя Аляксандры з Сабескіх – жонкі маршалка ВКЛ Крыштафа Весялоўскага – будаўніцтва касцёла Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі (брыгітак). (Акт фундацыі напісаны на пергаменце лацінскай мовай і захоўваецца ў Літоўскім дзяржаўным архіве).

## 1643 г.

Францысканцам выдзеле-

ны пляц на левым беразе Нёмана на пабудову кляштара.

**1645 г.**

Магістрат дазволіў брукарам, стрыхарам, цеслярам, мулярам мець свой цэх на ўзор віленскага па прычыне згубленых каралеўскіх прывілеяў.

**1647 г.**

У горадзе адбыўся пажар.

Пачалося будаўніцтва касцёла Св. Ксаверыя (фарнага касцёла). Скончаны ў 1663 г. Фундатарка галоўнага алтара – К.-М. Лоза. Біскуп Смаленскі Францішак Долмат Ісайкоўскі першым сапраавадзіў у Горадню езуітаў, а мечнік літоўскі Крыштаф Халецкі даў ім багатае ўбраннне.

Адбыўся чарговы гродзенскі сеймік.

Уладзіслаў IV прыехаў у Горадню, дзе суцяшаў свой боль за-за смерці адзінага сына, васьмігадовага Жыгімонта Казіміра. Кароль прыходзіў тут да псіхічнай раўнавагі, быў гаваркі, мілы і лагодны.

**1648 г.**

Пачалося будаўніцтва кляштарнага комплекса бернардынак дзякуючы фундацыі гетмана і падканцлера ВКЛ Казіміра Сапегі, войскага гродзенскага Яна і яго брата Адама Сцыпіёна. Раней лічылася дата 1621 г., але ў гэты час Казіміру Льву Сапегу было толькі 12 гадоў (гл. В. Дубатоўка. Архіпелаг Сапегаў. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2002. – С. 41). З 1852 г. кляштар стаў праваслаўным манастыром Святых Барыса і Глеба.

**1649 г.**

Арганізаваны цэх гарбароў.

10 снежня. Цэх цырульнікаў унёс свой статут у гродскую кнігу. Прывілей на цэх быў атрыманы ад Яна Казіміра 9.01.1650 г. Дарэчы, у цэху былі майстры, якія выраблялі парыкі.

**1650 г.**

Першыя звесткі пра школьны тэатр, які існаваў пры гродзенскім езуіцкім калегіуме (да 1728 г.).

Кашталян віленскі Андрэй Катовіч і яго жонка ахвяравалі кармелітам зямлю па вуліцы Маставой.

Разыгралася супрацьстаянне вакол пасады гарадзен-

скага старасты пасля смерці Фрыдэрыка Сапегі. Кароль Уладзіслаў IV хацеў зацвердзіць Станіслава Савіцкага, які купляў пасаду за грошы. Мясцовая шляхта актыўна гэтаму супраціўлялася, бо кандыдат караля не меў зямельных уладанняў у Гарадзенскай зямлі і не меў тут ніякіх асаблівых заслуг.

У Гродне збіраецца радамскі трыбунал.

### 1651 г.

Вопіс гродзенскай каралеўскай эканоміі ўказвае на галечу і спусташэнне насельніцтва Гродна.

У рукапісу Яна Пылінскага з Гродна захаваліся тры інтэрмедыі (невялікія гумарыстычна-бытавыя сцэнкі рэалістычнага напрамку).

19 кастрычніка. Брыгіцкі касцёл асвечаны і адкрыты для вернікаў.

### 1653 г.

4 студзеня. Ян-Казімір пацвердзіў прывілей шавецкага цэха.

Канец года. У Гродна адбываецца нарада Яна Казіміра з сенатарамі ВКЛ перад Брэсцкім сеймам аб вайне супраць “ворагаў... айчыны” – Расіі.

### 1654 г.

Смаленскі біскуп Ф. Далмат-Ісакоўскі залажыў у Гродне драўляны касцёл Пятра і Паўла (будаўніцтва закончана ў 1663 г., існаваў да 1700 г.).

Горадню наведалі пасланцы хана з абяцаннем Яну Казіміру трымацца саюзу з Рэччу Паспалітай, якая знаходзілася пад пагрозай з боку Расіі.

Лістапад. Ян Казімір у Гродне мірыць гетманаў Я. Радзівіла і У. Гансеўскага, загадвае абараняць Верхні і Ніжні замкі, заклікае паспалітае рушэнне. Адбываецца 40-гадзінная імша з удзелам караля ў фарным касцёле.

### 1655 г.

Сеймік Гродзенскага павета ў Гродне.

22 жніўня. Войскі цара Аляксея Міхайлавіча на чале з ваяводам Я.К. Чаркаскім занялі Горадню, спустошаную пажарам. Ахвярай яго сталі касцёлы Св. Мікалая, Найсвятлейшай Тройцы, Св. Духа. Разваліліся мураваныя зводы

Барысаглебскай царквы, бо ў час штурму маскоўскія вайскоўцы паставілі на іх гарматы. Знаходзіліся ў горадзе 2 гады.

Згодна з пэўнымі крыніцамі, дзякуючы Станіславу Казалуцкаму закладзена школа езуітаў, якая ў 1667 г. стане называцца калегіумам.

27 жніўня. У Гродне была скрадзена "Кніга Царстваў", выдадзеная Скарынам 10.08.1518 г. Названы экзэмпляр патрапіў у Пецярбургскую публічную бібліятэку ў сярэдзіне XIX ст., дзе ўвайшоў у канвалют з іншымі скарынаўскімі творамі.

*"Сиа книга Алексеева дому Петровича Гладкова, а взята сиа книга в литовской земле в городе Гродне лета 7163 [= 1655] году м [е] с [я] ца августа в 27 день"* (Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў, Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – С. 245).

## 1656 г.

Чэрвень. У сувязі з пачаткам вайны Расіі са Швецыяй у Гродне будуецца паўкола ахоўных земляных валоў ад поймы ракі Гараднічанкі (Гарадніцы) да Нёмана (у канцы XVIII ст. зліквідаванае).

## 1657 г.

Часовая акупацыя Гродна шведамі ў ходзе руска-шведскай вайны.

4 траўня. Жалаваная грамата расійскага цара Аляксея Міхайлавіча насельніцтву Гродна і Гродзенскага павета.

## 1659 г.

Сакавік. Гетман П. Сапега прымушае рускія войскі, што занімали горад 5 год, капітуліраваць: Я.К. Чаркаскі здае Гродна шляхце Гродзенскага павета.

Канец года. Рускія войскі ў выніку наступлення зноў займаюць Гродна, Ліду, Брэст-Літоўскі і Навагрудак.

## 1660 г.

Чэрвень-кастрычнік. Ян-Казімір вяртае Навагрудак і Гродна ВКЛ (пасля заключэння 3 мая 1660 г. Олаўскага міра са Швецыяй).

## 1661 г.

13 мая. Рускія войскі пакідаюць Гродна. Акупацыя завяршылася. У горадзе засталіся толькі 30 хворых чалавек.

З пастановы Варшаўскага сейма:

*“67. З прычыны таго, што гор. Гродна з фальваркамі і прадмесцямі нашчэнт разбураны і спустошаны маскоўскімі войскамі, дык для таго, каб яго стан мог палепшыцца, мы вызваляем гродзенскіх мяшчан і яўрэяў тэрмінам на 4 гады ад уплаты падаткаў, усталяваных на гэтым сейме і наступных, акрамя ўплаты пошліны, мыта і чапавага, а таксама цалкам пацвярджаем прывілей, падараваны ім да уніі, аб вольным гандлі па рр. Нёману і Неце”* (Volumina legum, t. IV, s. 385).

26 жніўня. У Гродне адбываецца справаздачны (рэляцыйны) сеймік.

## 1662 г.

Пастановай надзвычайнага Варшаўскага сейма мураваны дом гродзенскага падкаморыя С. Масальскага на Рынку з гарадской юрысдыкцыі перадаецца ў земскую юрыдыку.

## 1664 г.

3 жніўня. Адбылася ўрачыстая працэсія ўнясення іконы Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай з гэтага часу) у касцёл Св. Пятра і Паўла (езуіцкі). Калісьці яе прывёз з Рыма князь Альбрэхт Радзівіл, а пазней ёю валодалі дамініканін а. Куклінскі, Войцех Жэляроўскі. Апошні перадаў абраз езуітам.

17 жніўня. Рэзідэнцыя гродзенскіх езуітаў перайменавана ў калегіум. Яго мураваныя будынкі ўзводзіліся ў 1677–1684, 1691 і 1722–1744 гг.

## 1665 г.

3 ліпеня. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ян Казімір склікае ў гарадзенскай Уваскрэсенскай царкве духоўных і свецкіх прадстаўнікоў улады, паслоў, рыцарства з ваяводстваў, зямель і паветаў ВКЛ па пытаннях аднаўлення разбуранага краю і фінансавання войска, патрэбнага для вайны з Маскоўскім царствам. Вырашылі сабраць павышаныя падымнае (22 злотых), чопавае, увесці новы падатак на соль да скарбу дзяржаўнага з Яго Каралеўскай Вялікасці эканамічных маёнткаў, шляхецкай і духоўнай маёмасці.

*“Выпись с книгъ справ к гродских повету городенског(о).*

*Лета от нароженья Сына Божого 1665 м(есе)ца июля 21 дня. На враде г(оспо)дарском кгродском городеньскомъ передомъною Анъдреемъ Котовичом, писаром Вел(икого) Кн(я)з(ства) Лит(овского), старостою городеньскомъ, городъничимъ и деревъничимъ виленьскимъ ясне велможныи ег(о) м(и)л(о)сти панъ Кришътофъ на Бакъштахъъ Завиша, маршалокъ Вел(икого) Кн(я)з(ства) Лит(овского), ясне велможныи ег(о) м(и)л(о)сти панъ Ян Анътонии Храповицкии, подкоморыи смоленскии, маршалокъ кола поселског(о) по сконченю конъвокацыи черезъ ясне велможныхъ их м(и)л(о)стеи панов сенаторов и велможныхъ их м(и)л(о)стеи панов пословъ з воеводствъ и земълъ и поветовъ Вел(икого) Княз(ства) Лит(овског(о) за волею Е(го) Кор(олевской) М(илос)ти, пана нашог(о) м(илос)тивог(о) до Городъна зграмажоных, одъправованое, тое постановене конъвокацыи и с подъписами своими и с подписами яснее велможных их м(и)л(о)сти панов сенаторовъ и их м(и)л(о)сти панов пословъ к акътикованъю до книг кгродъских городеньских справъ вечистых подали, которое я староста принывши, велел есми до книг уписат. А уписючи у книги слово до слова такъ се в собе маетъ:* Convocatia [s] grodzie(ń)ska w roku 1665 dnia 3 Julii odprawowowana [...]" (Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. II / Opracował Henryk Lulewicz. Warszawa: Neriton, 2006. – S. 382–383).

Жнівень. Вялікі пажар, калі горад быў "датла разбураны і спустошаны маскоўскім войскам".

### 1666 г.

У ноч з 31 ліпеня на 1 жніўня. Адбылося нападзенне хрысціян на габрэйскія храмы і дамы. Яны былі разрабаваны, а некалькі мужчын і жанчын пабіты. Суд прыгаварыў арганізатараў пагрому да 6 тыдняў зняволення, а ўдзельнікаў – да штрафу 200 злотых на карысць ахвяр.

### 1667 г.

Віленскі біскуп Аляксандр Сапега кансекраваў касцёл Св. Пятра і Паўла (езуіцкі).

### 1668 г.

Гарадзенскі сейм РП пад

пагрозай выгнання забараняе пераход з каталіцтва ў іншыя веравызнанні.

У Гродне памёр мастак Ф. Лякшыцкі.

### 1669 г.

Сеймік гарадзенскі не даў згоды на падаткі.

### 1672 г.

Горад перажыў наступны моцны пажар. У чэрвені гэтага года кароль Міхал Вішнявецкі выдаў лібертацыю, якой вызваляў гарадзенцаў на 4 гады ад аплаты падаткаў і дазволіў карыстацца лесам каралеўскіх пушчаў для адбудовы дамоў.

### 1673 г.

Спыніў існаванне з-за браку сродкаў кляштар аўгусцінаў. Іх драўляны касцёл згарэў.

З гэтага года Гродна пачаў выконваць ролю "трэцяй сталіцы" Рэчы Паспалітай. Шляхта ВКЛ дабілася, каб кожны трэці сейм Рэчы Паспалітай праходзіў у Гродна. Канстытуцыяй польскага караля і вялікага князя літоўскага Міхала Карыбута Вішнявецкага Гродна прызначаецца местам звычайных заканадаўчых генеральных сеймаў. Для нармальнага жыцця і дзейнасці паслоў выдзяляліся пляцы і лес для будаўніцтва, аднаўляліся дамы па вул. Замкавай, прадугледжвалася рэстаўрацыя ратушы.

### 1674 г.

Стварэнне самастойнага цэха кавалёў і кацельшчыкаў у Гродне.

Першае набажэнства ў кармеліцкім касцёле Узвышэння Святога Крыжа.

### 1675 г.

Прынята рашэнне аб будаўніцтве ратушы, зруйнаванай падчас вайны з Расіяй (1654–1676), і выдадкавана 4 800 злотых. У той час яно не было выканана.

Адбываецца рэвізія Гарадзенскай эканоміі. У ардынацы аб гарадзенскіх валоках адзначаецца, што колькасць гарадскіх вуліц з 31 зменьшылася да 18.

25 студзеня. Першая пісьмовая згадка пра гарбарскі цэх. Прывілей гарбарам даў 2.01.1699 г. Аўгуст II Моцны.

З дакумента пад назвай “Парадак каля агню”, дадзенага магістрату Гродна:

*“…Каб на наступную вясну ўсе саламяныя дахі парушылі, а дамы, якія належаць як гарадской юрыдыцы, так і іншым спадарам, хаця б гонтаю альбо дранкаю былі накрытыя. Наступнае, каб кожныя 10 дамоў у рынку і вуліцах мелі босаг (хозаг), ці крук жалезны для разрывання, не дай Божа, агню патрэбны і згодны. Таксама па кадзі вады ў гаспадароў, як хрысціян, так і жыдоў, каб заўсёды былі добрыя драбіны пры комінах, якія павінны быць муравaнымі. Гэтае ўсё кватармайстры […] кожны месяц павінны аглядаць, рэвізаваць і магістрату дастатковую справаздачу падаваць…”* (Sliwiński J. Grodzieńszczyna i Podlasie w XV–XVI wieku w Wielkim Księstwie Litewskim (wielkoksiążece puszcze i wlosi, eksploatacja, pożary). – Olsztyn: Uniwersitet Warmińsko-Mazurski w Olsztynie, 2010. – S. 261).

## 1676 г.

Шляхецкі сеймік у Горадні: пашыраны правы праваслаўных.

## 1678 г.

Пачатак будаўніцтва мураванага езуіцкага касцёла Св. Францішка Ксаверыя (завершана ў 1705 г.).

Спецыяльная камісія зрабіла перапіс пляцаў і дамоў у Гродне.

14 снежня. На сцяну Старога замка змясцілі мемарыяльную дошку ў гонар першага гарадзенскага сейма Рэчы Паспалітай. Тэкст быў наступны:

*“Пры сходзе ў Гродна найсвятлейшых асоб польскіх і літоўскіх сенатараў, ступаем на цудоўны Капітул. Калі вайна – вораг міру, страшэнным спусташэннем ператварыла ў руіны і брыдкім зрабіла, дык у памяць міру і роўнасці людзей, а таксама для асвячэння сеймавых пасяджэнняў пры найсвятлейшых каралях Міхаіле і Яне III, Крыштаф Пац, маршалак брэсцкі і 20-ы раз пасол на сейм, з прывязаннасцю да Айчыны змайстраваў. Няхай для Бога, караля, Айчыны і права, ганаровая пліта, каралём забяспечаная, гербам Пацаў “Лілеяй” упрыгожаная, выдаткамі казны ВКЛ аднаўленая, доўга існаваць будзе. Вы ж, якія з’яўляецеся аздо-*

*баю польскага пурпура, ваша слушная дума-рада і вялікасць, падтрымка права. Грамадзянскага году 1678, месяца снежня, перад адкрыццём сейма 14 дня”.*

15 снежня 1678 – 4 красавіка 1679 г. Пад маршальствам Францішка Сапегі ў Старым замку адбыўся першы гродзенскі сейм Рэчы Паспалітай. На сейме прысутнічалі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян III Сабескі, шмат паслоў ад каралёў і князёў (напрыклад, ад рымскага імператара – граф фон Альтгэйм). Сярод паслоў і сенатараў былі гетман вялікі літоўскі Міхал Казімір Пац, канцлер літоўскі Крыштаф Пац, маршалак вялікі літоўскі Гіляры Аляксандр Палубінскі, падскарбі надворны літоўскі Бенедыкт Павел Сапега, брэсцкі ваявода Ян Апалінскі, лідскі падстараста Эліяш Міхал Рымвід і іншыя. На сейме імі, разам з расійскімі пасламі, зацверджаны Андрусаўскі дагавор; працягнута перамір’е з царом Фёдарам Аляксеевічам, заключаны саюз з Расіяй супраць Турцыі.

Дварэцкі князя Чартарыйскага Таннер, сведка сейму: “Паміж вяльможамі я прыкмеціў тут вялікае спаборніцтва з-за месца і ўшанаванні: іншыя ваяводы наўмысна не з’яўляліся даўжэй, каб насустрач ім выехала паболей знаці і тым павялічыла бляск іх уезду, што і было адзінаю прычынай адтэрміноўкі сейма”.

Ян Сабескі падцвердзіў розныя палажэнні ранейшых прывілеяў Горадні, а таксама ўстанавіў падатак рэзніцкага цэха магістрату, забараніў купцам іншых гарадоў гандляваць з яўрэямі без ведама магістрата, а цэхам забараніў устанаўліваць свае артыкулы без згоды магістрата.

## 1679 г.

У Гродне выдадзена канстытуцыя вальнага сейма 1678 г. (44 аркушы фарматам 20). Адныя даследчыкі пішуць, што друкавалі ў друкарні мінарэтаў (францішканаў), другія – што часова з Вільні прывезлі варштаты і неабходныя прылады для друкавання, а названай вышэй друкарні не існавала.

### 1680 г.

Інвентарная даведка (“Камісарскі выпіс г. Гродна”): у Гродне 574 дамы (469 – халупы, 201 з каторых належаць агароднікам і 373 – іншым немаёмасным мяшчанам).

З данясення каралеўскіх эмісараў: “мещане, за исключением лишь весьма немногих из магистрата, пренебрегли благосостоянием города и живут не в черте его, а по своим фольваркам, не занимаются торговлей и купечеством... а исключительно хлебопашеством... вследствие чего город постепенно клонится к упадку”.

### 1681 г.

14 студзеня. У Старым замку прайшоў другі гродзенскі сейм Рэчы Паспалітай. Заслухалі справаздачы паслоў, адпраўленых да замежных двароў. Высветлілася наступная карціна. Цэзар Леапольд з надзеяй, што лагодныя сродкі адхіляць ад яго буру, адмовіўся ад саюзу і дапамогі. Людовік XIV адмовіўся як саюзнік Турцыі і рады, што туркі прыгнятаюць Аўстрыю ў Венгрыі. Венецыя, паслухмяная Францыі, не дазволіла паслу князю Міхалу Радзівілу ўступіць у свае межы. Такім чынам, Рэч Паспалітая не знайшла саюзнікаў для вайны з Турцыяй. Яна мела толькі бласлаўленне папы Інакенція XI, абяцанкі духоўных громаў, ягоных адозваў і грошай. Сейм ужо было ўхваліў не прымаць ганебнага міру з Турцыяй, рабіць вялікую падрыхтоўку да вайны і лёс края перадаць у рукі Яна III, але французская партыя перамагла. Як мы ведаем, закон забараняў пасяджэнні паслоў пры свечках, і кароль, каб хутчэй закончыць працу, загадаў запаліць паходні ў суседніх пакоях. Пасол Дамброўскі сарваў сейм, заявіўшы, што парушаны закон. Ян III аказаўся раззброеным на доўгі час. Усё прапала перад выказам liberum veto.

### 1684 г.

14 студзеня. Пачаўся другі гродзенскі сейм Рэчы Паспалітай, але праца яго была сарвана.

### 1685 г.

16 лютага – 15 сакавіка.

Сейм Рэчы Паспалітай адбываўся ў Варшаве, але частка апазіцыйных ліцвінскіх пасลоў мела пасяджэнні ў Гродне. Вырашалася пытанне “захавання цэласнасці дзяржаў нашых”.

## 1687 г.

Школьны тэатр езуіцкага калегіума ставіць лацінскую драму гродзенскага педагога М. Сіновіча ў гонар брака мясцовых магнатаў Стэфана Браніцкага і Кацярыны з Сапегаў.

Пры калегіі езуітаў адкрыта аптэка.

## 1688 г.

27 студзеня – 5 сакавіка. У Старым замку адбыўся трэці гарадзенскі сейм Рэчы Паспалітай. На ім прысутнічалі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян III з жонкаю Марыяй-Казімірай, каралеўскі двор і амаль увесь дыпламатычны корпус пры ім – папскі нунцый архіепіскап кесарыйскі Кантэльмі, германскі пасланнік барон Зараўскі, французскі пасол маркграф Бецюн, брандэнбургскі пасол граф Дона. Пяць тыдняў працягваліся спрэчкі паміж каралеўскім сямействам і апазіцыяй на чале з Сапегамі. Закончыліся яны безвынікова. Упершыню сейм быў сарваны яшчэ да выбару маршалка пасольскай палаты. Падкаморы віленскі харунжы Дамброўскі (відаць, той жа самы, пра якога мы гаварылі вышэй), падтрымліваючы Сапег, пратэставаў супраць таго, што кароль у сенаце пасадзіў сваяго сына Якуба каля сябе па левую руку. Магнаты-прыхільнікі Леапольда, які хацеў аддаць польскую карону каму-небудзь з архікнязёў, дабіваліся прызнання спадчыны да трона. Кароль хацеў пазбегнуць бескаралеўя і для дабра краю, і як бацька трох сыноў, але вымушаны быў адмовіцца ад гэтай думкі, паколькі адчуваў моцнае дзеянне замежных інтрыг. Спрабуючы неяк выйсці з бязвыхаднага становішча, Ян III склікаў на нараду сенатараў. Але і яна, як піша гісторык Я. Арлоўскі, “не дала ніякіх выразных вынікаў, у дадатак каралю прыйшлося быць сведкаю непрыстойных выпадаў, накіраваных супраць яго асобы, на якія ён,

аднак, адказваў з вялікай годнасцю з вышыні свайго трону". Літоўскі трыбунал вынес на гэты сейм справу мысліцеля-атэіста Казіміра Лышчынскага, які ў гэты час сядзеў у гродзенскай турме пасля другога арышту. Паколькі сейм быў сарваны, справу не паспелі абмеркаваць. Ужо на варшаўскім сейме 28 лютага 1689 г. яму вынесуць смяротны прысуд – спаліць. Кароль заменіць кару, па просьбе Лышчынскага, на адсячэнне галавы.

### 1693 г.

На самым высокім месцы горада завершана будаўніцтва мужчынскага бернардзінскага кляштара.

9 студзеня – 12 лютага 1693. Праходзіў чацвёрты гродзенскі звычайны сейм Рэчы Паспалітай. Маршалкам сейма абралі пісара польнага літоўскага Андрэя-Крышпіна Кіршэнштэйна. Сярод паслоў знаходзіліся вайсковы жмудзкі Ян Тызенгаўз і мечнік Ежы Тызенгаўз – з роду вядомага нам Антонія Тызенгаўза. Адным з галоўных пытанняў сталі адносіны з Турцыяй. У лютым 1690 г. 80 тысяч татар і 20 тысяч турак ажыццявілі набег на Рэч Паспалітую, агнём і мячом спусташылі каралеўскія маёмасці, амаль самаго караля ў Злачаве не схапілі. У адказ 14 кастрычніка 1691 г. пачалі выправу каралеўскія войскі: захапілі шэраг крэпасцей турак, аблажылі з усіх бакоў Камянец, і новая мяжа прайшла па р. Прут. Татарскага хана турбаваў спакой, але намаганні аказаліся дарэмнымі – сейм сарвалі, а наступны сабраўся ў Варшаве 22 снежня 1693 г. Падчас сейма ў горадзе памёр французскі пасол Роберт д'Эсневаль ле Руа.

### 1697 г.

Згодна "закону об уравнении прав" (прыняты Варшаўскай генеральнай канфедэрацыяй 20 жніўня 1696 г.), беларуская мова ў судовай вытворчасці (найперш у земскіх судах) была заменена польскай.

10 кастрычніка. З'езд на сеймік прыхільнікаў віленскага ваяводы і гетмана вялікага літоўскага Казіміра Яна Сапегі: падскарбій вялікі каронны

Геранім Аўгусцін Любамірскі, падскарбій вялікі літоўскі Бенедыкт Павел Сапега, стольнік каронны Стэфан Мікалай Браніцкі, стольнік літоўскі Ежы Станіслаў Сапега, канюшы літоўскі Міхал Францішак Сапега. Ніякіх пастаноў не прынялі.

**1698 г.**

30 снежня. Прывілей Аўгуста II на арганізацыю цэха рыбакоў на наступных умовах: кожны рыбак плаціць пры паступленні ў цэх да 60 злотых; цэх разбірае свае справы пад кіраўніцтвам старшыні, выбранага рыбакамі; апошні не мае права адмовіцца ад свайго месца раней тэрміну; рыбакі маюць права ўладкаваць свой рынак у вядомым месцы; іншым асобам гандляваць рыбай дазваляецца толькі з ведама цэха; кожны рыбак з чоўна павінен заплаціць 1 злоты ў каралеўскую казну. Злоўлены кантрабандыст падлягае канфіскацыі тавара і выплаце штрафа ў 100 грывень, палова якіх ідзе ў каралеўскую казну, а палова – цэху.

**1699 г.**

Варшаўскі сейм вырашыў аблажыць Гродна паштовым падаткам у 200 злотых.

Аўгуст II дараваў прывілей гродзенскім цэхам каменшчыкаў, ганчароў, сталяроў і бондараў.

К. Сапега публікуе ў Гродне маніфест “Да Бога, света і Радзімы ” (на польскай мове).

**1700 г.**

Адбылося першае набажэнства ў езуіцкім касцёле.

**1700–1709 гг.**

Будаўніцтва аптэкі езуіцкага калегіума – самай старэйшай у Беларусі (будынак захаваўся).

**1701 г.**

19 студзеня. Папа Клімент XI зацвердзіў брацтва імя Прасвятой Багародзіцы пры гродзенскім кляштары бернардзінак.

19 верасня – 26 кастрычніка. У Гродне адбыўся з’езд станаў літоўскіх, які павінен быў вырашыць адносіны да Сапегаў. Апошнія пайшлі на саюз са шведамі, але прайгралі бітву пад Алкенікамі. Рэспубліканцы не жадалі ісці

на кампраміс з сапегаўскай дэлегацыяй і даручылі сваймy генеральнаму палкоўніку Вішнявецкаму працягваць вайну са шведамі. Ад гарадзенцаў на з'ездзе прысутнічалі: гарадзенскі падстолій Язерскі Аляксандр Левальт, гарадзенскі земскі суддзя Юндзіл Крыштаф Віктарыян, гарадзенскі харужы і судовы падстараста Катовіч Рыгор Юзаф. Была прызначана камісія для праверкі разлікаў з войскамі, ад падатку на ўтрыманне войска (гіберны) былі вызвалены каталіцкае і ўніяцкае духавенства, гарады Магілёў, Горадня і Ліда. Яўрэям гродзенскага кагалу, якія скардзіліся на перашкоды ад зборшчыкаў Лідскага і Ковенскага паветаў, было дазволена самім збіраць пагалоўнае.

## 1702 г.

Май. Войскі Карла XII займаюць Гродна па шляху на Варшаву.

4 мая. Пад Гродна, у Доўгай Вёсцы, пасольства Рэчы Паспалітай на чале з калішскім ваяводам Феліксам Ліпскім было прынята шведскім каралём. Ён адмовіўся ад перамоў з польскім каралём Аўгустам II і заявіў, што не пакіне Рэч Паспалітую, пакуль не дэтранізуе яго.

## 1703 г.

19 чэрвеня – 11 ліпеня. Надзвычайны гродзенскі сейм Рэчы Паспалітай у Любліне. Вырашалася пытанне аб вайне з Карлам XII. Сейм пацвердзіў, што кожны трэці сейм Рэчы Паспалітай будзе адбывацца ў Гродне.

## 1705 г.

11 верасня. У Гродна прыехаў А. Меншыкаў, які агледзеў горад і ваколіцы, і зразумеў, што непрыступную крэпасць стварыла сама прырода: яна мае з двух бакоў роў "превеликой, сзади – реку". Ён пісаў Пятру I, што гэта "натуральная фортификация крепка и безопасна", пераконваў цара, што "в здешний замок хотя 300 человек посадить, то неприятелю ни по какому образу невозможно оного взять". Агільві меў іншы погляд на Гродзенскую крэпасць і горад і даносіў Пятру I: "…оба берега Немана круты и неудобны для

пераправы, но главный недостаток Гродно – в отсутствии конских кормов – почва в округе песчаная и на ней ничего не росло...”

27 верасня. У Гродна прыехаў Пётр І, верагодна, з васьмігадовым Абрамам Ганібалам – прадзедам А.С. Пушкіна, бо перад гэтым цар быў з ім у Вільні, дзе ахрысціў Абрама ў Пятніцкай царкве. Па распараджэнні Пятра І Гродна выбрана месцам канцэнтравання асноўных сіл пяхоты і двух драгунскіх палкоў.

23 кастрычніка. У Гродна прыбыў генерал Барыс Аляксандравіч Рапнін з “полакамі”.

Лістапад. У Гродна прыехалі польскі кароль Аўгуст ІІ і расійскі цар Пётр І.

24 лістапада. У Гродне адбылася рада сяброў сандамірскай канфедэрацыі, якая падтрымоўвала Аўгуста ІІ (працавала да 16 снежня). Пацвярджаецца раней заключаны саюз з Расіяй супраць Карла XII. У памяць гэтага Аўгуст ІІ зацвярджае ордэн Белага арла. Рашэнні, прынятыя Ляшчынскім, прызнаны нядзеючымі. Вызначаецца колькасць польска-літоўскага войска і сума на вайсковыя патрэбы; прынята рашэнне чаканіць новую манету.

Пасля 24 лістапада. Расійскае камандаванне занята аднаўленнем разбуранага Старога замка (для захоўвання тут харчавання) і збудаваннем новых умацаванняў (брустверы і роў).

*“Ограда укрепленного лагеря в общих чертах представляла цепную линию, хорошо приспособленную к обороне скатов и впереди лежащей местности; юго-восточная часть ея, как наиболее подвергавшаяся нападению, заключала в себе двойную линию укреплений, из которых внутренняя, по местному положению, командовала внешнею. На протяжении восточной ограды находился сомкнутый окоп, имевший целью внутреннюю оборону лагеря. Северная и северо-западная части ея, более обезпеченныя местностью от нападений, были укреплены слабее; здесь многие строения вошли в линию укреплений и были, вероятно, приспособлены к обороне. Часть лагеря, обращенная к Неману, вовсе не была укреплена; но для обе-*

*зпечения перехода войск на левый берег, у северо-западной оконечности был занят Старый замок; на отдельной высоте, лежащей рядом, где теперь расположены здания лазарета, построено обширное укрепление, и вдоль берега были устроены две батареи. Надо полагать, что монастыри и другие более значительные строения входили в систему внутренней обороны лагеря. Предместья были сожжены”* (Я.Ф. Арлоўскі).

6 снежня. Аўгуст II і Пётр I прысутнічаюць на асвячэнні касцёла езуіцкага кляштара ў гонар Св. Францішка Ксаверыя. Аўгуст II уручае А. Меншыкаву ордэн Белага арла. Калегіум у гонар Аўгуста II і Пятра I дае абед, а школа – тэатральнае прадстаўленне.

18 снежня. Пётр I пакідае Гродна.

25 снежня з Гродна Меншыкаў пісаў Пятру I: “О неприятеле, при Варшаве будучем, здесь подлинная ведомость есть, что оной, взяв там сей день (по их календарю) Рождества Христова, хочет, кончая, сюда идти... Но мы рассуждаем: если сие время продолжится, то путь ему через Вислу займет (понеже со вчерашнего дня стал быть здесь при жестоком морозе великой ветр, при котором довольно и снегу выпало). Однако ж мы во всякой готовности и чаем милости Божии, что неприятель внезапно на нас не нападет”.

## 1706 г.

В Гродна манетны двор пачынае чаканку шасціграшовікаў Л. Пацея (да 1707 г.). Дадзены факт некаторыя аўтары не прызнаюць. У прыватнасці, Віктар Какарэка – старшыня Беларускага нумізматычнага таварыства – абгрунтавана даказвае, што такога не было.

14 студзеня. Меншыкаў даведаўся аб руху шведаў у напрамку Гродна, але памылкова ацэньвае намеры Карла XII і піша Пятру I: “Хотя неприятель поход свой и к Гродне разглашает, однакож нам кажется, хощет нас обойти и в Вилне с Левенгауптом случиться, к которому о походе и указ выслан”.

22 студзеня. У Гродне адбываецца вайсковы савет каман-

давання, які вядзе Аўгуст II. Савет выказвае погляд, што адыходзіць немагчыма і трэба заставацца ў Гродне, калі Карл XII падыдзе да горада адзін, і хутка адыходзіць да Вільні і Полацка, калі шведскія войскі, злучыўшыся, пойдуць на штурм.

25 студзеня. Карл XII пераходзіць Нёман у раёне в. Дзевятоўка, дзе рускія драгуны беспаспяхова спрабавалі перашкодзіць яму.

26 студзеня. Карл XII з генераламі ўважліва аглядае ўмацаванні Гродна і адмаўляецца ад штурму, а на наступны дзень адыходзіць каля 5 вёрст ад горада, бо не хапае харчавання. У гэты ж дзень Пётр I адпраўляе А. Меншыкаву і М.І. Рэпніну загад пакінуць Гродна і рухацца да Вільні.

28 студзеня. Аўгуст II пад чужым прозвішчам з трыма праважатымі пакідае Гродна разам са сваёй саксонскай кавалерыяй і 4 рускімі драгунскімі палкамі. Тым часам Карл XII адыходзіць усё далей ад Гродна на ўсход і пачынае цярпліва чакаць, калі расійская армія зробіць спробу выйсці з Гродна. Вакол горада ездзяць шведскія раз’езды, перашкаджаючы ўсялякім сувязям гарнізона са знешнім светам.

З “Гистории Свейской войны”:

*“Письма в Гродно “не доходили для того, что курьерам проехать было не можно; а как уже от Гродни неприятель немного для тогдашних морозов и выгоды своим людям отступил, тогда первый с указом туда проехал поручик от гвардии Семеновского полка Петр Яковлев тайным образом, нарядяся в польское мужичье платье, а потом и другие, один или двое проехали”* *(тут и далей цыт. па: Н.И. Павленко. Пётр Великий. – М., 1990. – С. 202–211).*

2–4 красавіка. Ажыццёўлена так званая Гродзенская аперацыя: па загадзя падрыхтаваным мастам, выкарыстаўшы крыгалом на Нёмане, расійская армія (45 батальёнаў пяхоты і 6 драгунскіх палкоў) пакінула Гродна. З маста ў Нёман Агільві скінуў гарматы. Пётр I у Санкт-Пецярбургу атрымаў звестку аб паспяхо-

вым завяршэнні Гродзенскай аперацыі і піша А. Меншыкаву: "Истинну сказать от сей ведомости вовсе стали здесь радостны, а до того, хотя и в раю жили, однако всегда на сердце скребло".

4 жніўня. Гарадзенскія рамеснікі (краўцы, шапачнікі і кушняры) прынеслі ў старасцінскі суд скаргу на яўрэяў-рамеснікаў за тое, што яны не плацаць усталяваных падаткаў у цэхавую казну. Яўрэі прадставілі старасце прывілеі Жыгімонта III і Уладзіслава IV, якія вызвалялі іх ад падатку.

## 1707 г.

Адкрываецца музыкальная бурса езуітаў, пры якой ствараецца капэла.

29 верасня. Расійскі цар Пётр I праездам з Варшавы ў Пецярбург спыняецца ў Гродне, дзе праводзіць агляд Прабражэнскага палка.

Зіма. Расійскія войскі размяшчаюцца ў Гродне.

## 1708 г.

6 лютага. Пасля 2 гадзін, як Гродна пакінуў Пётр I, да яго падышоў Карл XII з атрадам у 600 чалавек. Брыгадзір расійскай арміі Мюленфельс, пасля невялікага супраціўлення, ўпускае шведаў у горад. Пётр I, даведаўшыся, што праціўнік мае нязначныя сілы, пасылае трохтысячны атрад з мэтаю захопу ў палон Карла XII. Капітан Ніжагародскага палка амаль не зрабіў гэтае, калі кароль знаходзіўся ў дамініканскім кляштары. А.С. Пушкін пісаў: "...з дапамогаю жыхароў, прыняўшых яго бок, ён змог адбіцца, нягледзячы на тое, што наша конніца перарубіла шведскі корпус, які стаяў ля дома, што займаў кароль".

12 лютага. У сваім дзённіку Караль Станіслаў Радзівіл запісаў, што ў Гродне знаходзіцца польскі кароль Лышчынскі.

## 1709 г.

Пасля Палтаўскай бітвы ў Гродне адпачывае расійская армія. Пастоі былі таксама ў 1712, 1714, 1717 гг. Войска рабавала мясцовае насельніцтва, патрабавала кантрыбуцыю.

## 1710 г.

Праходзіць павятовы сеймік у Гродне.

Кастрычнік. У Гродне лютуе маравая язва. У выніку захворванняў “увесь горад застаўся пустым”.

## 1711 г.

Праходзіць чарговы павятовы сеймік у Гродне. Шляхта Гродзенскага павета прымае рашэнне ўвесці асобы падатак у суме 16 злотых на ўтрыманне саюзнага рускага войска. Паслам, якіх адпраўлялі да цара, на выдаткі і на канцылярыю выдзелена 500 талераў.

## 1712 г.

23 лютага. Праходзіць чарговы павятовы сеймік у Гродне. На надзвычайны сейм выбраны лоўчы ВКЛ, гарадзенскі стараста Рыгор Юзаф Катовіч і гарадзенскі падчашы Казімір Пянткоўскі. Яны павінны былі хадайнічаць аб вызваленні гарадзенскіх брыгітак і бернардынак ад гарадскіх падаткаў і жаўнерскіх “стацыяў”, аб звальненні ад вайсковых павіннасцей земскіх уладанняў гарадзенскіх брыгітак, аб рэалізацыі выплатаў на фарны касцёл з эканоміі.

## 1713 г.

3 сакавіка. Адміністратары чопавага і шэляжнага падаткаў Гродзенскага павета выказалі скаргу на гродзенскіх яўрэяў, падалі свой пратэст у гродскі суд і запісалі яго ў гродскую кнігу. Яўрэі адмовіліся плаціць і падвяргацца рэвізіі. Падчас апошняй у доме Мейера Іозелевіча гаспадар і сяржант, які кватараваў у яго, напалі на адміністратараў Францішка Паўловіча і Кушаля Літмановіча і пабілі іх палкай і шабляй. Іосем Вольфавіч пазрываў усе ўніверсалы адміністратараў аб нядоімках.

11 ліпеня. Апублікаваны дэкрэт па справе горада Гродна з гарадзенскімі яўрэямі. Гарадзенскія мяшчане скардзіліся ў суд на тое, што яўрэі трымаюць у сябе служак-хрысціян, карыстаюцца фальшывымі мерамі і вагамі, не прызнаюць над сабой улады горада, не плацяць чыншу і падаткаў, ухіляюцца ад вайсковай павіннасці, не выплачваюць сум, збіраемых на ўладкаванне ратушы і т. п. Суд прызнаў усе прэтэнзіі гарадзенскага магістрата сапраўднымі.

27 ліпеня. Кароль Аўгуст II

ставіць на від равінам гарадзенскага кагала Зельману і Файвішу паклёпніцтва і розныя непрыстойныя ўчынкі. Ён патрабуе выбраць новых равінаў “надзейнай сумленнасці”.

### 1714 г.

Пастанова гродзенскага сейміка аб абкладанні яўрэяў пянёй у 30 000 злотых за тое, што ў маёмасных справах яны кіраваліся манапольным правам пад назвай “хазак”.

### 1715 г.

4 лютага. Рэляцыйны сеймік Гродзенскага павета. Шляхта, пасля таго як выслухала паслоў сейма, прыняла наступныя рашэнні: вызначыць падатак на саксонскае войска ў памеры 50,709 тынфаў; для гэтай мэты прывесці да свядомасці тарыф падатных дымаў і вызначыць зборшчыкаў падатку і выдаць ім узнагароджанне; ксяндзам бернардзінам выдаць 300 злот для рамонту лаў, пашкоджаных падчас сеймікаў; хадайнічаць аб кананізацыі Косткі і для гэтага выдаць ксяндзам па шастаку; выдаць дапамогу пагарэльцам.

Другі сеймік вызначыў сабраць са шляхецкіх маёнткаў 1 000 бочак мукі на харчаванне рускіх войск, размеркаваных у Гродзенскім павеце.

### 1718 г.

З 3 кастрычніка па 14 лістапада праходзіў пяты гродзенскі (вальны) сейм у Гродне пад маршальствам мінскага старасты Крыштафа Завішы. Гэта быў час, калі працягвалася Паўночная вайна Расіі са Швецыяй. Была прынята пастанова аб паспалітым рушэнні войск Кароны Польскай, ВКЛ і належачых да іх правінцый, Інфлянцкага княства, Курляндыі і іншых. Гэтым хацелі дабіцца вываду рускіх войскаў з тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Сейм знамянальны тым, што на ім была парушана недатыкальнасць сеймавага дэпутата Піатроўскага – пасла вялікапольскага, дысідэнта. Тым самым былі парушаны палітычныя правы хрысціян–некатолікаў, якія не прытрымліваліcь пануючага веравызнання. Адзначым цікавы факт: ліцвіны не дазволілі палякам перанесці завяршэнне сейма ў Варшаву.

11 кастрычніка. Заснаванне чарговага брацтва пры манастыры бернардзінак.

26 лістапада. Аўгуст II пацвярджае ўсе прывілеі, дадзеныя ў мінулым гораду яго папярэднікамі: Аляксандрам I, Жыгімонтам Старым I, Бонаю, Жыгімонтам II, Стэфанам Баторыем, Жыгімонтам III, Уладзіславам IV, Янам-Казімірам, Міхаілам і Янам III. Кароль звярнуў увагу на тое, што войта абіраюць толькі самі мяшчане.

## 1720 г.

Пажар знішчыў царкву Раства Багародзіцы базыліянак. Уніяцкі мітрапаліт Леў Кішка на свае асабістыя грошы пабудаваў мураваную царкву і дом для манахінь на месцы згарэлай царквы.

27 чэрвеня. Да гродскай кнігі запісаны ўніверсал кароннага падскарбія і генеральнага адміністратара Гарадзенскай эканоміі Асалінскага супраць злоўжыванняў гарадзенскіх яўрэяў: незаконнае выбранне новых равінаў, не зацверджаных горадам; ухіленне гандляроў ад аплаты мытаў; самавольнае разбурэнне сцяны ратушы пры будаўніцтве лаўкі Зельманам Беркавічам. Асалінскі прадпісваў яўрэям утрымоўваць у чыстаце вуліцы, адбрукаваць рынак, не прыгнятаць бедных яўрэяў незаконнымі паборамі.

17 жніўня. Прывілей вялікага князя літоўскага і караля польскага Аўгуста на стварэнне кангрэгацыі (брацтва) музыкантаў пры алтары Святога Яна Хрысціцеля ў фарным касцёле. Ініцыятарам быў канонік смаленскі, пробашч гродзенскі Ян Капістран Юзаф Сухадольскі. У кангрэгацыю ўваходзілі не толькі музыкі “любой веры і рэлігіі”, але і мастакі, рэзчыкі, гадзіншчыкі.

19 жніўня. Пастанова гарадзенскага сейміка аб выбранні на звычайны сейм лоўчага ВКЛ гарадзенскага старасты Рыгора Юзафа Катовіча і гарадзенскага харужага Вала Яна Жыгімонта Бенядзікта. У атрыманай імі інструкцыі гарадзенскія абывацелі патрабавалі спагнання з гарадзенскай эканоміі за сем гадоў “пенсіі” на шпіталь Св. Духа і фарны касцёл, вызвалення ад сеймавых, камісарскіх і ін-

шых “стацыяў”, прасілі зацвердзіць за гарадзенскімі езуітамі шэраг фундушаў.

**1724 г.**

7 кастрычніка. Аўгуст II рэскрыптам на імя князя М. Чартарыйскага прызначае для захоўвання кніг, пратаколаў і актаў гродзенскага гарадскога суда 2 пакоі над брамай гродзенскага Старога замка і склеп пад ім.

**1725 г.**

На вежы-званіцы езуіцкага касцёла пасля рамонту змешчаны гарадскі гадзіннік, які да гэтага знаходзіўся на вежы ратушы.

**1726 г.**

Пабудавана царква Раства Багародзіцы (архітэктар Ю. Фантана).

28 верасня ў палацы Сапег (частку яго, якая захавалася, цяпер памылкова называюць Баторыеўкай) пачаўся шосты гарадзенскі звычайны сейм Рэчы Паспалітай. На ім прысутнічала шмат замежных пасланнікаў: французскі, англійскі, прускі, галандскі, расійскі, а таксама папскі нунцый. Яны прыбылі ў Горадню, бо на сейме абмяркоўвалася пытанне аб прызначэнні герцага Курляндскага ў выпадку смерці апошняга з роду Кетлераў – бяздзетнага Фердынанда. Шмат часу заняло абмеркаванне пытанняў аб Галоўных Трыбуналах: кароным і ВКЛ. Палажэнне аб кароным Трыбунале складалася са 109 артыкулаў, у якіх гаворылася аб выбарах дэпутатаў (суддзяў), правядзенні кадэнцый, вядзенні спраў, тарыфах паслуг, ролі маршалка і г.д. Палажэнне аб Галоўным Трыбунале ВКЛ было пададзена 49 асобнымі пастановамі, падобнымі да кароных. Судовымі месцамі вызначаны Вільня, Навагрудак, Мінск. Заслугоўвае ўвагі пастанова аб “Ахове вальных сеймаў”, у якой адзначалася неабходнасць захавання права і пастаноў аб вальных шасцітыднёвых сеймах, а таксама магчымасці склікання экстраардынарных двухтыднёвых сеймаў у выпадку экстранай і надзвычайнай неабходнасці. Даследчыкі польскіх сеймаў пішуць, што на гэтым сейме быў забяспечаны спакой дысідэнтаў

і кароль узняў пытанне аб будаўніцтве Новага замка, але адпаведных пастаноў у “Кнізе законаў” мы не знайшлі. Сейм скончыў працу 11 лістапада.

11 кастрычніка. Аўгуст ІІ падпісаў у Гродне загад аб далучэнні назаўсёды Курляндыі да Кароны Польскай. Пастаноўлена скласці ў наступным годзе камісію для падзелу яе на ваяводствы, з захаваннем праў і прывілеяў.

Аўгуст ІІ выдае дыплом аб высылцы герцага Саксонскага з Курляндыі.

28 кастрычніка. Малы сейм літоўскіх яўрэяў у Гродне.

## 1727 г.

У Гродне пачаў дзейнічаць ордэн баніфратаў (існуе да 1843 г.).

20 студзеня. Гарадзенскія яўрэі-шынкары, у тым ліку Файвіш Арановіч, Арон Шавяловіч, скардзяцца на магістрат і гарадзенскіх мяшчан Яна Разумовіча, Міхала Календу, Юзафа Судана, Войцеха Віняжа, Леванцэвічаву аб парушэнні ўмоў шынкарства водкі. Яны сцвярджалі, што маюць дамову з магістратам, які адмовіўся ад вырабу водкі, а яўрэі атрымалі вольнасць шынкавання за аплату капшчызны. Нягледзячы на гэта, Разумовіч, Календа і Леванцэвічава шынкуюць, а чопавае і шэляжнае не плацяць. Яўрэі патрабавалі адновы былой дамовы і вяртання мяшчанамі панесеных убыткаў.

4 лістапада. Бурмістр Юзаф Судан, лаўнікі магістрата Феліцыян Легатовіч, Войцех Цехлевіч, судовыя ўраднікі ад свайго імя і ад усяго магістрата падалі скаргу на супрацьзаконныя дзеянні яўрэйскага кагала: да 9 гадзін раніцы перакупляюць харчовыя прадукты за горадам, не дазваляючы мяшчанам купляць на сваю патрэбу, а не на продаж; забараняюць мяшчанам выраблять сабе водку і піва. Гэта прывяло да збяднення мяшчан і горада. Магістрат запісаў скаргу ў гродскую кнігу і патрабаваў наказаць вінаватых, вярнуць страты і далей прытрымлівацца дадзеных каралеўскіх прывілеяў і камісарскіх дэкрэтаў.

## 1728 г.

Старшыны гродзенскага яўрэйскага кагала бяруць

у дамініканцаў займ у 1000 талераў.

Пасаду гродзенскіх бурмістраў займаюць Ян Мейсцер і Юзаф Судан (да 1732 г.).

### 1729 г.

Адчынены баніфратарскі касцёл.

22–27 верасня. Надзвычайны сейм Рэчы Паспалітай у Гродне. Сарваны да абрання маршалка.

### 1730 г.

13 верасня. Скарга ў суд гарадзенскіх бурмістраў, раднікаў, лаўнікаў і некаторых асоб са шляхты на гарадзенскіх яўрэяў Зельмана Берковіча, Фавіша Арановіча, Арыя Якубовіча, Вігдера Марковіча, Іцка Сапсаевіча і на ўвесь кагал Гродзенскай сінагогі. Прэтэнзіі былі наступныя: выкарыстоўванне няправільных мер, вагаў, лакцей – псуюць тыя, якія выдадзены з пячаткай магістрата і тым ашукваюць пакупнікоў; скупка харчавання да 9 гадзін раніцы, апярэджваючы мяшчан; даюць большую цану на харчовыя тавары, чым даведачная магістрата; трымаюць хрысціянскіх працаўнікоў; не плацяць складак з пляцаў; не брукуюць перад сваімі крамамі і дамамі вуліцы і псуюць стары брук; забараняюць мяшчанам трымаць шынкі; перашкаджалі рамонту ратушы, дзе прыбудавалі свае крамкі; на вайсковы пастой не прымалі салдат, а пасылалі ў дамы мяшчан.

2–14 кастрычніка ў палацы Сапег праходзілі пасяджэнні наступнага надзвычайнага сейма ў Гродне. Пра яго мы можам расказаць, дзякуючы дзённіку гнезненскага арцыбіскупа Габрыеля Янаша Падоскага. На сейм сабраўся 261 чалавек. З Гродзенскага павета прысутнічалі падкаморы гродскі Мікута і войскі гродзенскі Лаза. У першы дзень сейма адразу пачалася спрэчка за месца паміж пасламі сандамірскім і прускім, велюнскімі і ленчыцкімі. Стараста спіска, першы пасол з Кракаўскага ваяводства, спрабаваў пamірыць тых, хто спрачаўся, прызываў да старажытнай польскай шляхетнасці і звычаяў. Потым даў голас для выбару маршалка Кракаўскаму ваяводству, але пісар гродскі паморскі Сікор-

скі прасіў старасту пайсці ад імя палаты да караля, бо не відаць прускіх паслоў, якія, відаць, не хочуць сейма. Пасол Гурка не даваў згоды на галасаванне і дамагаўся напомніць аб ліміце сесіі. Яго падтрымалі літоўскія дэпутаты. Яны ж на наступны дзень упрасілі перанесці пасяджэнне на 4 кастрычніка. У гэты дзень староста зноў заклікаў паслоў прыйсці да згоды ў інтарэсах Айчыны. Але ні сёння, ні ў астатнія чатыры дні спрэчкі не заціхалі і маршалак так і не быў выбраны. 6 кастрычніка чарняхоўскі пасол Любеніцкі дамагаўся выдачы дакументаў, якія курляндская шляхта дала пасля выбараў Морыцу. Упіцкі пасол Марцінкевіч і велюнскі пасол Кажухоўскі падтрымалі яго. 7 кастрычніка староста ўжо ў каторы раз спрабаваў іменем Бога павярнуць дэпутатаў да міласці, “якая адна толькі можа прывесці да згоды і дапаможа пераадолець цяжкасці дзеля шчасця Айчыны”. 8 кастрычніка пасяджэнні завяршыліся. У рукапісе захавалася паэма на польскай мове “Праект на сарваны сейм”.

28 лістапада. Малы сейм літоўскіх яўрэяў у Гродне.

**1733 г.**

21 сакавіка. Гродзенскі павятовы сеймік, на якім шляхцічы рашаюць дабівацца на надзвычайным сейме Рэчы Паспалітай забароны навучання сялянскіх дзяцей. Дэпутатам на канвакацыйны сейм даюць наказ аб захаванні за шляхтай яе праў і вольнасцей. Пасламі на абодва сеймы выбраны Міхал Юзаф Масальскі, гарадзенскі староста, і Юзаф Вал, фрамборскі староста. Паслы павінны былі пралабіраваць вызваленне ад павіннасцей маёмасці езуітаў у Горадні.

**1734 г.**

На месцы Ніжняга замка (Каралеўскага дома) пачынаецца будаўніцтва Новага замка / палаца (архітэктар асноўнага праекта Карл Фрыдрых Пёпельман пры ўдзеле арх. І.Д. Кнобеля, І.К. Яўха. У 1780-х гг. рэканструкцыю замка зрабіў Дж. Сакка.

**1735 г.**

Пабудаваны мураваны

дамініканскі кляштар па вуліцы Віленскай (цяпер Савецкая, 6).

Пажар знішчыў пабудовы Старога замка.

16 жніўня. Пастанова сейміка ў Гродне аб выбранні на звычайны пацыфікацыйны сейм Казіміра з Ялова Барановіча – польнага стражніка ВКЛ, каўнянскага і яневіцкага старасты і Марэка Грабецкага – гарадзенскага стражніка.

## 1736 г.

Павятовы сеймік у Гродна.

29 верасня. Я. Шміт са сваімі працаўнікамі пачынае рабіць разны "вялікі алтар" касцёла кляштара езуітаў (скончаны 31 ліпеня 1737 г.).

## 1737 г.

17 чэрвеня. Універсал князя М. Вішнявецкага загадаў усім сінагогам і кагалам на тэрыторыі ВКЛ, каб "іх равіны і старшыні даставілі ў Гродна і прад'явілі на разгляд Гродзенскай камісіі ўсе свае раскладачныя і падаткавыя рэестры, пачынаючы з былых часоў", з мэтаю "выявіць абман і здраду з боку названых асоб – старшынь у сінагогах, устанавіць, што яны, патрабуючы больш, чым патрэбна па закону, звяртаюць гэтыя сумы на сваю карысць, а ўсім наносяць шкоду".

## 1738 г.

У Гродзенскім езуіцкім калегіуме пачынае вучобу М. Пачобут-Адляніцкі (вучыцца тут да 1745 г.).

І. Кульчынскі складае інвентар базыліянскага ўніяцкага манастыра на Каложы.

## 1740 г.

22 жніўня. Пастанова сейміка ў Гродне аб выбранні на звычайны сейм гарадзенскага войскага Вала Юзафа і пяцігорскага харужага Сасноўскага Юзафа. Паслы атрымалі наказ уступіцца за брыгітак і бернардынак, якія трывалі ўціск ад "дыпазытарыяў" эканоміі, і за кармелітаў, у якіх апошняя адабрала ўладанні ў Гарадзенскім павеце. Таксама трэба было запатрабаваць пацвярджэння ўсіх старажытных прывілеяў і камісарскіх дэкрэтаў, выдадзеных Горадні.

## 1741 г.

3 сакавіка. Скарга гродзенскай яўрэйскай абшчыны ў гарадскі суд на падскарбія ВКЛ Яна Салагуба, яго жонку і іх юрысдзічан – яўрэяў, якія жылі ў прадмесці каля р. Нёман, аб тым, што апошнія "без ведама і дазволу кагала адкрылі сінагогу, а потым, выкарыстоўваючы апеку сваіх паноў... сталі забіваць жывёлу, кур, гусей, індыкоў, ажыццяўляць шлюбы, рабіць абразанне дзецям", пры гэтым ухіляюцца ад аплаты кагальных, чопавага і шэляжнага падаткаў.

## 1744 г.

24 жніўня. Пасламі ад Гродзенскага павета на звычайны сейм Рэчы Паспалітай абраны гарадзенскі староста Юзаф Масальскі і польны стражнік ВКЛ Барановіч Казімір. Дэпутаты павятовага сейміка ў Гродне (28 жніўня) даюць наказ паслам на варшаўскі сейм: захаваць прыняты парадак пасяджэнняў сейма і права "ліберум вета", патрабаваць выдачы ад спадчыннікаў маршалка Александровіча 120 тысяч злотых, сабраных на пабудову ў Гродне пастаяннага моста праз Нёман і ім скрадзеных. Трэба было патурбавацца і пра пабудову дастойнай ратушы, пра вызначэнне месца для захоўвання актавых кніг. Сеймік падтрымаў патрыятычныя прапановы асобных дэпутатаў – павялічыць армію за кошт мяшчан з-за ўзнікшай пагрозы з боку немцаў, але не толькі за кошт шляхты, а і манаполіі манетнага двара, трэцяй часткі старасцінскіх прыбыткаў, скарбу ВКЛ і рэчы-паспалітай (з малой літары ў тэксце крыніцы). У інструкцыі шляхты былі і такія пункты: патрабаваць усталявання курса для чырвоных злотых аднолькавага з замежнымі дзяржавамі; выдаліць замежнікаў ад службы, міністэрскіх пасад і старостваў і на іх месца прызначыць патрыётаў; замежнікам забараніць вербаваць мясцовых жыхароў у свае войска; зацвердзіць усе фундушы базыліянам ВКЛ; захаваць пошты і паштовыя зборы па канстытуцыі 1673 г.

5 кастрычніка – 19 лістапада. Адбыўся чарговы гродзенскі звычайны сейм Рэчы Паспалітай, пасяджэнні яко-

га распачаліся ў Новым замку. Маршалкам быў Т. Агінскі – абозны ВКЛ. Другім паслом ад Гродзенскага павета быў Бараноўскі – стражнік польны літоўскі. Усіх паслоў на сейме было ад 162 да 167 чалавек па розных спісах. Адбылося 35 сесій. У канцы сенатары не злучыліся з пасольскай палатай, таму рашэнні прыняты не былі.

**1746 г.**

Пасламі на звычайны сейм абраны радашковіцкі староста Масальскі Ян і генерал-ад'ютант Храптовіч.

# 1748–1751 гг.

Будаўніцтва ў Гродне, каля Рынка, палаца Радзівілаў (архітэктар А. Рашкевіч). Фундаменты яго былі адкапаны падчас так званай "рэканструкцыі" Савецкай плошчы і зноў засыпаны зямлёй. Прапанова грамадскасці адкрыць у падвалах палаца культурную ўстанову была праігнаравана.

**1748 г.**

Пасламі на звычайны сейм абраны гарадзенскі староста Масальскі Юзаф і гарадзенскі харужы Вал Юзаф.

**1750 г.**

23 чэрвеня. Пасламі на надзвычайны сейм абраны гарадзенскі староста Масальскі Юзаф і абозны Гарадзенскага павета Барановіч Лукаш.

**1752 г.**

Езуіцкі школьны тэатр ставіць п'есу "Міласць – шляхетны спосаб помсты".

У касцёле езуіцкага кляштара скончаны фрэскавы цыкл з 16 фрэсак: апісанне жыцця місіянера Францішка Ксаверыя.

2–26 кастрычніка. Чарговы звычайны сейм Рэчы Паспалітай (маршалак Юзаф Масальскі, староста гарадзенскі і пасол з Горадні) Другім паслом ад Горадні быў Тадэвуш Юндзіл – падкаморы гродзенскі. Сейм быў шасцітыднёвы, але адбылася толькі 21 сесія, і ён быў сарваны.

У апошніх словах маршалак сейма Масальскі сказаў: "Не жадаю, але беспамыл-

кова спадзяюся, што суровы ўчыніць прыклад на страх наступным стагоддзям, магчыма спозненая, але заўсёды справядлівая і ў мерапрыемствах непарушная помста неба над тымі, хто з'яўляецца прычынай такога фатальнага завяршэння публічных пасяджэнняў" (Diarjusze sejmowe z wieku XVIII. T. III / wydal W. Konopczyński. – Warszawa: T-wo Naukowe Warszawskie, 1937. – S. 124).

## 1753 г.

У Гродна былі два пажары, якія выпалілі ўсю цэнтральную частку горада. "Досыць, што ледзьве трэцяя частка места засталася". Пажары спустошылі шматлікія мяшчанскія і яўрэйскія дамы, шляхецкія сядзібы і палацы магнатаў, будынкі кляштараў базыліянак, дамініканцаў, бернардзінцаў, брыгітак і шпіталя (прытулка для бедных) Св. Духа. Згарэла ратуша, гадзіннік якой перанеслі на вежу езуіцкага касцёла. Пацярпела Фара Вітаўта (да 1758 г. адрамантавалі). Відаць, у сувязі з гэтым у Дрэздэне ствараецца план будаўніцтва Гродна.

## 1754 г.

9 жніўня. Пасламі на звычайны сейм абраны надворны падскарбі ВКЛ гарадзенскі староста Масальскі Юзаф і стольнік ВКЛ Эйсмант Міхаіл. Яны павінны былі прасіць падтрымкі для бернардзінцаў, пацярпелых ад пажара.

## 1756 г.

У Гродне працуе сумесная камісія Рэчы Паспалітай і Расійскай Імперыі па ўпарадкаванні забеспячэння расійскай арміі харчаваннем і фуражом у ходзе Сямігадовай вайны.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм ваўкавыскага старасты Масальскага Яна і палкоўніка Ельскага Уладзіслава.

## 1758 г.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм надворнага падскарбія ВКЛ гарадзенскага старасты Масальскага Юзафа і пінскага старасты Ельскага Уладзіслава.

**1760 г.**

27 жніўня. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм гарадзенскага харужага Вала Юзафа і гарадзенскага падстолія і падстарасты Тызенгаўза Антонія. Сеймік дае наказ паслам на Варшаўскі сейм – абмеркаваць пытанне аб паляпшэнні дабрабыту і знешняга выгляду гарадоў і мястэчак.

**1761 г.**

Касцёл францысканскага кляштара стаў парафіяльным.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на надзвычайны сейм гарадзенскага падстолія і падстарасты Тызенгаўза Антонія і гарадзенскага земскага пісара Храптовіча Караля Літавора.

**1762 г.**

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм гарадзенскага падкаморыя Юндзіла Тадэвуша і гарадзенскага пісара Боўфала.

**1764 г.**

7 лютага. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на канвакацыйны сейм пісара ВКЛ Тызенгаўза Антонія і навагрудскага стольніка Храптовіча Іахіма.

Пастанова варшаўскага канвакацыйнага сейма аб паляпшэнні стану гарадоў ВКЛ (у т. л. Гродна), якія "зусім спустошаны і разбураны ў выніку шматлікіх пажараў, кватэрнай павіннасцю на карысць пасадных асоб, гандлю, які вядуць розныя кляштары і іншыя асобы, парушэнняў юрысдыкцыі гарадскіх судоў, распараджэнняў па завяшчаннях гарадскімі валоданнямі і абцяжарваннем гэтых валоданняў даўгавымі абавязательствамі, продажу права на атрыманне чыншаў ад мураваных і іншых дамоў, а таксама ў выніку неаплаты ў тэрмін падаткаў... цяпер усе кватэрныя падаткі на карысць пасадных асоб адмяняюцца... жадаем таксама, каб горад Гродна ў час пасяджэнняў у ім сейма даваў у прадмесці кватэры для афіцэраў і салдат венгерскай харугвы, жэзла ВКЛ, адначасова гарантуем гэтаму гораду, што ніхто пад выглядам салдат не будзе паселены ў выдзеленых кватэрах".

У Гродна перанесены пасяджэнні літоўскай казённай камісіі (раней казённы трыбунал).

20 ліпеня. Рускія войскі выступілі на дапамогу літоўскай канфедэрацыі і Станіславу Аўгусту Панятоўскаму на чале з І. Рэненкампфам і Бржастоўскім.

16 жніўня. Гродзенская канфедэрацыя прыняла дэкрэт аб асуджэнні і выгнанні з краіны Караля Радзівіла Пане Каханку.

29 кастрычніка. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на каранацыйны сейм пісара ВКЛ Тызенгаўза Антонія і гарадзенскага стольніка Ваўкавыцкага Яна.

## 1765 г.

Будуецца палац А. Тызенгаўза (архітэктар Сакка).

А. Тызенгаўз заснаваў у Гродне капэлу (існуе да снежня 1780 г., калі пераехала ў Паставы). Яна стала самым буйным і высокапрафесійным калектывам ВКЛ.

Пры тэатры Тызенгаўза пачалі дзейнічаць тэатральная і балетная школы (кіраўнік Л. Сітанскі, балетмайстар Марэллі).

Адкрыліся школы будаўнічая, бухгалтарская і школа мернікаў.

## 1766 г.

У ВКЛ была ўведзена адзіная сістэма мер і вагаў.

А. Тызенгаўз засноўвае ў Гродне суконную (да 1786 г.) і палатняную (у Ласосне) мануфактуры, а таксама “Кампанію шарсцяных мануфактур” (3 мануфактуры, якія знаходзіліся ў Гродне, Ласосне, Брэсце).

25 жніўня. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм надворнага падскарбія ВКЛ гарадзенскага старасты Тызенгаўза Антонія і гарадзенскага маршалка Юндзіла Тадэвуша. У наказе паслам на Варшаўскі сейм былі пастаўлены наступныя задачы: 1) перанос у Гродна рускай кадэнцыі (сесіі) літоўскага Галоўнага Трыбунала, якая засядае ў Навагрудку, 2) забарона ўвозу з-за мяжы прадметаў раскошы і адраджэнне дзяржаўнай гаспадаркі. Шляхта Гродзенскага павета дае інструкцыю

сваім паслам – патрабаваць, каб генеральныя сеймы прызначаліся пачаргова ў Гродне і ў Варшаве, а таксама, каб Рэч Паспалітая вылучыла сродкі на парафіяльныя школы для беднай шляхты.

### 1767 г.

А. Тызенгаўз заснаваў у Гродне залататкацкую мануфактуру.

24 жніўня. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на надзвычайны сейм 1767–1768 гг. гарадзенскага земскага пісара Храптовіча Караля Літавора і гарадзенскага крайчага Гліндзіча Андрэя.

### 1768 г.

27 верасня. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм гродскага суддзі гарадзенскага абознага Волмера Казіміра і гарадзенскага пісара і стражніка Боўфала Францішка. Наказ паслам на сейм – аднаўленне замка, паляпшэнне дарог, мастоў і працяг прац па добраўпарадкаванні і будаўніцтве горада. У дакуменце прагучалі ідэі развіцця рамёстваў, асветы шляхты, прышчаплення належных парадкаў.

Сарваны чарговы гродзенскі сейм Рэчы Паспалітай, пасяджэнні якога распачаліся ў Новым замку. На сейме намагаліся стварыць манетны двор; на капітальны рамонт каралеўскага замка прызначана сума ў 300 тысяч злотых і на ўтрыманне яго ў належным стане – 10 тысяч злотых штогод.

А. Тызенгаўз засноўвае ў Гродна мануфактуры па вытворчасці паясоў (“персіярню”, якая працуе да 1780 г.) і панчошную (да 1783 г.).

### 1769 г.

Па патрабаванні канфедэрацыі Рэчы Паспалітай на Гродна накладзена кантрыбуцыя ў 1 000 чырвонцаў і 18 000 злотых.

28 сакавіка адчынены тэатр (оперна-балетная трупа з аркестрам; у Гродне дзейнічала да 1780 г., калі пераехала ў Паставы) і фарбавальная мануфактура (існавала да 1796 г.).

### 1770-я гг.

У Гродне працуе Нарвойш Францішак Ксаверы Мілікант (1742–1819), езуіт, матэматык, фізік, астраном.

У Гродне дзейнічаюць школы землямераў, нядзельная (для працоўных), яўрэйская гандлёвая, нямецкая і французская.

### 1770 г.

А. Тызенгаўз засноўвае ў Гродне камлотавую, карэтную (да 1783 г.), палатняную (да 1845 г.) і шаўкова-ткацкую мануфактуры.

3 мая нарадзіўся Аўгуст Людвік Бекю, будучы доктар філасофіі і доктар медыцыны, прафесар звычайны паталогіі і гігіены Віленскага ўніверсітэта. Першым увёў на Літве і ў Беларусі прывіўкі ад воспы, напісаў аб ёй кнігу “O wakcynie” (Вільна, 1804).

### 1772 г.

Архітэктар Іаган Мёзер пачаў будаваць гродзенскі тэатр, які далучаўся да палаца Тызенгаўза з боку Гараднічанкі. Па праекце, зал павінен быў мець 22 ложы ў 2 ярусы, партэр і сцэну з 5 планамі кулісных машын для перасоўвання дэкарацый. Будынак выкарыстоўваўся таксама як манеж, у якім выгульвалі каралеўскіх коней. Узвядзенне тэатра закончыў архітэктар Дж. Сакка. Сучасны будынак, вядомы як тэатр Тызенгаўза, быў закладзены пасля 1780 г. і завершаны ў 1793 г.

Генеральным інспектарам гарадзенскіх мануфактур стаў Ян Людвік Якубавіч Бекю, які ў 1772–1775 гг. выконваў замест свайго брата Якуба Бекю абавязкі кіраўніка гарадзенскіх каралеўскіх мануфактур.

### 1773 г.

У Гродне па ініцыятыве І. Храптовіча створана камісія нацыянальнай адукацыі. Горад стаў цэнтрам Літоўскай навучальнай акругі.

З-за цяжкага становішча гродзенскіх перадмяшчан рэвізоры вымушаны адмовіцца ад збору з іх недаімак.

А. Тызенгаўз у Гродна засноўвае мануфактуру па вытворчасці ігральных карт.

Езуіцкая друкарня стала каралеўскай пасля скасавання ордэна езуітаў.

Парафія пераносіцца з Фары Вітаўта ў езуіцкі касцёл.

На базе калегіума езуітаў створана Гродзенская акруговая школа (дзейнічае да 1797 г.).

22 сакавіка. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на надзвычайны сейм 1773–1775 гг. гарадзенскага харужага Ельскага Юзафа і гарадзенскага земскага суддзі Волмера Казіміра.

29 чэрвеня. У Гродне адкрываецца корпус кадэтаў (існуе да 1782 г., цяпер дом № 20 па вул. Ажэшкі) пад кіраўніцтвам палкоўніка Фрэйліха.

## 1774 г.

А. Тызенгаўз адкрыў у Гродне мастацка-тэатральную школу (дзейнічала да 1789 г.), а таксама шэраг фабрык, якія існавалі да верасня 1880 г.: карункавай, металічных вырабаў, зброі, іголак і шпілек, скураной, капялюшавай і фарбавальні палатна (тры апошнія – у Ласосне).

Будаўніцтва пастаяннага маста праз Нёман.

## 1775 г.

Архітэктар Джузэпэ Сакка з Вероны ўзначальвае ў Гродне будаўнічую школу (10–12 вучняў і 4 выкладчыкі).

Пачатак дзейнасці гродзенскай каралеўскай друкарні (існуе да 1795 г.). Была перавезена з Вільні пасля скасавання ордэна езуітаў. Да 1780 г. гродзенскую друкарню арандаваў А. Тызенгаўз. Выдавалася арыгінальная і перакладная літаратура на польскай мове, навуковая і мастацкая літаратура, падручнікі, стараславянскія, польскія і лацінскія малітоўнікі (усяго каля 100 выданняў). Друкаваліся “справы”, “абароны” і “рэплікі” дэпутатаў гродзенскіх соймаў, іншыя афіцыйныя дакументы.

У Гродна з Навагрудка і Мінска па рашенні Варшаўскага сейма пераносяцца кадэнцыі Галоўнага Літоўскага Трыбунала. Пасяджэнні адбываюцца ў Старым замку.

Кастрычнік. У Гродна з Ліёна прыязджае Ж.-Э. Жылібер.

Пасля кастрычніка. Адкрываецца гродзенская медыцынская школа і пры ёй – шпіталь (існуе да 1781 г.): палаты разлічаны на некалькі ложкаў для хворых (параўнайце з цэнтральнай бальніцай

Парыжа “Стель-дье”, дзе хворыя ляжалі на саломе, пакладзенай на падлогу, або па некалькі чалавек на ложку).

Адзначым, што будынак, вядомы сёння як Гродзенская медычная школа (акадэмія), быў спраектаваны ў 1775–77 гг. і пабудаваны ў 1783 г. Дж. Сакка. Такім чынам, будынак не выкарыстоўваўся па прамым прызначэнні, бо ў 1780 г. медычная школа ў Гродне спыніла сваю дзейнасць.

Падпісана дамова паміж А. Тызенгаўзам і Ж.Э. Жылібeрам на закладку ў Гродне, на Гарадніцы, батанічнага сада, “неабходнага для медыцынскай школы”. Існаваў да 1781. У 1778 г. у садзе знаходзілася ад 1,5 да 2 тысяч раслін. Гродзенскі батанічны сад быў на ўзроўні батанічных садоў Варшавы і Кракава.

## 1776 г.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм гарадзенскага земскага суддзі Волмера Казіміра і барцянскага старасты Паца Міхала. Паслы між іншым павінны былі даведацца пра перспектыву перавода сесій Трыбунала ВКЛ у Горадню.

У пастанове Варшаўскага сейма Гродна (разам з Брэстам) адзначаецца як лепшы “з гарадоў нашай эканоміі”.

Створана гродзенская камерцыйная кантора для аблягчэння крэдыту і зносін з замежжам.

У Гродне ананімна выходзіць “Zadzig” (“Задзіг”) Вальтэра на польскай мове.

Пачынае выдавацца штогадовы (да 1800 г.) “Kalendarz gospodarsky litewsky” (Літоўскі гаспадарчы каляндар). Ініцыятар выдання – К. Маліноўскі.

Май. Пачынае выдавацца (да 1783 г.) “Gazeta grodzieńska” (“Гродзенская газета”). Экзэмпляры яе (за 1778 і 1779) захаваліся ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта.

9 мая. А. Тызенгаўз падпісвае дамову з французскім вучоным Ж.-Э. Жылібeрам. Апошні павінен быў стварыць лекарскую і ветэрынарную школы, закласці батанічны сад для патрэб школ, мануфактур і аптэкі, арганізаваць музей для навучання натуральнай гісторыі.

## 1777 г.

А. Тызенгаўз пераносіць на Гарадніцу палатняную мануфактуру, свячную і скураную фабрыкі.

Даведка: У Гродне існуе, па люстрацыі, 15 цэхаў: шавецкі, рыбацкі, гарбарскі, кавальскі, мясніцкі, кравецкі, мулярскі, цяслярскі, ганчарны, бандарскі, ткацкі, стрыхарскі, злотніцкі, сталярны, фурманскі.

## 1778 г.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні паслами на звычайны сейм гарадзенскага земскага суддзі Александровіча Тадэвуша і ашмянскага падчашага Кліманскага Марціна. У інструкцыі выказана занепакоенасць лёсам былых езуітаў, ордэн якіх прыносіў шмат карыснага гораду, а таксама ўключана прапанова аб пацвярджэнні правоў гарадзенскім кляштарам у сувязі з ростам да іх прэтэнзій.

Адбываецца чарговы (сёмы) гродзенскі сейм Рэчы Паспалітай пад маршальствам пісара ВКЛ Людвіка Тышкевіча. Грунтоўна абмеркаваны пытанні па ўдасканальванні правасуддзя.

Агульны кошт абсталявання гродзенскіх мануфактур складае 116 767 злотых.

На гродзенскай сцэне пастаўлены тры аднаактныя балеты: “Сялянскі балет”, “Квартэт дудараў”, “Другі балет пекараў”.

А. Тызенгаўз угаварвае ў Парыжы Ж.Ж. Русо пераехаць на жыхарства ў Гродна. Атрымана згода пераехаць у Белавежскую пушчу (раён мястэчка Свіслач). Аднак пераезд Ж.Ж. Русо не адбыўся.

Верасень. Гродзенскія мануфактуры даследуе В. Кокс.

20–21 верасня. Гродна наведаў вандроўнік І. Бернулі.

## 1779 г.

1–25 сакавіка. У Гродне працуе фінансавая камісія ВКЛ.

13 чэрвеня. У дзень Св. Антонія за горадам, у фальварку Кульбакі, адзначылі імяніны А. Тызенгаўза.

## 1780 г.

Гродзенскі павятовы сеймік. Дэпутаты прасілі паслоў падзякаваць манарху за адкрыццё “рыцарскай школы” і абавязвалі іх прасіць караля,

каб “гэты карысны для краю фундуш з часам не быў скасаваны і заняпаў”.

Каля гэтага года зроблены план Гарадніцы – былой каралеўскай вёскі, якая была далучана да Гродна. На яе тэрыторыі адбывалася будаўніцтва часоў А. Тызенгаўза. Аўтар дадзенай кнігі карыстаўся планам 1780 г., які захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта.

*Легенда плана по чертежу из кабинета гравюр библиотеки Варшавского университета, Королевское Собрание, Р. 187, № 158): 1 – дворец, полностью завершенный, кроме нескольких комнат; 1ª – итальянская официна; 2 – гостиная официна без мебели; 3 – музыкальная официна, в трех комнатах караульная; 4 – заложен фундамент под караульную; 5 – театральная официна; 6 – резиденционная официна; 7 – конюшенная официна; 8 – официна вице-администратора (нет пе…, дверей и полов); 9 – мельница; 10 – жилая прачечная; 11 – …; 12 – администраторская конюшня на 90 лошадей; 13 – администраторская каретная на 30 экипажей; 14 – конюшня вице-администратора на 90 лошадей; 15 – администраторская кладовая, сейчас склад мануфактуры; 16 – торговый склад, сейчас сверху архив экономии; 17 – школа верховой езды; 18 – лед…; 19 – склад леса; 20 – модельная, сейчас склад мануфактуры; 21 – официна садовника с двумя оранжереями; 22 – медицинская академия (только стены с крышей и трубами); 23, 24 – фабричные официны для жилья и мастерских; 25 – литейная, заселенная мануфактурными рабочими; 26 – гончарная, сейчас лазарет; 27 – гончарная печь; 28 – трактир, требующий ремонта; 29 – угольный склад; 30 – 33 – кузницы; 34 – служебная официна, где должны быть правление мануфактур, жилье предпринимателей и суконный склад; 35 – пекарня; 36 – “кафенхауз”; 37 – “аустерия”, сейчас жилая официна; 38 – двадцать “босняцких домов” для жилья простых рабочих; 39 – казармы городницкой пехоты, сейчас табачный склад; 40 – казармы артиллерии, сейчас табачная мастер-*

*ская; 41 – казармы приезжих солдат экономии, сейчас ткацкая и суконная мастерская; 42 – босняцкие казармы, сейчас суконная мастерская; 43 – казармы городницкой пехоты, сейчас каретная мастерская; 44 – охотничий дом, сейчас каретная столярная; 45 – здание фольварка, сейчас колесная и каретная кузницы; 46 – сарай каретной мастерской; А – пруд; Б – должен быть прогулочный сад; В – лазаретный сад; Г – обсерватория; Д – оперхауз; Е – бровар; Ж – шпиталь; З – лаборатория; И – птичник; К – малый пруд; Л – цитрусовый сад.*

Красавік. Адстаўка А. Тызенгаўза. Гродзенскай каралеўскай эканоміяй пачынае кіраваць Ф. Жавускі.

22 жніўня. Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм гарадзенскага харужага Ельскага Юзафа і гарадзенскага падчашага Дашкевіча Ігнацыя.

## 1781 г.

Гродзенскі павятовы соймік.

Ж.Э. Жылібер выдае “Флору Літвы” / Flora Lithuanika inchoata seu enumeratio plantarium circa Grodnam, collectio 1-2. Grodnae, 1781.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Псалтирь с восследованием” і “Службы, житие и чудеса св. Николы Чудотворца”.

Закрыццё медычнай школы. Яе праца працягваецца ў Вільні, куды пераехаў Ж.Э. Жылібер. У Віленскім ўніверсітэце на базе школы адчыняецца медыцынскі факультэт.

Створана масонская ложа “Шчаслівага вызвалення”. Першы майстар – Якуб Бецу, яго змяніў Гутакоўскі.

У горадзе працавала мануфактурная крама, у якой гандлявалі сукном, атласам, палатном, платкамі, ручнікамі, лакіраванымі скуранымі капелюшамі.

## 1782 г.

Упраўляючым Гродзенскай каралеўскай эканоміі стаў Станіслаў Панятоўскі.

Выданне ў Гродне кнігі І. Міцкевіча “Avantura kavalerza...” / “Авантура кава-

лера з імем Фартунат, чалавека няшчастнага".

Пажар у Гродне.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм менскага ваяводзіча Радзівіла Антонія і берасцейскага кашталяніча Быстрага Рамуальда.

## 1783 г.

Выданне ў Гродне пьес Мальера "Доктар па прымусу" і Ю. Красіцкага "Zarys podróży z Warszawy do Bilgoraja ..." ("Апісанне вандроўкі з Варшавы да Білгарая").

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзена "Книга глаголемая по гречески Катехизис, по литовски Оглашение, русским же языком нарицается Беседословие".

## 1784 г.

Выданне ў Гродне верша Ф. Карпінскага "Powrót z Warszawy do wsi" ("Вяртанне з Варшавы ў вёску").

У Барысаглебскай царкве пахавана Г.А. Галіцына.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм гарадзенскага маршалка Волмера Казіміра і тразанскага старасты Попела Стэфана.

Студзень. У Гродна адначасова выступаюць тры мастацкія калектывы: італьянскі оперны, італьянскі балетны і драматычны тэатр У. Багуслаўскага (яго трупа дала 13 спектакляў).

1 мая. Пажар пашкодзіў фарны касцёл, плябанію, дамініканскі кляштар, палац Масальскіх і некалькі дзясяткаў дамоў.

4 кастрычніка – 13 лістапада 1784 г. праходзілі пасяджэнні гродзенскага сейма Рэчы Паспалітай. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі вельмі хацеў, каб ён адбываўся пад канфедэрацыяй, але супраць гэтага быў расійскі надзвычайны і паўнамоцны пасол Штакельберг. Гісторык Крашэўскі пісаў, што ён ужо не хаваў абрыдласці каралём, ягоным дваром і ўладаю, якія яму вельмі надакучылі. Штакельберг пагражаў "злым сеймам, горшым, чым папярэдні, і, нават, новым падзелам". Сейм складаўся з паслоў, якіх падабралі паплечнікі Штакельберга: у Кароне – Рачынскі, у ВКЛ –

Караль Радзівіл (Пане Каханку). Выбраны маршалкам Францішак Ксаверы Хамінскі пазней успамінаў, што гэты сейм “рэдкай аднадумнасцю і пахвальнай хуткасцю вырашэння судовых прыгавораў памятны”. Галоўным было пытанне аб каралеўскім доўгу. Яно было паспяхова вырашына, пазбавіўшы трон і каралеўскую сям’ю ад публічнага скандала, вызванага банкруцтвам. XVII пастанова сейма тычылася былога вялікага падскарбія ВКЛ гродзенскага старасты Антонія Тызенгаўза. Атмасфера прыняцця рашэння была больш халоднай, чым на папярэднім сейме. Нападалі больш асабістыя ворагі падскарбія: Міхал Залескі па заданні Пастаяннай рады, брэсцкі пасол Матушэвіч. Кароль, як мог, бараніў свайго сябру – прайшла яго рэзалюцыя: “… каб з сум прысуджаных [сеймавым судом 1780 г. – В.Ш.] сама толькі частка да скарбу ВКЛ была выплачана”, страты ўтрымліваліся з пенсіі Тызенгаўза, якая пакідалася за ім, канфіскаваныя маёнткі варочаліся назад і пазбаўляліся судовых выплат, падскарбію дазвалялася працягваць судовы працэс над сваімі запазычнікамі. Пасол Выбіцкі асцярожна падняў пытанне аб дысідэнтах, якое прыціскала пад расійскім уплывам гміна, павялічваючы падаткі. Пастанова сейма забараняла сіноду або кансісторыі самавольна накладваць на дысідэнтаў ахвяраванні (падаткі) і прымушаць да гэтага вайсковаю сілай. Падаткі могуць быць добраахвотныя на ўтрыманне іх храмаў, пастыраў, рэлігійных служак. Узнікшыя спрэчкі разбіраць у асэсарскіх судах. На сейме адбылася ратыфікацыя гандлёвай і памежнай канвенцыі, падпісанай у Рызе 21 мая 1783 г. паміж княствамі Рэчы Паспалітай, Курляндыяй, Семігаліяй, Расійскай Імперыяй.

24 кастрычніка – кароль у замкавай капліцы ўрачыста ўсклаў на нунцыя Аршэці, арцыбіскупа халцэдонскага, кардынальскі капялюш.

18 снежня. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі выехаў з Гродна вельмі задаволены сеймам.

## 1785 г.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Книга о вере” з маскоўскага арыгінала 1648 г. і “Псалтирь” з маскоўскага выдання 1651 г.

Сейм ВКЛ у Гродне. Маршалак – мінскі ваявода А. Хмара.

Люты. Прыезд у Гродна трупы В. Багуслаўскага па запрашэнні князя Ст. Панятоўскага, але тэатр быў ператвораны ў манеж для выгулу коней.

## 1786 г.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Книга Кириллова” з маскоўскага арыгінала 1644 г., “Псалтирь” з маскоўскага выдання 1645 г., “Служба в Великую седмицу”, “Служба российским чудотворцам” па кракаўскім выданні 1786 г.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на звычайны сейм надворнага харужага ВКЛ Валовіча Антонія і старадубскага падстолія Ельскага Канстанціна.

Кастрычнік. Першае выступленне ў Гродне гастрольнай трупы В. Багуслаўскага.

## 1787 г.

Гастролі ў Гродне трупы В. Багуслаўскага.

Выданне “маральнага” рамана “Какетка, або Прыгоды Ірысы” Пуасона ў перакладзе І. Быкоўскага на польскую мову.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Цветник Дорофея” і “Часовник”.

## 1788 г.

Каралеўскую друкарню арандуе Барух Ром, першы з яўрэяў, хто атрымаў дазвол на кіраванне дзяржаўнай друкарняй.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Катэхізіс” Лаўрэнція Зізанія з маскоўскага арыгінала 1627 г. і “Псалтыр” з маскоўскага выдання 1651 г.

Гастролі ў Гродне трупы В. Багуслаўскага.

Радца Легатовіч заснаваў фабрыку васковых свечак.

У Гродне адкрываюцца фабрыкі: дзяржаўная тытунёвая (сыравіна паступае з Украіны) і замшавая Яна Дваракоўскага.

Пастанова гарадзенскага сейміка аб абранні пасламі на

звычайны сейм 1788– 1789 гг. гарадзенскага маршалка Волмера Казіміра і гарадзенскага войскага і падстарасты Эйсманта Аляксандра Міхала.

## 1789 г.

Створаны гродзенскі цэх фурманаў.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены "О житие христианском" і "Псалтирь" з маскоўскага выдання 1652 г., "Служба Тихвинской Богоматери", "Лимонарь". Выданне "Półkopy Baśń" ("Паўкапы казак") А. Лаўрыновіча.

Студзень. Буйны прадпрымальнік і падрадчык Баўмайстар Прэйсіг заключыў дамову з магістратам на будаўніцтва калодзежа на Рынку (цяпер гэта месца на Савецкай плошчы, насупраць фарнага касцёла).

Даведка: у Гродне 1108 дамоў, насельніцтва 5653 чалавекі, з іх рамеснікаў – 610 чалавек.

Сакавік. Гарадзенскія мяшчане накіравалі ў сейм інструкцыю, у якой заўважалі, што шляхта валодае маёмасцю і землямі ў гарадскіх вёсках, праводзіць гандлёвую дзейнасць. Мяшчане прапанавалі забараніць шляхецкі і яўрэйскі гандаль.

Май – верасень. Віленская трупа В. Багуслаўскага давала спектаклі ў Гродне падчас летніх пасяджэнняў Літоўскага Трыбунала. У складзе былі С. Дэшнер, П. Драздоўская, Я. Хэмпінскі, Ю. Сыкра, Ю. Нацэвіч, сёстры Іванскія, Ф. Мержынскі, І. Шыманскі, Руткоўскія. Прадстаўленні адбываліся ў зале нейкага будынка пад апекай маршалка Трыбунала кн. Сапегі, які даў свой уласны аркестр.

## 1790 г.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены "Канонник", "Цветник Дорофея", "Псалтирь с восследованием".

Пабудаваны палац Агінскага (праект архітэктара К. Шыльдгаўза).

6 ліпеня. Гарадзенская парадкавая і цывільна-вайсковая камісія абвясціла падрыхтаваны гарадзенскімі камісарамі пры ўдзеле войта, прэзідэнта горада і бурмістраў распрацаваны 30-старонкавы ўніверсал, які рэгуляваў розныя бакі гарадскога жыцця: будаўніцтва, асвету, санітарна-гігіенічны стан, супраць-

пажарную ахову, норавы і звычаі жыхароў.

## 1791 г.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Книга Кириллова” з маскоўскага арыгінала 1644 г. і “Псалтирь” з маскоўскага выдання 1651 г.

Гастролі ў Гродне трупы Д. Мараўскага.

29 лістапада. Указанні Камісіі паліцыі, адпаведна якім мясцовым уладам была даручана нумарацыя дамоў. У Гродне яна стала ўжывацца яшчэ ў верасні 1789 г.

## 1792 г.

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены кнігі рэлігійнага зместу: “Канонник” з маскоўскага арыгінала 1651 г. і “Цветник Дорофея”.

Гастролі ў Гродне трупы Д. Мараўскага.

Закладзены каталіцкія (фарныя) могілкі на вул. Антонава.

4 студзеня. У пратаколе пасяджэння магістрата было запісана рашэнне аб прызначэнні асобай камісіі з прысяжных магістрацкіх чыноўнікаў для рэвізіі гарадскіх дамоў на правым і левым берагах Нёмана. Заўважаныя дамы з небяспечнымі дахамі і комінамі гаспадары павінны да 1 лістапада адрамантаваць, старыя жылыя і гаспадарчыя пабудовы разабраць.

6 красавіка. Царскія войскі займаюць Гродна (камандуючы Пётр Далгарукаў спыніўся ў палацы Сапегаў). М. Забела, маючы 14 тысяч войска, не супрацьдзейнічае гэтаму.

Май. Пачаліся пахаванні на новых фарных могілках, хаця камісары цывільна-вайсковай камісіі далі дазвол на асвячэнне могілак 17.10.1791 г.

Спроба выдання І.Х. Нойенам “Штотыднёвага медыцынскага часопіса”.

18 лістапада. Выходзіць першы нумар “Wiadomości Grodzieńskie” (“Гродзенскія ведамасці”, орган канфедэратаў-таргавічан). Да снежня 1793 г. выйшла 12 нумароў.

28 лістапада. Гродна наведаў расійскі палкаводзец М.І. Кутузаў.

## 1793 г.

Гродна стала цэнтрам Гродзенскага ваяводства ВКЛ (да 1795 г.). Ваявода А. Сухадоўскі.

Пасяджэнні Таргавіцкай канфедэрацыі пераносяцца з Брэста ў Гродна.

У Гродна пераведзены Літоўскі Трыбунал.

У будынку карчмы адкрыта кірха.

Даведка: насельніцтва Гродна каля 4 000 чалавек.

У выніку пажару была моцна пашкоджана Фара Вітаўта. У сувязі з немагчымасцю спраўляць у ёй касцельную службу назва фарнага пераходзіць да былога касцёла езуіцкага кляштара.

2 красавіка. У Гродна прыязджае надзвычайны і паўнамоцны пасол Расіі ў Рэчы Паспалітай Якаў Сіверс, якога ўрачыста сустракаюць на Гарадніцы. Пасяліўся ў палацы Сапегаў.

17 красавіка. У Гродне праходзіць сесія Генеральнай канфедэрацыі, на якой гетман С. Жэвускі пратэстуе супраць падзелаў Рэчы Паспалітай.

22 красавіка у Гродна прыехаў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

27 мая. У фарным касцёле праходзіць гродзенскі павятовы сеймік. Яго пастановай замацавана абранне пасламі на надзвычайны сейм лоўчага ВКЛ Забелы Іосіфа і берніцкага старасты Жынева Мацвея.

17 чэрвеня – 23 лістапада. У Новым замку праходзіць надзвычайны апошні сейм Рэчы Паспалітай. Рукапісны акт апошняга гродзенскага сейма ў 1920 г. знаходзіўся ў Гродне і напярэдадні ўваходу сюды Чырвонай Арміі, 19 ліпеня, быў вывезены гісторыкам Ю. Ядкоўскім у г. Влацлавэк, а потым у Быдгашч.

21 чэрвеня. На сейме пачынаецца абмеркаванне нот пасланнікаў, і 13 ліпеня заключаны акт дэмаркацыі межаў паміж Расійскай Імперыяй і Прускім каралеўствам.

17 ліпеня. У сваёй прамове на сейме кароль раіць “скарыцца смутнай неабходнасці, каб не пагоршыць становішча Рэчы Паспалітай”.

19–22 ліпеня. Заключэнне трактата паміж Польшчай і Расіяй аб падзеле Рэчы Паспалітай.

17 жніўня. Трактат паміж Польшчай і Расіяй ратыфікуецца сеймам (да Расіі адыходзяць Цэнтральная Беларусь і Правабярэжная Украіна).

2 верасня. Я. Сіверс загадвае начальніку расійскага гарнізона заняць выхады з горада і галоўныя вуліцы, акружыць салдатамі Стары замак, дзе праходзяць пасяджэнні сейма. У двары і калідорах замка паставілі моцную варту, 12 афіцэраў размеркавалі ўнутры сеймавай залы. Паслам сейма дазваляюць увайсці ў залу, але не выпускаюць з яе. Аднак хутка, па просьбе дэпутацыі сейма, Сіверс выводзіць з замка солдат і афіцэраў.

15 верасня. Таргавіцкая канфедэрацыя ліквідавана і заменена Гродзенскай.

23 верасня. Арыштаваны чатыры найбольш актыўныя сябры апазіцыі: Краснадэмбскі, Шыдлоўскі, Мікорскі і Скаржынскі, але хутка адпушчаны па просьбе дэпутацыі. На выхадах з горада пастаўлены пікеты, каб не выпускаць паслоў без пашпарта, падпісанага Сіверсам. Замак акружаны двума батальёнамі, а ў брамах пастаўлены чатыры гарматы, каля якіх пастаянна стаялі артылерысты з запаленымі паходнямі. У двары замка пастаўлены пікет з 50 чалавек.

24 верасня. 3 гадзіны 30 хвілін ночы. Пры агульным "мёртвым" маўчанні маршалак сейма заявіў аб "адзінагалосным" прыняцці праекта дамовы з Прусіяй. Па гэтай дамове да Прусіі адышла амаль уся Вялікая Польшча, частка Мазовіі і Кракаўскага ваяводства.

5–16 кастрычніка. Заключэнне трактата аб'яднання, сяброўства і саюза паміж Расійкай Імперыяй і каралём Польшчы. Прадугледжана аднаўленне дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай, які існаваў пасля першага падзелу, адмена канстытуцыі 3 мая 1791 г. Сейм зацвярджае другі падзел Рэчы Паспалітай і прымае новую ("Гродзенскую") канстытуцыю, якая ў асноўным паўтарае канстытуцыю 1775 г. і ўключае шэраг палажэнняў канстытуцыі 1791 г. (у цэлым засталася на паперы, бо Рэч Паспалітая хутка страціла самастойнасць).

17 кастрычніка. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі выдаў прывілей гродзенскай евангелісцка-лютэранскай абшчыне на свой асабісты дом з зямлёй

і ўсімі пабудовамі ў раёне Гарадніцы.

Падрыхтаваны план г. Гродна.

Кіраўніком тэатра стаў маршалак М.Е.В. Мнішак. Ён уводзіць цэнзуру на п’есы.

Гастролі ў Гродна трупы Д. Мараўскага.

У Гродне адчынена яўрэйская друкарня.

**1794 г.**

У гродзенскай каралеўскай друкарні выдадзены “Цветник Дорофея”.

Упершыню ў Гродна выступае актрыса Саламея Дэшнер.

20 красавіка. Прапановы Т. Туталміна аб апякунстве збегламу з Гродна С. Балінскаму.

*Последняго гродненскаго сейма маршал господин Билинской, быв извещен в Гродно, что мятежники велели его схватить, оттоль уехал и, опасаясь замешкаться в пути, кинул на дороге людей своих и экипаж и приехал в Несвиж сейчас на крестьянской телеге. Будучи у меня, просил он, чтоб дозволено ему было укрыться от злоумышлений мятежников во вновь приобретенных областях. Обнадежа его высочайшею ея императорского величества протекциею, остановил я его здесь в ожидании экипажа, буде пробраться оный может, о чем Вашему сиятельству приемлю честь донести.*

23 красавіка. У Гродна адыходзяць рэшткі віленскага расійскага гарнізона, пасля таго як паўстанцы-касцюшкаўцы на чале з Я. Ясінскім авалодалі Вільняй і ўзялі ў палон начальніка гэтага гарнізона.

26 красавіка. Варожыя адносіны шляхты і гараджан прымусілі генерала П.Д. Цыцыянава вывесці з Гродна расійскія войскі (у тым ліку віленскі атрад маёра М.А. Тучкова): 8646 чалавек і 30 гармат.

11 мая. З рапарта князя П. Цыцыянава М. Рэпніну аб сваіх дзеяннях пад Гродна.

*...по первому слуху, доведшему до меня от поляков о несчастном жребии, коему подпали наши войски в Варшаве, не дожидаясь повеления вышней команды, выступил под Гродей [Гродно – В.Ш.], в лагерь, выбрав местоположение такое, чтоб держать*

*город в страхе, считая притом, что тыл моего лагеря закрыт виленским корпусом и ковенским деташментом. И ту же минуту послал к господину генералу майору и кавалеру Арсеньеву о Варшаве известие, уведомляя его о моем выступлении в лагерь и спрашивая, не нужно ли нам соединиться. Но курьер мой проехать уже не мог и привез слух о подобном несчастии, в Вильне случившемся. Тогда, не видя инаго средства к спасению войск, в Литве расположенных, как соединение всех малых деташментов, рассеянных и отделенных от бывшей гродненской части, а именно, в Ковно, в Новогродке и Слониме, разослал я курьеров, переряжая их и посылая ордера запрятанными в сапоги, поелику уже в шести милях от Гродни в Соколке собралось до шести полков, кои удобно могли отрезать Слонимской деташмент, а в Шавле собравшиеся войски могли легко то же сделать с ковенским, прикрыл их соединение своими войсками и выслал в Меречь к остаткам виленскаго резервнаго корпуса, спасеннаго храбрым, разсторопным и мужественным капитаном артиллерии Тучковым, и соединившимся с ним потом Нарвскаго полка премьер-майором Раутенштерном сильное прикрытие для изготовления ему перевоза через реку и для снабжения его провиантом и фуражем, котораго они не имели, так как и палаток.*

*Наконец, 21 апреля, день для России знаменитый, в час отправления молебнаго служения на горе остаток виленскаго резервнаго корпуса вступил ко мне в лагерь, а ковенской деташмент при совершенной безопасности в один переход от меня имел начлежный лагерь. По собрании всех сих войск, снабдя виленския войски всем нужным, построя им 100 палаток из дламскаго полотна, находящегося в амуницыи, везомой в Сибирской гранодерской полк и остановленной мною в Гродно.*

*По небезпечности, правда, обложил я город и взял контрибуции: (о чем шлю ведомость) в наказание, потому что все письма и все печатныя известия описывали злое намерение и сего* города про-*

*тив наших войск. Оконча сие, пошёл я со всеми войсками к новой российской границе на Невогродок [Новогрудок – В.Ш.]. Во время сего похода знаменитаго ничего не произошло. Были две стычки у казаков и в одной убили у нас казака и ранили одного, да отхватили двух фурьеров, а в другой нашими убито 4 да 3 захвачено в плен.*

28 красавіка. Жыхары Гродна ў Сакулцы аб'явілі аб далучэнні да паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі.

3 мая. У гродзенскім Новым замку пачынае пасяджэнні Парадкавая камісія – пастаянны паўстанцкі орган кіравання, выбраны ў Сакулцы 28 красавіка (80 чалавек на чале з Ф. Бауфалам).

9 мая. Прадстаўнікі Гродзенскага павета на сходзе (ініцыятар І. Храптовіч) у Сакулцы абвяшчаюць Акт далучэння да паўстання А.Т. Касцюшкі.

14–15 мая. Працяг далучэння да паўстання. У Гродне Акт падпісалі 378 чалавек.

Жнівень. Атрады паўстанцаў адыходзяць да Гродна. Сюды пераязджае Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ – выканаўчы орган паўстанцаў на тэрыторыі Літвы і Заходняй Беларусі, створаны ў Вільні 23 красавіка (дзейнічае да 1 кастрычніка). Такім чынам, Гродна стала часовай сталіцай ВКЛ.

30 верасня. У Гродна прыязджае Т. Касцюшка з мэтаю мабілізацыі гараджан і шляхты. Гродзенскія мяшчане запісваюцца ў атрад аховы бяспекі края. Т. Касцюшка адбывае з Гродна пад Мацяёвіцы, дзе 10 кастрычніка адбылася бітва, у якой ён быў паранены.

Пасля 10 кастрычніка. Гродна заняты рускімі войскамі.

30 кастрычніка (10 лістапада). Імянны ўказ, дадзены ліфляндскаму, эстляндскаму і літоўскаму генерал-губернатару князю Рэпніну аб падзеле Вялікага Княства Літоўскага на 3 часткі і аб чыне кіравання імі.

*“1. Разделить Княжество Литовское на три части и назначить средоточие сих частей в Вильне, в Гродне и Ковне или Кейданах по удобности, приписав к Гродне, например, остатки Новоградского, Брест-Литовского и часть*

*Троцкого воеводств, к Ковне все Жмудское Княжество и часть Трокского воеводства, а к Вильне Виленское воеводство, и потом учредить во всех сих трёх областях исполнительную власть под главным вашим руководством действовать имеющую, блюстителями коей будут корпусные войск Наших начальники, сообразно чему расположите войска им порученные в тех местах, где должны они соединять власть воинскую со властью исполнительною по части Правления, и предпишите им, чтоб введя свои корпусы в зимовые квартиры, приняли они в своё ведомство и защиту все, составляющие земские их части, поветы или округи и предпоруча каждую округу или повет в особливое попечение Бригадного или старшаго из тех полковых баталлионных командиров, коих командами та округа занята будет, истребовали бы от Дворянского, Городских и сельских обществ комиссаров, имея оных при генеральных квартирах, употребляли при расположении и выполнении всякого рода нарядов с земли, доколе определятся от вас в города городничие, а в округи капитан-исправники, о которых ниже сего упомянуто будет…"* (Рубинштейн С.Ф. Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 год. – Вильна, 1894. – С. 159).

Снежань. Гродзенскую каралеўскую друкарню ўзначаліў Ян Ясеньскага (Ясінскі).

3 снежня, 21.00. На Ратушнай плошчы (цяпер Савецкай) жыхары горада, канцылярскія чыноўнікі, магістрат, купецтва, рамесныя цэхі і каталіцкае духавенства прымаюць прысягу на вернападданства Кацярыне II. Такім чынам, фактычна адбылося далучэнне Гродна і вакольнай тэрыторыі да Расійскай Імперыі, але юрыдычна гэта адбудзецца пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г.

4 снежня. Высачайшае паведамленне Кацярыны II аб пасяленні Станіслава Аўгуста Панятоўскага на жыхарства ў Гродне.

**1795 г.**

Складзены чарговы план горада.

1 студзеня Станіслаў Аўгуст Панятоўскі прыязджае ў Гродна.

26 студзеня. Гродзенскі павятовы сеймік у бернардынскім кляштары пад старшынствам Александровіча.

Сярэдзіна лютага. Адам Ежы Чартарыйскі разам з братам Канстанцінам чакаюць да пачатку мая дазволу на прыезд да Пецярбурга. З успамінаў Чартарыйскага:

*“…Едучы да Пецярбурга, правялі з маім братам шэсць месяцаў у Гродне, дзе трымалі і сцераглі нашага караля Станіслава Аўгуста. Падчас гэтага побыту часта бывалі ў яго на абедзе і вечарамі. Заўсёды аказваў нам гасціннасць дзядзькі”.*

10 ліпеня. У Гродне ствараецца Вярхоўнае Літоўскае Праўленне. Яно складаецца з 4 аддзяленняў: Казённае (начальнік палкоўнік Іван Фрызель), Крымінальнае (брыгадзір Іван Русанаў), Грамадзянскае (надворны дарадца Мікалай Волкаў), Эканамічнае, ці дамаводства (прэм’ер-маёр Літке). Названыя начальнікі складалі Праўленне на чале з літоўскім генерал-губернатарам Рэпніным, які пасяляецца ў былым палацы А. Тызенгаўза.

*Гродзенскі ўезд існаваў з 1795 г. у Слонімскай губерні, з 1797 г. – у Літоўскай, з 1801 г. – у Гродзенскай губернях Расійскай Імперыі. У 1886–1912 гг. дзяліўся на 21 воласць, у складзе ўезда былі 1 горад (Гродна), 11 мястэчак – Азёры, Воля, Воўпа, Вялікая Бераставіца, Друскенікі, Індура, Каменка, Крынкі, Лунна, Масты, Скідзель; 955 вёсак, пасёлкаў, фальваркаў і інш.*



# РАЗДЗЕЛ III

# У РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ



# УЕЗДНЫ ГОРАД У СЛОНІМСКАЙ І ЛІТОЎСКАЙ ГУБЕРНЯХ

**1795**

25 лістапада. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісвае адрачэнне ад прастола, чым юрыдычна замацоўваецца трэці, канчатковы, падзел Рэчы Паспалітай. Адбылося гэта, па агульнапрынятай версіі, у Новым замку, але ёсць дакументы, якія ўказваюць іншае месца – палац А. Тызенгаўза, дзе размяшчалася рэзідэнцыя расійскага прадстаўніка Рэпніна. Аўтар схіляецца да апошняй версіі, бо, на яго думку, гэта было зроблена там (як бы на тэрыторыі Расіі), каб яшчэ больш прынізіць былога польскага караля. Правабярэжная частка Гродна адыходзіць да Расійскай Імперыі, а частка левабярэжнай (раён Ласосна) – да Прусіі (да 1807 г.).

*“Мы, Станіслаў Аўгуст, з Божай ласкі Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі і* ect. ect. *Не шукаючы цягам караляванне нашага іншых выгод альбо намераў, апрача як стаць карысным у Нашай Айчыне, трымаемся мы таго перакананння, што належыць нам пакінуць трон у тых абставінах, калі мы разумеем, што сыход наш павялічыць шчасце суайчыннікаў нашых або хаця б паменшыць няшчасці іхнія. Перакананыя цяпер, што ўпартасць нашая Айчыне нашай не спатрэбіцца, калі нешчасліва пачатая ў ёй інсурэкцыя заглыбіла яе ў цяперашні стан знішчэння, і развважыўшы, што прадпрынятыя Найяснейшай Імператрыцай Усіх Русяў і іншых суседніх дзяржаў для вяртання спакою Нашым падданым былі зусім неабходнымі, мы вырашылі, што свабодна і па ўласнай волі адракаемся ад усіх сваіх правоў на Карону Польскую, Вялікае Княства Літоўскае і іншыя краі. Акт гэты адрачэння ад кароны добраахвотна аддаем у рукі*

*Найяснейшай Імператрыцы Усіх Русяў. Сыходзячы з трону, выконваем апошні абавязак каралеўскага гонару, заклінаючы Найяснейшую Імператрыцу, каб сваю матчыну дабрыню распаўсюдзіла на тых, каго каралём мы былі, і каб дзеяннем сваёй вялікай душы надзяліла сваіх сяброў. Гэты акт падпісалі і загадалі нашую пячатку прыкласці. Было гэта ў Гродне 25 лістапада, на 32 годзе панавання Нашага. Станіслаў Аўгуст, кароль".*

26 лістапада. Рашэннем Кацярыны II былы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі жыве ў Гродна пад хатнім арыштам (да лютага 1797 г.).

14 (25) снежня. Стварэнне Слонімскай губерні згодна Імянному ўказу Кацярыны II. Правіцелем губерні прызначаецца генерал-маёр Іван Навіцкі, паручыкам правіцеля – калежскі дарадца Мікалай Волкаў. Гродна становіцца ўездным горадам. Усе жыхары новай губерні павінны былі прынесці прысягу.

## 1796 г.

У Гродне выдаецца да 1797 г. газета "Kurier Litewski" ("Курьер літоўскі", №№ 1–52).

Ажыццяўляецца пераход на юліянскі каляндар (так званы стары стыль).

Канцэсію на гродзенскі тэатр атрымоўваюць Я. Шыманскі і Д. Мараўскі.

У Гродне арганізавана гарадская паліцыя.

Раскрыта змова супраць вялікага князя літоўскага і караля польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага і віленскага генерал-губернатара Мікалая Рэпніна. 10 чалавек, у тым ліку меркаваныя забойцы Любавецкі і Снарскі, арыштаваны.

Студзень – люты. Працуе пруска-расійская дэмаркацыйная камісія. Нямецкі бок настайваў на правядзенні дзяржаўнай мяжы па левым беразе Нёмана да р. Свіслач (пазней да Панямуні). Расейская дэлегацыя, спасылаючыся на прывілей 1496 г. вялікага князя літоўскага Аляксандра, настаяла на прыналежнасці да Гродна занёманскай часткі горада (Фарштата).

## 1797 г.

Касцёл Св. Францішка Ксаверыя стаў парафіяльным (фарным).

15 лютага. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі пакідае Гродна і ад'язджае ў Санкт-Пецярбург па запрашэнні расійскага цара Паўла І.

23 ліпеня. Згодна ўказу Паўла І ад 06.02.1797 г. па ст.ст. (да 1801 г.) Гродна стаў цэнтрам уезда Літоўскай губерні. У гэты час насельніцтва горада складала 5 398 чалавек (816 мужчын і 760 жанчын).

У памяшканнях тызенгаўзаўскай суконнай фабрыкі (існуючай з 1776 г.) адкрываецца суконная майстэрня Д. Гейзлера (працавала да 1840 г.).

15 мая. Літоўскі генерал-губернатар у Гродне адкрывае сесію Галоўнага Літоўскага Трыбунала.

19 верасня. У Гродне нарадзіўся мастак-баталіст Я.І. Сухадольскі.

29 верасня. На базе акруговай школы ствараецца павятовае вучылішча. Апякуюцца ім дамініканцы, якім таксама перадаецца езуіцкая школа.

## 1798 г.

У Гродне выдаецца п'еса М. Бонча-Тамашэўскага "Ofiara Minerwy" ("Ахвяра Мінервы").

## 1799 г.

28 сакавіка (8 красавіка). Імянны ўказ, аб'яўлены Сенату генерал-пракурорам, аб прызначэнні першай кадэнцыі пасяджэння Галоўнага Літоўскага суда ў Гродне, а другой – у Вільні.

## 1800 г.

Будуецца дом гродзенскага віцэ-губернатара Максімовіча.

У горадзе пасялілася актрыса Саламея Дэшнер – стваральніца першага пастаяннага тэатра ў Гродне (з 1802 г.).

27 сакавіка (7 красавіка). Імянны ўказ аб усталяванні мытні ў Гродне.

28 кастрычніка. Адкрыццё гродзенскага кадэцкага корпуса. Існаваў да 24 студзеня 1807 г. як аддзяленне 1-га кадэцкага корпуса, які знаходзіўся ў Санкт-Пецярбургу.

# ГУБЕРНСКІ ГОРАД

Гродзенская губерня існавала ў 1801–1920 гг. і падзялялася на 8 уездаў: Брэсцкі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Кобрынскі, Лідскі, Навагрудскі, Пружанскі і Слонімскі. З 1843 г. са складу губерні перададзены ў склад Мінскай губ. Навагрудскі ўезд, а ў склад Віленскай губ. – Лідскі ўезд. Затое да Гродзенскай губерні далучылі са скасаванай Беластоцкай вобласці Беластоцкі, Бельскі, Драгічынскі і Сакольскі ўезды. Знаходзілася Гродзенская губерня ў Літоўскім (1801–1830 гг.), Віленскім (1830–1843 гг.) вайсковым генерал-губернатарстве. 11 (23).07.1802 г. зацверджаны герб: у верхняй частцы шчыта – Пагоня, у ніжняй – выява зубра ў сярэбраным полі; пасля 1845 г. на шчыце герба застаўся зубр у чырвоным полі. У 1878 г. зменена выява зубра, гербу нададзены імператарская карона, стужкі і лісце дуба.

## 1801 г.

9 (21) верасня. Указам Аляксандра I на імя Рэпніна аднаўляюцца дзве літоўскія губерні: Віленская і Гродзенская.

Выдаецца “Kalendarz grodzieński” (“Каляндар гродзенскі”), у якім друкуюцца звесткі па краязнаўству, замежным краінам, гаспадарчыя парады і іншае (выходзіць да 1807 г.).

У Гродне адчыняецца народнае вучылішча (на базе ўезднага).

## 1802 г.

13 студзеня (па ст. ст. 1 студзеня). Утварэнне Літоўска-Гродзенскай губерні з 8 уездаў. Гродна становіцца губернскім горадам.

1 красавіка. Арганізавана канцылярыя гродзенскага губернатара. Губернатарам прызначаецца Д.Р. Кошалеў (да 08.07.1803 г.).

Чэрвень. У Гродна пачаў працу пастаянны тэатр (да 1809 г.). Яго стваральнік і першы рэжысёр – Саламея Дэшнер. Аснову рэпертуара складалі п’есы рамантычнага

характару. Рускія творы перакладаліся на польскую мову.

9 (21) чэрвеня. Ганаровае адкрыццё Гродзенскай губерні ў будынку тэатра, на якім прысутнічаў расійскі імператар Аляксандр I. Яго сустракалі вельмі ўрачыста. На першай станцыі цара прывітаў павятовы маршалак Панцэржынскі; за горадам, у канцы вуліцы Скідзельскай, – яўрэйскі кагал на чале з рабінам; за імі на працягу ўсёй вуліцы да касцёла паезуіцкага сталі чальцы розных рамесных цэхаў на чале з магістратам; каля касцёла чакалі манарха святары. Па вул. Дамініканскай Аляксандр I паехаў на Гарадніцу. Каля дамініканскага кляштара яго спынілі студэнты з прафесарамі, што кідалі кветкі пад ногі коней. Размясціўся імператар у доме Дзяконскага (былым палацы адміністратара Гродзенскай эканоміі), дзе яго чакалі вайсковы генерал-губернатар барон Бенігсен, цывільны гродзенскі губернатар Кошалеў і губернскі маршалак Нямцэвіч. Затым адбылося прадстаўленне мясцовай шляхты. Пасля імператар глядзеў у тэатры камедыю "Генрых VI на паляванні" і вячэраў у прысутнасці мясцовай улады і братоў Дзяконскіх.

22 чэрвеня. Імператар Аляксандр I зрабіў агляд Мурамскага палка і кадэцкага корпуса і паснедаў у замку. Тут яму прадставілі сірот, якім мясцовая шляхта падаравала грошы на ўтрыманне.

*"Спіс сірот, якіх шляхта Літоўска-Гродзенская забяспечыла, даючы кожнаму па 300 срэбных рублёў у дзень прыбыцця Найсвятлейшага імператара ў Гродна дня 9 чэрвеня года 1802.*

*Дачка польскага афіцэра, забітага падчас штурма Прагі, Текля Ehrenkraytz.*

*Дачка расейскага афіцэра, забітага падчас гэтага ж штурма, Мар'яна Плаўская.*

*Дачка купца, які памёр з прычыны банкроцтва, Разалія Хаўсман.*

*Дочкі былога сакратара каралеўскіх пошт, Тэрэса Сакалоўская і*

*Ізабэла Сакалоўская.*

*Дачка польскага афіцэра, які корміць працаю сваіх рук 8 дзяцей, Эліса Бохвіц.*

*Дачка беднага шляхціца, бацькі дзесяцці дзяцей, Караліна Ржэшко.*

*Сіроты, якім кляштары і розныя прыватныя дамы далі прытулак: Серафіна Дашкевіч,*

*Юзэфа Гушча,*

*Брыгіта Юрборская,*

*Катажына Радваньская,*

*Ангела Мазэўская”* (Dyaryusz przyjazdu i bawienia się Nayiasnieyszego imperatora w Grodnie. – S. 3).

23 ліпеня. Указам Аляксандра I Сенату (датаваны 11 ліпеня ст. ст.) зацверджаны герб Літоўска-Гродзенскай губерні: у верхняй частцы шчыта – Пагоня, у ніжняй – зубр (пасля 1845 г. застаўся толькі зубр).

9 верасня. Зацверджаны штаты ўпраўлення Гродзенскай губерні.

## 1803 г.

8 ліпеня. Гродзенскім губернатарам стаў В.С. Ланской (да 6 красавіка 1813 г.).

У Гродзенскай губерні ўводзяцца расійскія меры і вагі.

1803 г. снежня 31. Запыт Гродзенскага губернскага праўлення літоўскаму вайсковаму губернатару аб парадку выбараў у гарадскія магістраты

*По предложению в. в.-п. от 27 декабря за № 2928 с препровождением при оном для надлежащего исполнения копии полученного вами из Правительствующего сената от 9 сего декабря под № 4768 указа о выборе из евреев в магистраты членов третьей части противу христиан предлагать изволили о последующем уведомить в. в.-п.; при слушании чего присутствующие имели рассуждение, что в высочайшем о губерниях учреждении полагается в составе магистрата 2 бургомистра и 4 ратмана.*

*Для производства и решения вообще как уголовных, так и гражданских дел также при каждом городовом магистрате учреждается городовой сиротский суд, в котором председают городские члены и заседают 2 члена городового магистрата и городовой староста. Здесь же на основании всемилостивейше дарованных прав здешней стране*

*магистратское судилище доселе разделялось на 2 части: в одной под названием магистрата присутствующих в больших городах по правам предназначено избирать по 24 ратмана, из коих уже избирались, и 2 бургомистра, а в меньших по числу городских жителей в войтовско-лавничьем же суде 12 лавников и 13 войтов, в магистратах же вершились дела гражданские, а в войтовско-лавничьих судах рассматривались уголовные, следовательно, ежели оставить на таковом положении означенные выборы, то третья часть жидами наполнится. Имеющее уже гораздо превзойдет число 2, как значится в указе Правительствующего сената, соглашавшегося с учиненными бывшими генерал-губернатора Тутолмина и Беклешева положениями; хотя бы судопроизводство по обоим отделениям могло бы быть отправляемо в одном магистрате самим тем числом, колико означено в высочайшем о губерниях учреждении обще без разделения на 2 части, не занимая столь многих людей, как то существовало доселе, и сверх того, так как в указе Правительствующего сената с препровождением здешней губернии штата, последовавшем в 1801 г. генваря 30 дня, вовсе о тех войтовско-лавничьих судах не упомянуто, но поелику чрез то же самое оные суды подвергаются упразднению, то, не приступая к учинению решительного по сему исполнению, определено: с прописанием вышеизъясненного по принадлежности исполнения помянутого указа взнесть меморию на разрешение в. в.-п. с испрошением как в рассуждении упразднения войтовско-лавничьих, судов, так равно и о производении: выбора в магистратство членов по прежним ли правам или на основании высочайшего учреждения, начальнического его повеления, а между тем по случаю скорого по правам, здесь существуемы, наступления срока выборам в магистраты и войтовско-лавничьи суды новым членам предписать указами всем магистратам и ратушам, дабы они новыми выборами своими непременно воздержались до дальнейшего повеления, о чем все оные*

*магистраты и ратуши тотчас по получении предписания знать от себя дали и войтовско-лавничьим судам рапорты; о последующем сие правление уведомить.*

|*Дарадчык [подпіс неразборліва]*|

(Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. – Мн., 1961. С. 124 – 125. Першакрыніца: ДГА Літвы, ф. 387, воп. 11, спр. 251, а. 4–5).

## 1804 г.

29 лютага. Прыйшоў загад Свяшчэннага Сінода: “Апусцелы ад пажару будынак фарнага касцёла”, заснаванага каралевай Бонай, паправіць і пасля ўладкавання ў ім іканастаса ператварыць у праваслаўны храм, асвечаны ў гонар Св. Сафіі.

## 1806 г.

6 жніўня. Указ Аляксандра I (датаваны 25 ліпеня па ст. ст.) аб фарміраванні Гродзенскага гусарскага палка на тэрыторыі Пскоўскай губерні (з 1824 г. ён называецца Клястыцкім, з 1882 г. – Драгунскім).

## 1807 г.

У Гродне праходзіць службу (да 1811 г.) Н.А. Дурава – першая ў Расіі жанчына-афіцэр .

Адбудова ратушы ў стылі класіцызму пад кіраўніцтвам Ваўжынца Гусевіча.

17 жніўня. Урачыстае асвячэнне Фары Вітаўта ў гонар Св. Сафіі (перабудаванай пасля пажару 1793 г. у праваслаўны сабор).

10 (22) снежня. Высачайша зацверджаны штаты паліцыі ў Гродне.

## 1808 г.

К. дэ Ціффенбах друкуе ў Гродне на польскай мове “Кароткі трактат аб так званай вакцыне, альбо кароўяй воспе, і яе прывіванні як папераджальным спосабе супраць натуральнай воспы”.

Пабудавана драўляная капліца на каталіцкіх могілках, разабрана ў 1822 г., пабудавана мураваная.

5 студзеня. Галоўнакамандуючы расійскай арміяй М.Ф. Каменскі атрымоўвае ў Гродне царскі рэскрыпт аб адстаўцы з пасады галоўнакамандуючага расійскай арміяй.

## 1811 г.

5 ліпеня. Імянны ўказ, дадзены гродзенскаму губернатару Ланскому аб распаўсюджванні у Гродзенскай губерні правіл арганізацыі дваранскіх выбараў, якія дзейнічалі у Літоўска-Віленскай губерні.

## 1812 г.

17 студзеня. На гродзенскім сейміку Ляхніцкі прадставіў план Міхала Клеафаса Агінскага аб адраджэнні Вялікага княства Літоўскага ў складзе Расійскай Імперыі.

5 (17) мая. Гродна, у мэтах інспекцыі арміі, наведвае Аляксандр I. Яго сустрэлі на заставе галоўнакамандуючы і генералітэт. Далей да дома губернскага прадвадзіцеля дваранства праводзілі мяшчане з харугвамі. Абед адбыўся ў губернатара В.С. Ланскога. У 7.30 Аляксандр аглядзеў войска, у 10.00 вярнуўся дадому і ў 12.00 паехаў у Вільню.

25 чэрвеня. М.І. Платаў, па загаду М. Барклая дэ Толлі, прыбыў з палком у Гродна. Менавіта ён займаўся эвакуацыяй з горада казённай маёмасці і фінансаў, зброі і амуніцыі, галоўнай аптэкі, хворых у напрамку Мінска праз Шчучын, Беліцу, Навагрудак.

29 чэрвеня. М.І. Платаў пакідае Гродна са сваім лятучым корпусам казакаў у напрамку Шчучын і Ліда – Смаргонь – Свянцяны.

М. Платаў пісаў П. Баграціёну:

*“Предписанное мне отступление от Гродна… я на протяжении двух последних дней не осмеливался делать потому, что разведанному мною до местечка Мереч вниз по Неману нигде не замечено, чтобы неприятель, переправляющийся через эту реку, вступил внутрь наших границ, а только один слух, што он переправился у Ковно; но идёт ли к Вильно, достоверно неизвестно; и как от авангардного генерал-лейтенанта графа Шувалова, так и от авангардного его генерал-майора Дорохова, посты которого сходятся с моими, такого известия не имею…”* (1812–1814: Секретная переписка генерала П.И. Багратиона… – М., 1992. – С. 32).

30 чэрвеня. Уваход у Гродна французкіх войск (5-ы, 8-ы

пях. карпусы і 4-ы кав. корпус) Жэрома Банапарта (рэзідэнцыя – палац віцэ-губернатара Максімовіча). Гродзенскім губернатарам стаў барон Ле Брун (з 21 ліпеня). Стварающца адміністрацыйная камісія (губернскае праўленне), прэфектура (уезднае праўленне), муніцыпальная рада (гарадское праўленне).

4 ліпеня. Рада Гродзенскай канфедэрацыі далучаецца да Генеральнай канфедэрацыі. Другі раз гэтае адбылося 13 ліпеня.

З адозвы Рады:

*"Разбіты ганебныя кайданы, якія 18 гадоў скоўвалі нас – час прачнуцца ад летаргічнага сну, у які былі кінутыя моцаю і тыраніяй захопніка. Пара паказаць свету, што мы Палякі, што мы не страцілі таго духу Нацыянальнага, якім ганарыліся нашыя продкі..."*

17 ліпеня. Прадстаўнік урада ВКЛ кн. Антоні Гедройц адкрыў Гродзенскую адміністрацыйную камісію (губернскае ўпраўленне) для горада, для павета.

25 ліпеня. Пачала працу адміністрацыйная камісія ў складзе Міхала Вітаноўскага (сакратар), Марцэлія Пілецкага (секцыя спраў падпрэфектаральных), Фелікса Імбра (секцыя спраў дэпартаментальных), Шастоўскага (справы муніцыпальныя).

27 ліпеня. Акт далучэння да Генеральнай канфедэрацыі жыхароў Гродзенскага павета.

15 верасня. У Гродне ганарова адзначаны імяніны Напалеона. У фарным касцёле адбыўся малебен. Па набажэнтве адбыўся парад войск, забавы і бал.

20 снежня. Расійскія войскі генерала А.П. Ажароўскага і авангард партызанскага атрада Д. Давыдава на чале з маёрам Чачэнскім вызвалілі Гродна ад аўстрыйскіх войск праз перамовы. Згодна рапарту Давыдава, ў Гродна вызвалена з палону 14 расійскіх афіцэраў і 467 радавых, захоплены ў палон 661 чалавек. Склады варожага войска засталіся поўныя хлеба, віна. Начальнікам вышэйшай гродзенскай паліцыі Д. Давыдаў прызначае гродзенскага кагальнага.

З выступления Д. Давыдава перад гараджанамі:

*“...По приему, сделанному русскому войску польскими жителями Гродны, я вижу, что до них еще не дошел слух о событиях; вот они: Россия свободна, все наши силы вступили в Вильну 1-го декабря, теперь они за Неманом. Из полумиллионной неприятельской армии и тысячи орудий, при ней находившихся, только пятнадцать тысяч солдат и четыре пушки перешли обратно за Неман. Господа поляки! В черное платье! Редкий из вас не лишился ближнего по родству или по дружбе: из 80 тысяч ваших войск, дерзнувших вступить в пределы наши, пятьсот только бегут восвояси; прочие – валяются на большой дороге, морозом окостенелые и засыпанные снегом русским. Я вошел сюда по средству мирного договора: мог то же сделать силою оружия, но я пожертвовал славою отряда моего для спасения города, принадлежащего России, ибо вам известно, что битва на улицах кончается грабежами в домах, а грабеж – пожарами...”*

25 снежня. У Гродна прыбывае кавалерыя генерал-лейтэнанта Ф.К. Корфа.

26 снежня. У горад уваходзіць пяхота генерала М.А. Міларадавіча.

1837 г. красавіка 23. Запіска гродзенскага губернатара аб падзеях вайны 1812 г. у Гродне.

*А. Правительственная часть*

*...Кроме административной комиссии, в Гродно существовало муниципальное правление (городское). Оно состояло из 4 отделений: 1) полицейского, 2) финансового и провиантского, 3) квартирмейстерского и 4) богоугодных дел.*

*Муниципальное правление было устроено наподобие административного. Члены имели своих помощников, в нем председательствовал мэр Мучинский. В полицейском отношении Гродно было разделено на кварталы, из коих каждый имел своего надзирателя, а квартальные надзиратели состояли под ведением главного надзирателя. Штат муниципального правления был довольно многочислен. Месячное его содержание стоило 1000 руб. Муниципальное*

*правление гораздо хладнокровнее было в своих действиях. Впрочем, административная комиссия не могла так устроить полицию, чтобы она содействовала к возбуждению духа граждан…*

*В административных комиссиях председательствовали интенданты. Обязанность интендантства состояла в наблюдении за ходом дел. Французские начальники очень надменно обходились со своими сочленами. Гродненский интендант Шассенон рвал протоколы заседания, ставил экзекуции членам, брал из казны деньги, и споры, происходившие по этому поводу, обыкновенно оканчивались в его пользу; он получал жалованье из Гродненского казначейства. 3 июля кн. Невшательский объявил о назначении комендантов по городам. 9 июля назначен губернатор всей Литвы и губернаторы по департаментам (губерниям). В Гродно исполнял эту обязанность ле Брюн. Ему давались столовые деньги.*

*B. Военная часть*

*...Декретом Наполеона предписано по губернским городам образовать народную гвардию и милицию. Образователем ее был назначен Шостаковский. Гвардия состояла из кампании волонтеров и вольтижеров, каждая из 119 человек; кампания разделилась на 4 сержантства и 8 капральств. Третья часть гвардейцев обмундирована была на счет города. Образователь был обязан по праздничным дням учить солдат военным эволюциям; 25 сентября роздано гвардейцам 238 ружей взятых у русских...*

*C. Продовольственная часть*

*...По определению короля Вестфальского, 2 июля в Гродно велено устроить на 1200 человек госпиталь; число больных иногда увеличивалось до 2000, но никогда не было менее 700. На этот предмет были назначены 3 огромных здания, размещали больных даже по монастырям и в домах частных лиц. Верховное правление, видимо, хотело, чтобы город и уезд содержали госпиталь без пособия со стороны казны, и поэтому не отпускало суммы, потребной на содержание больницы, ап-*

*теки и штата; гораздо позже французское правительство взяло в свое ведение госпитали, и тогда поставку белья и мебели приняла на себя административная комиссия, а город – прочие предметы. Для прислуги в больнице употребляли наших пленных. Солен, частный поставщик, хотел взять 22 ноября госпиталь на откуп с тем, чтобы ему платили по 2 1/2 франка за каждого больного; Пегрази, начальник госпиталя, и интендант Хаценон [Шасенон – В.Ш.] давали по полтора франка. Основываясь на этом и других известиях, содержание госпиталя, его обзаведение и починку можно положить в 500000 руб. 22 июля административная комиссия издала прокламации, в коих приглашала верных сынов отечества помочь страждущим своим защитникам. 5 декабря предписано собрать с губернии всех лекарей для этой же цели. Кроме главной больницы, были еще в с. Станиславове, отстоящем на 1 версту от города, на 200 человек саксонцев; в Щурино [Щучине – В.Ш.] для австрийских войск, в Новогрудке на 600 человек для вестфальских и польских войск, а также в Волковыске, Изабелине, Слониме, Бресте и других местечках...*

*Д. Злоупотребления войск*

*Подобного рода беспорядки случались и в самом Гродно: солдаты, поставленные в здании б[ывшем] иезуитском, разломали шкафы, в которых хранились бумаги; в другое время напали на госпиталь, прибили прислужников и растащили дрова, привезенные на продажу, и пр.*

*13 декабря в Гродно отобрано от небольшой австрийской команды 20 лошадей, от французского отряда 30 быков, 15 лошадей; из доставленных 150 подвод для провоза амуниции 16 октября возвращено только 49...*

## 1813 г.

Даведка: на суконнай мануфактуры Д. Гейзлера працуе 3 падмайстры і штодзённа 10 наёмных працаўнікоў (да 1829 г. колькасць іх павялічылася да 18, а да 1837 г. – у 4 раза); у горадзе існуе 82 гандлёвыя лаўкі.

6 красавіка. Гродзенскім гу-

бернатарам стаў К.К. Лешэрн (да 03.02.1816 г.).

10 чэрвеня. Аднавілі працу Літоўска-Гродзенскае губернскае праўленне, казённая палата і іншыя губернскія ўстановы.

## 1814 г.

Сакавік. На гродзенскіх праваслаўных могілках (відаць, недалёка ад магілы бацькі) пахаваны генерал-лейтэнант С.М. Ланскі, паранены ў баю супраць напалеонаўскіх войск пад Краонам у Шампані, які памёр у сяленні Краон. Цяпер на месцы яго пахавання стаіць помнік.

## 1815 г.

Даведка: у Гродне дзве суконныя фабрыкі, якія вырабляюць у год 15 000 аршын сукна.

Чэрвень. Па Заключнаму акту Венскага кангрэса, мяжа Царства (Каралеўства) Польскага пралягла ў 3 км ад Гродна, па р. Ласосна (Ласасянцы).

19 лістапада (1 снежня). Імянны ўказ аб стварэнні ў Гродне Апеляцыйнага Нармальнага суда.

## 1816 г.

Даведка: насельніцтва Гродна 9 873 чал. (1451 – хрысціяне, 8422 – іўдзеі).

Прапаганда стварэння біблійных таварыстваў на Гродзеншчыне. Актыўна ўдзельнічае ў гэтым Ляхніцкі І.Ю. – ганаровы дазорца школ Гродзенскай губерні.

3 лютага. Гродзенскім губернатарам прызначаны Ф.К. Друцкі-Любецкі (да 01.08.1816 г.).

1 жніўня. Гродзенскім губернатарам стаў С.Ф. Урсын-Нямцэвіч (да 04.12.1817 г.).

Жнівень. Гродзенскую гімназію скончыў будучы філамат Адам Сузін – даследчык казахскіх стэпаў і іх жыхароў.

## 1817 г.

Даведка: у Гродне 33 вуліцы, 7 перавулкаў... 1100 дамоў, 6 мастоў, 3 рынкі, 13 хрысціянскіх і 2 жыдоўскія храмы, 2 суконныя прадпрыемствы, 2 капялюшавыя, 5 019 насельніцтва.

20 мая. Створана масонская ложа “Сябры чалавецтва” на Заходзе Гродна”. Майстар ложы – масон 4-й ступені, маршалак шляхты

Брэст-Літоўскага павета Калікст Юзафавіч Мержэеўскі.

4 снежня. Пачаў выконваць абавязкі гродзенскага губернатара М.Ф. Бутаўт-Андржэйкавіч (17.2.1819 г. зацверджаны на пасадзе да 11.11.1824 г.).

## 1820 г.

Пачала дзейнічаць гродзенская друкарня, якая выдае афіцыйныя матэрыялы, газету “Гродненские губернские ведомости”, “Адрес-календарь”, “Обзор Гродненской губернии” (да 1915 г. выданы каля 150 найменняў кніг, болей 200 друкаваных адзінак; выходзілі працы, прысвечаныя беларускай этнаграфіі, фальклору, нотныя выданні, кнігі па краязнаўстве).

Адкрыта школа ўзаемнага навучання па метаду Дж. Ланкастэра.

4 жніўня. Губернатар Андржэйкавіч праз паліцмайстара Высочына аб’явіў правілы ўтрымання вуліц у гарадах і вёсках – усяго 96 параграфаў. Рамонт вуліц і рамонт мастоў ажыццяўляе Упраўленне галоўных камунікацый, за чысціню насупраць дома, будынка ці саду адказваюць жыхары (збіраюць смецце, гной, снег, кожную сераду і суботу падмятаюць, вычышчаюць канал, каб не застойвалася вада, пасыпаюць паміж ім і забудовай пясок, у добрым стане трымаюць масток праз канал). Участак вуліц, дзе няма гаспадароў, робяць жыхары сумесна.

## 1821 г.

Жнівень. Пачало дзейнічаць Гродзенскае дабрачыннае таварыства. Яно збірала і размеркоўвала вопраткі сярод бедных, арганізоўвала харчаванне і прадастаўляла жылле для немаёмасных, выдавала грашовую дапамогу, размеркоўвала бедных хворых у шпіталях і пакупала ім лекі, размяшчала дзяцей-сірот у прытулкі.

## 1822 г.

Даведка: у Гродне 127 гандлёвых лавак.

Усталявана гродзенская канцылярыя грамадзянскіх спраў цэсарэвіча Канстанціна, галоўнакамандуючага Літоўскім асобным корпусам.

## 1823 г.

22 сакавіка. Прадпісанне віленскага ваеннага губернатара гродзенскаму губернатору аб забароне жыхарам Гродзенскай і Віленскай губерняў вучыцца ў еўрапейскіх універсітэтах.

## 1824 г.

Пачынаецца будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыць Нёман з Віслай (будаўніцтва скончыцца ў 1839 г.).

11 лістапада. Губернатарам стаў М.Т. Бабяцінскі (да 26.08.1831 г.).

## 1825 г.

Дзейнасць тайнага таварыства "Вайсковыя сябры" ў Літоўскім асобным корпусе, размеркаваным у Гродзенскай губерні. Выступленне таварыства адбудзецца ў Бранску пад Беластокам 16 снежня.

Даведка: колькасць жыхароў горада: мужчын – 5642, жанчын – 4323; колькасць дамоў: каменных – 104, драўляных – 798, цэркваў – 12, манастыроў – 8, навучальных устаноў – 5, заводаў і фабрык – 13, лавак – 6, лазняў – 4, садоў – 17, піцейных дамоў – 100, тракціраў – 3.

Ляхніцкі І.Э. правёў геалагічнае даследаванне ад Гродна ўздоўж Нёмана да межаў Курляндыі і Прусіі.

## 1826 г.

Да следства па справе аб прыналежнасці да дзекабрысцкага таварыства "Вайсковыя сябры" прыцягваецца гродзенскі адвакат Я. Сержпутоўскі.

## 1827 г.

Усталёўваецца Гродзенскае губернскае ўпраўленне земляробства і дзяржаўных маёмасцей.

22 мая. З гэтага дня ў брыгіцкім кляштары па справе "Вайсковых сяброў" сядзяць сёстры кіраўніка таварыства, былога філамата Міхала Рукевіча – Карнелія (да пачатку снежня, не раней 6.12.1827) і Ксаверыя (да 3.06.1828).

## 1828 г.

Нарадзілася скрыпачка Тэафілія (Багуміла) Юзафовіч.

## 1830 г.

Ліквідуецца гродзенская канцылярыя грамадзянскіх спраў цэсарэвіча Канстанціна.

15 верасня. Адкрыццё Гродзенскай публічнай бібліятэкі. Бібліятэкар – ксёндз К. Зялёнка, з кастрычніка 1831 г. – архіварыус Ф. Красоўскі.

13 снежня. Гродзенская губерня і Беластоцкая вобласць аб'яўляюцца на ваенным становішчы з падпарадкаваннем галоўнакамандуючаму рускай арміі графу І.І. Дзібічу-Забалканскаму. У горадзе з'яўляюцца атрады казакоў для падтрымання парадку.

## 1831 г.

10 студзеня. У Гродне знаходзіцца штаб-кватэра І.І. Дзібіча-Забалканскага (да 11.02.1931 г.). У час вайсковых дзеянняў у горадзе размеркаваны харчовы магазін, артылерыйскі парк 1-га корпуса, лятучы артылерыйскі парк, лабараторная рота № 2, два мясцовыя артылерыйскія паркі, шпіталь на 1 200 хворых. На працягу ўсяго хода баявых дзеянняў у горадзе знаходзіліся мясцовы гарнізон, штаб 24-й пяхотнай дывізіі, 3-я брыгада 5-й пяхотнай дывізіі.

27 студзеня. Канцовая дата канцэнтрацыі рускіх войск паміж Гродна, Беластокам і Брэстам для пераходу праз мяжу Каралеўства Польскага.

5–6 лютага. Руская армія перайшла мяжу, і пачалася руска-польская вайна (пагром паўстання).

26 жніўня (14.08 па ст. ст.). Гродзенскім губернатарам кароткачасова быў Георгі Ільіч Бажанаў (да 24.08./05.09.1831 г.).

5 верасня. Гродзенскім губернатарам стаў М.Н. Мураўёў (да 12/24.01.1835 г.).

8 снежня. У Гродне пачынае працу следчая камісія "для вызначэння ступені віны мяцежнікаў, секвестра і канфіскацыі іх маёнткаў" (да 11.12.1834). Старшыня камісіі – генерал-лейтэнант Ляховіч.

З указа Мікалая І Сенату пра пакаранне ўдзельнікаў паўстання 1831 г.

*(1831 г. марта 22)*

*...Тем с большим прискорбием получили мы ныне сведения, что горсть людей неблагодарных, недостойных имени дворянского, забыв Долг при-*

*сяги и недавний еще новый обет верности, дерзнула нарушить спокойствие Виленской губ. в уездах Тельшевском, Шавельском и Россиенском; но с твердостью решили мы исполнить над ними пример заслуженного наказания, который остановит, мы уповаем, колеблющихся и возвратит заблудших к обязанностям долга и присяги. Мы повелеваем:*

*1. Всех дворян или шляхту, принявших участие в сем бунте и которые вооруженною рукою противустанут законной власти, судить военным судом по Полевому уголовному уложению, и приговоры суда исполнять над ними на месте, с утверждения отдельного отрядного начальника.*

*2. Недвижимые имения сих преступников брать в казну, обращая доходы с оных на приращение инвалидного капитала.*

*3. О всех мужского пола детях дворян или шляхтичей, за преступление, в 1-м пункте означенное, наказанных, входить к нам с особым представлением; детей же, именующихся шляхтичами, но никаких доказательств на сие звание не имеющих, брать в военные кантонисты.*

*4. Людей низшего звания, кои, участвуя в сих беспокойствах, будут взяты с оружием в руках, к какой бы кто ни принадлежал губернии, отдавать в рекруты и отсылать на службу в сибирские линейные батальоны.*

*5. Детей мужского пола сих же людей отдавать в военные кантонисты.*

*6. Всех тех, кои изобличены будут в убийствах, в продолжение бунта учиненных, судить военным же судом по Полевому уголовному уложению.*

*7. Кто из простолюдинов, завлеченных в толпу бунтовщиков волею помещика или угрозами, бросит оружие и возвратится в дом свой, того прощать.*

*О Всем вышеизложенном Правительствующий сенат не оставит учинить немедленно надлежащее исполнение.*

**1832 г.**

Згарэў шпіталь пры францысканскім кляштары.

Зноў пабудаваны з гарад-

скіх сум за 31 000 руб. асігнацыямі мост і паром праз Нёман (злучаў горад з Фарштатам; архітэктар Якуб Фардон).

Дазвол на тэатральную дзейнасць у Гродне атрымаў віцебскі дваранін, акцёр Вікенці Вяржбіцкі. Аснову рэпертуара складалі рамантычныя творы Мальера, Шэкспіра, Фрэдры. Трупа працавала ў Гродне і ў 1833 г.

Студзень. Працуе камісія для допытаў асоб, якія прымалі ўдзел у паўстанні 1831 г. (старшыня Батвінка).

## 1833 г.

За ўдзел манахаў у Лістападаўскім паўстанні ліквідаваны дамініканскі кляштар.

Сакавік – май. Экспедыцыя Юзафа Заліўскага і Міхала Валовіча – эмісараў польскай эміграцыі ў Францыі.

Май – чэрвень. Выступленні вучняў Гродзенскай дамініканскай гімназіі (разбілі вокны ў кватэры старшыні казённай палаты). Арышты вучняў і выкладчыкаў гімназіі.

11–21 чэрвеня ішло следства па справе Валовіча і іншых удзельнікаў экспедыцыі ў Гродзенскай губерні.

2 жніўня. Пакаранне смерцю М. Валовіча (каля парахавога склада за Скідзельскай заставай) у Гродне. Недзе паблізу быў пахаваны ў яме і засыпаны вапнай, каб цела хутка разлажылася.

## 1834 г.

18 красавіка. Ліквідацыя дамініканскай гімназіі і ўтварэнне мужчынскай свецкай губернскай гімназіі з падрыхтоўчым вучылішчам і шляхецкім пансіёнам (заснавальнік Р.І. Карташэўскі).

6 жніўня. Міністр народнай адукацыі дазваляе гродзенскаму губернатару адкрыць у Гродне публічную бібліятэку. *“МВД, принимая в уважение пользу, которая может произойти от заведения в губерниях публичных библиотек для чтения, от 5 июля 1830 г. и 8 апреля 1832 г. относилось к г-дам гражданским губернаторам о сообщении по предварительному совещанию с г-ми губернскими предводителями дворянства, директорами гимназий и вообще всеми любителями науки, литерату-*

*ры и искусства, мнение их о средствах для приведения сего в действие.*

*Ныне по поступлении, согласно высочайшему е.и.в. повелению, губернских публичных библиотек для чтения в ведение Министерства народного просвещения и по передаче на сей конец в оное бывшего по МВД о них производства усмотрел я, что об открытии таковой библиотеки в Гродно, согласно с представлениями в.п. и бывшего гражданского губернатора, не было со стороны сего последнего министерства сделано надлежащего распоряжения. Сообразив помянутые представления и полагая, что хотя при имеющихся доселе способах не представляется возможности приступить к прочному заведению в Гродно публичной библиотеки, вполне соответствующей своему предназначению; но как, с одной стороны, предварительные к тому распоряжения вами уже учинены и можно ожидать некоторой части той пользы, которой правительство надеется достигнуть со временем; с другой же, имея в виду, что при одинаковых почти способах в большей части губернских городов России библиотеки усердием и пожертвованиями просвещенного класса жителей и попечительном содействии местного гражданского начальства уже открыты или предназначены в скором времени к открытию. Я представляю усмотрению в.п. открыть библиотеку ныне же в гор. Гродно на следующих основаниях, применяясь, впрочем, к местным обстоятельствам:*

*По ограниченности книг, имеющих войти в состав библиотеки, оную можно поместить сообразно с удобностью в домах: депутатского собрания, приказа общественного призрения или градского общества; так сие разрешено уже МВД по другим губерниям, отделив для того 1 или 2 комнаты с возложением обязанности библиотекаря на одного из чиновников, в местах сих служащих, по добровольному его согласию.*

*Впрочем, если встретится возможность к лучшему устройству сего иным обра-*

*зом, то сие может быть допущено без всякого затруднения.*

*Поступившие, а равно поступить могущие от добровольных приношений деньги употреблять преимущественнее перед прочими расходами на покупку нужнейших книг для библиотеки, имея при сем случае в виду не столько количество, сколько достоинство оных.*

*Согласно высочайшей воле, чтобы каталоги книг, находящихся в публичных библиотеках, были рассматриваемы во вверенном мне министерстве, надлежит доставить ко мне таковой немедленно по Гродненской библиотеке с разделением оного на 2 части: русских и иностранных книг, исполняя сие и впредь при всяком новом приобретении.*

*Время для посещения библиотеки назначить, смотря по удобности, но так, чтобы и служащие чиновники могли, по крайней мере, иногда, (в) свободные от занятий часы, посвящать в оной чтению. Следовательно, чтобы библиотека сия открыта была для публики ежедневно, кроме воскресных и табельных дней, или буде сего решительно сделать невозможно, по крайней мере, 3 или 4 раза в неделю и не менее как по 4 часа в день.*

*Вход в библиотеку в назначенное время дозволять всякому (исключая лиц в неприличном виде и одеянии) без затруднения и без предварительной выдачи на сие билетов.*

*Дозволять желающим брать книги и на дом, но с обеспечением целости оных залогом и со взысканием за сие некоторого количества денег, кои обращать в пользу библиотеки.*

*Испытать, не согласятся ли некоторые любители чтения подписаться на русские и иностранные газеты и другие периодические издания с такими условиями, чтобы оные поступали в библиотеку для всеобщего употребления по прочтении их подписавшимися.*

*8) Как сие заведение, особенно в начале своем, требует беспрестанного попечения и распространение оного большей частью зависит от деятельного участия лиц, первенствующих в губернии, то было бы весьма полезно, если б сверх избранных на основании пред-*

*ложения МВД от 14 апреля 1832 г. г-д попечителей в.п. обще с г-ном губернским предводителем дворянства, к коему я вместе с сим отношусь, приняли главное заведывание библиотекой по примеру как сие сделано в других губерниях. Составленный таким образом под председательством вашим из г-д губернского предводителя и попечителей комитет будет иметь попечение о библиотеке, изыскивать средства к увеличению ее и проводить оное в исполнение, приглашая в потребных случаях в свои собрания для совещаний директора гимназии, городского голову и других почетных особ, преимущественно известных любовью к наукам и словесности.*

*9) Лица, принявшие на себя звание попечителей и библиотекарей, не должны считаться в государственной службе, и жалование библиотекаря должно производить в таком только случае, когда они будут иметь в том необходимую нужду и способы библиотеки сие дозволят.*

*10) По окончании года в.п. не оставите сообщить Министерству народного просвещения подробные сведения о состоянии публичной библиотеки, числе читателей и прочее, прочее для представления государю императору.*

*Я не сомневаюсь, что в.п. по собственному убеждению в пользе заведения и распространения публичных библиотек не оставите принять все зависящие от вас меры к постепенному усовершенствованию той, которая вашим старанием должна быть устроена и открыта, а вместе с тем не замедлите доставить мне проект положения, на основании коего оная имеет быть учреждена и управляема. К сему нужным считаю присовокупить, что приносимые некоторыми обществами и сочинителями в дар сей библиотеки книги и журналы я буду иметь честь препровождать вам, милостивый государь, по мере как оные будут мне доставляемы; по получении от вас уведомления об открытии Гродненской библиотеки распоряжусь доставлением для нее некоторых полезных сочинений из императорских академий наук и*

*Российской, также из книжного магазина Департамента народного просвещения.*

*Министр народного просвещения Сергей Уваров* (БЭФ, т. 4, с. 347–350).

16 жніўня. Афіцыйнае адкрыццё губернскай гімназіі.

16 мая. Постановление Гродненской губернской строительной комиссии об устройстве гимназии в гор. Гродно в здании упраздненного доминиканского монастыря

*По предложению в. с. г-на виленского военного губернатора и генерал-губернатора гродненского, белостокского и минского об упразднении гродненского доминиканского монастыря за обнаруженное участие монахов оного в злонамеренных замыслах преступников, возвратившихся из-за границы, и о передаче монастырских зданий в учебное ведомство для помещения светской гимназии и пансиона государю императору благоугодно было высочайше повелеть: упразднив доминиканскую обитель в Гродно, здания оной обратить для учреждения предполагаемых учебных заведений, а фундуш сего монастыря причислить к общему вспомогательному капиталу римско-католического духовенства; сумму же, равняющуюся доходу с сего фундуша, ассигновать из государственного казначейства на содержание и первоначальное устройство пансиона, вследствие чего и на основании предложения г-на генерал-губернатора г-н здешний гражданский губернатор во время бытности в Гродно попечителя Белорусского учебного округа входил в общее с ним по сему предмету суждение и соображение, по коему, предположив учредить в Гродно вместо упраздненной доминиканской гимназии таковую светскую и особо благородный пансион на 50 человек, с помещением оных в зданиях упраздненного монастыря, представили проект сей г-ну генерал-губернатору со всеми подробностями, планами и примерными сметами, по которым исчислено было:*

*а) на первоначальное устройство и обзаведение пансиона ассигнациями 63 171 руб. 61 коп.; в том числе: на переделку флигеля для помещения пан-*

*сиона 32 829 руб. 72 коп. и на построение новых деревянных больницы и бани, равно на починку прочих строений 18 400 руб.; а всего 51 229 руб. 72 коп., остальные же 11 941 руб. 89 коп. предполагались по особым примерным исчислениям на первоначальные обзаведения пансиона и больницы и б) на перестройку главного корпуса упраздненного монастыря для помещения гимназии с уездным для мещан училищем 41 731 руб. 6 коп.*

*Таковое предположение с проектом, планами и сметами е.с. г-н генерал-губернатор сообщил Министерству народного просвещения и вследствие того г-н управляющий сим министерством от 8 ноября 1833 г. уведомил его, г-на генерал-губернатора, что по сношению его с министром финансов предписано Гродненской казенной палате отпустить в распоряжение г-на здешнего гражданского губернатора исчисленные на переделку части зданий упраздненного доминиканского монастыря для помещения и первоначального обзаведения благородного пансиона и для больницы при оном 63 171 руб. 61 коп. ассигнациями; о чем е.с. предложением от 23-го числа того ж ноября, извещая г-на гражданского губернатора и возвращая примерную смету, по сему случаю здешним губернским архитектором составленную, поручил е.п. приступить к надлежащим распоряжениям для произведения упомянутой перестройки и приготовления нужных к первоначальному обзаведению пансиона вещей, и к которому времени будет все сие готово, уведомить его, г-на генерал-губернатора; отчет же в отпущенной сумме препроводить непосредственно к г-ну управляющему Министерством народного просвещения* (Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 4. С. 346–347).

## 1835 г.

24 студзеня. Гродзенскім губернатарам стаў М.Х. Копцеў (да 28.05.1836 г.).

13 снежня. У Гродне нарадзіўся ўсходазнавец У.Ф. Гіргас.

## 1836 г.

28 мая. Гродзенскім губернатарам стаў Г. Дапельмаер (да 19.11/01.12.1842 г.).

## 1837 г.

Даведка: насельніцтва Гродна: мужчын – 11 267, жанчын – 7 238, мастоў каменных – 2, драўляных – 6, вуліц – 43 (з іх брукаваных камнем – 28), плошчаў – 4 (з іх брукаваных камнем – 2), могілак – 5, цэркваў, часовен, манастыроў і інш. – 18, тракціраў і гасцінных двароў – 8, піцейных дамоў – 251.

Згодна указу Мікалая I аб перадачы ў Пецярбургскую Археаграфічную Камісію з беларускіх бібліятэк і архіваў старажытных грамат і “столбцов”, з Гродзенскага гарадскога магістрата забраны старажытныя акты.

З “Матэр’ялаў да крыўскае гісторапісі” А. Шлюбскага:

*“Гарадзенскі губернатар даставіў у С.-Пецярбургскую Археографічную Камісію стародаўнія дакуманты на маскоўскай (?), польскай, лацінскай і францускай мовах з канфіскаванага двору Дзярэчын князёў Сапегаў; бібліятэка і другая частка архіву паступіла ў С.-Пецярбургскую Публічную бібітэку, рэшта была адпраўлена ў Горадню, паводле У.С. Іконнікава, у 1858 (а паводле А.М. Мілавідава ў 1857 г.) была перададзена Віленскай Публічнай бібліятэцы. Перавезены ў Горадню архіў быў зьмешчаны ў Палацы Дзяржаўных Маёмасцяў, дзе быў разрабаваны спекулянтамі”.*

Адкрыта Гродзенская акруговая лячэбніца на 50 ложкаў.

У горадзе пасяліўся мастак Міхаіл Кулеша. Жыў тут да 1844 г. уключна.

7 студзеня. Пастанова гродзенскага губернскага праўлення аб выданні “Гродненских губернских ведомостей” (гл. “Белоруссия в эпоху феодализма . Т. 4. С. 350–353).

Сакавік. У выніку “сильного поднятия дождя” адбылася паводка, якая разбурыла губернатарскі мост і берагавыя ўмацаванні.

## 1838 г.

Гродзенская губернская друкарня пачынае выдаваць газету “Гродненские губернские ведомости”.

Пачынае працу гродзенская тыпа-літаграфія (да 1914 г.). У 1898–1903 гг. належала губернскаму праўленню.

Гродзенскую гімназію наведаў міністр народнай адукацыі С.С. Уватаў у суправаджэнні генерал-губернатара князя Ю.А. Далгарукава.

## 1839 г.

Даведка: на хлебных таргах і рынках горада прадаецца азімага і яравога хлеба болей 100 тысяч пудоў; праз гродзенскую прыстань у Кёнігсберг, Юрбург і Коўна адпраўлена пшаніцы, збожжа, ячменя, льнянога семя, солі, гароху, аўса на суму болей 0,5 млн рублей; налічваецца 177 гільдзейскіх купцоў з капіталам у 775 тыс. руб.

Заснавана метэаралагічная станцыя (з 1894 г. працуе па праграме 2-га разрада).

У базыліянскай царкве агалошаны акт аб'яднання ўніятаў з праваслаўнымі.

Настаўнікам малюнку (да 1844) у гродзенскай гімназіі працуе Міхал Кулеша.

12 (24) верасня. Высачайша зацверджана палажэнне Камітэта міністраў аб адкрыцці асобага 4-класнага аддзялення гімназіі ў Гродне.

## 1840 г.

У заходняй сцяне Барысаглебскай царквы з'явілася расколіна.

25 чэрвеня. Было спынена дзеянне Статута ВКЛ 1588 г. у Гарадзенскай, Віленскай і Менскай губернях.

20–23 ліпеня над горадам адбываецца незвычайна жорсткая бура з моцным праліўным дажджом. Разбураны 4 драўляныя масты на р. Гараднічанцы і трохарачны каменны мост, які існаваў 70 год і злучаў горад з Гарадніцай.

30 ліпеня. Мікалай I загадвае называць і пісаць Літоўска-Гродзенскую губерню Г р о д н е н с к о й (каб яшчэ болей падкрэсліць яе сувязь з Расіяй).

## 1841 г.

У Гродне жыве былы філамат, паэт Тамаш Зан, які праводзіць разам з памочнікам кантралёра Гродзенскай казённай палаты Б. Калясінскім геалагічныя даследаванні ў даліне Нёмана.

18 чэрвеня. У Грод-

не нарадзіўся гісторык Я.Е. Замыслоўскі.

## 1842 г.

У горадзе ўпершыню пастаўлена опера С. Манюшкі “Loteria” / “Лотерея”.

Настаяцель Барысаглебскай царквы даносіў епархіяльнаму кіраўніцтву аб пашырэнні расколін у сценах храма, таму што “гора от дождя и ключей обваливается”.

15 лістапада. Праездам з Масквы горад наведалі іспанскія танцоўшчыкі Каралеўскага тэатра ў Мадрыдзе Камрубі і Мануэлі. Яны далі адно прадстаўленне, у якім паказалі нумары Фанданга і Хітану.

## 1843 г.

Зачынены баніфратарскі кляштар.

Даведка: у Гродна 992 дамы, з іх 145 мураваных.

Сакавік. У горадзе пачала гастраляваць тэатральная трупа Карла Шмідгафа “Кампанія акцёраў драматычных”.

18 (30) снежня. Імянны ўказ, дадзены Сенату, “Аб пераўтварэнні Паўночна-Заходніх губерняў”. Адпаведна яму Гродна застаўся губернскім горадам, але тэрыторыя губерні страціла Лідскі, Навагрудскі ўезды, атрымала ўзамен 3 уезды са скасаванай Беластоцкай вобласці: Беластоцкі, Бельскі, Сакольскі.

## 1844 г.

Пачаў выходзіць часопіс “Ondyna Druskienickich zródeł ” (“Ундзіна друскеніцкіх крыніц”). 24 нумары былі надрукаваны ў Гродзенскай губернскай друкарні (да 1846 г.). Выходзіла падчас курортнага сезона ў красавіку – снежні. Выдавец – урач К. Вольфганг.

8 жніўня. Гродзенскім губернатарам прызначаны Ф.І. Васькоў (да 29.03.1848 г.).

## 1845 г.

Узнікненне рускага геаграфічнага таварыства (з гродзенскім аддзяленнем).

Значны пад’ём вады ў Нёмане падмыў край Каложскага ўзвышша. У паўднёвай і заходняй сценах царквы паглыбіліся старыя і з’явіліся новыя расколіны. Служба ў царкве спынілася.

Зачынены кармеліцкі касцёл.

28 кастрычніка. У Гродне нарадзіўся фізік Зыгмунт Урублеўскі.

Лістапад. На базе трупы Станіслава Навакоўскага быў створаны руска-польскі тэатр, які атрымаў манапольнае права на выступленні ў гарадах Гродзенскай губерні. Праіснаваў да 1863 г.

## 1846 г.

Адкрыццё прыходскага вучылішча пры евангелічна-лютэранскай царкве.

Пачалося будаўніцтва (да 1848 г.) на праваслаўных могілках царквы прападобнай Марфы.

## 1847 г.

Выйшла першая "Памятная книжка Гродненской губернии". Выдавалася гродзенскім губернскім статыстычным камітэтам у гродзенскай губернскай друкарні. Усяго апублікавана 58 кніжак (1847–1848, 1857–1861, 1864–1867, 1869–1915). Акрамя статыстычных, даведачных, гістарычных звестак друкаваліся працы гродзенскіх вучоных і краязнаўцаў: Я.Ф. Арлоўскага, П.В. Баброўскага, А.Л. Вышаслаўцава, М.А. Дзмітрыева, А.Э. Штрыцера.

Упершыню ў Гродна прыехала 7-гадовая Эліза Паўлоўская – будучая пісьменніца Эліза Ажэшка. Адсюль на вясну 1850 г. выехала ў Вільню.

## 1848 г.

Даведка: у горадзе адзін скураны, 4 свечныя, 4 цагляныя прадпрыемствы, 3 тытунёвыя фабрыкі.

Заснавана брацтва Св. Антонія Падуанскага пры францішканскім кляштары.

У Гродне пастаяннае месцазнаходжанне мае вікарый Літоўскай епархіі (епіскап Брэсцкі і Гродзенскі).

3 лютага. У Гродне нарадзіўся Урублеўскі (Ураблеўскі) Эдвард Вінцэнт, хімік-арганік, асістэнт Д. Мендзялеева, прафесар Тэхналагічнага ўніверсітэта ў Санкт-Пецярбургу.

27 сакавіка. Трывожны стан у Гродне; горад і губерня напоўнены царскімі войскамі.

29 сакавіка. Гродзенскім губернатарам прызначаны Х.Х. фон дэр Ховен (да 15.05.1856 г.).

## 1849 г.

У Гродне адкрываецца казённае яўрэйскае вучылішча.

Спыніў існаванне кляштар кармелітаў босых.

24 чэрвеня. Штабс-афіцэр Корпуса жандараў падпалкоўнік Прасолаў паведамляе губернатара аб атрыманні даноса, у якім называліся прозвішчы жыхароў губерні, якія збіраліся выехаць у Венгрыю, дзе адбывалася паўстанне. Між імі было прозвішча вучня гродзенскай гімназіі Казіміра Мікульскага, якога памешчыца Шэмет угаворвала адправіцца за мяжу за яе кошт. Паліцмайстар правёў дазнанне і далажыў губернатару, што данос аб Мікульскім “не спраўдзіўся”.

## 1851–1852 гг.

У Гродзенскай мужчынскай гімназіі вучыцца брат К. Каліноўскага – Віктар.

## 1852 г.

Адкрыццё дзявочага прыватнага пансіяната Вайтушкі.

Адкрыта прыватнае яўрэйскае вучылішча М.А. Астрагорскага, жаночая яўрэйская пачатковая аднакласная школа.

21 верасня. Адкрыццё з дазволу Міністэрства народнай адукацыі жаночай яўрэйскай гімназіі.

## 1853 г.

У Гродна з Супрасля пераведзена ўезднае духоўнае праваслаўнае вучылішча.

Скасаваны кляштар бернардынак.

13 красавіка. Незвычайнае разліццё Нёмана зносіць у раку паўднёвую сцяну Барысаглебскай царквы, частку заходняй сцяны і акустычную столь.

## 1854–1880 гг.

Пасля заканчэння курса ў Санкт-Пецярбургскай мастацкай акадэміі ў Гродне жыве і працуе мастак П.А. Зяньковіч.

## 1855 г.

10 чэрвеня. Пажар у Гродне: згарэла каля 415 жылых дамоў, 363 халодныя пабудовы. Страты на суму 384 тыс. 723 руб. рухомай маёмасці і 1 млн 831 тыс. 240 руб. нерухомай маёмасці. У Гродне ў гэты час было 25 пажарных,

якія мелі 10 коней, 15 бочак, 1 лесвіцу, 30 вёдзер. Казна выдзеліла 3 тыс. 100 руб. на ліквідацыю вынікаў пажару.

### 1856 г.

Даведка: насельніцтва Гродна 18 386 чалавек.

16 мая. Гродзенскім губернатарам прызначаны І.А. Шпеер (да 01.10.1861г.).

Канец мая. У гродзенскі турэмны замак пасадзілі мастака і музыку, грамадскага дзеяча Напалеона Орду. Тут ён будзе знаходзіцца да 11.06.1867 г.

28 лістапада (10 снежня). Сенацкі ўказ, які дазволіў жыхарам Гродна адбываць рэкруцкую павіннасць грашыма.

### 1857 г.

Пачата забудова Гродна ў раёне Гарадніцы, так званага Новага Свету.

У Румлёва, маёнтку сваёй маці Ф. Відацкай, правяла лета Ажэшка.

### 1858 г.

Гродзенскай палатай дзяржаўных маёмасцей кіруе былы дзекабрыст А.Л. Кажэўнікаў (да 1862).

Гродзенская губернская друкарня пачынае выдаваць “Адрес-календарь и справочную книжку Гродненской губернии”.

11 студзеня. У бернардынскім касцёле адбыўся шлюб Элізы з Пятром Ажэшка.

### 1859 г.

Даведка: у Гродне 24 купцы з капіталам 99 600 руб. сер., 244 лаўкі, базары – 3 разы на тыдзень. 2 бойні, 1 кірмаш (25 чэрвеня – 25 ліпеня); 18 313 жыхароў (без рэгулярных войск); 190 мураваных і 1 381 драўляны жылы дом, 19 пастаялых двароў, 5 заводаў свечных, 5 цагляных, 1 сігарэтная фабрыка, 5 бровараў, 2 касцяныя заводы, 2 млыны, 2 шынкі, 2 кандытарскія, 3 аптэкі, 4 лазні, 545 рамеснікаў, 13 лекараў, 9 бабак-павітух , 18 цырульнікаў, 14 акцёраў, 12 музыкантаў, 34 публічныя жанчыны; 607 вучняў (435 хлопчыаў, 172 дзяўчынкі), якія навучаюцца ў губернскай гімназіі з падрыхтоўчым класам,

шляхецкім мужскім пансіёне, прыходскім вучылішчы пры евангелічна-лютэранскім брацтве, уездным духоўным вучылішчы, казённым яўрэйскім вучылішчы 2-га разрада, жаночай яўрэйскай школе; 3 кнігарні, 2 друкарні, публічная бібліятэка, карцінны кабінет ксяндза Гінтаўта, акруговая больніца з багадзельняй, дабрачыннае таварыства, тэатр і шляхецкі сход, 6 плошчаў і рынкаў, 41 вуліца, 15 перавулкаў, 16 хрыціянскіх храмаў, 2 сінагогі, 28 малітоўных дамоў, 10 лепшых садоў, 4 масты, 6 могілак, 60 амбараў, 395 хлявоў і стаен.

Пабудавана гродзенская акруговая бальніца.

Гродзенскі тэатр перабудоўваецца ў стылі класіцызму. З'яўляюцца прыбудова з боку парку і дзве невысокія вежы над галоўным уваходам, сцэны ўпрыгожваюцца пілястрамі і круглымі вокнамі.

Гастролі ў гродзенскім тэатры вядомага расійскага акцёра В. Далматава.

7 (19) студзеня. Імянны ўказ, паводле якога ў Гродне адкрывалася сямікласнае вучылішча для "приходящих девиц". Начальнік вучылішча – А.П. Вінаградаў, галоўная наглядальніца – Загуроўская. *"Па саслоўях дзявіцы падзяляюцца наступным чынам: дочак патомных дваран 39, дочак асабістых дваран 14, дочак духоўных асоб 3, дочак купцоў 1, дочак мяшчан 2... Гадавая аплата за навучэнне абавязковым прадметам – 15 руб. з дзявіцы, а за навучанне французскай і нямецкай мовам і танцам па 3 руб., музыцы па дамове з бацькамі, не звыш аднак 50 кап. за ўрок... Асабісты склад вучылішча наступны: начальнік вучылішча 1, галоўная наглядальніца 1, наглядальніц 2, выкладчыкаў і настаўніц навук і мастацтваў 17..."* (Журнал Міністэрства народнай адукацыі. – 1860. – Т. 2. CVI, май, отд. VII. – С. 103–104).

27 мая. У Гродне нарадзіўся скульптар І.Я. Гінцбург.

31 жніўня. Уладкавана тэлеграфічная станцыя. У 11 гадзін раніцы высланы дэпешы ў Варшаву, Санкт-Пецярбург, Вільню.

## 1860 г.

Па Дамініканскай (цяпер Савецкай) вуліцы пракладзены першы ў Беларусі водаправод.

Першыя звесткі аб дзейнасці ў Гродне фотамайстэрні І.А. Штумана.

У гродзенскай друкарні выходзіць першае гістарычнае апісанне Гродна (складальнік Е.І. Радзішэўскі).

П. Кукальнік пра выгляд горада:

*“Гродно не имеет таких прекрасных окрестностей как Вильно. Одна только сторона его на берегу Немана величественна и живописна. Зато улицы шире, мостовая лучше, и многие здания построены в новом вкусе, составляют неоспоримо украшение города. В особенности заслуживает внимание улица, ведущая к губернаторскому дому и площадь, на которой он построен. Здания, занимаемые казённою палатою, городской больницею, домы губернатора, архирея и многие другие, не посрамили бы главных улиц самой столицы”* (П. Кукольник. Отрывки из поездки в Гродненскую губернию // Виленский вестник. – 1860. – № 73. – С. 1).

## 1861 г.

Даведка: насельніцтва Гродна – 20 241 чал. У горадзе 1 сігарная, 3 суконныя фабрыкі, 5 свечных, 4 цагельні, 252 гандлёвыя лаўкі.

Сакавік. Імшы ў гродзенскіх касцёлах па М. Арціхевічу, Ф. Адамкевічу, К. Брэндлю, М. Карчэўскаму, З. Руткоўскаму, забітых у Варшаве 27.02.1861 г. падчас дэманстрацыі, арганізаванай рэвалюцыйнымі гурткамі супраць нежадання землеробчага саюза пагадзіцца на сялянскую рэформу.

В.-К. Каліноўскі выехаў у Гродна з маёнтка бацькі ў Якушоўцы, дзе ён жыў пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта, каб стварыць канспіратыўны гурток. У яго ўваходзяць В. Урублеўскі, Э. Заблоцкі, Я. Зажыцкі, Я. Ванькові і інш.

20 сакавіка. Усталявана Гродзенскае губернскае па сялянскіх справах прысутнічанне (дзейнічае да 1903 г.).

24 ліпеня. Заведзена справа на Лебеля, Халецкага і Трускуляўскіх аб спяванні польскага гімна ў гродзенскім фарным касцёле.

23 жніўня. Прадпісанне генерал-губернатара У.І. Назімава віленскаму, ковенскаму і гродзенскаму губернатарам аб прыняцці надзвычайных мер для барацьбы з вызвольным рухам. У Гродна перасоўваецца лёгкая 5-я батарэя 3-й палявой артылерыйскай брыгады з Ваўкавыска.

26 жніўня. Буйная рэлігіёзна-палітычная дэманстрацыя ў Гродне, узначаленая ксяндзом Ю. Маеўскім.

27 жніўня. Аб'ява гродзенскага паліцмайстра У.У. Змеева аб забароне спеваў польскіх патрыятычных гімнаў і маніфестацый і аб арганізацыі на заставах вайсковых караулаў.

3 верасня. Гродна і губерня абвешчаны на ваенным становішчы (да 28 кастрычніка 1862 г.).

11 верасня адкрыццё Гродзенскай тэлеграфнай станцыі.

1 кастрычніка. Гродзенскім губернатарам прызначаны А.М. Дрэнякін (да 04.04.1862 г.).

30 кастрычніка. У Гродне знойдзены заклік "Расійскім вайскоўцам", у якім асуджаны меры ўрада ў адносінах да Заходняга краю і гаворыцца, што ад вольнасці Польшчы залежыць і свабода Расіі.

У канцы 1861 г. у Літве і Беларусі (у тым ліку і ў Гродне) пабываў студэнт Я. Франкоўскі, дзе ён

*"везде непонятной деятельностью, самопожертвованием успел при самых незначительных сношениях сделать самое главное для будущей революции, т.е. предохранил молодежь не сдать дела в руки "белых", тогда в Литве еще не действующих, возбудил молодых людей в Литве действовать от них отдельно и подумать о сформировании заговора"* (з успамінаў О. Авейдэ).

## 1862 г.

Праз Гродна праходзіць чыгуначная дарога Санкт-Пецярбург – Варшава. Тут будуецца невялікая, 3-га класа станцыя.

Жаночае сямікласнае вучылішча пераўтворана ў гродзенскую жаночую гімназію.

19 сакавіка. Рапарт гродзенскага ўезднага вайсковага начальніка А.А. Чартова губернатару М.А. Дрэнякіну аб

знаходцы ў жаўнера К. Емяльянава ў Гродне пракламацыі “Что надо делать войску?”.

4 красавіка. Уступае на пасаду гродзенскага губернатара І.У. Галер (да 29.04.1863 г.).

Ліпень. Апублікаваны першы нумар “Мужыцкай праўды”.

24 чэрвеня. У Гродне на вуліцы знойдзена газета “Русская правда”.

Ліпень. Згодна даносу Ю. Бернацкага віленскаму паліцмайстару А.С. Васільеву ад 22 ліпеня (датаваны 10 ліпеня па ст. ст.), у Гродне існуе аддзел віленскага камітэта “белых”.

17 ліпеня. Пададзена прашэнне А.Гардона і Л. Шарашэўскага аб адкрыцці тытунёвай фабрыкі, якая будзе вырабляць курыцельны і нюхацельны тытунь, папіросы, сігарэты і махорку.

Канец жніўня. Выйшаў другі нумар “Мужыцкай праўды”.

Не пазней за 18 кастрычніка. Выдадзены трэці нумар “Мужыцкай праўды”.

28 кастрычніка. Знята ваеннае становішча.

8 лістапада. У канцылярыі гродзенскага губернатара пачата “секретное дело о дворянине В.-К. Калиновском, распространявшем возмутительные брошюры между крестьянами”. Каліноўскі пераходзіць на нелегальны стан.

Не пазней за 9 лістапада. Выдана “Мужыцкая праўда” № 4.

*“Некоторые из служащих Гродно и Вильно чиновников, между коими имеют состоящего в гродненском приказе общественного призрения губернского секретаря А. Блажеевского, распуская слухи о том, что в январе или феврале месяце в Царстве Польском одновременно с западными губерниями вспыхнет революция, распространяют в народе воззвания и какое-то послание от имени католического духовенства в Варшаве... Жертвуют даже из жалования 2 % на покупку оружия”* (з рапарта начальніка штаба корпуса жандараў А.Е. Цімашава У.І. Назімаву ад 13 лістапада 1862 г. ст. ст.).

Снежань. Выданы пяты нумар “Мужыцкай праўды”.

**1863 г.**

У Санкт-Пецярбургу апу-

блікавана двухтомная (з двума тамамі дадаткаў) праца П.В. Баброўскага “Материалы для географии и статистики Российской империи, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния”, у якой Гродна і Гродзеншчына характарызуюцца як “Еўрапейская брама, праз якую са старажытных часоў праходзілі розныя народы, дзе сустракаліся розныя элементы Заходняй Еўропы з элементам рускім Усходняй Еўропы”.

Студзень. Кіраўніцтва партыі “белых” у Вільна беспаспяхова спрабуе перадаць Гродзенскую губерню пад упраўленне варшаўскага камітэта. В.-К. Каліноўскі і В. Урублеўскі ствараюць гродзенскі рэвалюцыйны камітэт партыі “чырвоных”, якая аб’яднноўвае пяць уездаў. Сябрамі яго становяцца Б. Заблоцкі, Я. Ваньковіч, С. Сангін, Я. Казлоўскі, Ф. Ражанскі, А. Гінтаўт, Я. Зажыцкі. Камісію апекі ў складзе жаночанага камітэта ўзначаліла Э. Ажэшка. Гродзенская губерня падзялялася на два ваяводствы: паўночнае – Гродзенскае і паўднёвае – Брэсцкае. Вайсковым кіраўніком стаў В. Урублеўскі, паўстанцкім грамадзянскім кіраўніком Гродзенскага ваяводства і намеснікам В.-К. Каліноўскага – Б. Заблоцкі, яго сакратаром – І. Мілевіч, брэсцкім ваяводам – памешчык Брэсцкага ўезда А. Гофмайстар. Паўстанцкім начальнікам Гродна стаў штатны ўрач шляхетнага пансіёна пры гродзенскай губерні Ц. Цеханоўскі. Сябры камітэта часта збіраліся на кватэры І. Мілевіча ў доме купца Л. Фукса па вул. Дамініканскай (цяпер Савецкая, 7).

Выдадзена “Мужыцкая праўда” № 6.

26 студзеня. Усталяванне гродзенскай губернскай вайскова-следчай камісіі па палітычных справах (рэскрыптам Аляксандра ІІІ, датаваным 14 студзеня ст. ст).

Аднаўляецца ваенны стан. Вайсковым начальнікам Гродна прызначаны палкоўнік Вернер.

Сакавік. Пасля вялікага перапынку адкрываецца гродзенская публічная бібліятэка (у 1876 г. выпрацаваны праект яе статута; з 1877 г. яна атрымоўвае штогадовую ўрадавую

субсідыю ў памеры 800 руб.; у 1891 г. сяброў бібліятэкі 42 чалавекі, тых, хто меў месячныя абанементы – 687, пабочных асоб – 2 665; на 1 студзеня 1892 г. кніг і перыёдыкі – 6 719 тамоў).

Пры гродзенскай гімназіі адкрываюцца 2 прыходскія вучылішчы з двума аддзяленнямі кожнае.

9 сакавіка. Тэлеграма У.І. Назімаву гродзенскага губернатара І.У. Галера: “В Гродно спокойно”.

14 сакавіка. Група рэвалюцыйнай моладзі (да 150 чалавек) на чале з начальнікам станцыі Л. Кульчыцкім спрабуе выехаць на цягніку з Гродна, каб далучыцца да атрада Л. Нарбута. Аднак машыніст Вінтэр з памочнікам Якімовічам адчапілі паравоз і таварныя вагоны з паўстанцамі (у асноўным гімназістамі і чыноўнікамі прысутных месцаў), якія ў выніку гэтага засталіся ў горадзе. На паравозе з начальнікам станцыі выехала не болей за 15 чалавек. Яны забралі з сабой каля 10 000 рублей, якія належалі таварыству чыгункі. Горад быў хутка акружаны паліцыяй і войскам, і на працягу ночы было арыштавана каля 50 падазроных асоб.

16 сакавіка. Паўстанцы, якія сабраліся каля Парэчча, мелі намер напасці на Гродна.

“Намерение напасть на Гродно было со вчерашнего дня так гласно, что я был извещен об этом земской полицией” (з данясення Галера Назімаву ад 05.03.1863 г. ст. ст).

20 сакавіка. Усталяванне гродзенскага губернскага па сялянскіх справах прысутнічання.

22 сакавіка. Дадзены афіцыйны дазвол І.Г. Запольскаму-Доўнару адкрыць фотамайстэрню.

Канец сакавіка. В.-К. Каліноўскі стаў поўнамоцным рэвалюцыйным камісарам Гродзенскага ваяводства (да пачатку чэрвеня, месца яго знаходжання – г. Беласток). Складае інструкцыю для паўстанцкіх уездных камісараў Гродзенскага (рэвалюцыйнага) ваяводства.

29 красавіка. Царскі ўказ аб прызначэнні гродзенскім губернатарам У.А. Бобрынскага (да 02.08.1863 г.).

Пасля 15 ліпеня (дата бітвы пад Мілавідамі.). В.-К. Каліноўскі праводзіць у Гродне нараду, прымае ад сваіх падначаленых рапарты, робіць новыя прызначэнні, дае ўказанні.

Ліпень. Выйшаў з друку сёмы (апошні) нумар “Мужыцкай праўды”.

Э. Заблоцкі стаў камісарам Гродзенскага ваяводства.

22 ліпеня. Гродзенскі губернатар, згодна прапанове віленскага генерал-губернатара, распараджаецца “о строжайшем запрещении женщинам носить траур, а мужчинам польские национальные костюмы или же другие революционные знаки”. Аб’ява аб гэтым апублікавана ў “Гродненских губернских ведомостях” і асобнымі адбіткамі.

2 жніўня. І.М. Скварцоў уступіў у пасаду губернатара (да 25.01.1868 г.).

11 жніўня. Адбываюцца вобыскі на кватэрах асоб, падазроных ва ўдзеле ў паўстанні. Арыштаваны Ц. Цеханоўскі. Паўстанцкім начальнікам Гродна стаў І. Руткоўскі.

10 верасня. Вобыскі ў 15 кватэрах жыхароў Гродна, падазроных ва ўдзеле ў паўстанні; арыштавана 10 чалавек, сярод каторых сябры гродзенскага гарадскога ўпраўлення (у тым ліку Р. Пятроўскі, А. Міхайлоўскі, С. Нагорскі). Вобыскі прайшлі таксама на кватэрах у Ф. Ягалкоўскага па вул. Дамініканскай (дом Фукса), сам ён арыштаваны; і асабліва старанны вобыск у Я. Сержпутоўскага (дом Лапіна). У выніку вобыскаў і арыштаў 6 чалавек саслана ў Пскоў.

Сярэдзіна верасня. Арыштаваны І. Руткоўскі. Паўстанцкім начальнікам Гродна стаў У.А. Жалкоўскі.

Кастрычнік. У Гродне шырока распаўсюджваюцца газеты і заклікі Цэнтральнага і Правінцыяльнага паўстанцкіх камітэтаў. Раптоўныя вобыскі ва ўстановах горада. Падчас вобыскаў знойдзены асобнікі газеты “Мужыцкая праўда”. Для расследавання фактаў сувязі чыноўнікаў з паўстанцкімі арганізацыямі ў Гродне створана спецыяльная следчая камісія пад старшынствам Г.Е. Белікава.

По произведенному 31 минувшего октября (ст.ст.) в

гродненской палате государственных имуществ обыску найдены в канцелярии этого присутственного места в большом количестве печатные экземпляры революционной газеты № 3 и № 5 под названием "Мужыцкая праўда", предметом которой – возбуждение восстания крестьян против правительства, и записка к неизвестному лицу о рассылке и распространении этой газеты по деревням" (з рапарта следчай камісіі гродзенскаму губернатару ад 17 лістапада 1863 г. ст. ст.).

23 кастрычніка. Па канфірмацыі літоўскага генерал-губернатара ў Гродне павешаны Дамянік Талінскі – паўстанец-селянін з в. Жулткі за ўдзел у павешанні лесніка Юстыновіча.

11 лістапада. Прадпісанне гродзенскага губернатара І.М. Скварцова ўездным вайсковым начальнікам аб вышуку В.-К. Каліноўскага.

## 1864 г.

Скасаваны гімназійны дамініканскі касцёл.

Зіма. Арышты ў гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Вясна. Завершана будаўніцтва чыгуначнага моста праз Нёман.

26 сакавіка. Па канфірмацыі камандуючага войскамі Віленскай вайсковай акругі ў Гродне за Скідзельскай заставай быў расстраляны Восіп (Юзаф) Урбановіч – былы радавы Капорскага ЯКВ Караля Саскага пяхотнага палка – за ўдзел у сутычках з войскам, калі ен ваяваў у шэрагах паўстанцкага атрада Калышкі. Пахаваны ў бліжэйшым лесе.

Вайсковы лекар І. Мітрапольскі ўспамінаў:

*"...Паказаўся слуп, і перад ім выкапаная яма. Раздалася каманда, узялі на каравул, прачыталі прыгавор і пачалі апошні туалет асуджанага. Я падышоў у гэты час да камандуючага цырымоніяй штаб-афіцэра і запытаў яго, які тут мой абавязак. "Калі памрэ, паглядзіце, ці не жывы". Ужо па гэтым пытанні было бачна, ці добра адчуваў сябе афіцэр.*

*Вось асуджанаму апранулі ягоны саван. Вось ксёндз яшчэ*

*штосьці гаворыць яму. Падносіць да вуснаў яго крыж, твар няшчаснага застаецца, як і раней, скамянелым, з мутнымі вачыма. Мне моцна захацелася, каб твар гэты ажывіўся б якім-небудзь пачуццём, каб чалавек гэты сказаў якое-небудзь слова, хаця б праклён нам; але ён не раскрыў рота”.*

6 мая. У Гродзенскай следчай камісіі па палітычных справах дае паказанні бацька В.-К. Каліноўскага – Сямён Каліноўскі.

12–14 мая. У Гродзенскай следчай камісіі па палітычных справах дае паказанні А. Гофмайстар аб сустрэчах з В.-К. Каліноўскім.

2 чэрвеня. Афіцыйнае адкрыццё фотамайстэрні М.І. Тубянскага (фактычна працуе з 1863 г.).

23 ліпеня. У Гродне разам з сям’ёй свайго дзядзькі, чыноўніка І.С. Талызіна, пасяляецца 9-гадовы У.У. Латышаў – будучы рускі гісторык.

26 кастрычніка. У Гродне нарадзіўся С.П. Шасцярнін – адзін з паплечнікаў У.І. Ульянава-Леніна.

## 1865 г.

У Гродна пачаў сваю працоўную дзейнасць вядомы гродзенскі гісторык, выкладчык гімназіі Я.Ф. Арлоўскі.

Гродзенская мужчынская гімназія пераведзена на Статут 1864 г. і пераўтворана ў класічную з дзвума старажытнымі мовамі (лацінскай і грэчаскай).

У горадзе працуе фатограф Е. Менцэль.

Пажар у яўрэйскім квартале горада. Згарэлі 82 дамы.

Люты. Пачынае працаваць фотамайстэрня І. Садоўскага.

16–18 верасня. У горадзе знаходзіўся генерал-губернатар К.П. фон Каўфман.

З прамовы, якую сказаў Каўфман у доме губернатара перад служачымі, духавенствам і дваранствам:

*“У цяперашні час адной знешняй пакоры і адданасці на словах не дастаткова; вы павінны на справе даказаць, што прызнаеце свае памылкі, за каторыя многія з вас нясуць заслужанае пакаранне. Вы павінны стаць рускімі ад галавы да пятак і ганарыцца гэтым імём, а не чужацца яго. Такая воля*

*ГАСУДАРА ІМПЕРАТАРА, такія патрабаванні рускага народа і ўрада; і патрабаванне гэтае мае за сабой цвёрдую аснову гістарычнага падання. Я не дазволю ў гэтай справе ні малейшага хістання. Ніякая нацыянальнасць тут не магчыма акрамя рускай. Хто думае інакш, таму няма месца ў гэтым краі, таму месца за Бугам”* (Вестник Западной России. – 1865. – Кн. 2. Т. 1. – С. 184).

## 1866 г.

13 студзеня. Арганізацыя гродзенскага губернскага казначэйства.

16 красавіка. У гарадскім клубе адбыўся сход ахвярадаўцаў, якія вырашылі накіраваць сабраныя грошы не на аднаўленне Барысаглебскай царквы, а на пабудову царквы Аляксандра Неўскага.

13 мая. Ліквідавана Гродзенская ваенна-следчая камісія па палітычных справах (у сувязі з паўстаннем 1863–1864 гг.).

9 мая. Нарадзіўся жывапісец, тэатральны мастак Леў Бакст (Розенберг).

15 чэрвеня. Пачало дзейнасць Таварыства апекі аб параненых і хворых вайскоўцах (пазней названае Гродзенскае таварыства Чырвонага Крыжа).

## 1867 г.

Дырэктарам Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішч стаў вядомы этнограф М.А. Дзмітрыеў.

Пасля 3 чэрвеня. Утварэнне адзінай Гродзенскай палаты грамадзянскага і крымінальнага суда (адпаведна ўказу Сената ад 22 мая па ст. ст.).

20 мая. У Гродне нарадзіўся М.М. Берастнёў, урач-бактэрыёлаг.

## 1868 г.

Пабудаваны будынак чыгуначнага вакзала 3-га класа. У 1986 быў зруйнаваны падчас пабудовы новага будынка вакзала.

25 студзеня. Гродзенскім губернатрам прызначаны Д.М. Крапоткін (да 27.07.1870 г.).

30 лістапада. Адкрыццё фотамайстэрні Л. Блоха на вуліцы Купецкай (сучасная Карла Маркса).

## 1869 г.

У Гродне пасяляецца (і жыве да 1910 г.) Эліза Ажэшка.

18 снежня. Зацверджаны статут і прынята рашэнне аб адкрыцці таварыства ўрачоў Гродзенскай губерні. Першым прэзідэнтам стаў урачэбны інспектар, доктар медыцыны К.Л. Эрбштэйн.

## 1870 г.

Горад наведвае расійскі імператар Аляксандр II.

4 лютага. Гродзенскі архітэктар П. Салаўёў складае поўны план горада.

Спецыяльны сход пры гродзенскім урачэбным аддзяленні зацвярджае памер аплаты ўрачу: за візіт у горадзе днём – 1,5 рубля, на Занёманскім фарштаце – 2 рублі.

22 ліпеня. Гродзенскім губернатарам прызначаны А.Е. Зураў (да 21.05.1878 г.).

## 1872 г.

3 чэрвеня. Зацверджаны статут “Гродненского отдела Императорского общества размножения охотничьих и промысловых животных и правильной охоты”. Дзейнасць яго была спынена губернатарам П.А. Сталыпіным і закрыта па яго прапанове міністрам унутраных спраў у ліпені 1902 г.

8 жніўня (па старым стылі 27.07). Была асвечана новая Барысаглебская капліца (часоўня), пабудаваная за кошт ахвяраванняў С. і В. Ланскіх – фрэйлін Яе Імператарскай Вялікасці, сенатара У.Н. Карамзіна і патомнага ганаровага грамадзяніна Е.С. Ягорава. Было сабрана 1 994 руб. 40 ¾ кап.

## 1873 г.

Заснаваны першапачатковыя яўрэйскія вучылішчы, у задачу якіх уваходзіла вучыць яўрэяў у “рускім духу”.

Зруйнаваны дамініканскі касцёл.

Нейкі І.М. пісаў у “Гродненских губернских ведомостях” (1873, № 3) пра гарадзенскі тэатр:

*“Какая-то роковая судьба тяготеет над нашим храмом Мельпомены. Труппы артистов, как они себя величают, стекавшиеся к нам из Великой и Малой, Червоной и Белой Руси, не могли долго подвизаться на нашей сцене, а сейчас же, после нескольких представлений, предприни-*

*мали странствия по той же необъятной Руси, горько жалуясь на негостеприимство гродненской публики и невнимание к их талантам.*

*Мы старались объяснить себе эту кратковременность пребывания у нас артистов, и единственным результатом наших размышлений было то убеждение, что артисты глубоко верят в заветный стих из “Скитальца”: “Там хорошо, где нас нет”.*

**1875 г.**

24 ліпеня. Прадмесце Новы Свет уключана ў межы Гродна.

**1876 г.**

У Гродна ўведзена агульнае гарадавое палажэнне.

7 сакавіка. Пачаў працаваць гродзенскі водаправод. Працягласць яго была 7,5 км. Пабудаваны Гродзенскім таварыствам водазабеспячэння, якое заснавалі князь Д.У. Друцкі-Сакалінскі і купец А.А. Кноп.

13 кастрычніка. Адкрыццё двухгадовай спавівальнай школы. Вучаніцы былі на казённым забеспячэнні (атрымоўвалі харчаванне, вопратку, абутак, вучэбныя дапаможнікі).

22 лістапада. Нарадзіўся З.П. Салаўёў (жыў у Гродна да 1887 г.) – адзін з арганізатараў аховы здароўя ў СССР.

**1877 г.**

Лістапад. Аўстрыйскі купец О. Кунц пабудаваў на беразе Нёмана бровар. У час сацыялізму тут працаваў Гродзенскі бровар, цяпер зачынены. О. Кунц таксама зрабіў першы гідралагічны пост на левым беразе Нёмана.

**1878 г.**

У Гродне пачынае дзейнічаць другая друкарня-літаграфія (да 1914 г.).

На вул. Аляксандраўскай (зараз Будзённага) сын харкаўскага купца Маісей Эльяшаў заснаваў фабрыку алоўкаў (у 1880-я гады ў Расійскай Імперыі былі толькі 4 такія прадпрыемствы). У 1882 г. фабрыка атрымала бронзавы медаль на агульнарасійскай выставе прамысловых тавараў.

Гастролі балетнай трупы Лянчэўскага і опернай трупы італьянца Іосіфа Кроці. Ста-

вяцца оперы Дж. Вердзі і Дж. Расіні.

У Гродне гастраліруюць расійскія акцёры А. Мельнікава-Самойлава, Ф. Гораў, М. Савіна і інш.

16 чэрвеня. Гродзенскім губернатарам стаў В.В. фон Валь (да 12.03.1879 г.).

## 1879 г.

Гродзенская губернская друкарня пачынае выдаваць "Обзор Гродненской губернии за 18...год".

15 мая. Гродзенскім губернатарам прызначаны М.М. Цэйнмерн (да 28.10.1883 г.).

Верасень. Першыя выступленні рабочых Гродна. Забастоўка падмайстраў кравецкіх майстэрняў, якія патрабуюць скарачэння рабочага дня.

30 снежня. У Гродне нарадзіўся Якуб Чэхаўскі, вядомы барэц і атлет.

## 1880 г.

Заснавана папіросна-гільзавая фабрыка Шарашэўскага (існуе да 1985 г.).

З'яўляюца нелегальныя гурткі, якія вывучаюць і распаўсюджваюць марксісцкую літаратуру: працы К. Маркса, Ф. Энгельса, Г. Плеханава.

Памёр рабі Нахім (Рэб Нахум Гроднер; сапраўднае прозвішча Нахум бен Узіел Каплан) – герой аповесці Э. Ажэшка "Daj Kwiatek" ("Дай кветку").

У Гродне дзейнічаюць 11 цэркваў і 4 касцёлы.

6 сакавіка. Адкрыццё фотамайстэрні Б.М. Хацкелевіча і І.З. Кайранскага.

## 1880 – пачатак 1881 г.

У Гродне на базе самаадукацыйнага таемнага гуртка моладзі (Л.Э. Гарадзішча, У.А. Руткевіч, Б.Б. Базінінскі і інш.) узнік народніцкі гурток "Черного передела". Сябрамі яго былі гімназісты, служачыя і рабочыя друкарні. Праіснаваў да 1884 г.

## 1881 г.

Нарадзіўся Станіслаў-Юльян Касцялкоўскі, будучы доктар філалогіі, гісторык, аўтар прац пра Антонія Тызенгаўза і яго рэформы ў Гродне.

Будынак зачыненага ў 1845 г. кармеліцкага касцёла перадалі гораду.

12 ліпеня. Адкрыццё фотамайстэрні Я.І. Салавейчыка.

У ноч з 13 на 14 верасня. Каля 20 сяброў гуртка народавольцаў "Чорны перадзел" правялі масавае распаўсюджванне рэвалюцыйных пракламацый "Зямлі і волі" і закліка "Народнай волі" да "рускага рабочага народа" ў горадзе, вакольных вёсках і гродзенскім вайсковым лагеры. "Город и лагерь были наважденны прокламациями. Начальство бесилось", – напісана ва ўспамінах таго часу.

1 лістапада. У горадзе пачаліся прадстаўленні Віленскай драматычнай трупы (да 1 лістапада 1882 г.).

## 1882 г.

На тытунёвай фабрыцы Шарашэўскага працуе 1420 працоўных.

У Пецярбургу зацверджаны "План праектаванага размяшчэння губернскага горада Гродна", падпісаны міністрам унутраных спраў А. Талстым. Пашырэнне горада планавалася ў бок сучаснага Каложскага парку на правам беразе Нёмана, а на левабярэжжы прадугледжваліся строга акрэсленыя квадратныя і прамавугольныя кварталы з двума плошчамі – безыменнай з гандлёвымі радамі ў раёне цяперашняй пл. Савецкіх пагранічнікаў і Гур'еўскай плошчай на поўдзень ад кляштара францысканцаў.

10 лютага. Арцыбіскуп Літоўскі Аляксандр зацвярджае статут праваслаўнага Сафійскага брацтва і сястрынства пры Сафійскім саборы (былой Фары Вітаўта).

Чэрвень. Частка паезуіцкага будынка перададзена ўпраўленню гродзенскай турмы.

30 жніўня. Выходзіць першы нумар газеты "Торговый вестник Западного края" (18 жніўня па ст. ст.), апошні 31.12.1882 г. ст.ст.).

## 1883 г.

Пачало дзейнічаць гродзенскае аддзяленне дзяржаўнага банка. Тут можна было ўзяць пазыку на прамысловае прадпрыемства горада, улічваліся вэксалі. Існавалі тры банкаўскія канторы і таварыства ўзаемнага крэдыту.

22 лістапада. Прыступіў да абавязкаў гродзенскі гу-

бернатар А.М. Пацёмкін (да 01.05.1890 г.).

4 снежня. Адкрыццё акругова суда, які па судовай рэформе 1864 г. замяніў злучаную палату крымінальнага і грамадзянскага суда.

## 1884 г.

Гродзенская губернская друкарня стала выдаваць“Обзор Гродненской губернии за … год”.

У Нёман абвалілася частка апсіды Барысаглебскай царквы.

7 ліпеня. Адкрыццё фотамайстэрні В.Я. Салавейчыка, сына Салавейчыка Якава Ісакіевіча.

22 ліпеня. У Гродна нарадзіўся будучы філосаф А.В. Макавельскі.

## 1885 г.

Адкрыццё пераплётнай фабрыкі М. Харына.

На двары класічнай гімназіі была пабудавана метэаралагічная будка для кліматычных назіранняў.

14 (26) мая. Высачайша зацверджана рашэнне Дзяржаўнага Савета аб пабудове ў Гродне новай турмы пры ўдзеле гродзенскага кіравання.

9 чэрвеня. Указам Сената (датаваны 29.05 ст.ст.) створана ўпраўленне Гродзенскай паштова-тэлеграфнай акругі.

10 чэрвеня (па ст. ст. 29.05). На Школьным двары (раён сучаснай МНС па вул. Замкавай) пачаўся пажар, які за некалькі дзён знішчыў значную частку горада і архіў дваранскага дэпутацкага сходу (на ліквідацыю вынікаў пажару цар ахвяраваў 25 тыс. руб., а яго спадкаемца – 5 тыс. руб.). Аб гэтым пажары можна прачытаць навэлы Э. Ажэшкі, фельетон А. Чэхава “На Луне”. Вялікую дапамогу пацярпелым аказала Э. Ажэшка – сябра Дамскага камітэта дапамогі пагарэльцам.

Верасень. У Гродна пачаў працавць педагог, будучы гісторык і краязнавец Я.Ф. Арлоўскі.

## 1886 г.

7 кастрычніка. Адкрыццё фотамайстэрні З.Я. Карасіка.

## 1887–1888 гг.

Да Э. Ажэшкі некалькі разоў прыязджае з Вільны бе-

ларускі паэт Ф. Багушэвіч. Гродзенскі даследчык А. Госцеў мяркуе, што яны сустракаліся ў доме Шлегеля на рагу вуліц Палявой (Карбышава) і Пясочнай (М. Васілька), дзе на той час кватаравала Эліза Ажэшка.

## 1887 г.

Узнікае падпольны рэвалюцыйны гурток марксісцкага напрамку (дзейнічае да 1894 г.) на чале з М.А. Дзем'яновічам (пазней яго ўзначаліць С.Ф. Галюн).

У Гродне пабываў рускі гісторык М.О. Каяловіч, пасля чаго напісаў аб горадзе у "Церковном вестнике" (№ 8, 10, 11).

Некалькі тыдняў у гродзенскім тэатры гастралявала ўкраінская трупа.

Даведка: насельніцтва – 46 919: 20 030 жанчын, 20 889 мужчын, у тым ліку часова прыбываючых 1637, замежных падданых 144 (61 м., 83 ж.). Адукаваных – 53,9 %. Дваран патомных – 4392, духавенства – 161 (81 м., 80 ж.) купцоў – 525 (267 м., 258 ж.), мяшчан – 27 626 (13 231 м., 14 395 ж.), хрысціян – 13 610 (10 866 м., 2 744 ж.). Родная мова: вялікаруская – 7828 м., 2687 ж., маларуская – 66 м., 13 ж., беларуская – 3600 м., 1834 ж. Усяго – 16 028. Яўрэйская – 22 384 (10 820 м., 11 564 ж.), польская – 6814 (3169 м., 3645 ж.), нямецкая – 375 (177 м., 198 ж.), літоўская – 27 (16 м., 11 ж.), татарская – 804 (795 м., 9 ж.). Астатнія 487 (38 – жмудская, 29 – латышская, 28 – французская, 38 – цыганская). Па веравызнанні: праваслаўных з адзінаверцамі – 14 086, стараабрадцаў і тых, хто ўхіляецца ад праваслаўя – 45, рыма-católікоў – 8 695, пратэстантаў – 462, магамецян – 936, іўдзеяў – 22 684, астатнія (хрысціяне) – 11. Асобы, якія мелі самастойныя заняткі, – 19 454 м., 5 875 ж. Члены сямейства – 7435 м., 14 155 ж.

## 1888 г.

Даведка: рамеснікаў 2165 чалавек.

Адкрыццё і асвячэнне чатырох карпусоў казарм 102-га Вяцкага пяхотнага палка.

Канчаткова адкрыты і асвечаны 4 карпусы гродзенскіх казарм 102-га Вяцкага пяхотнага палка.

Першыя пахаванні на вайсковых могілках (цяпер вул. Белуша).

Узровень вады ў Нёмане падняўся да адзнакі 6 м 28 см, што было зафіксавана гідралагічным пастом.

Пачалася дзейнасць гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі на чале з М.А. Дзем'яновічам (да 1893).

Урачэбная камісія Гродна прызнала дрэнны стан санітарнага становішча горада.

23 мая. Нарадзіўся Караль Румель, першы гродзенскі алімпіец (Стакгольм, 1912).

31 жніўня. Упершыню прызначана стыпендыя імя аптэкара Я.Ю. Адамовіча для трох вучняў гродзенскай гімназіі.

Кастрычнік. У Гродна пасяляецца рэвалюцыянер Р. Салавейчык (да сакавіка 1889 г.).

18 лістапада. Афіцыйна адкрыта Гродзенскае губернскае аддзяленне Літоўскага епархіяльнага вучылішчнага савета. Адбылося першае пасяджэнне яго рады.

**1889 г.**

Выйшла "Карманная книжка Гродненской губернии 1890 г.".

Абвалілася апсіда дзяконніка Барысаглебскай царквы .

12 (24) студзеня. МУС зацверджаны статут Таварыства ўзаемадапамогі бедным вучням і вучаніцам мужской і жаночай гімназій. Яго сябры (рознага звання, нацыянальнасці, веры, месца жыхарства) аплочвалі адукацыю названых дзяцей, куплялі ім вучэбныя дапаможнікі, вопратку, абутак.

26 студзеня. У Гродна нарадзіўся будучы доктар гістарычных навук этнограф П.І. Кушнер (сапраўднае прозвішча Кнышоў).

26 чэрвеня 1889. Найвышэйшы загад, абвешчаны міністрам народнай адукацыі, аб пераўтварэнні Гродзенскай жаночай гімназіі з шасцігадовай у сямігадовую.

30 жніўня. Асвечана лагерная царква 26-й пяхотнай дывізіі, што мела пастаянную дыслакацыю ў Гродне.

5 верасня. Асвечана дамавая царква ў казармах Вяцкага палка.

## 1890 г.

У гарадскім саду пабудаваны летні тэатр, дзе сталі даваць аматарскія канцэрты.

На праваслаўных могілках пабудавана капліца ў гонар Уваскрэсення Хрыста.

17 красавіка. Урачыстае адкрыццё Аляксандраўскага трохкласнага рамеснага вучылішча, дзе рыхтавалі слесараў і сталяроў.

10 мая. Прыступіў да выканання абавязкаў гродзенскага губернатара Д.М. Бацюшкаў (да 1899 г.).

6 кастрычніка. У Гродна нарадзіўся яўрэйскі паэт і перакладчык Л. Найдус.

20 кастрычніка. У Гродна нарадзіўся гісторык і стваральнік гродзенскага музея Ю. Ядкоўскі.

## 1890-я гг., пачатак

Створана гродзенская сацыял-дэмакратычная арганізацыя, якая мела сувязі з працоўнымі арганізацыямі Пецярбурга, Казані, Ніжняга Ноўгарада, Екацярынаслава, Беластока (з польскай партыяй “Пралетарыят”).

## 1891 г.

Даведка: насельніцтва Гродна 49 952 чал. (25 855 мужчын, 24 067 жанчын), будынкаў каменных 1084, драўляных і 194; 56 фабрык і заводаў са штогадовай вытворчасцю 816 555 руб. пры 1741 працоўным; з вучэбных установаў у Гродна знаходзіліся: мужчынская класічная гімназія (350 вучняў), жаночая гімназія (292 вучаніцы), Аляксандраўскае рамеснае 3-класнае вучылішча (26 навучэнцаў), спавівальная школа з радзільным аддзяленнем на 20 ложкаў (25 вучняў), 2 уездныя прыходскія вучылішчы (172 вуч.), 2 жаночыя (128 вуч.); 2 евангелічна-лютэранскія вучылішчы (36 хлопчыкаў, 29 дзяўчынак); яўрэйскае аднакласнае пачатковае вучылішча (91 хлопчык), яўрэйскія навучальныя ўстановы (талмуд-тора, эшыбот і інш. (686 вучняў); 2 жаночыя вучылішчы (230 вучаніц); 1 вучылішча для абодвух палоў (44 вучні); акруговая лячэбніца, яўрэйская лячэбніца з багадзельняй, яўрэйскі грамадскі і начлежны прытулак, мураўёўскае сіроц-

кае аддзяленне; 5 банкірскіх кантор; 4 аптэкі; 4 друкарні; 6 бібліятэк; 3 клубы; гарадскі тэатр з летнім памяшканнем.

3 чэрвеня. Адкрыццё фотамайстэрні Л. Казлоўскага.

## 1892 г.

У Гродзенскай губернскай друкарні выдаецца "Памятная книжка городской дирекции народных училищ" (па 1896 г.).

У выніку пажару ў Сафійскім саборы лопнулі зводы. Сабор поўнасцю перабудоўваецца і атрымоўвае купалы ў выглядзе "луковиц".

На сродкі Праваслаўнага Сафійскага брацтва адчынілася жаночая нядзельная школа, ўзрост удзельніц – з 8 да 40 год.

6 лютага. Адбыліся юбілейныя ўрачыстасці ў Гродне, прысвечаныя 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Э. Ажэшкі (прысутны Ф. Багушэвіч падарыў верш "Яснавяльможнай пані Арэшчысе" і свой фотаздымак, зроблены 22.12.1891 г. у Вільні фатографам А. Страусам).

11 сакавіка. Адкрыццё фотамайстэрні Г.А. Шульнера-Дамбравіцкага.

10 красавіка. Адкрыты летні тэатральны сезон. На сцэне гродзенскага тэатра выступае рускі акцёр П. Арленеў.

Чэрвень. У Гродна на пастаяннае жыхарства пераязджае бацька будучага беларускага паэта А.Я. Багдановіч.

Ліпень. У Гродна з маці і братам пераязджае Максім Багдановіч. Жыве тут да канца лістапада 1896 г. За гэты час сям'я Багдановічаў змяніла ў Гродне тры адрасы. У доме па вул. Багдановіча (раней Садовая) знаходзіцца Дом-музей М. Багдановіча.

28 лістапада. Адкрыта нядзельная школа Гродзенскага Сафійскага праваслаўнага брацтва.

## 1893 г.

Рамеснае вучылішча ўзнагароджана дыпломам і вялікім срэбным медалём на выставе ў Вільні за земляробчыя прылады працы.

Пачала дзейнасць жаночая Марыінская гімназія (да 1915 г.).

У Гродне выйшла кніга М.В. Доўнара-Запольскага "Мотивы свадебных песен Пинчуков. Этнографический этюд" (69 с.).

Умацаваны бераг Нёмана пад Барысаглебскай царквой, а яна адрэстаўравана.

2 сакавіка. Адкрыццё фотамайстэрні Х.Э. Біньковіча.

8 (20) сакавіка. Загадам віленскага генерал-губернатара былі зачынены рамесныя цэхі, ў чатырох гарадах – Вільні, Коўне, Гродне і Беластоку – адкрыты спрошчаныя рамесныя ўпраўленні.

19 жніўня. IX археалагічны з’езд у Вільні: даклад Я.Ф. Арлоўскага “Основание города Гродны и его история до 1241 года”, у якім упершыню даказваецца тоеснасць летапіснага горада Горадзена і нёманскага Гродна. Пра гэтае паведамляецца ў “Гродненских губернских ведомостях” (№ 64 за 1893 г.).

Кастрычнік. У Гродна пасяляецца (да кастрычніка 1897 г.) урач-акуліст, стваральнік мовы эсперанта Л. Заменгоф. На вуліцы Кірава, 5 адчынена памятная дошка на доме, дзе, як мяркуюць, ён жыў.

## 1894 г.

Даведка: у Гродна 50 952 жыхары (каля 30 000 іўдзеяў, 11 500 праваслаўных, 8 200 католікаў), 3 671 жылы і нежылы будынкі (з іх 1084 каменныя), 5 праваслаўных цэркваў, 3 каталіцкія храмы, 1 лютэранская кірха і 2 сінагогі, 3 манастыры, 9 вучэбных устаноў (мужчынская і жаночая гімназіі, рамеснае вучылішча, спавівальная школа, 2 прыходскія вучылішчы, 2 прыватныя і 1 яўрэйскае вучылішча), 9 крэдытна-банкаўскіх устаноў, 3 друкарні, 4 аптэкі, 4 фотамайстэрні, 4 гатэлі.

У Гродне гастраліруе М. Петыпа з жонкай Л.П. Петыпа (у складзе трупы В.і. Нікуліна).

31 сакавіка. Над Гроднаназіралася паўночнае ззянне.

2 красавіка. Гродзенскі губернатар дазваляе ўтрымоўваць хуткадрукаркі на пераплётнай фабрыцы.

1 мая (18 красавіка ст.ст.). У Гродна адбываецца першае ў Беларусі святкаванне міжнароднага Дня салідарнасці працоўных.

Лета. На кватэры вайсковага доктара Сяргея Галюна, у вайсковым шпіталі, адбылося пасяджэнне, на якім абмяркоўваліся рэвалюцыйныя пытанні. Прысутнічалі сту-

дэнт Пётр Шумаў, чыноўнік Дзем'яновіч, паручнік Мяцеліца і інш. Пасля пасяджэння пры выхадзе усе былі затрыманы.

2 лістапада. У фарным касцёле ў сем гадзін раніцы адбыўся шлюб Э. Ажэшкі са Ст. Нагорскім. Сведкамі былі Юзаф Касцялкоўскі, Максіміліян Абрэмскі, Юзаф Бянецкі. Цырымонію шлюбу праводзіў ксёндз Стэфан Рачкоўскі.

## 1895 г.

У сярэдзіне года Э. Ажэшка пачала весці таемныя курсы польскай літаратуры. Гэта працягвалася да сярэдзіны 1899 г. У хаце пісьменніцы збіралася каля 20 дзяўчат.

## 1896 г.

У Гродна жыве вучоны-лінгвіст Я.Ф. Карскі.

У Гродзенскай губернскай друкарні выдадзена на беларускай мове паэма "Тарас на Парнасе" (12 с., 50 экз.).

Вясна. Пачалася перабудова Фары Вітаўта ў Сафійскі сабор у псеўдарускім стылі (праект Чагіна).

26 мая. З нагоды каранавання Мікалая II 272 вучні ўсіх класаў гродзенскай мужчынскай гімназіі былі пераведзены па гадавых адзнаках без экзаменаў, 96 атрымалі права трымаць экзамен пасля канікул, 43 вучні пакінуты на "повторительные курсы".

14 чэрвеня. Адкрыццё фотамайстэрні М.Ш. Папірнага.

21 чэрвеня. У Гродна нарадзіўся савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч Я.А. Якаўлеў (Эпштэйн).

15 верасня. У Гродна нарадзіўся генерал арміі А.І. Антонаў.

16 кастрычніка (4 кастрычніка ст. ст.). Смерць М.А. Багдановіч, маці паэта. Пахавана на гродзенскіх праваслаўных могілках.

## 1897 г.

Даведка: па дадзеных І Усеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай Імперыі, праведзенага ў чэрвені, насельніцтва Гродна складала 46 919 чалавек (з іх 53,9 % пісьменных), 3 036 рабочых занята на фабрычна-завадскіх і кустарных прадпрыемствах, чыгуначным і водным транспарце.

Створаны гродзенскі рабочы камітэт Польскай сацыялістычнай партыі (ППС).

Заснаваны гродзенскі камітэт Бунда.

13 снежня. Адкрыццё фотамайстэрні Х.Ф. Язерскага.

## 1898 г.

Даведка: насельніцтва Гродна – 39 044 чалавек, у тым ліку мужчын – 19 307, жанчын – 19 737. Часова расквартараваных войскаў – 11 244 чал. Ва ўсіх свецкіх установах вучыўся 841 чалавек; колькасць дамоў каменных – 1353, драўляных – 191, з 1874 па 1898 г. колькасць прадпрыемстваў павялічылася з 31 да 74 (15 з іх з паравымі машынамі). У горадзе 12 праваслаўных цэркваў, 3 каталіцкія, 1 лютэранская, 2 сінагогі, 3 манастыры, 8 навучальных устаноў, 3 друкарні, 2 тэатры, 8 тэлеграфных станцый і пошта, 5 крэдытна-банкаўскіх устаноў, 1 тыпа-літаграфія, 5 фотамайстэрань, 5 аптэк, 3 гатэлі, 1 цырульня.

Пачалося будаўніцтва новай лячэбніцы на 125 ложкаў па вул. Грандзіцкай (цяпер Горкага, 1).

Барысаглебская царква атрымала драўляныя сцяну і дах. Бераг Нёмана пад храмам умацаваны.

31 сакавіка. Адкрыццё фотамайстэрні капітана Мараўскага.

Першая дэманстрацыя фільма ў Гродне.

26 ліпеня. Праходзіць стачка рабочых.

19 жніўня. Заснавана гродзенскае пажарнае таварыства.

Верасень. Адбыўся буйны пажар, які знішчыў два верхнія паверхі тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага разам з абсталяваннем. Сума стратаў дасягнула 125 тыс. руб.

Восень. У памяшканні цагельні (насупраць чыгуначнага вакзала) адбылося пасяджэнне групы сацыялістычна настроеных рабочых (каля 20 чал., сярод іх Борух Гец, Мойзеж Соболь, Файвель Сольц, Ітка Стам) і 2 інтэлегентаў (П. Шумаў і Давід Вайс) для абмеркавання адносін да арганізацыі БУНД. Выказаліся супраць яе і прагаласавалі за далучэнне да ППС. Гэта паклала пачатак гродзенскай

арганізацыі Польскай партыі сацыялістычнай.

2 снежня. Зацверджаны статут “Гродненского общества велосипедистов” (у 1909 г. перайменавана ў “Гродненское общество содействия физическому развитию”).

## 1899 г.

Заснавана яўрэйскае таварыства “Сеймех-нейфлін” (“Дапамога тым, якія занепадаюць”).

Падчас пажару згарэл часовы вайсковы шпіталь, шмат дзяржаўных і прыватных будынкаў.

У Гродне выйшла кніга І.О. Раманоўскага “К истории края”.

28 сакавіка. Пасля перабудовы і асвячэння адкрыты Сафійскі сабор.

14 красавіка. Указ Мікалая II (2.04. паст. ст.) аб прызначэнні М.А. Дабравольскага выконваючым абавязкі гродзенскага губернатара 1 мая. Па ініцыятыве гродзенскага рабочага камітэта ППС праведзены таемны сход рабочых.

21 верасня. Пачатак буйной стачкі рабочых тытунёвай фабрыкі (каля 1200 чал.). Пра яе напісала газета “Искра”.

5–6 кастрычніка. Заклік гродзенскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі да працоўных тытунёвай фабрыкі: працягваць забастоўку. Яна спынілася 10 кастрычніка, калі быў арыштаваны 91 чалавек.

24 кастрычніка. На пераплётнай фабрыцы Харына рыхтуецца забастоўка.

13 лістапада. Пачала дзейнічаць пераплётная фабрыка У.Д. Вайсбрэма і М.Г. Лангборта па вул. Сафійскай (зараз Леніна) у асабістым доме № 7. Спецыялізавалася на выпуску вельмі якасных эксклюзіўных скураных вырабаў: папак, торбачак, гаманцоў, футаралаў, вокладак для кніжак, альбомаў і інш. Працавала і ў міжваенны час, у 1928 г. заваявала залаты медаль на прэстыжнай выставе ў Фларэнцыі.

23 снежня. Найвышэйшы загад аб стварэнні Гродзенскай праваслаўнай епархіі.

## 1900 г.

Пачатак эканамічнага крызісу (да 1903 г.): у Гродна спыняюць працу 48 прадпрыемстваў, а 31 пераходзіць на скарочаны працоўны дзень.

З'явіліся дзве прыватныя газеты: "Голос Гродно", "Гродненские отголоски".

Нарадзіўся Ф.Ф. Купцэвіч, дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР, беларускі пісьменнік, крытык.

Адчынены першы хедэр "Latora Wela'awoda" ("Навука і праца"), у якім вучылі на габрэйскай мове.

Даведка: 46 871 жыхар (каля 25 тыс. яўрэяў, 11 тыс. рускіх, 8 тыс. палякаў) 3163 жылыя і нежылыя будынкі, з іх 1256 мураваных, 12 праваслаўных цэркваў, 3 каталіцкія, 1 лютэранская і 2 сінагогі, 3 манастыры, 8 навучальных установаў, 2 тэатры, 8 тэлеграфаў і пошта, 5 крэдытна-банкаўскіх установаў, 3 тыпаграфіі, 1 тыпалітаграфія, 5 фатамайстэрань, 5 аптэк, 3 гатэлі, 1 цырульня.

Даведка: у Гродна 132 аптовыя склады, 472 купцы, 18 урачоў, 3 бальніцы на 236 ложкаў. Усяго ў горадзе 79 прадпрыемстваў (2087 рабочых), 18 навучальных установаў (больш за 2500 вучняў), 2 кнігарні, бібліятэка.

4 лютага. Адбылося адкрыццё самастойнай Гродзенскай епархіі.

17 лютага. Указ Мікалая II (5.02. па ст. ст.) аб прызначэнні М.А. Дабравольскага гродзенскім губернатарам (да 01.11.1900).

Вясна. Адбыліся гастролі трупы Г.Г. Ге.

17 красавіка. У Гродне адбылася пасадка школьнікамі дрэў уздоўж Скідзельскай дарогі . Удзельнічаў губернатар Дабравольскі.

1 мая. Значная дэманстрацыя рабочых. Гродзенскі рабочы камітэт выдае спецыяльную адозву і ладзіць у Пышках нелегальны сход 130 рабочых пад лозунгамі: "Працоўныя ўсіх краін, яднайцеся!", "Няхай жыве 1 Мая!".

7 мая. Выпуск пракламацыі з заклікам яднання ўсіх працоўных сіл.

5–25 чэрвеня. Святы Сінод пастанавіў перанесці ў Красносток (286 вёрст ад Гродна) Гродзенскі Раства-Багародзіцкі манастыр.

21 верасня. Цудатворны абраз Божай Маці Уладзімірскай разам з Гродзенскім жаночым Раства-Багародзічным манастыром пераносіцца ў Красностоксі манастыр. У хрэсным ходзе з Гродна ўдзельнічала

каля 20 тыс. чал. – духоўная і свецкая ўлады, вучні, ваеннаслужачыя. 20 чэрвеня 1992 г. абраз быў вернуты ў адчынены наноў гродзенскі жаночы манастыр.

26 верасня. Зацверджана першае гродзенскае ссуда-зберагальнае таварыства.

13 лістапада. Абавязкі гродзенскага губернатара выконвае В.Д. Лішын (да 11.02.1901 г.).

## 1901 г.

Пачынаюць выдавацца “Гродненские епархиальные ведомости” (да верасня 1915 г.) і “Деловой спутник. Записная книга для всех на … год” (па 1914 г.)

11 лютага. Па ўказу імператара Мікалая II (29.01 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны М.П. Урусаў (да 11 чэрвеня 1902 г.).

1 мая. Забастоўка і дэманстрацыя рабочых.

Летам бальшавіцкая газета “Искра” (1901. – № 7. – С. 5.) пісала: “В Гродне христианские и еврейские рабочие на переплетной фабрике (150 чел.) восстали против увеличения рабочего дня”.

Ліпень. Дзейнічае яўрэйская незалежная рабочая партыя БУНД (да ліпеня 1903 г.).

2 жніўня. Адкрыццё дзвух фотамайстэрняў – Карасіка-малодшага і Л. Гельгора (пл. Парадная / Савецкая, дом Курляндскага).

## 1902 г.

Гродзенскую гімназію скончыў будучы філосаф А.В. Макавельскі.

Адкрыццё фотамайстэрні Ф.Д. Адляніцкага-Пачобута.

Пачалося аднаўленне пасля пажару 1885 г. галоўнай сінагогі Хаем Адам. (закончылася ў 1903 г.)

У Гродне надрукаваны “Гродненский Богогласник”, зборнік рускіх праваслаўных духоўных песень.

1 студзеня. Святкаванне стагоддзя Гродзенскай губерні. Прайшло набажэнства ў Сафійскім саборы, літургія, у зале дваранскага сходу – ганаровы акт, на якім прысутнічалі Прэасвяшчэнны Іаакім, епіскап Гродзенскі і Брэсцкі, губернскі прадвадзіцель дваранства князь Н.П. Урусаў з жонкай, прадстаўнікі грамадства, ваеннай і грамадскай

улад, выступіў хор вучняў гродзенскіх мужчынскай і жаночай гімназій, затым Мікалай Пятровіч Шыпін зачытаў кароткую гістарычную даведку аб стане Гродзенскай губерні за 100 год існавання.

3 студзеня. У сувязі са святкаваннем стагоддзя Гродзенскай губерні адбылося асвячэнне Народнага дома (архітэктар М. Раманаў, інжынер Л. Лангбард), пабудаванага на сродкі гродзенскага губернскага камітэта папячыцельства аб народнай цвярозасці (цяпер ГДК). Прысутнічалі Іаакім, епіскап Гродзенскі і Брэсцкі, прадвадзіцель дваранства князь Н.П. Урусаў. У будынку была вялікая аўдыторыя з узвышэннем для чытання, перад ім яма для аркестра, комната для чайнай, буфетная, чытальная зала, бібліятэка. Пасля асвячэння ўсе сабраліся ў зале, хор спяваў “Божа, цара барані”, Савіцкі выступіў **з** кароткай гістарычнай даведкай аб стане Гродзенскай губерні за 100 год існавання.

14–22 студзеня. У горадзе распаўсюджаны заклік рабочых пераплётнай фабрыкі з грыфам “Российская социал-демократическая рабочая партия”.

1 мая. Забастоўка і дэманстрацыя рабочых.

17 мая. Заснавана яўрэйскае таварыства “Ахіэзер” з мэтаю дапамогі бедным яўрэям на Фарштаце.

12 чэрвеня (па ст. ст. 30.05). Па ўказу імператара Мікалая II выканаўчым пасады гродзенскага губернатара прызначаны П.А. Сталыпін (да 15/28.02.1903 г.).

4 ліпеня. У Гродна прыехаў П.А. Сталыпін. “Гродненские губернские ведомости” надрукавалі прамову П.А. Сталыпіна, які ў гербавай зале губернатарскага палаца сказаў:

*“Ласкавыя паны. Будучы прызначаны выконваць абавязкі гродзенскага губернатара, я перш за ўсё выказваю цвёрдае перакананне, што мае з вамі службовыя адносіны ў хуткім часе ўсталююцца да задавальнення абодвух бакоў. Упэўнены ў гэтым, бо, як разумею, прыслухваючыся да шчыра выказанага правільнага погляду і адносячыся з павагай да мірнай працы, начальнік гу-*

*берні тым самым набывае права патрабаваць непахіснага і добрасумленнага выканання сваіх рашэнняў. Што ж тычыцца ўстаноў, мне не падпарадкаваных, дык ад прадстаўнікоў іх я чакаю дапамогі і садзейнічання ў агульнай нашай працы, якая складаецца ў правядзенні тут рускіх дзяржаўных пачаткаў”* (R. Jurkowski. Kowieński marszałek, grodzieński gubernator. Kresowe początki kariery politycznej Piotra Stołypina (1889–1903). – Olsztyn: Wyd-wo Uniwersytetu Warmińsko-Mazurskiego, 2015. – S. 549).

Верасень. Узнікненне гродзенскай арганізацыі Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (пасля 1905 г. спыніла сваю дзейнасць).

14 кастрычніка. Адчынена жаночае прыходскае вучылішча.

27–29 лістапада. На пасяджэнні гродзенскага губернскага камітэта “о нуждах сельскохозяйственной промышленности” прадстаўлена “Запіска”, у якой між іншым было сказана пра дапамогу сельскагаспадарчай эміграцыі: арганізаваць даведачныя канторы аб месцах, дзе патрабуюцца эмігранты; накіроўваць эмігрантаў не ў замежжа, а ў расійскія парты; аблегчыць для іх пашпартную сістэму і зменшыць кошт пашпарта.

19 снежня. Адкрыта і асвечана новае прыходскае мяшчанскае вучылішча.

## 1903 г.

У Гродна створана гродзенская група РСДРП у складзе Паўночна-Заходняга сацыял-дэмакратычнага камітэта.

Адбылася падпіска на афармленне стыпендыі імя П.А. і В.Б. Сталыпіных у адной з навучальных устаноў горада.

Гродна наведалі выдатныя дзеячы культуры М.К. і А.І. Рэрыхі.

*“В 1903 году мы с Еленой Ивановной прошли и по Литве. Большое это было хождение по разным историческим местам. Всюду писались этюды, Елена Ивановна всюду снимала фотографии. Часть ее снимков вошла и в “Историю искусства” Грабаря, и в другие труды, посвященные памятникам старины. В Литве были написаны многие этю-*

*ды. Судьба этих этюдов своеобычна. Разлетелись они по всему миру. Однажды в Калифорнии мне пришлось увидеть мой “Ковенский костел”, и “Развалины замка на Немане”, и “Древнюю церковь около Гродно”* (М.К. Рерих. Литва // Зажигайте сердца. – М., 1975).

У Гродна працуюць фотамайстэрні Заблуды (на вул. Саборнай, цяпер Савецкай) і Гахштэйна (па вул. Мураўёва / цяпер Ажэшка).

26 студзеня. Адбылася музычная вечарына на карысць бедных студэнтаў. На ёй пабываў губернатар П.А. Сталыпін, які танцаваў з арганізатарам вечарыны А.М. Бузылавай.

27 студзеня. У Гродна нарадзіўся М.В. Паўлоўскі, будучы генерал-палкоўнік Савецкай Арміі.

28 лютага. Па ўказу імператара Мікалая II (15.02 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны М.М. Асаргін (да 28.05.1905 г.).

3 красавіка. Адбыўся развітальны сход з былым гродзенскім губернатарам П.А. Сталыпіным.

22 красавіка. Рабочая сходка ў ваколіцах Ласосны.

30 красавіка. У горадзе распаўсюджана надрукаваная на пераплётнай фабрыцы пракламацыя “К рабочим”, у якой змешчаны зварот камітэта РСДРП аб святкаванні 1 Мая.

1 мая. Забастоўка і дэманстрацыя рабочых.

23 чэрвеня. Гродзенскі мешчанін Леві Мозэсавіч Маркус атрымаў дазвол на будаўніцтва прадпрэмства па вытворчасці “цукровага каляру” (карамельных цукерак) па вул. Беластоцкай, 68 (зараз Суворава). Папярэдні будынак згарэў.

Жнівень. Сходкі рабочых, на якіх абмяркоўваюцца пытанні надзённай барацьбы. 18 жніўня паліцыя на адной з такіх сходак на беразе Нёмана арыштоўвае 242 чалавекі з 300 удзельнікаў.

15 снежня. Стачка 786 рабочых тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага пад кіраўніцтвам гродзенскага сацыял-дэмакратычнага камітэта.

## 1904 г.

Даведка: колькасць войск у Гродна з 12 094 (1903 г.) павялічваецца да 17 812 чал. У

горадзе 988 майстэрняў, у якіх працуе 2 580 чалавек.

Разабраны кармеліцкі касцёл. Па праекце гродзенскага губернскага інжынера Васіля Фёдаравіча Небальсіна да 1906 г. будаваліся казармы гродзенскага крапаснога батальёна.

Арганізаваны Палескі і Паўночна-заходні сацыяльна-дэмакратычныя камітэты. Гродзенская група РСДРП увайшла ў склад апошняга.

20 студзеня. Усе 1 331 рабочы тытунёвай фабрыкі атрымалі разлік (фабрыка аднавіла працу толькі ў канцы вясны 1904 г.).

28–30 красавіка. У горадзе распаўсюджаны лістоўкі з заклікам да рабочых выйсці 1 мая на дэманстрацыю салідарнасці з пралетарыятам усёй Расіі.

1 мая. Дэманстрацыя, палітычная стачка рабочых пераплётнай і альбомнай фабрык, іншых прадпрыемстваў.

12–14 верасня. Адбылося пасяджэнне Асобай камісіі па рэстаўрацыі царквы Св. Барыса і Глеба на Каложы ў Гродне.

23 верасня. У Гродна адбылося выступленне навучэнцаў мужчынскай гімназіі супраць адкрыцця расійскай уладай у Вільні помніка Кацярыне ІІ.

9 снежня. Заснаванне гродзенскага царкоўна-гістарычнага камітэта (пазней перайменаваны ў гісторыка-царкоўна-археалагічны камітэт). Пры камітэце быў царкоўна-археалагічны музей, які ў 1910 г. знаходзіўся ў будынку Барыса-Глебскага манастыра і меў 88 экспанатаў. Першым старшынёй камітэту быў гродзенскі кафедральны протаіерэй айцец М. Дзікоўскі, а затым яго намеснік прат. І. Карчынскі.

## 1905 г.

Пачынаюць выходзіць перыядычныя выданні “Гродненские отголоски”, палітыка-сатырычны ілюстраваны часопіс антыўрадавай накіраванасці “Школа”.

Аформілася першая гродзенская абшчына баптыстаў.

Пачалася праца фотамайстэрні М. Рубінштэйна.

Ноч з 26 на 27 студзеня. У кватэры Рэзнікоўскай паліцыя знайшла таемную ручную друкарню з заклікамі і

перыядычнымі выданнямі рэвалюцыйнага характару.

27 студзеня. На кватэры Міхнеўскай па вул. Пясочнай (з 1940 г. вул. Чапаева, зараз М. Васілька) паліцыя знайшла гектограф, друкарскі станок, шрыфты і пракламацыі.

29 студзеня. Сходка на Фурманскай (Извозчичьей) вул. (Занёманскі фарштат) з мэтаю абмеркавання будучай стачкі. 61 чалавек арыштаваны. Аднačасова праходзіць сходка за Скідзельскай заставай (цяпер раён праспекта Касманаўтаў).

30 студзеня. Другая палова дня. Пачалася забастоўка рабочых дробных механічных майстэрняў, якая хутка, пад уплывам групы агітатараў (каля 10 чалавек) ахоплівае тры пераплётныя фабрыкі. Палітычная стачка пратэсту рабочых горада супраць расстрэлу мірнай маніфестацыі 9 студзеня (ст.ст.) 1905 г. у Пецярбургу. Па вуліцах праходзіць дэманстрацыя (каля 500 чалавек) пад лозунгам: "Далоў самадзяржаўе!". Спынілі працу хлебапякарні і булачныя. У горад уводзяцца некалькі пяхотных рот, якія займаюць найбольш жвавыя раёны горада, прымаюць на сябе ахову прадпрыемстваў і падтрымку парадку і спакою на вуліцах. Вечарам забаставалі рабочыя тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага (1 250 чал.).

*"Забастовки на гродненских фабриках, равно как в других местностях губернии, вызваны, судя по всем признакам, вовсе не какими-либо определенными нуждами фабричного населения или недовольством их известными условиями своего быта, но носят чисто социально-политический характер. Как явствует из вышеизложенного, всюду замечалось присутствие сильной агитации* (З данясення гродзенскага губернатара віленскаму, ковенскаму і гродзенскаму генерал-губернатару пра забастоўкі рабочых у Гродзенскай губ. у студзені 1905 г. (1905 г. студзень 20)).

Люты. Адкрыўся чыгуналіцейны завод фірмы "Файнгольд" купца 2-й гільдыі Ханеля Файнгольда на куце вул. Парахавой і Артылерыйскай. Выраблялі конныя прывады, малацілкі, помнікі,

насосы і іншыя чыгунныя прадметы.

21 лютага. Эканамічная забастоўка рабочых Нёманскай пераплётнай фабрыкі М.Г. Лангборда і В.Д. Вайсбрэма.

14 сакавіка. Дэманстрацыя каля тытунёвай фабрыкі Шарашэвскага. Удзельнічае каля 3 000 чалавек. 6 агітатараў арыштавана.

25 сакавіка. 6 гадзін 15 хвілін. Дэманстрацыя моладзі (каля 50 чалавек) на Парадная пл. (з выхадам на Саборную вул.). Раскідаюцца пракламацыі з пратэстам супраць насілля ў турме.

26 красавіка. Каля 18 гадзін. Дэманстрацыя з вул. Мураўёўскай (каля 1000 чалавек) праходзіць вул. Сабарнай, дзе яе разганяе паліцыя. Арыштавана 9 чалавек. Са справаздачы губернатара: “Демонстрации, подобные вышеописанной, стали повторяться в Гродно весьма часто”.

29 красавіка. Сходка 72 рабочых па вул. Траецкай.

4 мая. Забастоўка на пераплётнай фабрыцы Харына (180 чалавек патрабуюць павелічэння зарплаты ад 10 да 40 %). Гаспадар зачыняе фабрыку і разлічвае рабочых.

9 мая. Забастоўка рабочых папіроснага аддзялення тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага (звыш 500 чал.; да 13 чэрвеня) і рабочых паравога млына (працягвалася ў чэрвені).

15 мая. (1 мая ст. ст.). Усеагульная першамайская забастоўка з удзелам працоўных усіх прадпрыемстваў.

23 мая. Забастоўка рабочых губернскай друкарні: патрабуюць павелічэння зарплаты на 25 %, скарачэння рабочага дня на 1-2 гадзіны, свабоды стачак.

Лета. Гродзенскія бальшавікі ўсталявалі цесную сувязь з Віленскім акруговым камітэтам РСДРП.

Чэрвень. Забастоўка рабочых 4 цагляных заводаў (130 чалавек), хлебапякарань (120 чалавек).

17 чэрвеня. Па ўказу імператара Мікалая II (4.06 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны І.Л. Блок (да 16.02.1906 г.).

18 чэрвень. Адбылася дэманстрацыя падчас пахавання забітага рабочага. Паліцыя разагнала яе ўдзельнікаў.

Ліпень-жнівень. Забастоўка працоўных друкарань Лапіна (70 чал.) і Мейлаховіча (20 чал.).

4–11 ліпеня. Забастоўка салідарнасці гродзенскіх рабочых з забітымі лодзінскімі працоўнымі. 5–6 ліпеня забастоўка стала ўсеагульнай.

Жнівень. Забастоўка і магутная дэманстрацыя пратэсту супраць склікання Булыгінскай думы.

Забастоўка казённага віннага склада № 1 (каля 40 чалавек).

25 жніўня. Рабочыя пераплётнай фабрыкі "Нёманская" (75 чалавек) спынілі працу з-за невыканання гаспадаром патрабавання аб прыбаўцы зарплаты.

Восень. Гродзенская арганізацыя РСДРП актывізуе агітацыйную працу ў вёсцы.

2 верасня. Зацверджаны статут Гродзенскага музычна-драматычнага гуртка пры Гродзенскім пажарным таварыстве.

1 кастрычніка. Паліцыя знайшла ў хаце Харчанкі друкарскі станок, шрыфты, пячаткі, рэвальверы і пракламацыі.

25 кастрычніка. Забастоўка чыгуначнікаў Гродна і іншых гарадоў губерні.

31 кастрычніка. У гродзенскім кафедральным саборы адбыўся падзячны малебен у гонар маніфеста 17 кастрычніка (ст. ст.). Ля сабора, на Саборнай плошчы і на вул. Саборнай збіраецца 3–5 тыс. жыхароў, якім губернатар чытае маніфест. Калі ён адпраўляецца дадому, дык натоўп, які яго суправаджаў, стаў патрабаваць неадкладна вызваліць усіх палітычных вязняў. Губернатар адмаўляецца, паабяцаўшы тэлеграфаваць пра іх патрабаванні генерал-губернатару і давесці атрыманы адказ. У 19 гадзін каля турмы збіраецца дэманстрацыя. Са сцягамі і спяваннем рэвалюцыйных песень яна праходзіць увесь вечар па вуліцах горада.

Лістапад. У фарным касцёле адбылася ўрачыстасць з нагоды 50-годдзя смерці Адама Міцкевіча. Упершыню пасля паўстання 1863–1864 гг. з'явіўся сцяг з гербам Рэчы Паспалітай – Арлом і Пагоняй.

1 лістапада. Пачалася ўсеагульная палітычная стачка гродзенскіх рабочых пад

кіраўніцтвам бальшавікоў. Яна ахапіла ўсе прадпрыемствы горада (скончылася 17 снежня перамогай забастоўшчыкаў).

17–18 лістапада. Мітынг салдат Гродзенскага гарнізона (1-я і 2-я батарэі 26-й артылерыйскай брыгады і Вяцкі пяхотны полк), арганізаваны гродзенскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыяй.

19–20 лістапада. Гродзенская ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя апублікавала 2 выпускі друкаванага лістка з салдацкімі патрабаваннямі.

27 лістапада. Мітынг салдат усіх частак гарнізона супраць арышту артылерыстаў.

4 снежня. На гродзенскім Казіным базары прайшоў мітынг салдат Гродзенскага гарнізона (300 чал.). У выступленні радавога А. Маневіча і іншых гучалі заклікі да звяржэння існуючага ладу, да ўдзелу ў народным паўстанні.

5 снежня. Забастоўка вучняў гродзенскай гімназіі (задумана 2.12). Да іх далучыліся вучні гарадскога вучылішча і некаторыя настаўнікі горада.

9 снежня. Забастоўка салідарнасці рабочых Гродна з пралетарыятам Польшчы, арганізаваная гродзенскім рабочым камітэтам ППС у Літве і гродзенскім сацыял-дэмакратычным камітэтам Бунда з пратэстам супраць увядзення ваеннага становішча ў Каралеўстве Польскім. Практычна стачка была ўсеагульнай.

12 снежня. Пратэст салдат 103-га пяхотнага Петразаводскага палка супраць дрэннага харчавання і жорсткага абыходжання.

22 снежня. З 20.00 да 23.00 гадзін. Шматлюдныя мітынгі рабочых. На адным з іх выступілі тры прадстаўнікі Пецярбургскага Савета, якія растлумачылі мэту ўсеагульнай забастоўкі ў Расіі. Пачалася забастоўка чыгуначнікаў губерні.

25 снежня. Пачалася ўсеагульная забастоўка рабочых.

## 1906 г.

Даведка: насельніцтва – Гродна 43 507 чал., колькасць войска – 28 273 чал.

У экспедыцыі па Гродзенскай губерні быў этнограф і фалькларыст А.К. Сержпутоўскі.

Выходзяць газеты “Солдатская воля” і “Голос Гродны”.

Студзень. Арганізацыйна

афармілася гродзенская група РСДРП.

Люты – сакавік. Праходзяць выбары ў І Дзяржаўную Думу. Працоўныя тытунёвай фабрыкі (281 чал.), фабрыкі канторскіх кніг (106 чал.), пераплётных майстэрняў і футлярных вырабаў (72 чал.) і ўсяго 90 % ад агульнай колькасці тых, хто атрымаў выбарчыя правы, адмовіліся ад удзелу ў выбарах.

23 лютага. Па ўказу імператара Мікалая ІІ (10.02 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны У.К. Кісцер (да 7.07.1906 г.).

8–27 мая. Выданне нелегальнай бальшавіцкай газеты "Солдатская воля" (25.04 і 14.05 ст. ст.).

4 ліпеня. Забастоўка рабочых Нёманскай пераплётнай фабрыкі (падаўлена паліцыяй).

7 ліпеня. Па ўказу імператара Мікалая ІІ (24.06 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны Ф.-А.А. Зэйн (да 28.11.1907 г.).

12 ліпеня. Забастоўка рабочых (231 чал.) на фабрыках Фінкеля і Левіна ("Империал"). Патрабаванне 8-гадзіннага працоўнага дня задаволена, і праца 18 ліпеня аднавілася.

13 ліпеня. Забастоўка служачых і рабочых казённай прыстані. Частка патрабаванняў задаволена, і 16 ліпеня праца аднавілася.

27 ліпеня. 4-класнае яўрэйскае вучылішча Т. Астрагорскай пераўтворана ў яўрэйскую прагімназію (што адпавядала 4 класам гімназіі і дазваляла працягваць вучобу ў гімназіі без дадатковай здачы экзаменаў).

24 кастрычніка. Забастоўка гродзенскіх краўцоў.

24 лістапада. Забастоўка рабочых губернскай друкарні, якія прад'явілі эканамічныя і прававыя патрабаванні. Губернатар Зэйн загадаў звольніць рабочых.

4–5 снежня. У знак салідарнасці з рабочымі губернскай друкарні спыняюць працу 36 наборшчыкаў сямі прыватных друкарняў горада. На вуліцах распаўсюджваюцца лістоўкі "Ко всем типографам г. Гродно!". Аднак забастоўка праходзіць нядружна: перыядычна працуюць прыватныя друкарні, не бастуюць літа-

графіі. Яшчэ да пачатку выступлення было арыштавана бюро сацыял-дэмакратычнага прафсаюза друкарскай і пераплётнай справы.

## 1907 г.

Абарот тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага каля 3 млн. руб., рабочых каля 1200 чалавек.

Пачатак будаўніцтва металічнага пешаходнага моста праз Нёман (злучыў вул. Маставую і вул. Ліпавую (з 1940 г. вул. Гарнавых). Скончана ў 1908 г., мост прыняты 24.07.1909 г.

Афіцыйнае адкрыццё "Гродненских педагогических курсов" – адзінай падобнага роду яўрэйскай установы ў Расійскай Імперыі для падрыхтоўкі яўрэйскіх настаўнікаў (набрана 60 слухачоў, была бібліятэка).

Пры гродзенскім фарным касцёле паўстала дабрачыннае таварыства. У статуце гаварылася, што яно ставіць сваёй мэтай "пошук сродкаў дзеля паляпшэння матэрыяльнага і маральнага становішча бедных католікаў гродзенскіх парафій без адрознівання полу, узросту, звання ці стану". У 1916–1927 гг. старшынёй таварыства быў ксёндз Лявон Жаброўскі.

У памяшканні Гродзенскага Барысаглебскага манастыра размешчана "Церковное древнехранилище для сохранения важных памятников и документов", арганізаванае раней Гродзенскім архітэктурным камітэтам.

Адкрыта вікарыяцтва Гродзенскай епархіі ў Беластоку.

23 студзеня. Адбылася перастрэлка паміж прадстаўнікамі ўлады і некалькімі тэрарыстамі (анархісты В. Фрыдман і Спіндлер). Загінулі пяць паліцэйскіх, турэмны наглядчык Каханскі (Каханоўскі) і адзін тэрарыст (Фрыдман).

Газета "The New York Times" 26.01.1907 г. паведамляла:

*"Трагедыя пачалася з таго, што двое мужчын стралялі ў наглядчыка турмы. Злачынцаў пераследавала паліцыя. Падчас уцёкаў адзін схаваўся ў царкве, а другі – у прыватным доме. Тры паліцэйскія, якія спрабавалі арыштаваць злачынцу ў царкве, былі атакаваны натоўпам і застрэлены. Тэрарыст уцёк. Падчас штурму дома, дзе схаваўся*

*другі, былі забітыя яшчэ два паліцэйскія. У выніку былі выкліканыя вайскоўцы, якія залпавым агнём забілі злачынца і паранілі некалькі мінакоў”* (Супрун М. Гародня на старонках “The New York Times”. 1853–1921. // Гарадзенскі соцыум. Горад і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X–XX стст.: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. А.Ф. Смаленчука. – Мінск: Зміцер Колас, 2016. – С. 104).

14 лютага. Па рабочай курыі на выбары ў Дзяржаўную Думу абраны за ўпаўнаважаных два сацыял-дэмакрата.

8 красавіка. Забастоўка рабочых майстэрань Я. Каўфакса, Э. Штэйна, Г. Веліна, хлебапякарні Карпекі.

9 красавіка. Забастоўка сямі краўцоў майстэрні І. Лапідуса: прад’яўлены эканамічныя патрабаванні.

16 чэрвеня. Э. Ажэшка атрымала дыплом ганаровага жыхара г. Гродна.

3 лістапада. Зарэгістравана “Гродзенскае таварыства любіцеляў драматычнага і музыкальнага мастацтва «Муза»”. Кіраўнік – урач А. Тальгейм, з 1917 г. – урач Кжэчкоўскі. У таварыства уваходзіла 60 чалавек. Драматычнай секцыяй кіраваў правізар фарнай аптэкі Эдуард Стэмпнеўскі.

14 лістапада. Адчыняецца першая гарадская тэлефонная станцыя.

16 лістапада. Пачалася дзейнасць Гродзенскага педагагічнага таварыства. Старшыня – К.У. Кемарскі. У складзе было 45 сапраўдных і 12 спаборнічаючых (кандыдатаў) сяброў. Сярод актыўных сяброў – Я.Ф. Арлоўскі, А.У. Караткоў, І.І. Астравумаў, Д. Кропатаў. Таварыства ставіла за мэту “ўзаемадапамогу ў распрацоўцы навуковых і педагагічных пытанняў” і “пытанняў эстэтычнага развіцця”. Складалася з секцый: гістарычна-філалагічнай, прыродазнаўча-матэматычнай, псіхалагічнай, выяўленчых мастацтваў і музыкі.

24 лістапада. Забастоўка рабочых губернскай друкарні. 4 снежня іх падтрымліваюць рабочыя 7 прыватных друкарань.

9 снежня. Забастоўка рабочых тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага (125 чал.), чыгуналіцейнага завода Файнгольда (30 чал.), патачнага

завода (8 чал.), цукеркавай фабрыкі (30 чел.), 4 друкарань (111 чал.), Нёманскай пераплётнай фабрыкі (111 чал.), 17 кравецкіх (65 чал.), 11 белашвейных, 9 нарыхтоўчых, 4 скураныя, 2 шапачныя і 1 слясарная майстэрня (усяго 96 чал.) з мэтаю выказаць спачуванне сябрам сацыял-дэмакратычнай фракцыі Дзяржаўнай Думы 2-га склікання, аддадзеным пад суд.

23 снежня. Па ўказу імператара Мікалая II (10.12 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны В.М. Барзенка (да 2.01.1913 г.).

## 1908 г.

У доме Чартка на вул. Сабарнай (зараз Савецкая) пачаў дзейнічаць першы кінематограф пад назвай "Электра-Біёграф". Яго ўладальнікам быў Якаў Крывашэін.

Студзень. У Гродна Э. Ажэшка арганізоўвае канцэрт на карысць бедных.

Снежань. Аднаўленне гродзенскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі пасля арыштаў у снежні 1907 г.

8 снежня. Зарэгістраваны статут гродзенскага таварыства аматараў палявання.

## 1909 г.

У Гродна жывуць прафесійныя экспедытары нелегальнай літаратуры РСДРП П. Лебіт і К. Лебіт. Яны таксама арганізоўвалі пераход сацыял-дэмакратаў з-за мяжы ў Расію і наадварот.

У Гродне створана аддзяленне гімнастычнай арганізацыі "Сокал".

6 студзеня (22.12. 1908 ст.ст.). Зарэгістраваны аддзел Усерасійскага нацыянальнага саюза ў Гродне. Мэта яго – садзейнічаць "а) панаванню рускай народнасці ў межах Расійскай Імперыі, б) узмацненню свядомасці рускага народнага адзінства, в) уладкаванню рускай бытавой самадапамогі і развіццю рускай культуры і г) узмацненне рускай дзяржаўнасці на пачатках самадзяржаўнай улады цара і яднаннем з заканадаўчым народным прадстаўніцтвам".

9 лютага. Зарэгістравана "Общество вспомоществования нуждающимся учащимся Гродненского городского 4-классного училища".

23 лютага. Дазволена губернатарам “Потребительское общество при Гродненском отделе Союза русского народа”.

2 сакавіка. Дазволена губернатарам “Общество потребителей хлебопекарни и булочной под названием «Меркурий»”.

2 красавіка. У Гродне на чале з епіскапам Гродзенскім і Брэсцкім Міхаілам (Ермаковым), у прысутнасці губернатара В.М. Барзенкі, дэпутата дзяржаўнай Думы В.К Тычынінай адбыўся сход прадстаўнікоў праваслаўных брацтваў Гродзенскай губерні (Гродна, Брэста, Ваўкавыска, Друскенік) і мясцовых памешчыкаў па пытанні аб павелічэнні квоты прадстаўніцтва ў Думе ад рускага (праваслаўнага) насельніцтва 9 заходніх губерняў.

21 красавіка. Зарэгістраваны Гродзенскі аддзел Яўрэйскага літаратурнага таварыства.

3 верасня. Пачатак дзейнасці нелегальнага Гродзенскага гуртка беларускай моладзі “Хатка”. Першы кіраўнік – ксёндз Францішак Грынкевіч, бібліятэкар – Л.А. Сівіцкая (Зоська Верас). Пры ім існаваў першы ў Заходняй Беларусі беларускі тэатр.

28 верасня. Дазволена “Гродненское отделение общества вспомоществования еврейским учителям…(?) живущим в Киеве и в черте еврейской оседлости”.

11 кастрычніка. У Гродна нарадзілася беларуская паэтэса З.А. Бандарына.

## 1910 г.

У Гродзенскай губернскай друкарні апублікаваны кніга гродзенскага гісторыка Я.Ф. Арлоўскага “Гродненская старина. Ч. 1. Гродно”, а таксама “Гродненское педагогическое общество. Историческая подсекция. Отчет о трехлетней деятельности исторической подсекции (февраля 1908 – 5 июля 1910)”.

Група вучняў дзяржаўнай гімназіі (8–12 чал.) пад кіраўніцтвам Е. Крыўца заснавала польскую вайсковую арганізацыю, якая падрыхтоўвалася да актыўнай дзейнасці супраць Расіі на выпадак вайны. Канкрэтныя формы арганізацыя атрымала ў 1912 г. пад уплывам эмісара з Кракава.

19 лютага. Гродзенскі

гурток беларускай моладзі арганізаваў першую лекцыю-вечарыну на прыватнай кватэры сясцёр Салянак па вул. Паліцэйскай.

18 мая. Памерла Э. Ажэшка.

23 мая. У пахаванні Э. Ажэшкі прынялі ўдзел каля 15 тыс. чал.

Лістапад. Гарадская дума пастанавіла ўшанаваць памяць Ажэшкі: "1) назваць Пясковую вул., на якой яна жыла, яе імем; 2) плаціць з гарадскіх сродкаў за навуку 5 бедных вучняў; 3) даваць штогод на кожны з гарадскіх прытулкаў 100 руб.; 4) павесіць партрэт Ажэшкі ў зале пасяджэнняў гарадской думы".

## 1911 г.

Даведка: насельніцтва Гродна – 55 800 чалавек.

Пачатак выдання газеты "Северо-западная жизнь" (6.05.1911–1915, 1912–1913, рэдактар Л. Саланевіч).

Заснавана Апякунскае таварыства дзіцячых ясляў.

У доме Вольфа Матуса Рамуальд Завістоўскі заснаваў кінематограф "Люкс". У міжваенны час ён называўся "Ліра", а пасля вайны, да канца 1960-х гадоў, – кінатэатр "Спартак".

На Занёманскім прадмесці пачала дзейнічаць тытунёвая фабрыка "Нёман". Яе ўласнікі думалі стаць канкурэнтамі фабрыкі Шарашэўскага, але ў 1912 ці 1913 г. вымушаны былі прадаць прадпрыемства Шарашэўскаму.

13 жніўня. У Гродне нарадзіўся будучы адмірал С.С. Варкоў.

## 1912 г.

У Гродна пачала дзейнічаць першая электрастанцыя (на сучаснай вул. Будзённага).

Гродзенскай мужчынскай гімназіі прысвоена імя А.П. Тармасава.

На левабярэжжы па вул. Беластоцкай адчынена першая фотамайстэрня (уладальнік Краўзэль).

1 (13) студзеня. Мясцовая гродзенская паштова-тэлеграфная кантора выпусціла новыя юбілейныя паштовыя маркі да 300-годдзя дома Раманавых.

3 студзеня. Пачатак выдання часопіса "Педагогическое дело" (да 1.01.1914 г. выйшла 13 нумароў). Скла-

даўся з 2 частак: першая для вучняў, другая для бацькоў. Гэта адпавядала мэце служэння інтарэсам сям'і і школы, садзейнічала іх збліжэнню ў рашэнні задач адукацыі і выхавання.

15 (28) студзеня. Апякунскае таварыства дзіцячых садкоў адкрыла дзённы прытулак для дзяцей ад 2 да 10 год з бедных сямей.

Красавік. Адбылася першая вучнёўская выстава ў Марыінскай гімназіі. У аддзеле жывапісу звярнулі на сябе ўвагу працы Сцяпанавай, Грунер, з прац алоўкам – Клікс. Лепшымі рукадзельніцамі сталі Івацэвіч, Лангборт, Куранская, Берастоўская. Добрымі былі штучныя кветкі М. Ціопы.

29 красавіка. Ноччу распаўсюджаны першамайскія заклікі партыі Бунд.

6 мая. Пачынаеццца выданне ў Гродне газеты "Северо-западная жизнь" да 11 сакавіка 1913 г.; (рэдактар Л.М. Саланевіч). Рэдакцыя знаходзілася на вул. Мураўёўскай, дом Бібліна.

Чэрвень. У гродзенскага мешчаніна Ламановіча паліцыя знаходзіць рэвалюцыйныя брашуры і газеты замежных выданняў РСДРП.

2 чэрвеня (па ст. ст. 20.05). У Гродна выходзіць на рускай мове першы нумар грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Наше утро" (апошні нумар 31.07.1914 г.). Рэдактар В.А. Гаеўскі, выдавец І.З. Мейлаховіч.

13 ліпеня. Ноччу распаўсюджаны заклікі партыі Бунд.

4 (15) ліпеня. Гродзенскі губернатар атрымаў паведамленне з Міністэрства народнай адукацыі, што задаволена хадайніцтва гарадской думы аб зацвярджэнні пры гродзенскай мужчынскай гімназіі адной стыпендыі былога гродзенскага губернатара П.А. Сталыпіна.

26 жніўня. Ноччу распаўсюджаны заклікі партыі Бунд.

6 кастрычніка. Адкрылася Гродзенскае таварыства любіцеляў ваенна-санітарных ведаў.

18 кастрычніка. У пакоях намесніка гродзенскага Барысаглебскага манастыра адбыўся сход сяброў гродзенскага

царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта (старшыня – пракурор гродзенскага акруговага суда У.А. Кадыгробаў), сябры – гісторык Я.Ф. Арлоўскі, протаіерэй І.В. Карчынскі, М.Н. Кайгародаў і іншыя.

## 1913 г.

*“Нідаўна прыехала сюды шмат работнікаў з Расеі, як у нас іх называюць, «кацапаў», каторые пачалі працаваць на розных работах пры крэпасьці на Занемскім фартштаці. Выгляд слабы (прэдмесьцьця) зусім перэменіўся з усіх бакоў. Расейская гутарка замяніла беларускую і калі выйсці сюды, то скарэй кінецца ў вочы ня Горадня, а Тула ці Ноўгарад. Разам с тым новые людзі прынясьлі з сабой і новые абычаі. У нядзелі і ў другіе сьвятые дні да познай ночы вуліцы поўны рабочага народу, каторы вясела прапускае на гарэлку за тыдзень зарobленые грошы.*

*Раздаюцца песьні, каторых ніколі ніхто ў нас ня чуў, і каторые аж надта характэрызуюць увесь гэты новы люд. Часта пры дзьверах манаполек можна бачыць бойкі, чуць сваркі і т.д.”* (Наша Ніва. – 1913. – № 38. – С. 4).

На сённяшняй вул. Леніна, 22 пабудаваны будынак Сялянскага пазямельнага банка.

Гродзенскі гурток беларускай моладзі выдае рукапісны часопіс “Kolas bielaruskaj nivy” на беларускай мове “лацінкай” (лацінскім шрыфтам, 16 старонак, 50 экзэмпляраў). Артыкулы, апавяданні, вершы, песні расказвалі аб беспрасветнай долі беларускага народа і заклікалі да актыўнай культурна-асветніцкай працы сярод беларусаў.

Апублікаваны “Отчет о состоянии и деятельности Гродненского губернского статистического комитета за 1907–1912 гг.”.

Пачалі выходзіць “Труды гродненского общества ревнителей военно-санитарных знаний”.

13 студзеня. Па ўказу імператара Мікалая І (31.12.1912 г. па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны П.М. Баярскі (да 27.10.1913 г.).

21 красавіка. Заснавана дабрачыннае яўрэйскае тава-

рыства "Лінас-Гацэдэк" (дапамога бедным хворым).

29 красавіка. Распаўсюджаны заклікі ЦК партыі Бунд да рабочых Гродна аб віншаванні 1 мая.

Май. У Гродне выступаў Віленскі польскі тэатр.

7 мая. Рашэнне губернскага камітэта па ўладкаванні 100-гадовага юбілею вайны 1812 г. аб усталяванні ў Гродне агульнага для ўсёй губерні помніка. Выканана не было ў сувязі з надыходам Першай сусветнай вайны.

27 мая. Візіт у Гродна сейненскага біскупа Антонія Карася. На бежмаванне прыйшло каля 5 тыс. чал.

16–22 жніўня. Пілігрымка гродзенскіх вернікаў-католікаў да Чанстаховы.

8 кастрычніка. Распаўсюджаны пракламацыі ЦК партыі Бунд да яўрэйскіх рабочых Гродна.

31 кастрычніка. Па ўказу імператара Мікалая I (18.10 па ст. ст.) гродзенскім губернатарам прызначаны В.М. Шыбека (да 17.02.1916 г.). Прыехаў у Гродна 18.11 (1.12).

17 (30) лістапада. Першых наведвальнікаў прыняў агульнаадукацыйны музей пры Гродзенскім педагагічным таварыстве.

## 1914 г.

Даведка: насельніцтва горада – 43 092 чал., 99 прадпрыемстваў (2 287 рабочых).

На месцы сталовай для нямецкіх рабочых, якія працавалі на каралеўскіх мануфактурах па запрашэнні Тызенгаўза, пабудавана кірха.

Заснаваны рачны яхт-клуб "Гродненское эхо".

Пабудавана амбулаторыя Чырвонага крыжа (сёння корпус ГрДУ на вул. Дзяржынскага).

30 красавіка. Распаўсюджаны заклік ЦК партыі Бунд "1 Мая".

7 мая. Гродзенскае будаўнічае аддзяленне ўхваліла праект першага кінатэатра "Эдэн" (цяпер тут "Чырвоная зорка").

15 чэрвеня. Адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка былому губернатару П.А. Сталыпіну ў скверы каля Аляксандра-Неўскай царквы.

З Летапісу Сафійскага сабору ў Гродне:

*"15 чэрвеня 1914 г. у Сафійскім саборы ўрачыста ажыц-*

*цёўлена архіепіскапам Міхаілам Боская літургія і хрэсны ход у Свята-Аляксандраўскай царкве, у якой адбылася паніхіда па былым старшыні Рады Міністраў Пятру Аркадзевічу Сталыпіну. Пасля гэтага адбылося адкрыццё помніка ў скверыку з паўночнага боку Св.-Аляксандра-Неўскай царквы Пятру Аркадзевічу Сталыпіну"* (Черепица В.Н. Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. – Гродно, 2003. – С. 236).

18 ліпеня. Гродзенская губерня аб'яўлена на ваенным становішчы.

11 студзеня. Гродзенскі губернатар паведаміў гарадской управе, што хадайніцтва гарадской думы пра новыя найменні вуліц зацверджаны. Сапёрная стала Аляксееўскай, а вуліца ад моста на Нёмане да Асававецкай шашы – Пятроўска-Мікалаеўскай.

## 1915 г.

1–8 сакавіка. У Гродна праездам знаходзіўся рускі пісьменнік М.М. Прышвін.

*"...16 февраля (ст. ст.), Гродно. Весь город как-то задавлен войной, вы берете извозчика в гостиницу и не верите, что он доберется... Сегодня 23 февраля (ст. ст.), было солнце совсем весеннее над Гродно"* (з дзённіка Прышвіна).

Красавік. З Гродна былі высланы яўрэі. Перад гэтым казачыя часткі рускай арміі здзейснілі пагром.

22 мая. У "Нашай Ніве" (№ 19–20) апублікаваны артыкул В. Ластоўскага "Горадня".

*"Усяго жыхароў у Горадні 41 896; праз Горадню праходзіць чыгунка Петраградзко-Варшаўская. Жыхары па нацii дзеляцца на беларусоў, расейцоў, палякаў і жыдоў. Добрыя 8/10 цяперашніх горадзенскіх палякаў і расейцаў – гэта апалячэныя і абрасеіўшыяся беларусы, каторыя, як заз-вычай, усякія перакінчыкі, у восем разоў большыя ворагі беларускага адраджэння за самых найпраўдзіўшых палякаў і расейцаў. На блізка палавіну жыхароў Горадні складаюцца жыды, каторыя ад сьвята дома і дзеля фанабэрыі ў людзях гаворац па-расейску і прыдаюць Горадні расейскі колер. Сам жэ фундамэнт Горадні і аколіцы яго заселены*

*беларусамі, як і тысячу гадоў таму назад”.*

Жнівень. Адкрываецца “электрычны тэатр” “Эдэн” адстаўнога штабс-капітана Сяргея Мікалаевіча Манастырскага. Гэта быў першы ў Гродне стацыянарны кінатэатр (на вул. Паштовай, 11). Існуе сёння пад назвай “Чырвоная зорка”.

Жнівень. Эвакуацыя губернскіх установаў у Калугу, Тамбоў, Пензу, Разань.

Падчас нямецкай бамбардыроўкі горада быў разбураны касцёл базыліянак і палац Тызенгаўза (месца знаходжання губернскай улады).

11 жніўня (31 ліпеня па старым стылі) выйшаў апошні нумар “Гродненских губернских ведомостей”.

1 верасня. Рускія войскі пакідаюць Гродзенскую крэпасць. Яна перастала існаваць як фарпост на заходняй мяжы Расійскай Імперыі. Кіраўніцтва гарадскім жыццём бярэ на сябе Гарадскі камітэт, складзены з 6 палякаў і 6 яўрэяў. Ён дзяліўся на 6 секцый: фінансавую (агульны аддзел), мясцовае кіраўніцтва, харчовую, санітарную, адукацыйную, дабрачынную.

2–3 верасня. Баі на вуліцах Гродна.

3 верасня. Горад захоплены кайзераўскімі войскамі (да 29 красавіка 1919). З 63 тыс. насельніцтва ў 1913 г. у горадзе засталося каля 25 тыс. чал. Страта горада і жыхароў склала 1 200 000 нямецкіх марак толькі ад “добровольных” займаў і падаткаў; у Германію вывезлі нерухомасць, архіў былой Беластоцкай акругі, разрабавалі бібліятэку дамініканаў, архіў упраўлення дзяржаўнай маёмасці і г.д.

У Гродне і наваколлі размясцілася 12-я германская армія пад камандаваннем генерала пяхоты Ф. Фабецкі. Створаны цэсарска-нямецкія органы. Обер- бургамістрам Гродна прызначаны Вайсэнборн (Weisenhorn), капітан артылерыі, былы памочнік бургамістра ў Вільні. Афіцыйна ўводзіцца грыгарыянскі каляндар: усе даты перасоўваюцца на 13 дзён наперад – 21 жніўня лічыцца 3 верасня.

Пасля 3 верасня. Акупацыйныя ўлады зачынілі

яўрэйскую газету “Наше утро” (да 10 снежня 1918 г.).

28 верасня. Указ вайсковых улад аб прызнанні беларускай мовы па-за межамі закона.

1 снежня. Выходзіць першы нумар газеты “Гроднер цайтунг”. Яна выдаецца па-нямецку, па-польску, па-яўрэйску.

## 1916 г.

Згодна нямецкаму перапісу ў горадзе жыве 24 460 чалавек. З іх: яўрэяў – 15 583 (67,7 %); палякаў – 7609 (31,1 %); беларусаў – 465 (1,8 %); ліцвінаў – 113 (0,4 %); маларусаў – 570 (2,3 %); іншых – 120 (0,5 %.).

На беразе Нёмана на глыбіні 40 м адкрыта крыніца мінеральнай вады, багатай жалезам (тэмпературай 8º, фантан 4 м над паверхняй зямлі). Немцы наладзілі выпуск “Гарадзенскай гарадской мінеральнай вады”, што прынесла гораду добры прыбытак.

У былым Барысаглебскім манастыры па вул. Маставой, 9 размеркаваліся (да 1930 г.) беларуская школа, канцылярыя Беларускай вучыцельскай рады, сакратарыят Беларускага пасольскага клуба, Беларуская школьна-прытулкавая рада, Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны і рэдакцыя газеты “Сялянская гутарка”, беларуская кнігарня і гродзенскае аддзяленне Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

Іешыву ў Гродне ўзначаліў Каганман І. Ш.

1 студзеня. З дазволу нямецкіх улад пачаліся заняткі ў жаночай сярэдняй школе. 59 дзяўчат было ў першы год, 78 – у другі. Заняткі ішлі ў кляштары назарацянак, а з 3.12.1917 г. – у гімназіі па вул. Ажэшкі.

Сакавік. Пры Барысаглебскім праваслаўным манастыры заснавана беларуская пачатковая школа. Яе настаўнікамі сталі Тэкля Станішэўская і Аляксандр Грыкоўскі.

20 сакавіка. Па ўказу Мікалая ІІ ад 7.03.1916 г. выконваць абавязкі губернатара прызначаны А.М. Крэйтан (з 7.06.1916 – губернатар).

Красавік. У Гродна адкрыта першая беларуская школа.

1 красавіка. Горадня стала самастойным гарадскім раёнам. Бургамістрам прызначаны капітан доктар права

Вайсэнборн з тытулам штатхаўптман. Пры галоўнай адміністрацыі ў Горадні быў створаны Цэнтральны аддзел, пазней – Гаспадарчы і аддзел сыравіны і гандлю. Ёй падпарадкавалі акругові суд і пракуратуру, далучылі аддзел жандармерыі.

30 красавіка. У Старым парку на беразе Гараднічанкі адбылося свята пераходу на летні час. Пасля 12-ці апоўначы ўдзельнікі рушылі з паходнямі і спяваннем “Май прыйшоў…” праз парк. Калі падыходзілі да скалы, з яе адтуліны вылецела ў паветра ракета і з’явіліся з віншавальнымі крыкамі вядзьмаркі на веніках. Яны падпалілі два стосы з дровамі, а на каменную глыбу паміж імі ўскочыў князь пекла, апрануты ў чырвонае трыко. Д’ябал павітаў усіх жартаўлівым казаннем і прыгаварыў за грахі да пакарання – перажыць апошнюю гадзіну яшчэ раз: усе перавялі гадзіннікі на гадзіну назад.

Жнівень. Да гадавіны захопу горада нямецкія ўлады выдаюць брашуру “Grodno”.

1 чэрвеня. У гарадзенскім Старым парку адбылася палявая імша, на якой прысутнічаў кайзер Вільгельм II. Потым ён паехаў на аўтамабілі аглядзець Стары замак і выдатны від адтуль на Нёман і Занёманскі фарштат.

24 ліпеня. Распараджэнне начальніка нямецкага кіравання Горадні аб рэквізіі ўсяго ўраджаю 1915 года.

2 кастрычніка. Камендант крэпасці Гродна генерал-лейтэнант Рудольф выдаў загад аб прымусовых працах жыхароў Гродна і крэпасці па месцы жыхарства і за яго межамі.

1 лістапада. Загадам крайзгаўптмана (начальніка акругі) у Гродна забаронена забіваць жывёлу і птушку ўсіх відаў на продаж.

# ХТО ПЕРАМОЖА: ПАЛЯКІ, РАСЕЙЦЫ ЦІ ЛЕТУВІСЫ І БЕЛАРУСЫ?

У № 32 «Нашай Нівы» за 9 (22) жніўня 1912 г. змешчаны артыкул Власта (Вацлава Ластоўскага) «З падарожы на Гродзеншчыне», у якім ёсць наступнае сцвярджэнне: «…палякі даводзілі, што беларускае адраджэньне – гэта хітрая інтрыга правіцельства, каторае хочэ, збудзіўшы беларусоў да новага жыцьця, зрабіць іх расейцамі; а расейцы казалі, што беларускі рух – гэта польская інтрыга. Папраўдзі ж і адны і другія, калі па шчырасці разабраць, ня верылі ў тое, што беларус можэ пачаць жыць сам сабой, сваім розумам, а тады ні адні ні другіе ня будуць мець ніякай асновы да такой палітыкі, якую вядуць цяпер» (с. 2).

**1917 г.**

Заснавана Беларускае дабрачыннае таварыства як філіял віленскага таварыства “Золак”. Апекавалася прытулкам для беларускіх дзяцей-сірот, які з часоў Першай сусветнай вайны знаходзіўся пры мужчынскім праваслаўным манастыры Св. Барыса і Глеба (вул. Маставая). Праіснавала БДТ да 1927 г.

Створана сіяністская маладзёжная арганізацыя “Бней Ціон”.

Кастрычнік. Складзены спіс жыхароў Гродна ў залежнасці ад канфесій: католікаў – 7 000, іўдзеяў – 14 000, праваслаўных – 900, евангелікаў – 120, іншых – 908 чалавек.

У ноч з 17 на 18 снежня 1917. Першы Усебеларускі дэмакратычны кангрэс абвясціў Беларусь незалежнай рэспублікай, абраў Раду, але быў хутка разагнаны бальшавікамі пры дапамозе ваеннай сілы.

Даведка аб дзейнасці дабрачынных таварystваў:

1. Польскае таварыства дапамогі ахвярам вайны (з 1939 г. Занёманскае да-

брачыннае таварыства імя Э. Ажэшкі). Мэта – гуманітарна-грамадская дзейнасць сярод польскага і хрысціянскага насельніцтва Гродна. Пад яго кантролем:

а) Народная кухня па вул. Брыгіцкай (кіраўнік Ю. Лінке) на Занёманскае прадмесце (кс.-францысканец Гіпаліт Баярунец). У асноўным бясплатныя абеды. 1500 абедаў штодзень.

б) Танная кухня (або кухня для інтэлігенцыі). Каля 600 абедаў у тыдзень.

в) Прытулак імя Св. Антонія ў кляштары гродзенскіх бернардзінцаў, тут жа пачатковая школа, каля 100 дзяцей.

г) Дом працы, створаны кс. Антоніем Курыловічам (абутак на драўлянай падэшве, перараблялі старую вопратку для ўбогіх).

д) Дабрачынная секцыя – апека над беднымі, надзор за народнымі кухнямі, дапамога грашыма і натураю.

е) Першы гродзенскі каапэратыў хрысціян “Społem”, створаны на аснове былой акцыі і распродажу харчавання (зварот – 100 000 марак).

2. Прытулак фарнай парафіі, належачы да каталіцкага таварыства дабрачыннасці пры гродзенскай Фары (кіраўнік Ядвіга Матэрска).

3. Таварыства апекі над дзецьмі імя Э. Ажэшкі – дзённы прытулак Сэрца Ісуса на Занёманскім прадмесці. Каля 35 дзяцей атрымоўвалі дзённае навучанне, апеку, забаўленне і навучэнне ў выглядзе гаворкі.

4. “Źlobek” – дом выхаваўчы для пакідышаў (кіраўнікі Гелена Святаполк- Чацвярцінская і Дудзінская). 50 дзяцей ад немаўлят да 5-6 год.

5. Дом для старцаў – каля 40 чалавек.

Даведка аб асветных установах:

1. Мужчынская школа, закладзеная кс. Фр. Грынкевічам пры дапамозе М. Хмелецкай. Належала Войцеху Хмелецкаму. 6 класаў гімназіі. 270 чалавек. Дзеці шляхты і сялян з ваколіц Гродна, Сакулкі, з-пад Скідзеля, занеманскай часткі Гродна. Кіраўнік Людвік Кучэўскі.

2. Жаночая школа гімназійнага тыпу, 5 класаў, 150 дзяўчат з гродзенскіх мяшчан. У

кляштары брыгітак. Кіраўнік школы – Марыя Паўла Гажыч.

3. Школы пачатковыя, створаныя акупацыйнымі ўладамі:

- 2 для памешчыкаў: у горадзе і Занеманскім прадмесці, 40–60 вучняў.

- беларуская ў манастыры Барыса і Глеба.

Даведка аб культурных установах:

Таварыства “Муза” мае 3 секцыі: музычную, драматычную, літаратурную, 100 чал. Кіраўнік – доктар Кжэчкоўскі.

## 1918 г.

Адчынена беларуская прагімназія.

Студзень – люты. Стачка пратэсту гродзенскіх рабочых супраць нямецкай акупацыі.

Люты. Бунт нямецкіх салдат, якія адмовіліся падпарадкавацца загаду камандавання аб перадыслакацыі іх на французскі фронт.

Сакавік. Палітычная забастоўка рабочых гродзенскай тытунёвай фабрыкі, якая ператварылася ва ўсеагульную.

25 сакавіка. Рада БНР абвясціла III Устаўную грамату Беларускай Народнай Рэспублікі.

*“Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а лясне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеныя беларусамі”* (цыт. па: Д. Міхалік. Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918–1920 гг.: Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. – Смаленск, 2015. – С. 202.)

Ліпень. Стварэнне Гродзенскага падпольнага раённага камітэта РКП(б), які дзейнічаў пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта партыі (старшыня В.А. Багуцкі).

Жнівень. Група беларускіх інтэлігентаў арганізавала з дазволу германскіх улад Беларускі грамадзянскі камітэт.

Верасень 1918–1919. На тэрыторыі Гродзеншчыны дзейнічае Польская ваенная арганізацыя (вучні 2 сярэдніх школ), якая садзейнічае паскарэнню вызва-

лення Гродзеншчыны з-пад нямецкай акупацыі (аддзелы: кур’ерска-разведвальны, штурманы).

Кастрычнік. Гродзенская гарадская арганізацыя бальшавікоў налічвае 135 чальцоў. Сакратар арганізацыі і рэдактар штотыднёвай газеты “Набат” – С.Я. Капланскі.

Па ініцыятыве польскіх памешчыкаў і інтэлігенцыі створаны Польскі грамадзянскі камітэт.

Сярэдзіна кастрычніка. Па ініцыятыве праваслаўнага епіскапа Уладзіміра і ўладальніка маёнтка Навасёлкі Яўграфа Курлова створана Руская ўправа Гродненскай губерні (хутка назва зменена на Беларускую ўправу Гарадзенскага краю).

Лістапад. У горадзе пачынае дзейнічаць (да 1920 г.) Беларускі камітэт культурна-нацыянальнай сувязі (па вул. Маставой, 9).

12 лістапада. Арганізаваны прафсаюз металістаў, будаўнічых і чыгуначных рабочых.

У Гродне сабраліся палякі з былой царскай арміі і ўсходніх карпусоў і пастанавілі арганізаваць Вайсковую раду зямлі Гродзенскай, якая пазней рэарганізавалася ў Самаабарону зямлі Гродзенскай (існавала да 1 сакавіка 1919). 12 снежня 1918 г. на чале яе вайсковых фарміраванняў з чынам генерал-маёра быў прызначаны дэкрэтам Галоўнага польскага кіравання ў Варшаве Мікалай Сулеўскі. 18 снежня ў фарным касцёле адбылася прысяга на вернасць службе Рэчы Паспалітай. Пазней Самаабарона зямлі Гродзенскай існавала як гродзенскі полк стралкоў у складзе літоўска-беларускай дывізіі, арганізаванай генералам В. Івашкевічам. За баі за незалежнасць Пілсудскі ўзнагародзіць гродзенскі полк крыжам Віртуці Мілітары, а ў 1933 г. ён атрымае назву палка імя Ст. Баторыя.

13 лістапада. Адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Хрысціянскага дэмакратычнага саюза (ХДС). Прынята праграма. Выбраны арганізацыйны камітэт у складзе І.В. Альшанскага і Л. Саванеўскага.

Канец лістапада.

Па ініцыятыве Польскага дэмакратычнага камітэта ў Гродне адбываецца з’езд

так званых нацыянальных саветаў, на якім абрана Галоўная рада Гарадзеншчыны, якая стала прадстаўніком усяго мясцовага польскага насельніцтва.

Створаны Часовы камітэт па прыняцці гарадской гаспадаркі з рук нямецкіх акупацыйных улад. З 30 месцаў 10 дасталася палякам, і старшынёю стаў Э. Лістоўскі – паляк, былы палкоўнік царскай арміі, які перад вайной быў галавой гродзенскай гарадской думы, цяпер заангажаваны ў дзейнасць падпольнай Польскай вайсковай арганізацыі.

Снежань.

Узніклі прафсаюзы гарбароў, краўцоў.

На сходзе беларускіх грамадска-палітычных арганізацый у Гродне было вырашана далучыць Гродзеншчыну да Літоўскай рэспублікі на правах аўтаноміі з мэтай папярэджання акупацыі.

1–2 снежня. У будынку Барысаглебскага манастыра адбыўся першы Гродзенскі губернскі беларускі з’езд. У ім прымалі ўдзел 192 дэлегаты з мандатамі і 35 без іх з Гарадзенскага, Сакольскага, Беластоцкага і Ковенскага паветаў. Сабраўшыхся было каля 600 чал. З’езд сцвердзіў, што “гэты край ніколі польскім не быў, а яго спрадвечна насяляў беларускі народ” і што “толькі беларускі народ можа прэтэндаваць на валоданне ім!”. Удзельнікі з’езда далі ацэнку палітычнаму становішчу Беларусі і Гарадзеншчыны і прынялі пастанову аб заключэнні пагаднення з Тарыбай і далучэнні Горадзенскай губ. да Літвы ў межах 1914 г., г. зн. таксама з паветамі Берасцейскім, Кобрынскім і Пружанскім, якія, паводле рашэння Германіі, трапілі ў склад Украіны.

2 снежня. Рашэннем I Гродзенскага губернскага беларускага з’езда створана на базе Рускай управы Гродзенская губернская беларуская ўправа з мэтаю абароны палітычных, рэлігійных і эканамічных праў праваслаўнага беларускага насельніцтва Гродзенскай губерні. Старшынёй ўправы быў спачатку Е.Е. Курлаў, а потым – У.Н. Боеў. Апошні дакументальны ўспамін аб управе адносіцца да 1919 г.

10 снежня. Аднавіўся выхад газеты “Наше утро”.

Нямецкія ўлады горада публікуюць загад каменданта горада генерал-маёра фон Донапама аб забароне выхаду на вуліцу пасля 23.00 гадзін, аб забароне саюзаў, таварыстваў і сходаў пад пагрозай аднаго года турмы або грашовага штрафа да 300 марак.

12 снежня. Рэктар польскага камандавання ў Варшаве М. Сулеўскі прызначаны камандуючым Самаабароны Гродзенскай зямлі.

13 снежня. Створаны Часовы гарадскі камітэт як адміністрацыйна-гаспадарчая ўлада ў горадзе (у студзені 1919 г. у яго ўваходзілі 36 чалавек). Ён павінен быў прыняць ад нямецкіх улад гаспадарку горада і распараджацца ёю. Галава гарадской нямецкай адміністрацыі барон фон Заккендорф давёў умовы перадачы камітэту гаспадаркі горада.

15 снежня. Адбыліся паўторныя выбары ў Кіраўнічы аддзел Польскага дэмакратычнага камітэта (гарадская ўлада). Найбольшую колькасць галасоў атрымаў ХДС. Патрон яго – кн. Л. Жэброўскі стаў старшынёй, а старшыня партыі Калянкевіч – членам прэзідыума.

15–16 снежня. У Гродна адбыўся павятовы беларускі сялянскі з’езд. Асноўная мэта – даведацца пра адносіны сялян да падзей, якія адбываюцца ў краі. Выбрана Беларуская сялянская рада Гарадзенскага павета ў колькасці 14 чалавек (старшыня – эсэр А. Якубецкі, сябра Горадзенскага БНК). У прынятай рэзалюцыі сцвярджалася, што беларусы сумесна з літоўскім народам будуць змагацца за свае правы.

17 снежня. У гродзенскім тэатры праходзіць канцэрт-кабарэ артыста Імператарскага тэатра Чугуева з удзелам вядомага артыста Петраградскага і Маскоўскага тэатраў Азарава і артыста Маскоўскага тэатра А. Людзіна.

Скліканы сход прадстаўнікоў сацыялістычных партый (РКП (б), ППС, Бунд, Беларуская партыя сацыялістаў-федэралістаў, “Паалей-Цыён”, рабочая группа “Гэхалуц”, партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыяне-

раў), прафсаюзаў, фабрычных камітэтаў у былым афіцэрскім казіно (дом Мураўёва на пл. Савецкай). Прынята рашэнне аб правядзенні выбараў у першы гарадскі Савет рабочых дэпутатаў Гродна. Выбрана арганізацыйная камісія з дзевяці чалавек. Самі выбары адбыліся ў снежні 1918 – студзені 1919. Выбрана 103 дэпутаты.

18 снежня. З № 34 выходзіць у Гродне "Nowe życie" – штогоднік хрысціянскага дэмакратычнага саюза і камітэта аб'яднання ўсходніх крэсаў з тэрыторыяй Рэчы Паспалітай. Рэдактар і выдавец Людвік Саванеўскі.

21 снежня. Пасяджэнне Рады БНР у Гродне і стварэнне Савета дзяржаўнай абароны на чале з В. Ластоўскім і К. Кандратовічам. У распараджэнні Савета былі перададзены 1-ы (к-р палка Лаўрэнціеў) і 2-і (палкоўнік Волкаў) беларускія пяхотныя палкі, асобны пяхотны батальён, бел. гусарскі эскадрон, Гродзенская камендатура (камендант капітан М. Дзямідаў). Для фарміравання літоўска-беларускага палка (пяхотныя і кавалерыйскія часткі) прыбывае са сваім штабам генерал К. Кандратовіч (Аляксандраўскія казармы). Прыехалі таксама прадстаўнікі літоўскай Тарыбы (Нацыянальнага Савета), у тым ліку і галава Міністэрства беларускіх спраў Язэп Варонка.

23 снежня. Усерасійскі Цэнтральны выканаўчы камітэт зацвердзіў рашэнне аб стварэнні Заходняй вобласці ў складзе Мінскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў.

У Гродна памёр яўрэйскі паэт Л. Найдус (магіла яго знаходзілася на могілках, якія разбураны падчас будаўніцтва стадыёна "Чырвоны сцяг").

24 снежня. Заснаваны ў Гродне Першы аддзел Польскай Macierzy Школьнай, які будзе аказваць метадычную дапамогу настаўнікам школы.

27 снежня. У Гродна пераязджае ўрад БНР на чале з А. Луцкевічам.

У Маскве з удзелам А.Ф. Мяснікова на спецыяльным пасяджэнні распрацаваны і зацверджаны ўмовы

ўтварэння БССР (тады ССРБ) і КП(б)Б. У склад рэспублікі ўваходзіць і Гродзенская губерня.

28 снежня. У Гродне сабраліся каля 50 настаўнікаў з гродзенскіх ваколіц на курс методыкі навучання ў пачатковых школах. Кіравалі курсамі кс. Грынкевіч, Хмялецкая, Дудзінская, Пальская і інш. (да 4 студзеня 1919).

30–31 снежня. На I з’ездзе КПБ у Смаленску, на якім прысутнічаў дэлегат з Гродна, было прынята рашэнне аб уключэнні Гродзенскага р-на ў склад БССР.

## 1919 г.

У горадзе пачынаюць выходзіць газеты “Беларускі народ” (на беларускай і рускай мовах), “Зорка”.

Існуе ў Гродне цэнтральны камітэт яўрэйскіх прафесіянальных саюзаў. Аб’ядноўвае прафсаюзы краўцоў, бровараў, тытунёвых працаўнікоў, металістаў, будаўнікоў, камашнікаў і інш.

Пачатак працы польскага таварыства сяброў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі.

Студзень. Нота ўрада БНР Дзяржсакратару ЗША, у якой гаварылася пра прэтэнзіі літоўцаў на Гродзенскую губерню і пра згоду БНР адкласці пытанне пра Гродна да Парыжскай мірнай канферэнцыі.

Гродзенская камуністычная арганізацыя выходзіць з падполля.

У горадзе дзейнічае Беларуская камендатура.

Створаны Ваенны сакратарыят пры Міністэрстве па беларускіх справах пры літоўскім урадзе ў Гродне для арганізацыі супраціўлення часткам Чырвонай Арміі.

1 студзеня. Абвешчана ССРБ – Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь, у склад якой уваходзіць Гродзенская губерня.

А. Луцкевіч 26.01.1919 г. запісаў у сваім дзённіку: “Ідэя Беларускай рэспублікі, як бачым, можа святкаваць перамогу. Аб ёй гавораць, за яе бяруцца бароцца тыя, хто яшчэ ўчора бароўся проці яе. І тыя ж бальшавікі, каторыя разганялі Усебеларускі з’езд у снежні 1917 г., аб’явілі незалежную савецкую Беларусь у федэрацыі з Расеяй, а да ўрада

яе ўвялі Жылуновіча, Дылу, Фальскага, Чарвякова і іншых праўдзівых беларусаў, часцю ўчаснікаў таго ж разагнанага кангрэсу” (Цыт. Па: Д. Міхалюк. Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918–1920 гг.: Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – С. 349).

У той жа дзень у Гродне праходзіць сход прадстаўнікоў беларускіх сялянскіх рад Ваўкавыскага, Горадзенскага, Шчучынскага паветаў. На ім выступіў А. Луцкевіч з падтрымкай ідэі беларускага самакіравання.

2 студзеня. У Гродна пераехала Міністэрства беларускіх спраў (да 28 красавіка). Тут яно санкцыянавала прызначэнне літоўскіх урадавых камісараў у Беласток, Сакулку, Белавежу, Бельск, Гродна, Дзятлава, Крынкі, Планты, Ліду.

3 студзеня. У Гродна прыбывае разам з Міністэрствам беларускіх спраў Я. Варонка.

У будынку гарадскога тэатра адбыўся першы вядомы нам беларускі спектакль: вучні беларускай школкі прадставілі п’есу “Снатворны мак”.

6 студзеня. Выканкам прафесійных саюзаў і фабрычна-завадскіх камітэтаў заклікае рабочых Гродна да ўсеагульнай забастоўкі. У горадзе з’яўляюцца заклікі і лістоўкі.

У зале жаночай гімназіі па вул. Раскоша, 22 адбылася латарэя для закупкі вопраткі для найбяднейшых гродзенцаў.

7 студзеня. Нямецкая камендатура афіцыйна забараняе ўсялякія забастоўкі і дэманстрацыі.

8 студзеня. Усеагульная палітычная забастоўка і дэманстрацыя рабочых з патрабаваннем выгнання германскіх акупантаў. Спыняюцца прадпрыемствы, электрастанцыя, зачыняюцца лаўкі. Па вуліцах Мураўёўскай (Ажэшкі) і Саборнай (Савецкай) дэманстрацыя выйшла на Парадную (Савецкую) плошчу, дзе была расстраляна немцамі з кулямётаў. Л. Шайкоўскі захоўвае сцяг дэманстрантаў.

10 студзеня. Адбылася ўсеагульная аднадзённая палітычная забастоўка.

12 студзеня. Адбылося веча працаўнікоў-палякаў у Гродне. Створаны Сацыялістычны саюз.

15–16 студзеня. У ноч нямецкае камандаванне разброіла аддзелы Гродзенскай Самаабароны.

19 студзеня. У “Доме працы” пры бернардзінскім кляштары адбыліся выбары кіраўніцтва першага кола ХДС у Гродна.

20 студзеня. Я. Варонка выдаў абвестку аб усталяванні ўлады літоўскай дзяржавы на тэрыторыі, названай ім Паўднёвая Літва: Аўгустаў, Ашмяны, Белавежа, Беласток, Бельск, Берасце, Ваўкавыск, Вільна, Горадня, Дзятлава, Кобрын, Крынкі, Ліда, Пружаны, Сакулка, Слонім, Аўгустоўскі і частка Сувалкаўскага паветаў.

21 студзеня. У былым афіцэрскім казіно ўрачыста адчынены клуб прафсаюзаў.

22 студзеня. А. Луцкевіч, кіраўнік Рады Народных Міністраў БНР і міністр замежных спраў, паставіў свой подпіс на петыцыі, падрыхтаванай для ўдзельнікаў мірнай канферэнцыі ў Парыжы дэлегацыяй урада БНР. У дакуменце паведамлялася пра абвяшчэнне БНР, пра яе межы і дзяржаўніцкія памкненні беларусаў.

26 студзеня. Урачыстае адкрыццё Гродзенскага гарадскога Савета рабочых дэпутатаў у будынку тэатра, які акружаны нямецкімі войскамі. Выбраны пастаянны прэзідыум Савета з 9 чалавек на чале са Шпакам (В. Багуцкім) – кіраўніком гродзенскай камуністычнай арганізацыі. Пасланы тэлеграмы У.І. Леніну (Ульянаву), Усерасійскаму Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту, Савету Народных Камісараў, Чырвонай Арміі, ураду Літвы і Беларусі, пралетарыяту Германіі. Савет зацвердзіў тэкст пратэста супраць рэпрэсій акупацыйных улад. Па пытанні ўлады прымаецца дэкларацыя “Ко всему населению города Гродно и окрестностей”, у якой абвяшчаецца лозунг дыктатуры пралетарыята. Савет пастанаўляе ўвесці 8-гадзінны рабочы дзень на прадпрыемствах.

Люты. Антанта патрабуе, каб германскія войскі пакінулі акупаваную тэрыторыю Беларусі і Літвы.

1 лютага. М. Дзямідаў, камендант Горадні, аддаў загад № 1 аб пачатку набору добраахвотнікаў з Гродзенскай губ. у склад 1-га Беларускага пяхотнага палка літоўскай арміі. На працягу некалькіх тыдняў полк налічваў каля 800 чал. Камандзірам палка спачатку быў палкоўнік М. Лаўрэнцьеў, а потым К. Езавітаў.

Сярэдзіна лютага. Адкрыты беларускі клуб “Беларуская хатка”, заснаваны Т. Вернікоўскім з Менска. Неўзабаве ён праводзіць касцюміраваны этнаграфічны вечар.

2 лютага. Пры францысканскім кляштары закладзена 2-е кола Хрысціянскага дэмакратычнага саюза ў Гродна.

У памяшканні рабочага клуба адбываецца другое пасяджэнне Гродзенскага Савета рабочых дэпутатаў (у колькасці 60 чал.). Абмяркоўваюцца пытанні аб уладзе і рабочай фракцыі.

3–6 лютага. Уведзены 8-гадзінны рабочы дзень на тытунёвай фабрыцы.

4 лютага. Пастановаю Прэзідыума Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, падпісанаю Д. Жылуновічам і В. Кнорыным, у Слоніме створаны Гродзенскі губернскі рэўком: старшыня С.І. Берсан, намеснік старшыні Ахманава, сябры Клыш, Няцецкі, Пятроў, Эльберт. Рэўком з’яўляецца вышэйшым органам савецкай улады ў межах Гродзенскай губ.

9 лютага. Газета “Nowe życie” падала вынікі другіх выбараў прадстаўнікоў Гродна на сейм у Варшаву. Большасцю галасоў абраны кс. дэкан Леон Жэбраўскі і доктар Уладзімір Каленкевіч.

15–19 лютага. У Гродне працуе правізацыённая місія, у склад якой уваходзілі палкоўнік Грове (ЗША), Бюльман (Англія), маёры Рос і Дуайт Эйзэнхауэр. Жылі ў гатэлі “Раяль” на Саборнай вул. Іх мэтай была актывізацыя барацьбы з Савецкай Расіяй і рэвалюцыйным рухам. Яны патрабавалі ад нямецкіх акупацыйных улад падавіць выступленні народных мас. Пачаліся арышты камуністаў і рэвалюцыйна настроеных рабочых.

17 лютага. У Гродне адбыўся з’езд дэлегатаў Рады

рабочых і сялян. Ад Гродна было 5 дэлегатаў. Пастаноўлена злучыць Літву і Белую Русь і ўтварыць Літоўска-беларускі ўрад (губерні Віленская, Сувалкаўская, Гродзенская і Мінская).

18–20 лютага. Пастановаю І-га з'езда Саветаў Літвы і Беларусі створаны Гродзенскі раённы Савет. Прынята пастанова (па прапанове І з'езда Саветаў Беларусі) аб стварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі. У склад яе ўвайшла і тэрыторыя Гродзенскай вобласці.

25 лютага. Гродзенскі губрэўком скасаваны, бо Чырвоная Армія пакінула Гродзенскую губ.

27–28 лютага. Часовы гарадскі камітэт спыняе сваё існаванне. Праходзяць выбары ў гарадскую раду.

27 лютага. Утворана па ініцыятыве кіраўніка Савецкай Расіі У.І. Ульянава (Леніна) Літоўска-Беларуская Савецкая рэспубліка. Сталіца Вільня занята палякамі 21 красавіка, Мінск – 8 жніўня.

Сакавік. У горад ад амерыканскай арганізацыі АРА (місіі Герберта Гувера) прыбыла першая дапамога (вопратка і харчаванне) для бежанцаў.

1 сакавіка. У Гродна было створана культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына".

5 сакавіка. Першае пасяджэнне гарадской рады. Прэзідэнтам абраны Э. Лістоўскі (23 "за", 10 "стрымалася") з зарплатаю 2 000 марак, сакратаром – Нелюбовіч.

7 сакавіка. Беларуска-літоўскія дывізіі, полк пад началам Браніслава Багатырэвіча з конным аддзелам паручніка Ст. Чучыловіча перайшлі ў склад Літоўска-беларускай дывізіі.

11 сакавіка. Сфарміравана 3-е кола ХДС польскай моладзі ў Гродне.

15 сакавіка. Мост праз Нёман становіцца ўласнасцю гарадскога праўлення.

16 сакавіка. У Гродна выйшаў першы нумар газеты "Бацькаўшчына" (выдавалася да 28 сакавіка).

Выходзіць першы нумар штотыднёвай газеты "Набат" – органа Гродзенскага падпольнага камітэта Камуністычнай партыі Літвы і За-

ходняй Беларусі (па красавік 1919; рэдактар С. Капланскі).

17 сакавіка. У Беларускім клубе на вуліцы Саборнай, 23 прадстаўнікі беларускіх арганізацый і цэнтральных камітэтаў беларускіх сацыялістычных партый урачыста праводзілі А. Луцкевіча, прэм'ера БНР, які выязджаў на мірную канферэнцыю ў Парыж. 22.03 ён накіраваўся ў дарогу.

19 сакавіка. На пасяджэнні прадстаўнікоў беларускіх сацыялістычных партый і арганізацый створана Цэнтральная беларуская рада Гарадзеншчыны. Яе старшынёй стаў П. Аляксюк.

22 сакавіка. На Аляксандраўскім плацы Кастусь Езавітаў афіцыйна прыняў камандаванне Першым беларускім гарадзенскім палком.

22 сакавіка – 28 красавіка. У Гродне выдаваўся штотыднёвік "Голос Гродны" (выйшла 6 нумароў).

З "Матэр'ялаў да крыўскае гісторапісі" А. Шлюбскага:

*"У Горадні ў часе рэвалюцыйных войн у пачатку 1919 г. надта рэдкія кнігі горадзенскіх бібліятэк прадаваліся на вагу, як агортная папера". "У часе акупацыі Віленшчыны і Горадзеншчыны немцы расьцягалі бібліятэкі і архівы; які лік быў расьцягнуты, відаць з таго, што ў Горадні па вымаганьню Міністэрства Беларускіх Спраў нямецкі камендант выдаў загад, каб усе немцы, якія маюць тутэйшыя кнігі і дакуманты з архіваў, здалі іх Беларускаму Міністэрству, – і звернутых назад кніг і дакумантаў было некалькі тысяч. Але такі захад быў зроблены толькі ў Горадні; у Вільні ж і іншых мяйсцох да самага канца 1919 г. у дробных крамках ужываліся на агортку тавараў кнігі і дакуманты з разграбленых бібліятэк"* (Стары Студэнт. Студэнты // Голосъ Гродны. – 1919. – № 2).

25 сакавіка. У палове сёмага вечара ў памяшканні Беларускага клуба, дзе змяшчалася Рада БНР (вул. Саборная, 23 / Савецкая, 17), адбылася ўрачыстасць з нагоды гадаўшчыны абвяшчэння БНР.

29 сакавіка. На з'ездзе беларускіх настаўнікаў Гарадзеншчыны была абрана Цэнтральная беларуская га-

радзенская вучыцельская рада.

30 сакавіка. У Гродна пачынае выдавацца газета “Беларусь” (па 18 мая).

Красавік. Даведка: Гродзенская партыйная арганізацыя налічвае больш 100 чалавек, мае сувязь з Вільна. Гродзенская камсамольская арганізацыя пераходзіць на нелегальнае становішча ў сувязі з перадачай улады палякам.

14 красавіка. З Гродна ў Коўна пераехаў урад БНР і многія беларускія дзеячы.

15 красавіка. У Гродна ўвайшло польскае войска. З чыгуначнай станцыі яно выязджала ў Вільню (вызвалена ад бальшавікоў 19.04).

23 красавіка. Выконваючы абавязкі камандзіра беларускага пяхотнага палка (каля 800 чал.) палкоўнік Успенскі падпісаў пагадненне з польскім камандаваннем: полк увайшоў у склад літоўскай арміі і меў поўную свабоду па ўнутраных справах, а ў астатнім падпарадкоўваўся польскаму каменданту Гродзенскай крэпасці.

27 красавіка. Горад пакінулі апошнія нямецкія часці. Скончыўся 4-гадовы перыяд акупацыі. Прычыненыя немцамі гораду і насельніцтву страты ацэньваюцца ў 1 млн. 200 тысяч нямецкіх марак.

28 красавіка. Ноччу польскае войска напала на Беларускі гусарскі эскадрон. Арыштаваныя салдаты і афіцэры размяшчаліся ў Станіславоўскім двары. Польская армія ўрачыста ўваходзіць у Гродна (згодна дамове, падпісанай палякамі і немцамі ў Беластоку, яно накіроўвалася на ўсход, бо пачыналася польска-савецкая вайна).

29 красавіка. Урачыстае вітанне польскага войска і палявая імша адбыліся на Рынку, перад касцёлам Св. Францыска Ксаверыя (фарным). У Старым замку адбылася прывітальная вячэра з удзелам польскіх і беларускіх афіцэраў, прадстаўнікоў усіх гарадскіх таварыстваў, саюзаў і дэлегатаў беларускага і яўрэйскага насельніцтва, праваслаўнага біскупа і нямецкага афіцэра сувязі. Апошнія нямецкія аддзелы выехалі з Гродна.

Май. Створана ініцыятыўная група для аднаўлення дзейнасці Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. На сходзе каля 50 чалавек прымаюць статут драматычнага гуртка Грамады беларускай моладзі ў Гродна. У Крынках, Верцялішках адчынены філіі Грамады. Мэта – знаёміць беларускую моладзь з роднай мовай, літаратурай, гісторыяй, геаграфіяй, культурай і д. п.

3 мая. У Гродна адбыўся парад беларускіх аддзелаў і польскіх войскаў, а вечарам банкет, арганізаваны па ініцыятыве Гродзенскай гарадской думы ў гонар польскіх вайсковых улад.

5 мая. Вызвалены з-пад арышту Беларускі гусарскі эскадрон. Разам з беларускімі пехацінцамі з Коўна яны пераведзены ў Друскенікі.

8 мая. Начныя арышты актывістаў беларускага нацыянальнага руху.

14 мая. Заснаваны аддзел таварыства Белага Крыжа ў Гродне. Мэта: дапамога здаровым жаўнерам, якія застаюцца на службе, асабліва на фронце.

27, 28, 30 мая. Адбыўся першы рэкруцкі набор у Войска Польскае ў Гродне.

Чэрвень. Створаны драматычны гурток Грамады беларускай моладзі ў Гродне. Кіраўнік – настаўніца, у будучым заслужаны дзеяч культуры БССР П.В. Мядзёлка. Ставілі аматарскія спектаклі на беларускай мове ў Гродне і навакольных вёсках: “Паўлінка” Я. Купалы, “На дне” М. Горкага і інш. (да 1921 г.).

1 чэрвеня. Група польскай моладзі з вайсковай арганізацыі раззбройвае Першы беларускі полк у Гродна за адмову перадыслацыравацца ў Слонім і далучыцца да рэзервовай групы генерала Макшыцкага. Ягоныя 5-я рота і кавалерыйскі эскадрон пакінулі горад раней і летам 1919 г. удзельнічалі ў баях з польскімі войскамі ў Лейтун і на Паўночным фронце.

3 чэрвеня. Упершыню горад наведаў кіраўнік дзяржавы Ю. Пілсудскі. Ён хацеў пазбавіцца ад беларускага палка і пры гэтым не страціць даверу з боку беларускіх дзеячаў. Ю. Пілсудскага вітала насельніцтва на пл. Баторыя, у Фары Вітаўта. Адбыўся парад

польскага войска, народнай міліцыі, паліцыі, школьнікаў, пажарных і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый. Ён гаварыў, што сам з'яўляецца беларусам і не дасць праследаваць іх. Але пасля ад'езду "начальніка" беларускі полк быў расфарміраваны: католікаў перавялі ў польскія казармы, праваслаўных дэмабілізавалі, афіцэраў інтэрнавалі.

11–12 чэрвеня. У Старым замку адбыўся краёвы сеймік прадстаўнікоў 560 вёсак і мястэчак Гродзенскага павета. Прынята пастанова аб далучэнні да Польшчы (прачытана па-польску і па-беларуску), пастанова аб школах (польскай і беларускай), настаўніцкай семінарыі ў Гродне; пастанова аб зямлі – яна павінна належаць тым, хто працуе на ёй.

Праца сейміка паказала, па словах газеты "Nowe życie", што "…згода і сардэчнасць запануе пад дахам сумеснай польскай дзяржаўнасці на вечныя часы ў адносінах старых жыхароў гэтай зямлі, як палякаў з беларусамі і летувінамі, так і праваслаўных з католікамі" (Nowe życie. – 1919. – 22.06 – № 26. – С. 197).

22 чэрвеня. У Гродна выйшаў першы нумар беларускай газеты "Родны край" (выходзіла да 1 ліпеня).

У Старым замку адбылося агульнапольскае веча (каля 2 тыс. чал.) з удзелам дэлегатаў з Варшавы. Павестка дня:

1. Справаздача з Гродзенскага сейміка.
2. Справаздача са з'езда хрысціянскіх работнікаў у Варшаве.
3. Праект залажэння ў Гродне аддзела Варшаўскага таварыства хрысціянскіх работнікаў.
4. Вольныя прапановы.

29 чэрвеня. Утворана Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны – орган палітычнага прадстаўніцтва беларускага нацыянальнага руху на захадзе Беларусі ў час польскай акупацыі.

30 чэрвеня. У будынку банка адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Гродзенскага гаспадарчага саюза – прадстаўнікі павятовых гмін і горада.

1–10 жніўня. У зале жаночай гімназіі ішоў запіс дзяцей

7–14 год у польскія школы.

Не пазней канца жніўня. З дапамогай Міністэрства беларускіх спраў пры ўрадзе Літвы ў Горадні надрукавана брашура М.В. Доўнар-Запольскага “Асновы дзяржаўнасці Беларусі” (на рускай, польскай, англійскай, нямецкай і французскай мовах). Да яе была прыкладзена карта Беларусі, якую потым прадставіла беларуская дэлегацыя на мірную канферэнцыю ў Парыжы.

1 верасня. Абвешчаны загад камісара і начальніка паліцыі, згодна якому ўсе гараджане павінны зарэгістравацца.

5 верасня. Прайшлі ўступныя экзамены ў 8-класную польскую жаночую школу з праграмай гімназіі пры брыгіцкім кляштары.

15 верасня. Напад на беларускую прагімназію.

*“У Горадні існавала беларуская прагімназія. Яна памяшчалася ў будынку, дадзеным беларусам горадзенскім мястовым самаўпраўленьнем. Вось, 15 верасьня 1919 году – якраз у часе экзаменаў – окупанцкіе ўласьці груба ўварваліся ў гэту школу, разагналі вучняў, гвалтам пазабіралі і вывязьлі да польскіх школ навучные помачы, ды пры гэтым пабілі кіраўніка прагімназіі і адну вучыцельку. Вучыцялеў, каторые мелі кватэры ў школьным будынку, павыкідалі даслоўна на вуліцу. Тое самае зрабілі і з вучыцельскім саюзам, каторы там-жа памяшчаўся. А будынак гэны палякі аддалі пад польскую клерыкальную школу сёстраў Назарэтанак”* (А. Луцкевіч).

Кастрычнік. ЦК КП(б)ЛіБ стварае ў Гродна краёвы партыйны цэнтр пад кіраўніцтвам Мінскага партыйнага цэнтра.

У будынку былой Гродзенскай мужчынскай гімназіі адкрываецца жаночая гімназія імя Э. Плятэр (існуе да 1939 г.).

30 лістапада. У мясцовым тэатры адбыліся два спектаклі драматычнай секцыі пры Грамадзе беларускай моладзі ў Горадні: “Чорт і баба” Фр. Аляхновіча і “Модны шляхцюк” К. Каганца. Кіраўнік і рэжысёр П. Мядзёлка.

## 1920 г.

Пачатак працы польскага Таварыства сяброў літарату-

ры і мастацтва імя Э. Ажэшкі.

14 сакавіка. Адбылося першае арганізацыйнае пасяджэнне дзяржаўнай Камісіі апекі над помнікамі мастацтва і культуры, арганізаванай па ініцыятыве гродзенскага старасты К. Рагалевіча. Начальнікам быў А. Герман, сакратаром і кіраўніком бюро Ю. Ядкоўскі.

Чэрвень. Фара Вітаўта вяртаецца католікам і перабудоўваецца ў гатычным стылі з праваслаўнага ў каталіцкі храм (гарнізонны касцёл).

29 чэрвеня. Створана ў горадзе польская дзяржаўная паліцыя.

Ліпень. У Гродна створаны ЭВАК (эвакуацыйны цэнтр для аказання дапамогі насельніцтву, якое пацярпела ад акупацыі): медыцынскія і санітарныя ўстановы (у тым ліку бальніцы, прыёмныя пакоі, амбулаторыі), патранаты, лазні, пральні.

12 ліпеня. Гродна па мірнай дамове паміж РСФСР і Літвой перадаецца апошняй, але фактычна гэта не ажыццявілася).

# Ад савецка-польскай вайны 1920 г. да Рыжскай дамовы 1921 г.

**1920 г.**

Пачынае працаваць (да 1939 г.) гродзенскі польскі тэатр.

17–19 ліпеня. Польскія салдаты здзейснілі яўрэйскі пагром.

18–19 ліпеня. Абарона Гродна польскім войскам ад Чырвонай Арміі. Адыход палякаў ноччу 19–20.07 у накірунку Караліно-Кузніца. 3-і корпус кавалерыі ЧА пераправіўся праз Нёман і спыніўся па лініі Кашэўнікі – Малахавічы – Калбасін – Баранавічы.

19 ліпеня. Пасля бою з гродзенскім гарнізонам і гарадскім апалчэннем войскі 3-га коннага корпуса Г.Д. Гая ўваходзяць у Гродна. Падчас адыходу польскай арміі, у момант вялікага збору людзей, гармат і фурманак, быў узарва-

ны гужавы мост праз Нёман. У горадзе ўсталёўваецца савецкая ўлада. Л. Шайкоўскі перадае Чырвонай Арміі сцяг, выратаваны пры расстрэле дэманстрацыі на Парадна́й плошчы ў студзені 1919 г.

20 ліпеня. Створаны гродзенскі ўездны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Старшыня Лігер, а з 4 жніўня – А.С. Славінскі. Размяшчаўся ў сённяшнім старым будынку абласнога выканкама.

Ліпень. Згодна дакладу аддзела прамысловасці рэўкома пра стан прамысловасці Гродна, "многие фабрики и заводы закрыты, оборудование вывезено".

25 ліпеня. М.І. Калінін прыехаў на сустрэчу з 3-м корпусам Г.Д. Гая, фатаграфаваўся з вайскоўцамі.

28 ліпеня. У Гродна са штабам 4-й арміі прыбыў М.М. Тухачэўскі.

30 ліпеня. Праездам з Вільна ў Беласток у Гродна спыняецца Ф.Э. Дзяржынскі. З ім прыехалі Ю. Мархлеўскі, Ф. Кон, В. Багуцкі. У гарадскім тэатры адбыўся ўрачысты мітынг, прысвечаны вызваленню Гродна і ўсталяванню савецкай улады.

Жнівень. Уездны рэўком прымае рашэнне аб стварэнні Беларускага музея (спачатку – у будынку ўезднага старостава, пазней – у Старым замку).

1–2 жніўня. Ф.Э. Дзяржынскі ў Гродна праводзіць нараду з работнікамі рэўкома і міліцыі.

15 жніўня. Створаны Гродзенскі савет народнай гаспадаркі, які ўзначаліў працу па аднаўленні прамысловасці. З дакладной запіскі М. Гальперна ад 12.08 вядома, што можна было ў Гродне і ваколіцах лёгка аднавіць працу наступных прадпрыемстваў, якія працуюць у асноўным на мясцовай сыравіне: паравы млын Касоўскага, тытунёвыя фабрыкі (Акцыянернае таварыства І.Л. Шарашэўскага, І. Кагана, Ш. Марголіса), машынабудаўнічы і чыгунны заводы Файнгольда і таварыства "Сіндзікат" па вытворчасці сельскагаспадарчай і іншай тэхнікі, Станіслаўскі цагельны завод, тры лесапільныя заводы, Нёманскую фабрыку пераплётных і

футлярных вырабаў, запалкавую фабрыку "Нёман", бровар Ю. Марголіса, фабрыку братоў Сoфераў па вырабу канфет, мармелада, сахарынаў, скураны завод Мардхелевіча.

20–26 верасня. Наступленне польскіх войскаў на Гродна (бітва над Нёманам) і захоп яго (26 верасня). 3-я Чырвоная Армія адышла за р. Котра, 2-я польская армія прадпрыняла праследаванне.

26 верасня. Адбылося надзвычайнае пасяджэнне Гарадзенскага беларускага нацыянальнага камітэта, на якім было вырашана аднавіць працу і весці яе "далей у кірунку абароны нацыянальных і эканамічных патрэб беларускага насельніцтва".

Кастрычнік. Пачала выходзіць штодзённая газета "Echo Grodzienskie". У ёй друкаваліся афіцыйныя матэрыялы, факты мясцовых падзей, інфармацыя аб культурным жыцці горада.

Кастрычнік. У горадзе пачалося выданне газеты "Беларускае слова" (да 07.01.1921 г.). Тут публікаваліся палітычныя, эканамічныя і культурныя матэрыялы, з пазіцый барацьбы за нацыянальнае вызваленне ацэньваліся міжнародныя і мясцовыя падзеі.

2 кастрычніка. У Гродна выйшаў першы нумар газеты "Беларуская справа" – органа Цэнтральнага беларускага нацыянальнага камітэту (выдавалася да 7 студзеня 1921).

12 кастрычніка. Па ўмовах пераміρ'я паміж РСФСР і Польскай Рэспублікай Гродна і губерня застаюцца ў складзе Польшчы.

15 кастрычніка. На аснове загада Ю. Пілсудскага ў Гродна створаны акруговы суд, які дзейнічаў як звычайны і надзвычайны суд з 1921 па 1926 г. Яго прыгаворамі былі ахоплены 1 028 чал. (946 чал. асуджаны, з іх 37 – да смяротнай казні).

Лістапад. Пачала працу гімназія імя А. Міцкевіча. Першым дырэктарам быў Генрык Лукашэўскі. Колькасць навучэнцаў складала 385 вучняў у 7 класах і 11 аддзяленнях.

8 снежня. Адбыўся арганізацыйны сход сяброў гімнастычнага таварыства "Сокал".

10 снежня. Сакратар яўрэйскага кагала (гміны) Гажанскі выехаў у Вільню, каб атры-

маць 2 млн. марак на патрэбу бедных жыхароў Гродна.

11 снежня. Урачыстае адкрыццё новапабудаванага маста імя ген. Агінскага праз Нёман.

## 1921 г.

Старэйшыя дзеці Беларускага прытулка з Гродна (каля 100 дзяцей, у асноўным дзяўчаты) пераехалі ў Вільню, дзе частка з іх пачала вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі. У Гродне засталіся толькі малодшыя, якіх падзялілі паміж сабой праваслаўны кансісторый і Беларускі прытулак.

*"У былым манастыры праваслаўным Барыса-Глебскім (раней – кляштар бернардынак) знаходзіцца беларускі прытулак, а на браме развяваецца харугва неіснуючай дзяржавы беларускай"* (J. Jodkowski "Grodno", с. 22).

*Кіраўнічка прытулка Станіслава Буйло пісала: "Ад ураду не атрымліваем грошаў саўсім. Нават у магістрату нам не далі за два месяцы… А тут, як на большае нашае гора, цэны страшэнна пайшлі ўгару… На дзяцей я проста глядзець не магу. Вокан няма, дзверы не зачыняюцца. Дзеці лёгка адзеты, галодныя, гэта штосьці страшэннае… Я з гэтага ўсяго расхварэлася і ляжу ўжо другі тыдзень, але добра, шо хоць цяпер нічога не бачу і не ведаю… Дык хутка мусіць і трэба будзе перастаць есці. Палажэнне страшэннае…"*

Забастоўкі гарбароў і харчавікоў, рабочых тытунёвых фабрык Кагана і Шарашэўскага.

Створаны прафсаюзы працоўных тытунёвай прамысловасці (900 чал.), харчовай (120 чал.), кравецкай (350 чал.), друкароў, гарбароў і інш.

Равінам у Гродне стаў Унтэрман І.-Е. (да 1924 г.).

Студзень. Стварэнне падпольнай камсамольскай арганізацыі на кравецкіх прадпрыемствах горада. Ініцыятары: Л.Г. Шайкоўскі, С.С. Еліна, Д. Клемпнер, К.А. Капланскі, М. Сольц і інш. Колькасць: 25 членаў і 20 спачуваючых.

18 сакавіка. Мірная дамова паміж Расіяй і Украінай з аднаго боку і Польшчай з другога (Гродна і Гродзенская губерня застаюцца ў Польшчы).

12–29 чэрвеня. Прайшлі вялікія спартыўныя спаборніцтвы па футболе, гімнастыцы, лёгкай атлетыцы, конныя гонкі з перашкодамі, плаванню.

4 кастрычніка. На сучаснай плошчы Тызенгаўза адбылося адкрыццё помніка Вольнасці ў гонар абаронцаў Гродна ў вайне 1920 г. На табліцы абеліска было напісана: "У памяць і славу Багатырам, палеглым пры адшуканні жаўнерскага гонару Гродна ад рук бальшавіцкіх банд 26 верасня 1920 г. – Менакі".

# ПАВЯТОВЫ ГОРАД БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА

Беластоцкае ваяводства утворана 2.08.1919 г. у складзе 12 паветаў. Гродзенскі ўвайшоў у яе склад толькі 4.02.1921 г. Плошча 32,4 тыс. кв. км, насельніцтва – 1 302 тыс. чал. у 1919 г. і 1 643,5 тыс. чал. у 1931 г. У пачатку Другой сусветнай вайны перададзена ў БССР, дзе 4.12.1939 г. пераўтворана ў Беластоцкую вобласць, паветы падзелены на раёны і сельсаветы. 20.09.1944 г. Беластоцкая вобласць была скасавана ў сувязі з перадачай Польшчы большай часткі яе тэрыторыі. Гродзенскі раён увайшоў у новастворaную Гродзенскую вобласць.

**1921 г.**

Створаны ваенна-спартыўны клуб "Крэсовія", з 1925 г. – "КС Крэсовія".

19 сакавіка. Гродна па Рыжскай мірнай дамове застаецца ў складзе РП як павятовы горад Беластоцкага ваяводства.

4 ліпеня. Урачыстае ўшанаванне Герберта Гувера ў Гродне. Дзякуючы дабрачыннай дзейнасці Польска-амерыканскай камісіі дапамогі дзецям (вул. Кірхі, 7, кіраўнік Віткоўскі) 7 643 чал. атрымалі дапамогу.

8 ліпеня. Адбылося арганізацыйнае пасяджэнне "Kola Polek" ў Гродне. У кіраўніцтва выбраны Др. Куркоўская (старшыня, прэзідэнт), Стэмпнеўская (віцэ-прэзідэнт), Жагалковіч (скарбнік).

10 ліпеня. Асвечаны камісіянерскі дом "Pomoc" ("Дапамога") – адна з першых фірм польскага гандлю на мясцовых тэрыторыях. З'яўляецца пасрэднікам у куплі-продажы маёнткаў зямельных, лясоў, млыноў, гарадскіх дамоў, прадпрыемстваў, сельскагаспадарчых тавараў і розных іншых з РП.

16 ліпеня. У гарадскім тэатры адбывалася выступленне артыстаў расійскага балета, якія збеглі з Савецкай Расіі: прыма-балерына пецярбург-

скага Вялікага тэатра Ганна Забойкіна, маскоўскага імператарскага балета – Галіна Паўлава і Вера Сурына.

20 ліпеня. Забастоўка на тытунёвай фабрыцы Шарашэўскага. Узбунтаваліся бальшавікі. Патрабавалі павышэння заробкаў на 100 %. Дырэкцыя згадзілася на 75 % і дайшло да кампрамісу.

22–23 ліпеня. Вялікі пажар у квартале ад Рыбнага рынку да Рынкавай (вул. Св. Тройцы) – каля 300 дамоў, у якіх жылі пераважна яўрэі.

Жнівень. Пачалася першая выстава гродзенскага музея “Помнікі краёвыя і старога Гродна”. Працягвалася да снежня 1921 г.

4–6 кастрычніка. У Гродне гасціў начальнік РП Ю. Пілсудскі. Прыехаў цягніком да ст. Ласосна, дзе яго сустракалі генерал Рыдз-Сміглы – камандзір II арміі, павятовы стараста Рагалевіч, прэзідэнт горада Лістоўскі і інш. Перад магістратам віталі Пілсудскага жыхары, прадстаўнікі ўлады, арганізацый і ўстаноў. На плошчы, якая цяпер называецца Тызенгаўза, адбылося адкрыццё помніка Вольнасці – забітым абаронцам Гродна (4.10). Выступіў прэзідэнт Лістоўскі, інжынер Цытажынскі, адбыўся парад моладзі, войска, арганізацый. Потым прайшоў абед у Старым замку, а вечарам гарадскі тэатр даваў камедыю Фрэдры “Шлюбы паненак”. 5 кастрычніка Пілсудскі інспекціраваў вайсковыя аб’екты ў горадзе і ваколіцах, вечарам быў у “Доме салдата” і на раўце ў “Музе”. 6 кастрычніка Пілсудскі пакінуў Гродна і, развітаўшыся з Лістоўскім, падзякаваў жыхарам за сардэчны прыём.

Восень. Пачала працу жаночая гімназія імя Эміліі Плятэр. Першы дырэктар – Ядвіга Керсноўская.

Лістапад. Забастоўка 720 рабочых тытунёвай фабрыкі, якія патрабуюць павелічэння ў два разы зарплаты, усталявання 8-гадзіннага працоўнага дня.

29 снежня. Загад міністра Т. Лапушынскага скасаваць з 1.01.1922 дзяржаўны архіў у Беластоку і стварыць яго ў Гродне, куды перадаць штаты і фінансаванне.

## 1922 г.

У Гродзенскім францысканскім кляштары пачаў працаваць Максіміліян Марыя Кольбэ (да 1937 г.).

У Гродне арганізавана краёвая сетка Тарбут на чале з кіраўнікамі сіянісцкага руху доктарам Мардухаем Барадыцкім і Наахам Басам. Мэтай было стварэнне школ для яўрэйскіх дзяцей, дзе будзе навучэнне Старому Тэстаменту, гісторыі яўрэяў, яўрэйскай літаратуры, Талмуду і Агадзе.

Арганізаваны буйны яўрэйскі спартыўны клуб "Макабі".

У Барысаглебскім кляштары, былым бернардынак, размяшчаецца беларускі прытулак.

У горадзе пасяляецца пісьменніца З. Налкоўская (жыве тут да 1927 г.).

"Когда я думаю о Гродно, его неяркая затуманенная красота кажется мне каким-то удивительным полимпсестом. Столетия оставили здесь, на этом самом месте, вечноизменяющиеся образцы прекрасного" (Эцюд "Гродна").

Адкрыты гродзенскі шклозавод.

Пачала дзейнічаць гандлёвая школа. Дырэктар Маркевіч. З 1928 г. размяшчалася ў доме Э. Ажэшкі (кіраўнік інжынер Радзеваноўскі). Пазней была перанесена на вул. Лістоўскага, 1. З 1931 г. уладальнікам і дырэктарам школы, якая стала трохгадовай, быў Сас.

16 лютага. Выйшаў № 1 газеты "Dziennik Grodzieński". З 17.12.1922 г. стаў называцца "Dziennik Kresowy". Як было напісана на 1-й старонцы, гэта была самая вялікая газета ў Беластоцкім ваяводстве (6 стар.), выходзіла да верасня 1939 г.

22 красавіка – 2 жніўня. Выдаецца газета "Беларускі шлях".

Ліпень. У Гродна вяртаюцца вывезеныя з горада музейныя каштоўнасці.

17 ліпеня. На пасаду прэзідэнта Гродна абраны Э.І. Стэмпнеўскі, былы намеснік старасты.

Верасень. Ствараецца акруговы сакратарыят Хрысціянскіх прафесійных саюзаў (кіраўнік С. Канопскі), дзейнасць якога распаўсюджваецца на Гродзенскую, Аў-

густоўскую, Сувалкаўскую і Сакольскую губерні.

5 верасня. Прайшоў з'езд беларускіх выбарных камітэтаў. Беларускія кандыдаты далучыліся да Блока нацыянальных меншасцей, што спрыяла выбару ў сейм беларусаў Сымона Якавюка і Сяргея Барана.

12 верасня. Адбыўся канцэрт вядомай выканаўцы цыганскіх і расійскіх рамансаў Надзеі Плявіцкай.

13 кастрычніка. Горад сустракаў прэзідэнта II Рэчы Паспалітай Станіслава Вайцяхоўскага. На плошчы Баторыя (цяпер Савецкая) яго сустрэлі каля кветкавай брамы, ўручылі кветкі, а некалькі гродзенскіх кіраўнікоў выступілі з прамовамі. Пасля снядання ў Старым замку прэзідэнт аглядзеў Барысаглебскую царкву, Галоўную сінагогу, Фару Вітаўта (гарнізонны касцёл), музей Ю. Ядкоўскага. На вул. Баніфратарскай Вайцяхоўскі заклаў вуглавы камень і тубу з памятным тэкстам у будынак дома для польскіх афіцэраў. Дамы існуюць і цяпер на вуглу вуліц Свярдлова і Парыжскай Камуны. На абедзе ў Старым замку прэзідэнт сказаў: "Найвялікшую крыўду чыніць Польшчы той, хто хоча на тых землях працягваць палітыку царскай Расіі". Вечарам ён прысутнічаў на спектаклі А. Фрэдры "Дамы і гусары" ў тэатры і ў 23.00 ад'ехаў цягніком у Вільна.

29 кастрычніка. У Гродна пачынае выдавацца газета "Вясковы пралетарый" (па 10 снежня).

5 і 12 лістапада. Выбары ў сейм і сенат. Вялікі ўплыў партыі PPS, яўрэйскага і блока народных меншасцей (1 мандат для беларусаў). У польскі сейм ад акругі Гродна – Сувалкі выбраны Кадлубоўскі Фр.

9 снежня. Адчынены Гродзенскі гісторыка-мастацкі музей (першапачатковая назва "Muzeum panstwowe" – дзяржаўны музей).

## 1923 г.

Згодна з пастановай гарадской рады арганізаваны Часовы камітэт будаўніцтва помніка Э. Ажэшка на чале з часовым выканаўчым аддзелам. У склад яго ўвайшлі, між іншым, староста З. Рабакевіч –

віцэ-старшыня, К. Гедройц – старшыня, Э. Стэмпнеўскі, гісторык Ю. Ядкоўскі, урач А. Тальгейм.

Адчынена Вышэйшая каэдукацыйная гуманістычная гімназія Таварыства “Тарбут”. З 1924 /25 навучальнага года паступова адчынена 5 вышэйшых класаў. Першы выпуск 15 гімназістаў адбыўся ў 1930 г.

Пачала дзейнічаць сіяністка-сацыялістычная арганізацыя “Haszomer Hacair” (“Малады ахоўнік”), маючая на мэце падрыхтоўку моладзі да выезду ў Палестыну. Першая сядзіба знаходзілася на вул. Лістоўскага / Кірава, 6.

Сакавік. Паўстала Таварыства спеваў “Лютня” па вул. Ажэшкі, 10 (будынак былой муз. школы).

11 сакавіка. У гарадскім тэатры адбылося веча жыхароў Гродна і ваколіц на чале з Ю. Арцішэўскім. Выступілі паслы на сейм – кс. Качынскі і Кадлубоўскі. Веча выказала давер блоку Хрысціянскага Саюза народнага адзінства і заклікала паслоў і сакратароў да заканчэння партыйных і класавых бітваў і да аб’яднання ўсіх сіл народа ў накірунку аздараўлення гаспадаркі і адміністрацыі дзяржавы.

15 красавіка. Адбылося першае беларускае веча. Выступіў на ім беларускі пасол ксёндз Адам Станкевіч.

Газета “Nowe życie” напісала, што “веча беларускае павінна ўмацаваць пільнасць нашага грамадства. Беларусы распачынаюць на Гродзеншчыне акцыю на шырокую ногу”.

16 красавіка. Адбылася проба чыгуначнага моста: па ім прайшлі два лакаматывы і 9 гружаных вагонаў. З 22 красавіка камунікацыя паміж Варшавай і Вільна стала адбывацца праз Гродна.

25 ліпеня. На пасяджэнні гарадской рады была зацверджана масавая змена назваў гарадзенскіх вуліц (32 вуліцы і завулкі).

17 жніўня. Ганаровае адкрыццё вайсковага вяслярнага клуба “Нёман” (з 22.02.1927 – “Гродна”).

29 жніўня. У Гродна пачынае выдавацца газета “Сялянская гутарка” (па снежань).

21 верасня. Адкрыта другая

прыватная мужчынская польская гімназія – таварыства Польскай Мацежы Школьнай.

13 кастрычніка. У Гродна быў польскі маршалак Ю. Пілсудскі.

Лістапад. Забастоўка рабочых тытунёвай фабрыкі.

6 снежня. Створана Таварыства любіцеляў Гродна".

## 1924 г.

У Гродне паўстаў шэраг новых хрысціянскіх прафесійных і культурна-асветніцкіх арганізацый: таварыства хрысціянскіх работнікаў, хрысціянскі прафесійны саюз (абодва па вул. Брыгіцкай, 4), аддзяленне таварыства апекі над зняволенымі "Патранат".

Урад выкупае 4 дзейнічаючыя ў Гродне тытунёвыя фабрыкі, у тым ліку Шарашэўскага і акцыянернае таварыства. Такім чынам, была ўведзена дзяржаўная манаполія і стала дзейнічаць адзіная дзяржаўная фабрыка тытунёвых вырабаў.

Гродзенскі гарадскі магістрат праводзіць пашпартызацыю ўсёй нерухомасці ў горадзе (на працягу 1924–1926 гг.).

З гэтага года пачынаюцца штогадовыя лёгкаатлетычныя забегі на прыз Гродна. Звычайна пачыналіся на вул. Грандзіцкай.

Адкрыта першая ў горадзе секцыя тэніса на базе ваенна-спартыўнага клуба 76-га пяхотнага палка.

Студзень. У Гродна адбываюцца жалобныя мітынгі і сходы працоўных у сувязі са смерцю У.І. Леніна.

22 сакавіка. Паўстаў у Гродне беспартыйны Польскі клуб нарадовы. Мэта – несці здаровую грамадска-палітычную думку, абудзіць мясцовую інтэлігенцыю да грамадскага жыцця.

1 мая. Гродзенскі гарkам КПЗБ праводзіць дэманстрацыю тытуневікоў, харчавікоў, гарбароў, грузчыкаў (больш за 1 тыс. чел.). Яны праходзяць па вуліцах горада да плошчы Стэфана Баторыя (Савецкай), дзе адбываецца мітынг. Патрабаванні: 8-гадзінны рабочы дзень, бясплатнае навучанне, устанаўленне ўлады рабочых.

21 чэрвеня. Адбылося ўрачыстае ўручэнне штандара

гродзенскай арганіцацыі моладзі ”Сокал” . Старшыня гродзенскага ”гнязда” – Пякарскі.

Ліпень. Магістрат прыняў рашэнне аб стварэнні ў горадзе музея прыроды.

29 ліпеня. Праездам з Друскенік да Варшавы заехаў у Гродна маршал Пілсудскі, на вакзале сустракаў яго прэзідэнт горада Стэмпнеўскі, ганаровая вахта 81-га п.п., аддзел Саюза стралкоў, жыхары. Пілсудскі пажартаваў наконт Гродна, назваўшы яго “сталічным горадам” – магчыма таму, што ў час ВКЛ жыхары горада плацілі падаткі на “стол каралеўскі”.

1 верасня. Легалізавана Таварыства аховы здароўя. Першым старшынёй быў доктар Абрахам Ліпнік, а сакратаром – Аўсей Сухавланьскі. Трэцім ініцыятарам утварэння таварыства была доктор Мар’я Галперн. У складзе таварыства арганізавана “Станцыя апекі маці і дзіцяці” (1.11.1924).

5 верасня. З датай суботы 6.09 выйшаў у Гродне № 1 яўрэйскай газеты “Grodner Moment” (рэд. Гарбульскі). Адрас – друкарня М. Гана, вул. Дамініканская, 18. У нумары быў артыкул Тарлеўскага “Гродзенская рэспубліка”.

7 верасня. Упершыню гродзенцы ўбачылі, дзякуючы намаганням Вайсковага вяслярскага клуба “Нёман”, рэгату: на двойках – 2 жаночыя каманды – 1000 м; адзіночкі – 2 лодкі, мужчыны – 2000 м; дзве пяцёркі, мужчыны – 2000 м; на рыбацкіх лодках – 1500 м, 2 чалавекі-любіцелі.

8 кастрычніка. Выданне рэвалюцыйнага напрамку газеты-аднадзёнкі “Гудок”.

10 кастрычніка. Адбылося асвячэнне ўласнага будынка санітарнай станцыі на Скідзельскай плошчы. Выступіў прэзідэнт горада Стэмпнеўскі. Мэта станцыі – кантроль мяса на продаж, дагляд за хворымі жывёламі. Лекар-ветэрынар В. Леановіч.

27 лістапада. Выданне рэвалюцыйнага напрамку газеты-аднадзёнкі “Гудок”.

Снежань. Гродзенская акруговая арганізацыя КПЗБ налічвае 56 членаў. Першы сакратар Е. Гальдштэйн (Зыгмунд).

## 1925 г.

З чэрвеня 1925 па 1927 г. у Гродне існаваў павятовы камітэт Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ): І. Баліцкі, М. Якімовіч, П. Кізевіч, У. Паддубік.

Галадоўка палітычных вязняў у гродзенскай турме.

Вайсковыя ўлады перадаюць музею Ю. Ядкоўскага частку Старога замка.

Арганізавана дзяржаўная двухгадовая школа муляраў (Парахавая, 4), куды прымаліся хлопчыкі з 16 гадоў.

Выдавалася штотыднёвая газета "Wiadomości teatralne".

1 студзеня. Выйшаў № 1 газеты "Nadniemanski kurier Polski".

8 студзеня. У мясцовым тэатры спяваў вядомы расійскі артыст А. Давыдаў. Зала была запоўнена публікай "па берагі".

5 лютага. Гродзенскі камітэт КПЗБ раскідаў лістоўкі на тытунёвай фабрыцы (былой Шарашэўскага). У ёй асуджаўся белы тэрор, паліцэйскія меры паліцэйскай дзяржавы. Гучаў заклік "Няхай жыве міжнародная салідарнасць працоўных і камуністычны Інтэрнацыянал".

9 сакавіка. Гродна наведаў маршалак Ю. Пілсудскі. Быў урачысты абед у замку.

2 красавіка. У гарадскім тэатры адбылася прэзентацыя радыё. А. Гельдэрбрант і Ул. Тапор зрабілі даклад "Што гэта такое радыё?" – і прадэманстравалі канцэрт па радыё.

20 красавіка. У Гарадзенскім акружным судзе адбыўся суд над 72 беларускімі партызанамі, якія дзейнічалі ў 1922 – 1923 гг. ва ўсходніх паветах Беластоцкага ваяводства і ў раёне Белавежскай пушчы.

Май. Выйшаў № 1 месячніка "Nad poziomy" – органа паланістычнага таварыства ў жаночай настаўніцкай семінарыі Гродна. Нумар цалкам прысвечаны А. Міцкевічу, філаматам.

17 мая. Гродна адзначыла 900-годдзе каранацыі Баляслава Храбрага. На плошчы Стэфана Баторыя адбылася імша, якую вёў ксёндз-сенатар Жэброўскі, да войска гаварыў генерал Бербуцкі. Парад адбыўся перад гарнізонным касцёлам.

Чэрвень. Арганізавана Гродзенская футбольная падакруга ў складзе Віленскай акругі.

6 чэрвеня. Адбылося ўрачыстае ўручэнне пасведчанняў першым выпускнікам жаночай гімназіі імя Э. Плятэр (15 дзяўчат).

22–24 жніўня. Шэсць гродзенскіх футбольных каманд разыгралі пераходны Кубак Гродзенскай падакругі. Кубак выграла каманда "КС Крэсовія".

29 жніўня. Гродзенскі саюз стралкоў святкаваў жнівеньскае свята. Прысутнічаў маршалак Пілсудскі. Прыехалі стралковыя аддзелы з Аўгустова, Кузніцы, Сакулкі. Адбылося набажэнства ў гарнізонным касцёле, абед у замку, вечарам у тэатры вайсковыя артысты адыгралі "Невядомага жаўнера".

11 лістапада. У Гродна адбыўся "працэс чатырнаццаці" над членамі КПЗБ.

23 лістапада. У Гродна адбываецца суд над 33 партызанамі Гродзеншчыны.

1 снежня. У Варшаве пасля доўгай і цяжкай хваробы памёр былы старшыня акцыянернага таварыства тытунёвай фабрыкі ў Гродне І.Л. Шарашэўскі (86 год). Цела прывезлі спецвагонам у Гродна і тут пасля набажэнства пахавалі ў Вялікай сінагозе 3.12.1925 г.

15–16 снежня. У Гродна адбыўся "працэс дзесяці".

## 1926 г.

Даведка: насельніцтва Гродна 40 561 чалавек.

Пасля перадачы тытунёвай манаполіі італьянскім прадпрымальнікам тытунёвая фабрыка выкуплена дзяржавай.

Былая прыватная фабрыка запалак "Марголіс і Ёсялевіч" згадваецца як Першая дзяржаўная фабрыка запалак "Марыёс" ("Marjos"). Знаходзілася на вул. Ерусалімскай (зараз Антонава). Прадукцыя рэалізоўвалася праз прадстаўніцтвы ў Вільні, Сасноўцы, Баранавічах і Беластоку.

У паўднёва-ўсходняй частцы гарадскога парку Я. Кахаоўскі з дазволу магістрата залажыў школьны батанічны сад агульнай плошчай 0,3 га.

Па заданні ЦК КПЗБ створана першая ў Заходняй Беларусі падпольная камуні-

стычная друкарня (дзейнічала да 1938 г.) на кватэры краўца Ільі Пата, па вул. Ласаянскай (цяпер вул. Савецкіх пагранічнікаў).

Створаны першы ў Гродне харцэрскі атрад.

Адкрыта прыватная яўрэйская настаўніцкая семінарыя “Тарбут” імя А.Д. Гардона (працавала да 1935 г.).

Пачала дзейнічаць яўрэйская арганізацыя “Bejtar”, мэтай каторай была вайсковая, выхаваўчая, культурная і спартыўная падрыхтоўка моладзі перад эміграцыяй у Палестыну для пабудовы дзяржавы Ізраэль.

6 студзеня. Выданне літаратурнага альманаха “Зарница”.

21–24 студзеня. Адбыўся “працэс трыццаці двух”.

24 студзеня. Дэпутаты пасольскага клуба Грамады праводзяць мітынг (1500 рабочых і сялян). Прынята рэзалюцыя, у якой былі наступныя патрабаванні: спыненне белага тэрору, поўная амністыя палітвязняў, стварэнне сялянска-рабочага ўрада і інш.

30 студзеня. На тэлеграфных правадах пасярэдзіне р. Нёман вывешаны транспарант на беларускай і польскай мовах: “Камуністычная партыя Заходняй Беларусі! Гонар памяці Леніна! Няхай жыве адзіны фронт рабочых і сялян! Няхай жыве аб’яднаная Савецкая Беларусь!”. Ноччу распаўсюджваюцца камуністычныя лістоўкі на польскай і беларускай мовах.

8 лютага. У Гродна адбываецца ўстаноўчы акруговы з’езд Польскага таварыства хрысціянскай дэмакратыі (ПТХД). Выбранае праўленне ўзначальвае А. Валанскі.

20 лютага. Мітынг у кінатэатры “Палас”, арганізаваны адным з кіраўнікоў БСРГ Б. Тарашкевічам.

14 сакавіка. У ратушы падпісаны акт аднаўлення дзейнасці першых гродзенскіх цэхаў цырульнікаў, кавалёў, слесараў, шаўцоў і шорнікаў.

25 красавіка. Прайшлі спаборніцтвы па лёгкаатлетычнаму кроссу, роварным і матацыклетным гонкам на Кубак горада.

Май. У дні майскага пераварота ў Польшчы гродзенскія рабочыя пад уплывам камуністаў спрабавалі стварыць Савет рабочых дэпу-

татаў. Гэта падзея знайшла адлюстраванне ў замежных газетах.

Другая палова года. Грамада арганізоўвае шэраг масавых павятовых з’ездаў. Гродзенскім кіруе Б. Тарашкевіч.

27 чэрвеня. Адбылося беларускае веча, на якім вырашана дамагацца аўтаноміі і вызвалення палітычных вязняў.

Канец чэрвеня. Адчынены ў Гродне павятовы сакратарыят Беларуска-сялянскай грамады (старшыня Якімовіч, сакратар Рашкоўскі).

Ліпень. Пачынае дзейнічаць Гродзенскі міжпартыйны камітэт барацьбы за амністыю палітвязняў (да 1928 г.).

19 верасня. У Гродна прайшоў павятовы з’езд Беларускай сацыялістычнай рэвалюцыйнай грамады (БСРГ).

Лістапад. Намаганнямі гродзенскага аддзела Таварыства сяброў Э. Ажэшкі на яе доме адкрыта памятная дошка. На ўрачыстасці выступіў хор Дзяржаўнай настаўніцкай жаночай семінарыі імя Э. Ажэшкі.

21 лістапада. Урачыстае адкрыццё для наведвальнікаў музея прыроды (кіраўнік Ст. Жыўна).

28 лістапада. У Гродна праходзіць 2-гі акруговы з’езд ПТХД.

Снежань. Гродзенская акруговая канферэнцыя КСМЗБ. У гэты час камсамольская арганізацыя налічвае да 220 членаў і ахоплівае сувязямі 12 мястэчак, 10 маёнткаў, 86 вёсак.

## 1927 г.

У Гродна па ініцыятыве Я. Каханоўскага на сродкі гарадскога таварыства любіцеляў прыроды заснаваны заапарк.

У гродзенскай турме сядзіць пісьменнік, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі П.С. Пестрак (першы тэрмін).

Выйшлі два нумары дэмакратычнага штотыднёвіка “Беларуская доля”.

30 студзеня. На гарадскім стадыёне прайшлі першыя спаборніцтвы па лыжным спорце.

1 лютага. Польскія ўлады зачыняюць БСРГ (у Гродзенскім павеце налічваецца больш за 10 тыс. членаў у 220 гуртках).

12 лютага. У “Польскай друкарні крэсовай” (Даміниканская, 23) выходзіць штотыднёвік “Kresy wschodnie”. Рэдакцыя знаходзілася па вул. Ажэшкі, 5, рэдактар і выдавец Вітольд Пуслоўскі.

Сакавік. Падпісана дамова са скульптарам Рамуальдам Зэрыхам на выкананне бюста Э. Ажэшкі.

4 і 11 сакавіка. Адбываюцца выбары ў сейм і сенат.

3–14 красавіка. У Гродна праходзіць “працэс 62” над членамі КПЗБ. Галадоўка палітвязняў у гродзенскай турме.

20 красавіка. У памяшканні Старога замка адбылося ганаровае адкрыццё шахматнага турніра на першынство горада.

28 чэрвеня. Пачалася забастоўка рабочых запалкавай фабрыкі “Марыяс” (праходзіць болей 5 месяцаў, удзел прымаюць 150 рабочых; скончылася перамогай працоўных).

Жнівень. Зварот ЦК КПЗБ і Гродзенскага АК КПЗБ да працоўных падтрымаць бастуючых рабочых фабрыкі “Марыяс”.

Кастрычнік. У штабе округа III корпуса адбылася важная ваенная нарада з удзелам маршала Пілсудскага, міністра Складкоўскага, інспектара арміі генерала Рыдз-Сміглага, камандуючага акружным корпусам генерала А. Літвіновіча. Абмяркоўваліся польска-літоўскія адносіны.

9 кастрычніка. Адбыліся выбары ў Гродзенскую гарадскую раду. Рабочы блок па колькасці галасоў заняў 3-е месца.

## 1928 г.

У Гродна дзейнічае акруговы камітэт і гарадское аддзяленне Таварыства беларускай школы (ТБШ).

Пачала працаваць мадэрнізаваная электрастанцыя. На Занёманскім прадмесці былі пабудаваны дзве падстанцыі (адна з іх захавалася каля сучаснага басейна “Лазурны”).

Выдадзена газета-аднадзёнка “Страха”, якая агітавала за спіс урадавых кандыдатаў па выбарах у сейм.

Адбыўся ў Гродне з’езд Таварыства Беларускай Школы

(у гатэлі па вул. Ажэшкі). Прысутнічалі Р. Шырма, М. Васілёк, Власаў (беларускі пасол у сейме РП).

Пачаў дзейнічаць Кураторый замкавы, які складаўся з прадстаўнікоў грамадзянскай і ваеннай улады, з мэтай каардынацыі работ па навуковым вывучэнні і кансервацыі Замкавай гары і Старога замка (на чале з генералам Клебергам).

Пачаў працу польскі тэатр імя Э. Ажэшкі (да 1939 г. уключна)

Цярэнці О'Брыен дэ Ласі, уладальнік Аўгустоўка, пачаў аднаўляць разбураныя ў час Першай сусветнай вайны будынкі маёнтка. Сярод іх – летні паляўнічы домік (палацык) Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Красавік. Арганізаваны спартыўны клуб "Лехія" (ініцыятар – камендант паліцыі Станіслаў Міцінскі.

29 красавіка. Адбыліся IV штогадовыя спаборніцтвы па лёгкаатлетычнаму кросу на кубак горада.

1 мая. Пачаў сваю дзейнасць у Гродна Цэнтр фізічнай культуры. Ён меў гімнастычны зал, дзве спартыўныя пляцоўкі. Тут працавалі секцыі бокса / фехтавання, спартыўных гульняў і лёгкай атлетыкі.

24 чэрвеня. Адбылося ганаровае адкрыццё і асвяшчэнне аэрадрома "Нёман" у Румлёва.

11 лістапада. На будынку гімназіі імя А. Міцкевіча адкрыта памятная дошка гімназістам, палеглым падчас абароны Гродна ў 1920 г.

## 1929 г.

У Гродне апублікавана кніга "elizie Orzeskowej w holdzie".

Выдаецца газета "Grodner Express".

Адбыліся першыя баскетбольныя матчы.

9 сакавіка. Заснаваны гродзенскі філіял агульнапольскай арганізацыі дапамогі дзецям і моладзі "Прыстань" (старшыня кс. канонік А. Курыловіч).

24 сакавіка. Створаны Беластоцкі акружны футбольны саюз з месцазнаходжаннем у Гродне. У гэтым годзе налічвалася 46 каманд, падзеленых на клас "А" (6 клубаў) і клас "Б" (14 каманд).

1 мая. На вуліцы Гараднічанскай невядомыя вывесілі чырвоны сцяг, а па вул. Пуш-

кінскай, Крэсовай і Напалеона раскідалі ўлёткі.

20 мая. Вайсковая газета “Polska Zbrojna” ў № 137 змясціла навіны аб агітацыі пасланцаў ген. Доўнар-Мусніцкага для фарміравання вайсковых аддзелаў.

29 мая. 15.00. На вуглу вуліц Віленскай і Ажешкі гродзенскі камсамолец (імя невядомае) выстралам з пісталета забівае платнага інфарматара ахранкі Мірука ў той час, калі ён вёў назіранне за явачнай кватэрай.

5 чэрвень. Забастоўка на лесапільным заводзе Пераца.

9–21 чэрвеня. У Гродне адбыўся так званы працэс 75-і – суд, арганізаваны польскімі ўладамі над дзеячамі КПЗБ, арыштаванымі ў Косаўскім павеце Палескага ваяводства.

2 ліпеня. Забарона дзейнасці Гродзенскага акруговага праўлення ТБШ.

*“Нашыя «гаспадары» не хочуць даць нам школы і цярпліва выносяць нашу волю, пярэчачую іхнім інтарэсам, чакаючы, пакуль не зломяцца нашыя сілы і мы змоўкнем ды дабравольна згодзімся быць прыгоннымі. Але мы павінны не дапусціць да гэтага і знайсці выхад з палажэння. Выхад будзе такі: калі няма дзяржаўнай школы, адчыняць прыватныя, калі не даюць прыватных, дык трэба вучыць у дому, калі не магчыма вучыць дзяцей, дык трэба вучыць дарослых; тым, ці другім, ці трэцім шляхам выхад усё-ж такі ёсць, ды мы мусім з гэтага скарыстаць…”* (Сяўрук П. Небыцця не існуе: Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху. – Гародня – Вроцлаў, 2008. – С. 51).

8 ліпеня. Забастоўка рабочых гродзенскага шклозавода (300 чал.). Галадоўка палітвязняў у гродзенскай турме.

27 ліпеня. Беластоцкае ваяводскае ўпраўленне прымае рашэнне аб уключэнні былога палаца Валіцкага (будынак праваслаўнага кансістара) ў спіс помнікаў культуры.

Жнівень. Забастоўка вадзіцеляў Гродзенскага аўтобуснага парка.

Пач. жніўня. Назарэцянкі прыступілі да рэстаўрацыі былога брыгіцкага кляштара.

1 жніўня. Прадстаўнікі Камуністычнай партыі Поль-

шчы раскідалі ў Гродне адозвы на польскай мове, якія заклікалі да дэманстрацыі супраць урада Макдональда ў Англіі, Мюлера ў Германіі і Пілсудскага ў Польшчы. Камуністы Савецкай Расіі ў сваіх адозвах пісалі, што Саветы – "айчына ўсіх працоўных". У Гродне было ўсё спакойна.

14 жніўня. Газета "Grodner Express", № 2, паведаміла, што пры выкопванні падвала ў разліўні він і мёду Напіра пад будынкам Баторыеўкі знайшлі гармату, якой не менш за 300 гадоў. Гармату змясцілі ў музеі.

Верасень. Гарадская рада перадала пад заапарк велатрэк па вул. Станіславоўскай.

Кастрычнік. Пачалі рабіць ахоўны бульвар ля падножжа гары Замкавай (інжынер Б. Піракці) і пераносіць будынкі з падножжа.

19 кастрычніка. Першы дзень урачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных Э. Ажэшцы. Адбылася экскурсія да Багатырэвічаў на магілу Яна і Цэцыліі, дзе гасцей сустрэў Ян Багатырэвіч і яго сваяк – 84-гадовы Адам Ляўковіч. Прафесар Будзаноўскі выступіў з прамовай пра пісьменніцу, заснаванай на яе легендзе пра Багатырэвічаў. Вечарам, каля 20.00, у гродзенскім тэатры пачалося прадстаўленне "Легенды Багатырэвічаў" у пастаноўцы трупы гарнізоннага тэатра пад кіраўніцтвам капітана Кавальскага. Перад спектаклем прафесар Ліманоўскі выступіў з дакладам аб творчасці Ажэшкі. Пасля прадстаўлення ў Старым замку адбыўся раўт.

20 кастрычніка. У Старым парку пастаўлены помнік Э. Ажэшцы (скульптар Р. Зэрых). Адбылося ганаровае асвячэнне і адкрыццё. Горад быў упрыгожаны дзяржаўнымі сцягамі, вечарам была ілюмінацыя і ў тэатры любіцельская трупа паказала інсцэніроўку фрагмента "Над Нёманам".

У газеце "Nowe życie" у гэты дзень было напісана: "Устане тады пад помнікам Элізы Ажэшкі ўся Польшча. Польшча былая і Польшча сённяшняя. Таму што гродзенская ўрачыстасць – свята двух пакаленняў нашага народа: пакалення, для якога Ажэшка была вядучай у ня-

волі, і пакалення, для якога з'яўляецца настаўніцай жыцця ў вольнасці".

Лістапад. Забастоўка рабочых шклозавода і запалкавай фабрыкі "Марыяс".

1 лістапада. На вуліцах расклеены лістоўкі Гродзенскага АК КПЗБ (на беларускай, польскай, яўрэйскай, рускай мовах).

4 лістапада. Сход у кравецкім цэху, прысвечаны 12-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

7 лістапада. Палітвязні гродзенскай турмы адзначаюць кастрычніцкае свята рэвалюцыйнымі песнямі.

## 1929–1933 гг.

Эканамічны крызіс: у Гродна закрываюцца два лесапільныя, два гарбарныя, піваварны, люстэркавы заводы.

## 1930 г.

Мясцовая рада пастанавіла прызнаць маршалка Ю. Пілсудскага ганаровым жыхаром Гродна.

Выдавецтва магістрата Гродна пачынае выдаваць серыю кніг "Гістарычная бібліятэка горада Гродна". Старшынёй рэдакцыйнага камітэта стаў прэзідэнт горада Антоні Ранчашак, чальцамі – прафесар Універсітэта Стэфана Баторыя Ст. Касцялоўскі, кусташ дзяржаўнага музея ў Гродне Ю. Ядкоўскі, кіраўнік адзела культуры і адукацыі лаўнік К. Гутман, рэдактар "Хронікі Гродна" лаўнік Р. Савіцкі. Першым томам была выдадзена кніга Т. Янкоўскага "Смерць Стэфана Баторыя ў Гродне".

Адноўлены мост праз Нёман (праект інжынера Л. Пняка). Патронам будаўніцтва быў Ю. Пілсудскі, таму мост названы яго імем.

Забастоўка рабочых тытунёвай фабрыкі, якая скончылася перамогай рабочых.

Люты – ліпень. Пад кіраўніцтвам Гродзенскага гаркама КПЗБ праходзіць забастоўка ўсіх сямісот рабочых фанернай фабрыкі, якія патрабуюць павышэння зарплаты на 50 %, прыёму на працу і звальнення з яе са згоды прафсаюзаў, абедзенага перапынку.

2 кастрычніка. У Гродна выйшаў першы нумар штотыднёвай газеты "Беларуская

думка” (рэдактары А. Лукашык, Л. Лукашык, выходзіла да 1932 г.).

30 кастрычніка. Беластоцкі ваявода зацвердзіў статут Клуба матацыклістаў Гродна.

## 1931 г.

Усеагульная забастоўка работнікаў-камунальнікаў, якія патрабавалі паляпшэння ўмоў працы і захавання свайго прафсаюза.

Забастоўка рабочых тытунёвай фабрыкі пад кіраўніцтвам мясцовых арганізацый ППС і Бунда.

Ю. Ядкоўскі і З. Дурчэўскі пачаліся раскопкі на Замкавай гары .

Перапіс насельніцтва Польшчы: у Гродна жыве 49 тыс. чалавек.

Пад кіраўніцтвам КПЗБ дзейнічае гарадскі камітэт Чырвонай дапамогі (секцыя Міжнароднай арганізацыі дапамогі рабочым).

Забастоўка фанернага завода, электрастанцыі, водаканалізацыйнай службы, рамеснага вучылішча “Орт”, служачых магістрата і шэрагу дробных прадпрыемстваў.

Студзень. Блакада магістрата, у якой удзельнічаюць больш за 300 беспрацоўных, абвясціўшых галадоўку.

Люты. У гарадскую турму пераведзены Б. Тарашкевіч (да кастрычніка 1932 г.). Тут летам ён напісаў адозву супраць “нацыянал-фашыстаў” Заходняй Беларусі (Луцкевіча, Астроўскага і інш.) і “контр-рэвалюцыйнага нацдэмства” ў БССР.

10 лютага. Гарадская рада на сваім пасяджэнні зацвердзіла новыя назвы вуліц. Змены, што адбыліся, можна паглядзець у кнізе Ядкоўскага “Nazwy placów i ulic grodzieńskich. Dawne i dzisiejsze”.

*“У сувязі з новымі правіламі рэгістрацыі магістрат г. Гродна прыступіў да ўпарадкавання нумерацыі нерухомасці ў Гродна, прычым аказалася, што існуюць па некалькі вуліц з назвамі, якія гучаць аднолькава. Горад пашыраецца, утвараюцца новыя жылыя раёны, змяняюцца ўскраіны, таму не дзіўна, што на працягу апошніх некалькіх гадоў паўстала значная колькасць новых вуліц, якія дагэтуль не атры-*

*малі назваў”* (J. Jodkowski. Ulice grodzienskie w swietle historii i topologii. Grodno, 1931).

Вясна. Здарылася навадненне – вада ў Нёмане паднялася да адзнакі 6 м 18 см.

Май. Галадоўка 72 палітвязняў у гродзенскай турме супраць пераводу ў агульныя камеры з крымінальнікамі.

Жнівень. Галадоўка 150 палітвязняў у гродзенскай турме. Пад выглядам штучнага кармлення задушаны адзін з кіраўнікоў камсамольскай арганізацыі Гродна Ф. Скульчык.

2 жніўня. Прайшлі спаборніцтвы веласіпедыстаў. Гонка па трасе Гродна – Друскенікі (60 км). Першым прыехаў праз 2 гадзіны 30 хвілін Ян Дацэвіч з каманды 3-га санітарнага батальёна.

8–9 жніўня. Адбылося адкрытае першынство Гродна па вяслярству. Удзельнічалі каманды з Вільні, Варшавы, Познані. Гродзенцы выйгралі амаль на ўсіх дыстанцыях.

31 кастрычніка. Прайшло традыцыйнае паляўнічае свята Святога Губерта.

## 1932 г.

Даведка: на 1 студзеня колькасць беспрацоўных складала 2 627 чалавек.

Закрываецца сеймікавая (павятовая) бальніца.

Ю. Ядкоўскі на Замкавай гары выявіў рэшткі княжацкага церама.

24 студзеня. Адбылося ганаровае адкрыццё і асвячэнне спартыўнага комплексу клуба “КС Крэсовія” па вул. Нарутовіча, 4 (Дзяржынскага).

24 красавіка. Адбыліся чарговыя VIII спаборніцтвы па лёгкаатлетычнаму кросу на Кубак Гродна.

У гэты ж дзень адбылася гонка на роварах на трасе Гродна – Гожа – Гродна” (38 км). Перамог Стэфан Кейко з клуба “КС Крэсовія”.

14–19 ліпеня. Забастоўка рабочых камунальнай гаспадаркі пад кіраўніцтвам Гродзенскага гаркама КПЗБ, якая скончылася перамогай працоўных.

31 ліпеня. У Цэнтры фізічнага выхавання адбыўся першы чэмпіянат Гродна па плаванні: заплывы мужчын на 50, 100, 200, 400 м вольным стылем, эстафеты 3х100,

5х100 м; жанчын на 100 м вольным стылем.

Лістапад. Пад кіраўніцтвам Гродзенскага АК КПЗБ арганізавана 35 масовак з удзелам 900 чалавек.

## 1933 г.

Ва ўзросце 113 год у Гродна памёр ветэран паўстання 1863 г. М. Рагачэўскі.

Сакавік. Масавыя выступленні салідарнасці з бастуючымі тэкстыльшчыкамі Беластока.

3 сакавіка. Апошні візіт у Гродна Ю. Пілсудскага. Ён прысутнічаў на вайсковых гульнях.

Май – кастрычнік. У гродзенскай турме сядзіць С.В. Прытыцкі.

1 мая. Палітвязні гродзенскай турмы (каля 50 чал.) адзначаюць свята дэманстрацыўным выступленнем.

7 лістапада. Палітвязні гродзенскай турмы спяваюць камсамольскія песні, а адзін з іх робіць прамову.

25–26 лістапада. У горадзе ганарова адзначаецца 400-годдзе Стэфана Баторыя. У Гродне ў гэтыя дні гасціў прэзідэнт Рэчы Паспалітай Ігнацы Масціцкі. На пл. Баторыя ён прымаў вайсковы парад: прайшлі 29-ы полк лёгкай артылерыі, 81-ы полк пяхоты імя Стэфана Баторыя, 76 полк пяхоты імя Л. Нарбута. У 14.00 Масціцкі адкрыў на Старым замку памятную дошку Стэфану Баторыю і затым сустрэўся з сябрамі камітэта адбудовы Старога замка. Легенда сцвярджае, што ад’язджаючы, прэзідэнт сустрэўся з Янам Каха볼скім, які паказаў яму заапарк і гаварыў, што не хапае месца для звяроў. Пазней Масціцкі дамовіўся з кіраўніцтвам Гродна, і яно выкупіла ў Я. Друцкага-Любецкага кавалак зямлі для заапарка.

## 1934 г.

У гродзенскай турме В. Таўлай напісаў паэму “Товариш”.

Мясцовая арганізацыя Бунда заключыла дамову аб адзіным фронце з левымі рабочымі арганізацыямі.

25 лютага. У зале Гарнізоннага тэатра адбыўся матч па боксе паміж камандамі Гродна і Вільна. Выйгралі гродзенцы

з лікам 8:2, але віленцы выступалі другім складам.

11 сакавіка. Створана Кола сяброў Гарадзенскай зямлі ў Варшаве. Мясцілася на вул. Смольнай, 14. Налічвала 120 чал. Мэта аб'яднання – папулярызацыя Гродна і ваколіц на тэрыторыі сталіцы, падтрымка пазітыўных ініцыятыў Гродна і Гродзеншчыны.

20 красавіка. У кавярні "Еўрапейская" (вул. Дамініканская / Савецкая) прайшоў шахматны матч Беласток – Гродна. З лікам 3:2 выйграў Беласток, адна гульня не завяршылася.

24 верасня – 4 кастрычніка. Адбыўся адборачны шахматны турнір моцных шахматыстаў Гродна, па выніках якога фарміравалася каманда на I шахматны камандны чэмпіянат Паўночна-Усходняй Польшчы. Перамог Віталь Яскевіч, набраўшы 4,5 ачкоў з 6. А вось у чэмпіянаце, які прайшоў у Лідзе, выйграў гродзенец Іона Гінзбург (6 ачкоў з 6).

## 1935 г.

Ю. Ядкоўскі і З. Дурчэўскі праводзяць на Каложы раскопкі.

Пад уплывам сіяніцкай агітацыі з горада ў гэтым годзе на Блізкі Усход выехала каля 5 тысяч чалавек.

Па ініцыятыве галоўнага кіравання і з нагоды VI агульнага з'езда польскіх гісторыкаў створаны аддзел Польскага гістарычнага таварыства ў Гродне.

1 мая. Адбылася дэманстрацыя рабочых, сялян, служачых (больш за 5 тыс. чал.). Сярод удзельнікаў – калона са 150 дзяцей беспрацоўных. Дэманстрантаў ахоўвае рабочая міліцыя. На плошчы Стэфана Баторыя праходзіць мітынг (каля 8 тыс. чал.), на якім рабочы, член КПЗБ А. Пятрэнка заклікае весці барацьбу супраць вайны, фашысцкага тэрору, у абарону СССР. Палітвязні гродзенскай турмы арганізоўваюць палітычнае выступленне. Конны атрад паліцыі пад кіраўніцтвам камісара Нэймана жорстка расправіўся з удзельнікамі дэманстрацыі рабочых.

19 мая. Гродзенскія сезонныя рабочыя абвяшчаюць усеагульную забастоўку.

29 мая. У знак салідарнасці

с сезоннымі рабочымі бастуюць усе рабочыя горада.

7 чэрвеня. Адбыўся яўрэйскі пагром. Білі выбіты шыбы ў 183 дамах і 85 крамах, якія былі абрабаваны. Пабіты больш за 40 чал., 2 з якіх памерлі ў яўрэйскім шпіталі. Горад панёс страт больш чым на 20 тысяч злотых. Цікава, што пагромшчыкі абмінулі вуліцы, якія шчыльна заселены яўрэямі: Траецкую, Пераца, Школьны Двор, даліну Гараднічанкі.

Гродзенская яўрэйская дзяўчынка ў сваім дзённіку напісала:

*“У шмат якіх яўрэйскіх дамах ляжаць параненыя. У шпіталь прывозяць новых пацыентаў. Яўрэйская кроў сцякае з нажоў і крывава чырванее на камянях… Не першы раз, і не дзясяты раз… Кожную хвіліну адгукаецца тэлефон – паўсюль тыя ж самыя словы: «У нас кепска». Паўсюль кепска. Няма аніводнай добрай навіны… Ужо позна... Але ніхто з дваццаці тысяч гродзенскіх яўрэяў не спіць…”* (Цыт. па: Sobolewska O. Pogromy i ekscesy antyżydowskie w Grodnie w okresie międzywojennym // świat NIEpozegnany: żydzi na dawnych ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej w XVIII–XX wieku: Praca zbiorowa / Pod. red. K. Jasewicza. – W-wa, Londyn. 2004. – S. 590–595).

31 мая. На чыгуначным вакзале жыхары Гродна сустракалі цягнік на Вільню, у якім везлі срэбную урну з сэрцам маршалка Ю. Пілсудскага.

12 чэрвеня. Закончылася ўсеагульная забастоўка гарадскіх рабочых, бо іх патрабаванні аб павышэнні заработнай платы задаволены.

13 чэрвеня. Забастоўка афіцыянтаў і повараў рэстаранаў.

18 чэрвеня. Гарадская рада прызнала першым лаўрэатам літаратурнай прэміі Э. Ажэшкі М. Здзяхоўскага.

19 чэрвеня. Забастоўка рабочых фабрыкі ігральных карт Лапіна.

23 ліпеня. Забастоўка фурманаў.

26 ліпеня. Улады арганізоўваюць маніфестацыю пратэсту супраць нямецкіх дамаганняў на вольны горад Гданьск (Данцыг). КПЗБ ператварае яе ў выступленне супраць фашызму пад лозунгамі “Абаронім СССР!”, “Гонар і памяць забітым у Іспаніі!”,

“Свабода Тэльману!”, “Далой Гітлера!”.

1 верасня. У школах лічыцца 7 288 дзяцей (не вучацца 791 чал.), 189 настаўнікаў.

Кастрычнік. Стачка рабочых гродзенскай фанернай фабрыкі.

Пачатак будаўніцтва ў горадзе каналізацыйнай сеткі. Пачынаючы ад вул. Віленскай уздоўж Гараднічанкі пралажылі каналізацыйны калектар.

20 кастрычніка. На аэрадроме “Гродна – Караліно” прайшло авіяцыйнае свята, у праграме якога былі дэманстрацыя самалёта і палёты з пасажырамі.

22 кастрычніка. Па ініцыятыве Гродзенскага Саюза чыноўнікаў вайсковай адміністрацыі створаны Камітэт барацьбы з камунізмам. У праўленне ўвайшлі кіраўнік Саюза Я. Завадскі, начальнік гарадскога падатковага органа Фолтын, бурмістр Гродна В. Цэнскі, кс. Саванеўскі і інш. – усяго 10 чалавек.

Снежань. У спартыўнай зале вайсковай акругі прайшоў чэмпіянат Гродна па валейболу.

14 снежня. У зале Гарнізоннага тэатра адбыўся матч па боксе паміж камандамі Гродна і Беластока. Выйгралі гродзенцы з лікам 8:2.

## 1936 г.

З канвеера фабрыкі Старавольскіх (бацькі і сына) сышоў першы гродзенскі матацыкл “Нёман”. Меў аб’ём рухавіка каля 100 кубічных см (іх называлі “соткі”). Рухавікі былі англійскай маркі “Villiers”, а астатнія дэталі польскія. Максімальная хуткасць дасягала 70 км/г, расход паліва – 2,25 л на 100 км, дапушчальная нагрузка – 150 кг. У 1936 г. было выраблена 100 матацыклаў.

20 студзеня. Адбылася забастоўка 580 рабочых прадпрыемства дыкты. Патрабаванні рабочых былі задаволены, але 23–28 сакавіка яны зноў баставалі.

27 сакавіка – 3 красавіка. Забастоўка рабочых роварнага завода “Нёман”.

У другой палове года баставалі рабочыя камунальнай гаспадаркі, афіцыянты і повары рэстаранаў, рабочыя фабрыкі карт Лапіна, фурманы,

рабочыя скуранога завода, тытунёвай фабрыкі і інш.

26 ліпеня. Выступленне працоўных супраць фашызму пад лозунгамі: Абарона СССР! Гонар і памяць забітым у Гіспаніі! Вольнасць Тэльману! Далой Гітлера!

## 1937 г.

1 студзеня. Пачатак дзейнічання гарадской каналізацыі. За два гады было пакладзена больш за 5 тыс. км розных каналізацыйных каналаў.

Май. На Замкавай гары З. Дурчэўскі знайшоў мураваную сцяну.

Колькасць беспрацоўных у горадзе 3 200 чалавек.

19 кастрычніка. У Гродна адбываецца агульная палітычная забастоўка супраць яўрэйскіх пагромаў.

## 1938 г.

Зачынены ўсе беларускія школы.

Выходзіць газета “Glos Grodzieński”.

11 мая – 6 жніўня. Разабрана праваслаўная царква Св. Аляксандра Неўскага. Яна была перанесена на вул. Сабескага.

15 мая. Адбыўся ў Гродне сход Саюза польскіх засценкаў Гарадзенскай зямлі

24 мая. Міністэрства ўнутраных спраў зацвердзіла герб Гродна: у чырвоным полі шчыта выява аленя з крыжам паміж рагамі, які пераскоквае праз агароджу, каля якой вырастаюць з муравы тры куста. Алень, крыж, агароджа – залатыя, мурава і кусты – зялёныя. Над шчытом залатая каралеўская карона.

25 чэрвеня. Адбылося развітанне з генералам Ф. Клебергам, які 10 год быў камандуючым акругай корпуса ў Гродне.

Восень. Адчынены малочны завод. Невялікае сямейнае прадпрыемства размясцілася ў доме па вул. Ліпавай (Гарнавых) у доме Гірша Кушэса.

28 лістапада. Урачыстасці “Непакой лістападавай ночы” на пл. Вольнасці, (цяпер Тызенгаўза) прысвечаныя паўстанню 1830–1831 гг. Адбылося тэатральнае прадстаўленне. На наступны дзень, пасля набажэнства ў касцёле, прайшоў Вайсковы парад падхарунжых.

7 снежня. Адчынены ў

Гродне Праваслаўны навукова-выдаўнічы інстытут. Ён апякаў выданне месячнікаў “Праваслаўны агляд” і “Праваслаўны каляндар” – друк, якi прапагандаваў праваслаўе і лаяльнасць сярод мясцовых жыхароў да польскага ўрада.

## 1939 г.

Даведка: у гарадскую раду выбрана 9 чыноўнікаў, 6 купцоў, ксёндз і некалькі рабочых.

Лета. У Гродне праходзілі здымкі фільма паводле твора Э. Ажэшкі “Над Нёманам”.

Верасень. Створаны баявыя падпольныя групы для дапамогі Чырвонай Арміі.

1 верасня. Гродзенцы перажылі першы авіяналёт нямецкіх аэрапланаў. Каля 6 гадзін ранку на горад было скінута каля 40 бомбаў. Забітых і параненых было каля 40 чалавек. А. Рымарчук успамінае:

*“Мы выйшлі з дому і бачым, як самалёты пікіруюць на сённяшнюю вуліцу Дзяржынскага. А пан Банкевіч кажа: “Гэта нічога, гэта наша, г. зн. Польскае лётніцтва манеўры робіць… І тут самалёты скінулі бомбы. Адна ўпала каля будынка цяперашняга факультэта мастацтваў, там яшчэ на куце каланіяльная крама Касмандэля была… другая – у драўляны дом насупраць, ну той і згарэў”* (Цыт. па: А. Вашкевіч, А. Чарнякевіч. Польскі Гродна: Эвалюцыя горада ў міжваенны час (1919–1939 гг.) // ARCHE. – 2010. – № 1, 2. – С. 367).

18 верасня. Пачалося паўстанне ў гродзенскай турме, арганізаванае турэмным партыйным камітэтам пад кіраўніцтвам Ф.С. Пестрака.

Горад пакідае польская адміністрацыя (прэзідэнт В. Ценьскі і стараста Т. Валіцкі) і камандуючы ДОК III генерал Юзаф Канстанцін Альшына-Вільчынскі.

19 верасня. У капліцы дзяржаўнай гімназіі сабралася каля 100 вучняў, з якімі мелі размову дырэктар і 2 настаўніка. Яны нагадалі вучням пра абарону Гродна ў 1920 г. і раздалі жадаючым зброю. Потым накіравалі іх на пункты абароны (водаправод, майстэрні на чыгунцы, электрастанцыя).

18–20 верасня. Адбыўся яўрэйскі пагром (забіта каля 25 яўрэяў). Па сцвярджэннях

пракурора Беластоцкай вобласці Дубініна, ініцыятарам яго быў віцэ-прэзідэнт Гродна Раман Савіцкі, які адышоў з польскай арміяй. У пагроме прынялі ўдзел паліцэйскія, пажарнікі, салдаты польскай арміі, гараджане. Яны жадалі расправы з тымі, хто страляў па польскіх абаронцах горада, спачуваў савецкай уладзе. *"Знаходзячыся ў горадзе, Ратынін, Мітраш і Янішэўскі абстрэльвалі дамы, з каторых як бы стралялі па польскіх войсках, прычым Ратынін і Мітраш рабілі абстрэл па Замкавай вуліцы, а Янішэўскі па Маставой. Адначасова з Ратынінім і Мітрашам на Замкавай вул. страляў у накірунку дамоў Стэфанскі, апошні потым, з'яўляючыся кіроўцам, вазіў на машыне карныя атрады жандармерыі… Далей Мікульскі, Ратынін, Кіршэмбейн, Янішэўскі, Савіцкі Іосіф і Ловічак узламвалі дзверы, урываліся ў шэраг кватэр у дамах на Маставой, Кляштарнай і другіх вуліцах, дзе шукалі зброю і асоб, як бы страляўшых па польскай арміі…"* (Gnatowski M. Radziecka administracja wojskowa na pólnocno-wschodnich ziemiach Polski i scenariusze ich aneksji w radzieckich dokumentach (wrzesień – grudzień 1939) // Studia Podlaskie. – 1999. – T. IX. – S. 308).

Напярэдадні баёў у Гродне налічвалася 1–1,5 тыс. узброеных польскіх вайсковых частак, жандармерыі і паліцыі, харцэраў і добраахвотнікаў.

# ПАВЯТОВЫ, АБЛАСНЫ І РАЁННЫ ЦЭНТР У БССР



# ЗА ПЕРШЫМІ САВЕТАМІ

Гродзенскі павет (дакладней было б пісаць уезд), што існаваў у часы ВКЛ у XV–XVIII стст., на нейкі час вярнуўся ў 1939 г., калі Гродна стаў з 4.12.1939 г. павятовым (уездным) горадам Беластоцкай вобласці. Быў скасаваны 15.01.1940 г. разам з утварэннем Гродзенскага раёна ў складзе Беластоцкай вобласці; з 20.09.1944 г. – у Гродзенскай вобласці. Раён знаходзіцца ў паўднёва-заходняй частцы вобласці. Плошча 2,7 кв. км, насельніцтва – 70,4 тыс. чал. (1993 г.). Гродзенская вобласць утворана на мяжы з Польшчай і Літвой 2.09.1944 г. у складзе 15 раёнаў з цэнтрам у Гродна. Колькасць раёнаў пастаянна змянялася: з 1954 па 1956 г. іх было аж 23; з 1959 г. па 1962 – 20-21; у 1962 г. вобласць паменшылася двойчы – да 11 раёнаў, затым павялічылася да 17-18 у 1965–66 г. і ў 1988 г. – 17 раёнаў: Астравецкі, Ашмянскі, Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Воранаўскі, Гродзенскі, Дзятлаўскі, Зэльвенскі, Іўеўскі. Карэліцкі, Лідскі, Мастоўскі, Навагрудскі, Свіслацкі, Слонімскі, Смаргонскі, Шчучынскі. Плошча 25 тыс. кв. км. Насельніцтва 1211 тыс. чал. у 1993 г.

**1939 г.**

1 верасня. У 6.30 раніцы Гродна перажыў першы налёт нямецкай авіяцыі. Тры аэрапланы скінулі каля 40 бомб. Бамбілі вайсковыя склады вакол горада, разбурылі шэраг гарадскіх будынкаў. Каля 40 чалавек было забіта і паранена.

20 верасня. Ля моста імя Пілсудскага праз Нёман (Стары мост) падчас бою загінуў палітрук Чырвонай Арміі Р.А. Гарнавых. Першай уступіла ў горад (у 11 гадзін) танкавая частка – разведбатальён 27-й танкавай брыгады на чале з маёрам Багданавым. У час бою смяротна паранены камандзір батальёна маёр Ф.І. Квітко. 6 савецкіх танкаў разведгруппы (з 11) былі знішчаны, а іх экіпажы загінулі ці патрапілі ў палон.

21 верасня. Аддзел польскай кавалерыі генерала Пшэздзецкага, які падышоў

увечары 20 верасня, раніцай паспрабаваў перайсці ў контратаку. Аднак свежыя савецкія часткі са складу 16-га стралковага корпуса адбілі ўсе спробы. Вялікая группа польскіх вайскоўцаў, паліцэйскіх, чыноўнікаў (каля 1 тыс. чал.) на чале з палкоўнікам Адамовічам адышлі ў напрамку летувіскай мяжы. Тыя абаронцы Гродна, што засталіся, вялі баі да самага вечара. Агульныя страты абаронцаў Гродна склалі 350 забітых і каля 1,5 тысячы палоненых. Савецкі бок згубіў 53 чалавекі забітымі, 191 параненымі, 19 танкаў і 3 аўтамашыны.

Успамінае абаронца Гродна, дырэктар шавецкай школы Гражына Ліпінская:

*“На лбе танка раскрыжаванае дзіця, хлопчык. Кроў з яго ран льецца струменем па жалезу… Хлопчык мае пяць ран ад карабінавых пуль (ведаю – гэта польскія кулі ляцелі ў варожыя танкі) і моцную страту крыві, але ён прытомны. У шпіталі яго атачаюць сёстры, дактары, хворыя. “Хачу мамы”, – просіць дзіцё. Называецца Тадэвуш Ясінскі, мае 13 гадоў, адзінае дзіця Зоф’і Ясінскай, служачай, не мае таты, выхаванец Таварыства дабрачыннасці. Пайшоў у бой, кінуў бутэльку з бензінам на танк, але не запаліў, не ўмеў… Выскачылі з танка, білі, хацелі забіць, а потым звязалі наперадзе танка. Данка прывяла маці. Не дапамагло пераліванне крыві. Хлопец усё больш слабей, пачынае канаць. Але памірае на руках маці і на ўскрайку вольнай Польшчы, бо вайсковы шпіталь усё яшчэ ў нашых руках.* (Lipinska G. Jesli o nich zapomnie... – W-wa, 1991. – S. 26).

21–22 верасня. Органы НКУС праводзяць масавыя арышты і расстрэлы ворагаў савецкай улады: асаднікаў, памешчыкаў, капіталістаў, кіраўнікоў палітычных партый і арганізацый). Расстраляна каля 300 абаронцаў і жыхароў горада.

22 верасня. Створана Часовае ўпраўленне Гродна і Гродзенскага ўезда для выканання дзяржаўных і грамадскіх функцый. Старшыня – І. Жыткоў, намеснік М. Бугроў, сакратар Д. Бліноў, члены – К. Галадушка і Ф. Пестрак.

25 верасня. Выходзіць першы нумар газеты “Свабодная Беларусь” – орган Часовага ўпраўлення Гродна і Гродзенскага ўезда.

Загад Часовага ўпраўлення аб стварэнні рабочай гвардыі (начальнік Б. Негнявіцкі), якая дзейнічае да снежня.

Канец верасня. На базе прыватнай фабрыкі адкрываецца гродзенская абутковая фабрыка.

Ствараецца краязнаўчы музей.

Адкрываецца педагагічнае вучылішча – першая вучэбная ўстанова на Гродзеншчыне пры савецкай уладзе – і СПТВ № 7 (электратэхнікі).

Кастрычнік. У памяшканні былой мужчынскай гімназіі адкрываецца СШ № 11.

7 кастрычніка. Сход рабочых і служачых станцыі Гродна адзінадушна прымае рашэнне аб аб’яднанні Заходняй Беларусі з БССР.

19 кастрычніка. Першы легальны сход гродзенскай гарадской камуністычнай партыйнай арганізацыі.

22 кастрычніка. Адбываюцца выбары дэпутатаў на Народны сход Заходняй Беларусі. Удзел у галасаванні прымаюць 134 904 выбаршчыкаў (97,4 %). З Гродна выбраны Н.С. Бандарык, П. Пестрак, С.В. Прытыцкі.

7 лістапада. Святкаванне 22-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

20 лістапада. Пастановай ЦК КП(б) Беларусі па г. Гродна прызначаны: першым сакратаром гарадскога камітэта КП(б)Б Іван Якаўлевіч Кульбіцкі, другім – Вульф Шлёмавіч Масарскі, трэцім – Уладзімір Іосіфавіч Славінскі, старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта – Пётр Іванавіч Ратайка, сакратаром гарадскога камітэта камсамола – Мікалай Васільевіч Карпаў, намеснікам начальніка ўезднага аддзела НКУС – Сяргей Пятровіч Булавенка.

23 лістапада. Часовае кіраванне пастанавіла нацыяналізаваць фабрыкі шкла, ровараў, фанеры, галантарэі, мэблі, тартакі, гарбарні, 12 друкарняў, бровар.

4 снежня. Гродна ўваходзіць у склад Беластоцкай вобласці БССР.

# Верасень 1939 – чэрвень 1940 г.

Падчас вызвалення Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны Чырвонай Арміяй былі інтэрнаваны, а затым расстраляны звыш 15 тысяч польскіх вайскоўцаў. Сярод іх былі і ўраджэнцы Беларусі, у тым ліку і Гродна.

## 1. Казельск

Багатырэвіч Віктар Браніслававіч (1904, Гродна –?). Арыштаваны 20.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07.1941 – 3.09.1941). Затым перапраўлены ў Тацішчава Саратаўскай вобл., дзе ўключаны ў армію Андэрса.

Бакула Станіслаў (2.01.1912 –?), сын Францішка і Разаліі, падпаручнік пях. рэзерва, былы настаўнік, інспектар юнацкіх лагераў працы ў Гродне, пастаяннае месца жыхарства меў у Варшаве.

Барзухоўскі Тадэвуш (25.03.1904 –?), падпаручнік-рэзервіст 81-га пях. палка.

Батка Ян (3.01.1911 –?), сын Пятра, падпаручнік, капельмайстар 76-га пях. палка, афіцэр сувязі камандзіра палка.

Белоф Станіслаў (1899–?), сын Ігната і Юзэфы, кадравы харунжы, служачы склада матэрыяльнай інтэндантуры Гродна. Спачатку быў у Асташкава.

Бернатовіч Адольф Адамавіч (1905, Гродна – 06.1941). Арыштаваны ў Баранавічах 17.09.1939 г. З 20.10.1939 г. знаходзіўся спачатку ў лагерах Крывы Рог (Днепрапятроўская вобл.), Роўна-Львоў.

Білеўскі-Баран Юзаф (4.03.1899 –?), сын Тамаша і Зоф'і, кадравы капітан, інспектар цэнтральнага інстытута фізічнага выхавання, спартыўны дзеяч, рэкардсмен і чэмпіён Польшчы па мятанні, алімпіец. Вывезены з лагера 15.04.1940.

Біліда Уладзімір Мікалаевіч (1915, Гродна –?). Арышта-

ваны ў Латвіі 19.09.1939 г. Сядзеў у лагеры Суздаля, затым з 5.09.1940 г. у Казельску, з 9.06.1941 па 27.07.1941 у Паноі Мурманскай вобл. З 4.09.1941 г. у арміі Андэрса.

Бурхарт Васлач (4.02.1886 –?) паручнік пях. рэзерва, не мабілізаваны афіцэр запаса III акругі (гродзенскай). Быў таксама ў Асташкава.

Бычкоўскі Уладзіслаў Янавіч (1906 –?). Афіцэр рэзерва. Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07.1941 – 3.09.1941). Затым перапраўлены ў Тацкае Арэнбургскай вобл., дзе ўключаны ў армію Андэрса.

Вейт Вітольд (1913 –?) – падхарунжы; лекар стаматалогіі ў Гродне.

Дашкевіч Эрвін (19.03.1864 –?) – капітан жандармерыі, не мабілізаваны з афіцэрскага складу III акругі.

Жылінскі Station Станіслаў (18.04.1905 –?) – паручнік пях. рэзерва 1 роты батальёна Корпуса аховы памежжа “Сталіца”. Былы начальнік 1-га аддзела скарабовага ўпраўлення ў Гродне.

Захарскі Базыль (8.10.1898 – 2.12.1939), сын Антона, кадравы харунжы-танкіст з 7-га танкавага батальёна, павесіўся ў лагеры, бо вельмі сумаваў па сваёй сям’і, якая жыла ў Гродне; да 1914 г. быў рабочым-слесарам.

Ігнатоўскі Баляслаў-Вацлаў Баляслававіч (1911, Гродна –?). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Латвіі. Сядзеў у лагерах Казельск (з 5.09.1940), Панай Мурманскай вобл. (9.06 – 27.07.1941), адкуль трапіў у Тацішчава Саратаўскай вобл. на фарміраванне арміі Андэрса.

Казан Францішак Вацлававіч (1914, Гродна –?). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск, Юхнаў (з 19.08.1940) Смаленскай вобл., Панай Мурманскай вобл. (з 9.06.1941), адкуль трапіў у Бузулук, а затым у армію Андэрса.

Капланскі Генрык Леапольд – падпаручнік рэзерва ў Гродне.

Каперскі Тадэвуш (29.01.1903 –?) – падпаручнік рэзерва пяхоты, 81-ы пях. полк.

Кішынскі Станіслаў

(5.05.1891 –?) – кадравы маёр інтэнданцкай службы, камандаванне брыгады корпуса аховы мяжы “Гродна”; магістр права. Быў таксама ў Старабельскім лагеры.

Крыцінскі Генрык 912.07.1883 –?), сын Юзафа і Паўліны, паручнік інтэнданцкай службы, мабілізаваны ў 29-ю пях. дывізію ІІІ акругі. Склад матэрыялаў інтэндантуры ў Гродне.

Кунда Эдмунд (3.07.1894 –?) – паручнік рэзерва пяхоты, 21-ы пях. полк; настаўнік у Гродне.

Лапінскі Казімір (11.12.1898 –?) – кадравы капітан пяхоты, 81-ы пях. полк.

Леванец Станіслаў (15.05.1892 –?), сын Вінцэнта і Марыі, паручнік санітарнай адміністрацыі, з рэзерва кадраў акруговага шпіталя, затым легіянер санітарнага батальёна; былы фармацэўт з Гродна.

Мазур Ян (14.09.1914 –?), сын Яна і Юзэфы, кадравы паручнік з Гродна.

Манкелевіч Станіслаў Канстанцінавіч (1892 г.н.), афіцэр. Арыштаваны 19.09.1939 у Завішы (Літва). Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (з 2.07.1941). У лагеры Тацішчава Саратаўскай вобл. вызначаны ў армію Андэрса 3.09.1941.

Матушэўскі Алаізы Зыгмунтавіч (1898 г.н., Гродна). 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 15.07.1940) і Гразавец (02.07 – 3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

Махнач Зыгмунт (28.09.1889 –?), сын Францішка і Разаліі, капітан пяхоты рэзерва афіцэрскіх кадраў ІІІ акругі; былы юрыст, паўнамоцны прадстаўнік князя Друцкага-Любецкага.

Міларскі Юзаф (1895, Младоцін Шубінскага пав. Познан. в-ва –?) – капітан, шэф разведслужбы ў Гродне. У кастрычніку 1940 г. быў запатрабаваны з лагера шэфам упраўлення НКУС да спраў ваеннапалоннага Сапруненка ў 3-м аддзеле НКУС.

Міхальскі Людвік (29.03.1896 –?), сын Яна і Марыі, капітан пяхоты рэзерва афіцэрскіх кадраў ІІІ акругі, легіянер; працаўнік тытунёвай фабрыкі ў Гродне.

Мрачкоўскі, магчыма, Пётр М. (1900 –?), сяржант з кіраўніцтва III акругі.

Нец Мечыслаў Людвік (27.06.1910 –?), сын Станіслава і Браніславы, падпаручнік пяхоты рэзерва 1-га палка стралкоў падгулянскіх; выпускнік вышэйшай гандлёвай школы ў Кракаве, настаўнік у сярэдняй гандлёвай школе ў Гродне.

Ожогж Эўгеніюш – камандзір сапёраў 29-й пях. дывізіі ў Гродне. Ён жа ў спісе лагера ў Старабельску.

Ожуг Артур (1890 –?), сын Станіслава і Малгажаты, маёр.

Палкоўскі Юзаф Казіміравіч (1904 г.н.), афіцэр рэзерва. 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Калатова (Літва), знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 14.07.1940) і Гразавец (02.07 – 3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

Пякарскі Стэфан (1901 –?) – магістр філасофіі, вучыўся ў Віленскім універсітэце, прафесар гімназіі ў Гродне.

Піваварчык Станіслаў (3.03.1894 –?), сын Яна і Марыі, кадравы капітан інтэнданцкай службы III акругі; выкладаў ваенную гісторыю ў школе падхарунжых пяхоты.

Піка Уладзіслаў (1899 –?), сын Яна, капітан пях. з камандавання III акругі. У кастрычніку 1940 г. быў вывезены ў Мінск.

Савасцянік Уладзіслаў Вінцэнтавіч (1895 г.н., Гродна). 22.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах Суздаль Іванаўскай вобл., Казельск (з 13.07.1940), Панай Мурманскай вобл. (з 16.08 па 27.07.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава Саратаўскай вобл. 4.09.1941 г.

Санкоўскі Станіслаў Аляксандравіч (1906 г.н.). 17.09.1939 г. быў арыштаваны ў Баранавічах, знаходзіўся ў лагерах Казельск Смаленскай вобл., Крывы Рог Днепрапятроўскай вобл., Роўна-Львоў (25.05.1940). У армію Андэрса пайшоў з лагера Тацкае 2.09.1941 г.

Сапоцька Вітольд Янавіч (1897 г.н., Гродна). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацкае Арэнбургскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Саросек Вацлаў Адамавіч (1911 г.н., Гродна). Арыштаваны 21.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 14.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Сянкевіч Мечыслаў Адамавіч (1910 г.н., Гродна). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Майшаголе (Літва). Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Траяноўскі Ян Збігнеў – капітан з Гродна. Гл. спіс Старабельска.

Улас Антоні Уладзіслававіч (1907 г.н.). 20.09.1939 г. быў арыштаваны ў Латвіі, знаходзіўся ў лагерах Ульбрак (Латвія), Суздаль Іванаўскай вобл., Казельск (з 5.09.1940), Панай Мурманскай вобл. (9.06 – 27.07.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава Саратаўскай вобл. 4.09.1941 г.

Фішхоф Эміл (16.02. 1899 –?) – падпаручнік інтэнданцкай службы, павятовая каманда камплектавання Гродна.

Харбовы Зыгмунт Мар'ян (24.02.1897 –?) – паручнік адміністрацыі, з рэзерва, 81-ы пях. полк; былы прафесар гімназіі і ліцэя імя Г. Сянкевіча ў Гродне.

Хеймбергер Аляксандр – падхарунжы сапёрнага рэзерва; былы прафесар малюнку ў дзяржаўнай жаночай гімназіі імя Э. Плятэр у Гродне, выдатны дэкаратар і здольны мастак.

Херзог Стэфан (7.07. 1899 –?) – кадравы маёр вайсковай адміністрацыі III акругі.

Чучаловіч Станіслаў Міхайлавіч (1908, Гродна –?). Арыштаваны 20.09.1939 г. у Земгалах (Латвія). Сядзеў у лагерах Казельск (5.09.1940 – 2.07.1941), Гразавец (2.07.1941 – 3.09.1941), адкуль трапіў у Тацішчава на фарміраванне арміі Андэрса.

Шока Зыгмунт Юзафавіч (1896 г.н., Гродна). 19.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах Суздаль Іванаўскай вобл., Юхнаў Смаленскай вобл., Казельск (з 6.11.1940), Панай Мурманскай вобл. (16.05 – 27.07.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава Саратаўскай вобл. 4.09.1941 г.

Эйсмант Антоні Людвікавіч (1899, Гродна –?). Арыштаваны 22.09.1939 г. у Літве). Сядзеў у лагерах Суздаль, Казельск (14.07.1940 – 16.05.1941), адкуль папаў у Панай Мурманскай вобл.

Юроўскі Конрад (19.02.1898 –?) – капітан службы здароўя, кадравай службы 81-га пях. палка, лекар інтэрнатуры ў Гродне.

Янкоўскі Тадэвуш Пятровіч (22.09.1908 –?), сын Наталлі, паручнік пях. рэзерва, 14-ы пях. полк; былы кіраўнік дзяржаўнай бібліятэкі ў Гродне, гісторык.

## 2. Асташкаў

Врона Мечыслаў – функцыянер паліцыі ў Гродне.

Вержбаловіч Ежы Янавіч (1926 г.н., Гродна). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым сядзеў у Асташкава да 16.01.1946 г. Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

Дурмай – падхарунжы пяхоты з абароны Гродна.

Жукоўскі Эдвард (11.08.1914 ?), сын Юзафа і Пашліны, капрал жандармерыі з Гродна.

Заяц Францішак (8.04. 1909 –?), сын Цыпрыяна і Кацярыны, функцыянер паліцыі, камісарыят у Гродне.

Ендрых – падхарунжы пяхоты з абароны Гродна.

Енджэйчык Антоні (13.05.1891 –?), сын Мацея і Антаніны, участковы паліцыі ў Гродне.

Казлоўскі Юліян (14.02. 1908 –?), сын Марыі, улан рэзерва 3-га палка швалезэраў; былы работнік з Гродна.

Карповіч Станіслаў Станіслававіч (1890 г.н., Гродна). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава (1944–16.01.1946 г.). Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

Кермялевіч Юзаф Карлавіч (1903 г.н., Азёры). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава (1944–16.01.1946 г.). Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

Лаброў Мікалай Філіпавіч (1914 г.н., Гродна). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава да 16.01.1946 г. Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

Пушчэвіч Уладзіслаў

(1885 –?), сын Францішка, участковы паліцыі камісарыята ў Гродне. Арыштаваны тут 13.12.1939 г.

Райтнерб Казімір Янавіч (1900, Велецін Аультускага пав. –?) – сын селяніна, паляк, адукацыя – 3 класы агульнаадукацыйнай школы, жанаты. Жыў у Гродне па вул. Маставая, 20, меў свой бровар. Арыштаваны 24.09.1939 у Гродне.

Узэнбла Ежы (1898 –?), сын Юзафа і Ксаверы, камендант паліцэйскага ўчастка ў Гродне.

Ядах Станіслаў (12.04. 1896 –?) – старшы пастарункавы паліцыі, рачны ўчастак Гродна. Арыштаваны тут у кастрычніку 1939 г.

## 3. Старабельск

Кішынскі Станіслаў – гл. спіс Казельска.

Крэховіч Дыянісі (8.04.1896 –?) – дыпламаваны падпалкоўнік службы здароўя, кадравы, лекар інтэрнатуры ў Гродне.

Лакінскі Эдмунд (22.01.1889 –?) – маёр службы здароўя, 3-га акруговага шпіталя, вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, доктар медыцыны, дэрматолаг з Гродна.

Міхайлаў Баляслаў (8.05.1898 –?), сын Аляксандра і Марыі, падпаручнік інтэндантскай службы, з рэзерва; магістр права, радца з Гродна.

Тарасевіч-Тарасюк Стэфан (6.09.1893 –?) – паручнік службы здароўя, з рэзерва кадраў 3-га акруговага шпіталя, лекар інтэрнатуры з Гродна.

Траяноўскі Ян Збігнеў (10.01.1904 –?) – кадравы капітан сувязі, камандзір сувязі Навагрудскай брыгады кавалерыі.

Трускоўскі Міхал Генрык (5.01.1894 –?) – кадравы маёр службы здароўя, 3-га акруговага шпіталя, лекар інтэрнатуры з Гродна.

Шалкевіч Антоні (24.02.1882 –?) – маёр кавалерыі афіцэрскага запасу III акругі

Яблонскі Юзаф (29.12.1896 –?), Сын Міхала і Зоф'і, капітан пях. 81-га пях. палка. Камендант вайсковага спартыўнага цэнтра ў Гродне.

Яраш Андрэй (30.11.1895 –?), сын Антонія і Анэлі, кадравы маёр пях., корпус памежнай аховы Гродна.

## 4. Гразавец

Бычкоўскі Уладзіслаў Янавіч (1906 г.н.). Афіцэр рэзерва. Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07.1941 – 3.09.1941). Затым перапраўлены ў Тацкае Арэнбургскай вобл., дзе ўключаны ў армію Андэрса.

Лапыш Канстанцін Даніэлавіч (1908 г.н., Гродна). Арыштаваны 17.09.1939 г. у Роўна, сядзеў у лагерах Юхнаў Мурманская вобл. (1940), Гразавец, спецыяльны дом інвалідаў пры станцыі Сямігародная (з 13.12.1940–1941). Выехаў з Джызака (Узбекістан) 11.10.1941 г.

Матушэўскі Алаізы Зыгмунтавіч (1898 г.н., Гродна). 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 15.07.1940) і Гразавец (02.07–3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

Міхалоўскі Антоні Тамашэвіч (1884 г.н.), афіцэр. Арыштаваны ў Роўна, сядзеў у лагерах Юхнаў Мурманская вобл., Гразавец (з 18.06.1940). Затым перапраўлены ў Тацкае Арэнбургскай вобл., дзе 3.09.1941 быў уключаны ў армію Андэрса.

Палкоўскі Юзаф Казіміравіч (1904 г.н.), афіцэр рэзерва. 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Калатова (Літва), знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 14.07.1940) і Гразавец (02.07–3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

Прушынскі Андрэй (1900 –?), сын Алозія, ротмістр 3-га швадрона Гродна. Быў перавезены ў Гразавец у чэрвені 1941 г. з лагера ў Пуціўлі.

Сапоцька Вітольд Янавіч (1897 г.н., Гродна). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацкае Арэнбургскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Саросек Вацлаў Адамавіч (1911 г.н.). Арыштаваны 21.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 14.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Селякоў Уладзімір Дзмітрыевіч (1909 г.н., Гродна). Арыштаваны 19.09.1939 г.

у Вілкавішках (Літва). Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (з 16.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941), адкуль папаў у Тацішчава Саратаўскай вобл. і 3.09.1941 быў прыняты ў армію Андэрса.

Сідарчук Віктар Янавіч (1912 г.н.). Арыштаваны 18.09.1939 г. у Бржэжаны (Літва). Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (1940), Гразавец (18.06.1940 – 1941), адкуль папаў у Тацкае Арэнбургскай вобл. і затым у армію Андэрса (з 3.09.1941).

Сянкевіч Мечыслаў Адамавіч (1910 г.н., Гродна). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Майшаголе (Літва). Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Гразавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Хышка Генрык – падхарунжы рэзерва, геадэзіст з Гродна. У рапарце шэфа ўпраўлення НКУС Валагодскай вобл. Кандакова ахарактарызаваны як “актыўны польскі нацыяналіст”.

Чарэднікаў Леан Пятровіч (1913, Гродна – ?). Арыштаваны ў Літве 11.09.1939 г. Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (1940), Гразавец (18.06.1940 –1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

Шчэнсновіч Антоні (1913 –?) – капрал, падхарунжы пях. рэзерв. палка, 81-ы пях. полк Гродна. У лютым 1941 г. абураўся дэпартацыяй сем’яў ваеннапалонных з тэрыторыі пражывання.

Ялжбрыкоўскі Мар’ян (1897 –?), сын Яна, паручнік рэзерва, з павятовай каманды папаўнення Беластока папаў у 29-ы артыл. полк Гродна. Быў перавезены ў Гразавец у чэрвені 1941 г. з лагера ў Пуціўлі.

Янулевіч Вацлаў Вінцэнтавіч (1911, Гродна –?). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Вількаміры (Літва). Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (з 15.07.1940), Гразавец (2.07.1941 – 3.09.1941), адкуль папаў у Тацкае Арэнбургскай вобл. і затым у армію Андэрса.

## 1940 г.

Даведка: у горадзе 20 школ (2 пачатковыя, 10 няпоўных СШ і 8 сярэдніх – каля 11 тыс. вучняў), 6 спецвучылішч і тэхнікумаў, 25 бібліятэк, 5 клубаў, 23 чырвоныя куткі, хор, самадзейны аркестр народных інструментаў, 3 кінатэатры, музей і 10 дзіцячых садкоў (600 дзяцей, 25 выхавацеляў).

У Гродна дзейнічае Дзяржаўны Вялікі польскі тэатр (да 1941 г., дырэктар – А. Вянгерка) і працуе лялечны тэатр, створаны ў Беластоку ў кастрычніку 1939 г. пры ўдзеле С. Абразцова, будучага стваральніка і першага кіраўніка маскоўскага тэатра лялек.

У школах для непісьменных і малаграматных вучыцца 1 872 чалавекі. Адкрываюцца вячэрнія школы павышанага тыпу для рабочых і служачых, рамесныя вучылішчы, кааператыўна-будаўнічы тэхнікум, музычная школа, ФЗО краўцоў.

На базе мэблевых майстэрняў адкрываецца гродзенская мэблевая фабрыка. Пабудаваны хлебазавод, абутковая і швейная фабрыкі, “Атэлье Мод”, плодавінзавод. Уводзіцца аўтобусная сувязь.

Адкрываецца Дом народнай творчасці.

Фонд кніг гарадской бібліятэкі дасягае 35 тыс. тамоў.

Зацвярджаецца Сцяг горада першага ўзору.

Кінатэатр “Эдэн” пераймяноўваецца ў “Чырвоную зорку” (з 1961 г. спецыялізаваны дзіцячы кінатэатр).

1 студзеня. Гродна па новым адміністрацыйным дзяленні заходніх абласцей Беларусі выдзяляецца ў самастойную адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку абласнога падпарадкавання.

У горадзе ствараюцца дзве акругі польскай падпольнай арганізацыі “Саюз узброенай барацьбы”: “Правы Нёман” і “Левы Нёман”. Горад падзелены на 6 камендатур.

15 студзеня. Гродна становіцца раённым цэнтрам.

Гарадскі камітэт кампартыі праводзіць нараду кіраўнікоў прадпрыемстваў, старшынь фабрычных камітэтаў, загадчыкаў камітэтаў па пытаннях разгортвання сацыялістычнага спаборніцтва ў прамысловасці і на транспарце.

Гарадскі выканаўчы камітэт прымае рашэнне

пра перайменаванне вуліц. Плошча Стэфана Баторыя стала Савецкай, вуліцы Дамініканская – Савецкай, Брыгіцкая – Карла Маркса, Лістоўскага – Кірава, Баніфратарская – Свярдлова і д.п.

10 лютага. Дэпартацыя асаднікаў, лясной службы і членаў іх сямей.

11 лютага. Заснаваны Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці.

20 лютага. Адкрыты настаўніцкі інстытут – першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Заходняй Беларусі (з 20.10.1944 – дзяржаўны педагагічны інстытут, а з 1.05.1978 – ўніверсітэт).

Арганізацыйны сход урачоў Гродна, на якім ствараецца гродзенскае абласное навукова-медыцынскае таварыства.

12 сакавіка. Адбыліся антысавецкія выступленні супраць выбараў.

24 сакавіка. Выбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет СССР і БССР.

13 красавіка. Другая дэпартацыя з заходняй вобласці Беларусі, якая закранула сем'і тых, хто сядзеў у лагерах, турмах для ваеннапалонных: былых афіцэраў, паліцэйскіх, уладальнікаў прадпрыемстваў, служачых польскага дзяржаўнага апарата, удзельнікаў антысавецкіх арганізацый, паўстанцаў.

14–15 красавіка. Першая агульнагарадская партыйная канферэнцыя. Выбраны гарадскі камітэт КП(б)Б у складзе 27 чалавек. Першым сакратаром ГК становіцца І.Б. Пазнякоў.

1 мая. Падчас дэманстрацыі вучні мужчынскай гімназіі зрывалі чырвоныя стужкі з вучняў яўрэйскіх школ, а праходзячы каля касцёла, хрысціліся.

2 чэрвеня. На фанерным заводзе праходзіць першы на прадпрыемствах горада злёт стаханаўцаў (больш 200 чал.).

29 чэрвеня. Трэці этап дэпартацыі, пад які трапілі бежанцы-яўрэі (1 755 чал. на 13.01.1940 г.).

Даведка: на ахову здароўя асігнавана 4 400 тыс. руб. (7 шпіталяў, 3 паліклінікі, 7 амбулаторый, 8 аптэк, станцыя хуткай дапамогі, 2 дзіцячых ясляў, Дом дзіцяці).

17 верасня. Святкаванне гадавіны вызвалення Заходняй Беларусі.

15 снежня. Выбары ў аблас-

ныя і гарадскія Саветы дэпутатаў працоўных. Выбрана 180 дэпутатаў.

22 снежня. Праведзены пешы ваенізаваны пераход Гродна – Капцёўка.

25 снежня. Першая сесія Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных у будынку тэатра. Выбраны выканаўчы камітэт у складзе 12 чалавек на чале са старшынёй П.І. Ратайка (да 1941 г.).

Канец года. У горадзе ліквідавана беспрацоўе, сфарміравана Гродзенская гарадская камсамольская арганізацыя, адкрыты Дом партыйнай асветы, сфарміраваны гарадскі аддзел народнай адукацыі.

## 1941 г.

Даведка: насельніцтва Гродна 55 тыс. чалавек.

Студзень. Аднавіў працу малаказавод.

У сувязі з прызывам у Чырвоную Армію ў горадзе адбыліся антысавецкія выступленні.

10 чэрвеня. У горад прыехаў генерал-інжынер Чырвонай Арміі Д.М. Карбышаў, які інспектаваў умацаванні Гродзенскай крэпасці.

19–20 чэрвеня. Чацвёрты (апошні) этап дэпартацыі, пад якую патрапілі ўдзельнікі польскіх арганізацый “Стральцы”, “Крокусы”, “Ахвотнікі” і іншыя. Апошні транспарт з дэпартаванымі папаў пад бамбардыроўку нямецкіх самалётаў пад Ваўкавыскам і ў раёне Баранавіч. Значнай частцы людзей удалося вярнуцца ў Гродна.

# ПАДЧАС ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

## 1941 г.

22 чэрвеня. Першая бамбардзіроўка Гродна. Савецкі лётчык А.С. Данілаў збіў 5 варожых самалётаў, у тым ліку адзін таранам.

23–24 чэрвеня. Жорсткія баі пад Гродна частак 3-й арміі (штаб у Гродна).

24 чэрвеня. Пачалася нямецка-фашысцкая акупацыя Гродна (да 24 ліпеня 1944 г.). Падчас яе акупацыйная ўлада правяла інвентарызацыю гарадской прасторы і нерухомай маёмасці. Вуліцы горада атрымалі новыя назвы.

28 чэрвеня. Адбылося першае пасяджэнне юдэнрата – яўрэйскага прадстаўнічага органа, які займаўся абшчыннымі справамі і выконваў загады акупацыйнай улады. У кожным гета адразу былі створаны юдэнраты, якія ўзначалілі у гета № 1 – Ісак Гажанскі, у № 2 – Аўраам Задай (абодва былі юрыстамі). Яны падпарадкоўваліся Давіду Браверу. Юдэнраты ў гета займаліся ўсімі сферамі жыццядзейнасці жыхароў (фінансы, забеспячэнне, праца, канфіскацыя і д. п. – усяго 13 аддзелаў).

30 чэрвеня. Выйшаў загад, які абавязваў гродзенскіх яўрэяў насіць адмысловы знак. Спачатку гэта была белая нарукаўная павязка з блакітнай зоркай Давіда, але праз месяц яе замянілі на жоўтыя латы, якія прымацоўваліся на левым боку грудзей і на левым боку спіны.

Пачатак ліпеня. Створана грамадзянская адміністрацыя горада з асоб польскай нацыянальнасці (бургамістр Завадскі, потым Гарбачэўскі).

Верагодна, у гэты час адбыўся ў горадзе яўрэйскі пагром.

Фашысты вывезлі з Гродна 80 прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі і расстралялі іх.

17 ліпеня. М.М. Багатыроў на станцыі Гродна ўчыніў крушэнне 2 сустрэчных цягнікоў. Рух спыніўся на 18 га-

дзін, былі пашкоджаны 2 паравозы, 18 вагонаў.

25 ліпеня. Па афіцыйных дадзеных, нямецка-фашысцкія захопнікі пачалі будаваць лагер для савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян у в. Калбасіно (раён Фолюша на плошчы ў 50 га, 96 зямлянак памерам 6 х 25 м, вышынёй 3 м). Прайшло праз лагер 36 тысяч чел., 18 тысяч пахавана ў ямах, колькасць усіх пахаваных у магілах застаецца невядомай.

30 ліпеня. У Гродна з інспекцыяй пабывалі прадстаўнікі вышэйшых улад III Рэйха Гімлер і Герынг. Яны пакрытыкавалі нямецкую адміністрацыю за малую актыўнасць у справе ліквідацыі камуністаў і яўрэяў.

Жнівень (па іншых дадзеных, верасень). У горадзе дзейнічае падпольная група вайсковага інжынера М.А. Волкава (да студзеня 1942 г.). Усяго ў перыяд акупацыі існавала шэсць падпольных антыфашысцкіх груп агульнай колькасцю 64 чал.).

Верасень. У горадзе пачынае дзейнічаць падпольная группа В.Д. Разанава (да ліпеня 1944 г.).

18 верасня. Гродна быў перададзены “Генеральнай акрузе «Беласток»” (афіцыйна далучэнне адбылося ў сакавіку 1942 г.).

12 кастрычніка. Беластоцкая вобласць, у тым ліку і Гродна, уключана ў склад Германскай Імперыі і падпарадкавана Усходняй Прусіі.

15 кастрычніка. Гродна перайменаваны ў Гартэн. Гродзенскім уездным камісарам прызначаецца фон Плетц (да 5.03.1943 г., потым – Бохун).

1 лістапада. Акупацыйныя ўлады абвяшчаюць пра стварэнне ў Гродна двух гета. Начальнікам першага быў Курт Візэ, другога – Ота Стрэблеў.

2 лістапада. Усе яўрэі абавязаны з 12.00 да 18.00 перасяліцца ў гета. У гета № 1 пасяляецца каля 15 тыс. чал.; у № 2 – каля 10 тыс. чал. Тэрыторыя гета № 1 уключала падворак сінагогі, вуліцу Віленскую з аднаго боку і паўночную частку вуліцы Замкавай (пераназванай у вуліцу Бурга) з другога боку (цяпер раён вуліц Замкавая, Траецкая, Віленская, Савецкая). Тэрыторыя гета № 2 была ў прыгарадзе Слабод-

ка, за чыгуначнымі шляхамі, справа ад дарогі, што вяла на вул. Скідзельскую, насупраць рынкавай плошчы і раёна баракаў (цяпер раён, абмежаваны вуліцамі Лідская, Белуша, Антонава і праспектам Касманаўтаў).

Снежань. У горадзе пачынае дзейнічаць падпольная група М.М. Багатырова (да ліпеня 1944 г.).

### 1942 г.

Усе шыльды і надпісы пераведзены на нямецкую мову. Беларуская і польская мовы абвешчаны па-за законам.

Студзень. У гета № 1 створана падпольная антыфашысцкая арганізацыя (да лютага 1942 г.).

Пачала дзейнічаць падпольная група Г.І. Святлічнага (да кастрычніка 1943 г.).

Люты. Адной з падпольных груп быў арганізаваны пажар на гродзенскім бровары. Патрыётаў злавілі.

З групы Волкава каля в. Навумавічы, ля форта № 2, расстралялі М.А. Волкава, В.У. Волкаву, М.А. Быкава, В.В. Шапашнікаву, Р. Хорава, А.В. Васілюк, І.М. Завішу.

Былы “Саюз узброеннай барацьбы” ператвораны ў Армію Краёвую. Горад патрапіў у абвод “Гродна – Правы Нёман”. У 1943 г. у 5 гарадскіх пляцоўках АК было каля 150 чал. Сабатаж, дыверсіі, разведка, пакаранне здраднікаў і нямецкіх прыслужнікаў – формы барацьбы АК. Дзейнічае ў Гродне таксама Вайсковая Арганізацыя (POW) , якая ад 14.02.1942 падпарадкоўваецца АК.

Сакавік і май. Падпольшчыкі напалі на гродзенскую тытунёвую фабрыку, дзе скралі тытунь і цыгарэты.

Красавік. Пачала дзейнічаць падпольная група С.П. Лямава (да ліпеня 1944 г.).

Створаны аб’яднаны акружны штаб СД (службы бяспекі), гестапа і крымінальнай паліцыі (галава д-р Вільгельм Альтэнлох).

21 мая. На будынку, дзе пражывалі служачыя паліцэйскага ўпраўлення, з’явілася лістоўка з заклікам “Далой нямецкае панаванне!”.

24 мая. Пажар на складзе яек на Флорэнштрасэ.

Чэрвень. Растрэл 50 закладнікаў за забойства ў

ваколіцах Ваўкавыска нямецкага ўрача Мазура. Сярод расстраляных былі урачы К. Казакевіч, Ю. Лазоўскі, Я. Вашчук, М. Мушляка, В. і М. Панцержынскія, Б. Ашмяна, настаўнікі Данка, Вавюрскі, Вішнеўскі, Філ, суддзі Завадскі, Гедройц, Шакальскі, Файноўскі, інжынеры Ферстер, Шыманскі і інш.

2 чэрвеня. Нямецкая адміністрацыя Гродна абвясціла аб узмацненні тэрора ў сувязі з дзеяннем падпольшчыкаў.

5 чэрвеня. Уводзіцца "камендацкі час": забаронены рух па вуліцах з 22.00 да 5.00.

Верасень. Сябрамі Арміі Краёвай выдаецца газета "Dekada" (выходзіць кожныя 10 дзён да канца 1943 г.).

20 кастрычніка. На фартах у Навумавічах расстраляна звыш 20 чалавек – прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі Гродна (сярод іх быў настаўнік гімназіі і заснавальнік заапарка Ян Каханоўскі). Яны пакараны смерцю за забойства камісарам АК Вітольдам Матушэўскім нямецкага жандара і паліцэйскага-паляка (па інш. дадзеных, беларуса).

Лістапад. Лагер у Калбасіно (шталаг 353) ператвораны ў транзітны (перасыльны) лагер СС (існуе да вясны 1943 г.). Праз яго адпраўлены ў лагеры смерці Асвенцым (Аўшвіц) і Трэблінку каля 5 тысяч яўрэяў з гродзенскіх гета, 10 тыс. – з мястэчак Гродзенскага павета, звыш 14 тыс. – з гета іншых паветаў.

2 лістапада. Гродзенскія гета поўнасцю ізаляваны. Раніцай у гета № 2 ля брамы былі затрыманы рабочыя, і па іх пачалі страляць камендатны гета Курт Візэ і Ота Штрэблаў. У выніку 12 яўрэяў было забіта, 40 паранена.

9 лістапада. З гета № 2 перасялілі ў гета № 1 каля 4 000 кваліфікаваных работнікаў з сем'ямі.

15 лістапада. Адбылася першая дэпартацыя яўрэяў з гета № 2 (каля 1 000 чал.). У грузавых і пасажырскіх вагонах іх 18 лістапада даставілі ў Асвенцым. Перш чым забіць, ім даручылі напісаць на паштоўках для сваіх сваякоў наступны тэкст: "Абыходзяцца з намі добра, мы працуем, і ўсё выдатна".

21 лістапада. Дэпарта-

валі ў Асвенцым астатніх яўрэяў з гета № 2 (сярод іх былі яўрэйскія паліцыянты і чальцы юдэнрата на чале са старшынёй) – каля 2 000 чал. Транспарты прыбылі ў Асвенцым 25 лістапада.

Канец лістапада. У Калбасінскі перасыльны лагер двумя эшалонамі былі адпраўлены з гета № 1 каля 4 тыс. чал. Адсюль іх пазней перапраўілі ў Аўшвіц і Трэблінку.

## 1943 г.

20–24 студзеня. Кожны дзень адпраўляўся эшалон з яўрэяў гета № 1. Дэпартавалі адразу ў Аўшвіц і Трэблінку – усяго 11 650 чал. (з іх адабрана на працы 1 799 чал., а астатнія забіты).

Люты. Складзены план Гродна з новымі назвамі вуліц.

13–15 лютага. Фашысты правялі акцыю адпраўкі ў Трэблінку жыхароў гета № 1 – каля 4 тыс. чал. (з іх каля 150 адабраны для прымусовых прац) двума эшалонамі.

Вясна. У горадзе і ваколіцах ідзе мабілізацыя моладзі на працу ў Германію (з плануемых трох тысяч сабралі каля 70 чалавек).

11 сакавіка. З гета № 1 вывезлі апошніх яўрэяў (1 148 чал.) у беластоцкае гета.

13 сакавіка. На гродзенскіх вуліцах былі вывешаны аб’явы, што Гродна – “горад, вольны ад яўрэяў”. За час ліквідацыі гродзенскіх гета загінула болей за 40 тыс. яўрэяў з Гродна і яго ваколіц.

15 ліпеня. Другая масавая расправа немцаў над польскім насельніцтвам Гродна (звыш 70 чал.) на форце № 2 каля Навумавічаў. Сярод забітых былі настаўнікі, юрысты, лекары, святары і іншыя прадстаўнікі інтэлігенцыі.

Кастрычнік. Пачала дзейнічаць падпольная група С.П. Панасюка (да ліпеня 1944 г.).

1 лістапада. Створаны Гродзенскі падпольны гаркам ЛКСМБ (сакратар В. Соламава).

28 лістапада. Створаны Гродзенскі падпольны райкам КП(б)Б (сакратар П.П. Бастун)

31 снежня. В. Разанаў і М. Галубовіч захапілі зброю на нямецкім складзе вайсковай маёмасці.

## 1944 г.

Студзень. У занёманскай частцы горада быў забіты камісар партызанскага атрада “26 год Кастрычніка” М. Самусенка.

2 лютага. На хутары каля в. Жорнаўка Гродзенскага раёна былі забіты В.І. Соламава (пахавана ў Гродна, у брацкіх могілках Старога парку) і В.Ф. Бібіч.

27 сакавіка – 3 мая. У Гродна выдаецца газета “За Советскую Родину” – орган гродзенскага падпольнага райкама КП(б)Б.

13 ліпеня. Войска 50-й арміі 2-га Беларускага фронта ў ва ўзаемадзеянні з 31-й арміяй і 3-м кавалерыйскім корпусам 3-га Беларускага фронту пачынаюць Гродзенскую аперацыю.

16 ліпеня. А. Сухамбаеў у складзе стралковай роты адным з першых урываецца ў Гродна. Пасля 1 128 дзён фашысцкай акупацыі вызвалена асноўная – правабярэжная – частка горада. Масква салютуе вызваліцелям горада. Сямнаццаці вайсковым часткам і злучэнням прысвойваецца званне “Гродзенскіх”.

А.Т. Твардоўскі ў артыкуле «Поездка в Гродно» пісаў:

*“...С этим Гродно дело особое, – это не Минск, либо Витебск... здесь немцев выпихнули из города, но они – вот они, за рекой и даже удерживают окраину города. Бьют артиллерия и минометы, постреливают автоматчики с чердаков и с окон. Население в подвалах домов. Оно еще не пережило весь срок тяжкой муки этого сидения. Не может еще вздохнуть в радости полного избавления от страха, в радости, которая так подкрепляет и добавляет собою радость избавления вообще от немцев. В городе продержались мы с редактором часа два, делая по возможности вид друг перед другом, что страшно нам не очень. А было очень страшно, томительно до утомления... собственной неприкаянностью, праздностью здесь, где идет тяжелое дело, которым люди занимаются по прямому долгу”.*

18–19 ліпеня. Вайскоўцы 455-га палка 42-й Смаленскай дывізіі абараняюць ад дывізіі “Мёртвая галава” форт № 1

старой гродзенскай крэпасці каля в. Загараны.

18 ліпеня. Стрымліваючы плацдарм на беразе Нёмана, быў забіты сяржант М. Курбатаў.

24 ліпеня. Вызвалена занёманская частка горада.

Даведка: па ацэнцы надзвычайнай камісіі, страты Гродна склалі 2,8 млрд. руб. (па цэнах 1941 г.). Горад разбураны на 43 %: тытунёвая фабрыка, фанерны і лесапільны заводы, хлебакамбінат, паравознае дэпо, розныя грамадскія будынкі і жылыя кварталы. Насельніцтва горада ў момант вызвалення не складала і 0,5 даваеннага ўзроўню (па адных дадзеных 33 тыс. чал., па другіх – 38 тыс. чал.). 1 440 чал. было вывезена на працу ў Германію.

# 3. У САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ ЛАГЕРЫ

Сацыялістычны лагер – так часам называлі сусветную сістэму сацыялізму, якая складалася з наступных краін: СССР (саюз 15 сацыялістычных рэспублік, у ліку якіх і Беларусь); народных рэспублік Албанія, Балгарыя, Венгрыя, Кітай, Манголія, Польшча; сацыялістычных рэспублік Румынія, Чэхаславакія, Югаславія; дэмакратычных рэспублік В'етнам і Германія; Карэйская народна-дэмакратычная рэспубліка і Рэспубліка Куба. Як паведамляе "Савецкая гістарычная энцыклапедыя" 1966 года выдання, названыя вышэй дзяржавы сусветнай сістэмы сацыялізму "маюць аднатыпную эканамічную аснову – грамадскую маёмасць на сродкі вытворчасці; аднатыпны дзяржаўны лад – уладу народа на чале з рабочым классам і яго авангардам – камуністычнымі і рабочымі партыямі; адзіную ідэалогію – марксізм-ленінізм; агульныя інтарэсы па абароне рэвалюцыйных заваёў і нацыянальнай незалежнасці ад памкненняў імперыялістычнага лагера, у барацьбе за мір ва ўсім свеце і аказанні дапамогі народам, якія вядуць барацьбу за нацыянальную незалежнасць; адзіную мэту – камунізм".

**1944 г.**

У Гродна пасяліўся на некалькі год драматург А.Е. Макаёнак.

Прыняцце Сцяга горада другога ўзору.

Складзена схема I генеральнага плана Гродна (аўтар Р.А. Румянцаў).

Канец ліпеня. Пачатак выдання газеты "За Советскую Родину" (з 1957 г. – "Советская Родина", з 1963 г. – "Сельская новь") – органа Гродзенскага райкама КПБ і раённага Савета дэпутатаў працоўных.

1 ліпеня 1944 г. – 1 студзеня 1948 г. Старшыня аблвыканкама П.І. Ратайка.

24 ліпеня. Адкрыта 1-я гарадская клінічная бальніца на 50 ложкаў.

1 жніўня. Адбыўся першы масавы суботнік па расчыст-

цы вуліц і плошчаў горада ад друзу.

8 жніўня. Аднаўляе працу выканаўчы камітэт гарадскога Савета дэпутатаў працоўных.

30 жніўня. Пастанова Гродзенскага аблвыканкама і абкама КП(б)Б Беларусі аб адкрыцці ў Гродне педагагічнага інстытута.

*Постановление облисполкома и обкома КП(б) Белоруссии*

*30 августа 1944 г. гор. Гродно*

*В целях подготовки квалифицированных кадров для техникумов и средних школ в освобожденных районах – Исполком Облсовета Депутатов трудящихся и Обком КП(б) Белоруссии ПОСТАНОВЛЯЮТ:*

*1.Восстановить вместо ранее существовавших педагогического института в гор. Белостоке и учительского института в гор. Гродно – педагогический институт с размещением в гор. Гродно и просит СНК и ЦК КП(б) Белоруссии утвердить данное решение.*

*2. Просить ВКБШ при СНК СССР и НКП БССР укомплектовать институт профессорско-преподавательскими кадрами, обеспечить научными книгами и пособиями библиотеку и кабинет института.*

*3. Обязать предгорисполкома тов. Савкова предоставить techинституту здания бывшего учительского института по Студенческой ул. № 13 и ул. Ожешко, д. № 22.*

*4. Обязать зав. облоно тов. Дашук выделить для института подсобное хозяйство размером в 50 га.*

*5. Предложить стройремонтконторе Горкомхоза оказать techинституту помощь по ремонту учебного здания.*

*6. Предложить зав. горпромкомбината т. Гельману обеспечить в первую очередь выполнение заказов по изготовлению учебной мебели для пединститута.*

*7. Обязать директора Гродненского треста столовых и ресторанов тов. Сенькова открыть столовую для научных работников и студентов к началу учебного года.*

*8. Предложить дирекции пединститута объявить набор студентов на все курсы очно-*

*го и заочного отделения с 1-го сентября 1944 года. Одновременно просить наркомпрос БССР разрешить открытие при институте подготовительных курсов для поступающих в вуз.*

*9. Предложить дирекции института (директор тов. Власовец) приступить к заготовке топлива* (Гродзенскі ўніверсітэт.–2004.–14 верасня.–С. 7).

Восень. У Гродна пачынаецца рэарганізацыя Беларускага дзяржаўнага ансамбля песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы (скончылася ў 1950 г.). Ансамбль размяркоўваўся у гарадскім доме культуры.

Верасень. Аднаўляе працу шэраг прадпрыемстваў горада, а таксама дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ).

Па рашэнні Міністэрства культуры БССР музей у Гродна перайменаваны ў абласны гістарычны музей.

Адноўлены паліклініка, 2 дыспансеры, кансультацыі, дом інвалідаў, санэпідэмстанцыя.

1 верасня. Адкрыта польская школа (СШ № 2 па вул. Паўночнай, дырэктар – Я.Н. Мараш; да 1948 г.).

20 верасня. Створана Гродзенская вобласць.

29 верасня. Старшынёй абласнога выканаўчага камітэта стаў П.І. Ратайка (да 1.01.1948 г.).

20 кастрычніка. Настаўніцкі інстытут пераўтвораны ў дзяржаўны педагагічны інстытут.

Выходзіць першы гродзенскі нумар газеты "«Комсомольская правда» в Белоруссии" (№ 33).

26 кастрычніка. Выходзіць першы нумар газеты "Гродненская правда" – органа Гродзенскага абкама КП(б)Б і аблвыканкама. Побач з № 1 у дужках стаяла лічба 508, якая азначала працяг адліку нумароў абласных газет "Освобожденный Белосток", "Вольная праца" і "Белостокская правда". Апошняя выходзіла ў 1943 г. у Ліпічанскай пушчы як орган падпольнага Беластокскага абкама КП(б)Б аблсавета дэпутатаў працоўных (рэдакцыя – Я. Колас, С. Майхровіч – адказны рэдактар, П. Пестрак, С. Прытыцкі, Я. Савіцкі).

30 кастрычніка. Выходзіць апошні гродзенскі нумар газеты "«Комсомольская правда» в Белоруссии" (выязная рэдакцыя пераязджае ў Вільнюс).

2 лістапада. Арганізавана гродзенскае аддзяленне Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа, якое ўваходзіла ў склад Таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца СССР.

Канец года. Даведка: у горадзе працавала 25 бібліятэк, 5 клубаў, 25 чырвоных куткоў, хор, самадзейны аркестр народных інструментаў.

Снежань. Пуск электрастанцыі.

Стварэнне радыёкамітэта.

Адкрыццё Дома дзіцяці, абласнога супрацьтуберкулёзнага дыспансера, натарыяльнай канторы, першай дзіцячай музычнай школы.

Першым сакратаром Гродзенскага абласнога камітэта КП(б)Б прызначаны П.З. Калінін (да 1948 г.).

Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў В.М. Саўкоў (да 1945 г.).

### 1945 г.

Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў І.У. Ражноўскі (да 1948 г.).

Заснавана арцель "Возрождение" (з 1956 г. фабрыка мастацкіх вырабаў).

Студзень. Адбываецца збор сродкаў у фонд перамогі: грошы, зерне, бульба і д. п.

1 студзеня. Першых наведвальнікаў прыняў Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (былы гістарычны).

11 лютага. У Гродна памёр параненьі лётчык герой Савецкага Саюза Ю. Іўліеў. Пахаваны ў брацкай магіле ў парку імя Жылібера.

Вясна. У Гродне адкрылася першая ў Беларусі школа для сляпых дзяцей.

Красавік. У Гродне пачаў працу Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР (да чэрвеня 1947 г.).

Чэрвень. Запрацавала тытунёвая фабрыка.

5 чэрвеня. Гарадская электрастанцыя дала ток занёманскай частцы горада.

1 ліпеня. Даведка: у горадзе 9 школ (4 тыс. вучняў), 3 дзіцячыя дамы, 6 садкоў, педагагічны інстытут, 4 тэхнікумы, 2 медыцынскія школы.

Канец года. Да 17 працуючых прадпрыемстваў дабавілася яшчэ 6.

## 1946 г.

Створаны абласны савет Усесаюзнага фізкультурнага спартыўнага таварыства “Дынама”.

Арганізавана гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі (старшыня Анатоль Астрэйка).

Пачалося будаўніцтва тонкасуконнага прадпрыемства. Прывезлі 130 вагонаў сучаснага тэкстыльнага абсталявання.

17–19 жніўня. 2-я гарадская канферэнцыя КП(б)Б. (1 927 членаў і кандыдатаў у 86 пярвічных арганізацыях).

24 верасня. Пачаліся паветраныя зносіны Гродна з Мінскам праз пасажырскі рух самалётамі ПО-2. Першым прыляцеў з Мінска самалёт пад кіраваннем Бугрова.

## 1947 г.

У Гродна пасяляецца В. Быкаў (жыве да 1978 г.).

Арганізавана Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага тэатральнага таварыства (старшыня – Я.М. Кімберг (да 1967 г.).

Заснавана гарадская бібліятэка (з 1974 г. цэнтральная гарадская, з 1983 г. – імя А.Е. Макаёнка) і гарадская дзіцячая бібліятэка.

Адкрыта гродзенскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 225.

Створана Гродзенскае вытворчае тонкасуконнае аб’яднанне.

17 студзеня. Зацверджаны 5-гадовы план аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі вобласці на 1946–1950 гг.

Красавік. Пачаў працу новы механізаваны хлебазавод.

5 чэрвеня. Гарвыканкам прыняў рашэнне аб аднаўленні помніка Э. Ажэшцы (у час вайны польскія патрыёты хавалі яго на каталіцкіх могілках побач з пахаваннем пісьменніцы). Помник быў пастаўлены, але на іншым месцы – на рагу вуліц Ажэшкі і Тэлеграфнай. (раней ён быў у гарадскім парку, недалёка ад медычнай школы А. Тызенгаўза (будынка камендатуры).

10 чэрвеня. Уступіла ў шэраг дзеючых абутковая фабрыка.

15 чэрвеня. У лясным масіве "Пышкі" адкрываецца першы ў вобласці аздараўленчы санаторый на 100 дзяцей.

Жнівень. Адбылася нарада паслядоўнікаў передавіка вытворчасці А. Стаханава.

1 верасня. У будаўнічым тэхнікуме Гродна пачаў вучыцца паэт П. Макаль.

20 кастрычніка. Першы спектакль Гродзенскага абласнога драмтэатра "Правда хорошо, а счастье лучше" (аўтар А. Астроўскі). Тэатр створаны на базе Магілёўскага рускага абласнога тэатра.

## 1948 г.

Увод першай чаргі Гродзенскага тонкасуконнага камбіната (52 рабочыя).

Адкрываецца Гродзенскае культасветвучылішча імя Цёткі.

Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў М.П. Ціханчук (да 1950 г.).

Створана таварыства "Веды" – масавая добраахвотная навукова-асветная арганізацыя.

1 студзеня. "Гродзенская праўда" пачынае выходзіць на рускай і беларускай мовах (да 31 снежня 1962 г.). Агульны тыраж газеты ў гэты час складаў 55 тыс. экзэмпляраў, з іх каля 53 тыс. прыходзілася на рускамоўнае выданне.

15 студзеня. Старшынёй абласнога выканаўчага камітэта стаў Ф.А. Ляхаў (да 17.11.1950 г.).

## 1949 г.

М.М. Варонін праводзіць на Замкавай гары археалагічныя даследаванні. Раскопкі сведчаць, што ў другой палове XI ст. тут быў старажытны горад. Варонін лічыў, што

*"Гродно – типичный древнерусский город, сохраняющий в трудных условиях пограничья тесные и активные связи с остальной Русью, в особенности с Приднепровьем и Волынью. Его культура, конечно, уступает в блеске и многообразии культуре крупных и богатых городов южной Руси. Нужно признать, что это культура рядового, "провинциального" русского города, отмеченная некоторыми местными особенностями".*

У Гродна адкрыты помнік У.І. Леніну на плошчы, якая носіць яго імя.

Створана гродзенская абласная арганізацыя беларускага тэатральнага аб'яднання.

Адкрыты Дом санітарнай асветы.

5 красавіка. Зацверджаны першы генеральны план развіцця горада (адкарэктаваны ў 1966 г.). Грамадска-палітычным цэнтрам горада становіцца Савецкая плошча.

1 мая. У гарадскім парку ўрачыста адкрыты помнік воінам Савецкай Арміі і партызанам, якія загінулі пры вызваленні Гродна ў 1944 г.: на гранітным пастаменце скульптура маладога савецкага вайскоўца, які трымае прыспушчаны сцяг. У брацкай магіле пахаваны 46 вайскоўцаў і 4 партызаны. Сярод іх – Героі Савецкага Саюза Ю. Іўліеў і В. Санфірава, партызанка О. Соламава. Прозвішчы пахаваных напісаны на абеліску.

## 1950 г.

Адкрываецца гродзенскі ўрачэбна-фізкультурны дыспансер.

Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў Р.У. Пяткевіч (да 1952 г.).

Ліквідаваны яўрэйскія могілкі. На іх месцы пабудаваны стадыён "Чырвоны сцяг".

21 ліпеня. Адчынены Гродзенскі дзяржаўны сельскагаспадарчы інстытут.

30 кастрычніка. Адкрыты рух на новым мосце праз Нёман у Гродне.

18 лістапада. Старшынёй абласнога выканаўчага камітэта стаў І.С. Капановіч (да 6.10.1961 г.).

## 1951 г.

Пачынае дзейнічаць рамонтна-падшыпнікавы завод (з 1957 г. – завод "Аўтазапчастка", з 1969 г. – завод карданных валоў).

21 лютага. Зацверджаны папраўкі к першаму генеральнаму плану Гродна (1949 г.).

## 1952 г.

Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў М.І. Грыбаедаў (да 1955 г.).

Адбудаваны Новы замак (арх. У.М. Вараксін) – месца знаходжання абласнога камітэта КПБ (да 1991 г.).

Студзень. Створана ДПТВ кінамеханікаў № 41.

Люты. Адчынены салон-крама мастацкіх вырабаў на вул. Свярдлова.

Жнівень. Пачаў працаваць велазборачны завод (пазней аўтамабільных агрэгатаў).

**1953 г.**

Адкрываецца ДЮСШ № 3 (Гродзенская школа спартыўнай гімнастыкі, кіраўнік Р.І. Кныш).

**1954 г.**

Адкрываюцца кінатэатр і абласная дзіцячая бібліятэка імя А.С. Пушкіна, станцыя юных турыстаў.

Створана таварыства ўрачоў па спецыяльнасцях.

З’явіліся першыя легкавыя таксі.

**1955 г.**

Гродзенскі драмтэатр паставіў трагедыю М.Ю. Лермантава “Іспанцы” (рэжысёр А. Герэнбург).

На вайсковых могілках па вул. Перамогі на брацкіх могілках у гонар 59 савецкіх вайскоўцаў, забітых у 1944 г. пры вызваленні Гродна, пастаўлена стэла.

На тэрыторыі сельскагаспадарчага інстытута пастаўлен помнік вядомаму селекцыянеру І.У. Мічурыну. Цікава, што побач знаходзіцца вуліца імя яго навуковага праціўніка – спецыяліста па фізіялогіі раслін К.А. Ціміразева.

9 сакавіка. Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў М.А. Барысік (да 16.09.1960 г.).

**1956 г.**

У Гродна выходзіць першы выпуск літаратурнага альманаха “Нёман” (на беларускай мове).

Пачынае працу Гродзенскі вячэрні філіял Мінскага палітэхнічнага тэхнікума (з 1963 г. – Гродзенскі палітэхнічны тэхнікум).

На базе партыйнай бібліятэкі Гродзенскага гаркама КПБ ствараецца Дом палітычнай асветы.

Адчыняецца кінатэатр “Летні”.

Здаецца ў эксплуатацыю аўтаматычная тэлефонная станцыя на 2 000 нумароў.

На беразе Нёмана пабудаваны піянерскі лагер для дзяцей працаўнікоў тытунёвай фабрыкі.

### 1957 г.

Пачынае дзейнічаць гродзенскі тэлерэтранслятар.

На заводах і фабрыках Гродна ўладкоўваецца больш 300 адзінак і камплектаў высокавытворчага абсталявання коштам у 6 млн рублёў. Штодзённа прамысловасць горада дае краіне 5 516 тыс. метраў тканін, 3 тыс. пар абутку, 10 млн папірос.

Ствараецца народны ансамбль песні і танца "Нёман" пры ГДК (у 1961 г. – званне народнага; першы кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры БССР П. Радаліцкі).

На могілках па вул. Антонава, дзе пахаваны 120 савецкіх ваеннапалонных, расстрэляных нямецка-фашысцкімі акупантамі, усталяваны помнік – скульптура вайскоўца з аўтаматам і дзяўчыны з лаўровым вянком.

Лета. Гродна прымае дэлегатаў Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў (праездам у Маскву). Яскравае свята праходзіць па вуліцах і плошчах горада.

500 камсамольцаў Гродна прымаюць удзел у зборы ўраджаю на цалінных землях.

15 мая. Зацверджаны чарговыя папраўкі ў генеральным плане Гродна 1949 г.

2 чэрвеня. Праз горад пачаў рух міжнародны цягнік Ленінград–Гродна–Варшава.

18 ліпеня. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Гродзенскаму дзяржаўнаму педінстытуту нададзена імя Янкі Купалы.

25 кастрычніка. Прынята "Апісанне гарадской лініі г. Гродна". У гарадскую рысу ўключаюцца в. Пярэсялка, пас. Пышкі і правабярэжная частка в. Ласосна.

### 1958 г.

Дом народнай творчасці выдае зборнік песень самадзейных кампазітараў "Родны край".

Выходзіць другі выпуск літаратурнага альманаха "Нёман".

Ствараюцца Гродзенскае аддзяленне Саюза журналістаў БССР (з 1959 па 1970 г. старшыня А.Д. Колас),

абласная арганізацыя Саюза архітэктараў БССР, абласны савет УТІР, добраахвотнае спартыўнае таварыства прафсаюзаў “Чырвоны сцяг” (да 1985 г.).

На вайсковых могілках па вул. Белуша ўсталявана скульптура вайскоўца на магіле воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Гродна ці памерлі ад ран (398 чал.).

Пачынае працу кансервавы завод, адкрываецца спартыўная школа моладзі.

Даведка: 42 прадпрыемствы Гродна выпусцілі валавай прадукцыі на 667 850 тыс. руб.

Студзень. Увод у шэрагі дзеючых завода сантэхабсталявання.

Сакавік. Арганізаваны гарадскі самадзейны сімфанічны аркестр.

9 жніўня. Адкрыццё Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута (ГДМІ).

Верасень. Прынята рашэнне аб будаўніцтве кінатэатра “Гродна” на вул. Савецкай. Пры будаўніцтве ліквідавана вул. Прахадная, якая злучала вуліцы Кірава і Савецкую, будынак па Савецкай, 11, які закрываў фасад кінатэатра.

## 1959 г.

Усесаюзны перапіс насельніцтва: у Гродне 72,9 тыс. чалавек.

Адкрыццё гродзенскага кааператыўнага тэхнікума.

Арганізавана навуковае таварыства фармацэўтаў і першыя народныя дружыны па вытворча-тэрытарыяльнаму прынцыпу.

На могілках па вул. Антонава, на месцы захавання 490 вайскоўцаў, забітых пры вызваленні Гродна ў чэрвені 1944 г., пастаўлены помнік – скульптура вайскоўца.

Створана Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза архітэктараў БССР (старшыня праўлення Ю.П. Цялегін).

Пачалася газіфікацыя Гродна.

Забіты першы калок на месцы будаўніцтва азотна-тукавага завода.

Пачынае працу народны Універсітэт культуры (рэктар Б.С. Клейн).

Лета. На вул. Савецкай адкрываецца буйная ўніверсальная крама на 80 рабочых месцаў.

22 кастрычніка. Падпісаны акт прыняцця Палаца культу-

ры тэкстыльшчыкаў (тонкасуконнага камбіната): 2 залы для гледачоў на 475 і 100 месцаў, пакоі для працы гурткоў, бібліятэка, музей.

## 1960 г.

На 9-м кіламетры шашы Гродна – Сапоцкін адкрываецца помнік на месцы расстрэлу больш за 3 тысяч савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў.

Старшынёй гарвыканкама стаў М.М. Воранаў (да 1962 г.).

Гродна і Беласток сталі гарадамі-пабрацімамі.

Пачаў працу завод "Гроднагандальмаш".

Пачата будаўніцтва азотна-тукавага завода.

Па ініцыятыве А. Шыдлоўскага створаны музей народнай творчасці Гродзенскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці (у 1979 г. атрымаў званне народнага).

## 1961 г.

Абутковая фабрыка "Нёман" (з 1963 г. – абутковае аб'яднанне "Нёман") пераехала ў новы будынак па вул. Савецкіх пагранічнікаў.

Адкрыты абласны супрацьзобны дыспансер.

Створана абласная інспекцыя дзяржкамітэта БССР па ахове прыроды.

Арганізаваны дзіцячы ансамбль "Мара" Палаца піянераў і школьнікаў (у 1980 г. – званне ўзорнага); першы кіраўнік – Е. Рассудоўская.

Пабудаваны кінатэатр "Гродна" (арх. Ю. Цялегін, І. Мазнічка); будынак аэравакзала (арх. У. Бажко) у р-не в. Караліно, аўтавакзал, гатэль "Нёман".

Пачалося будаўніцтва завода буйнапанэльнага домабудаўніцтва магутнасцю 70 тыс. квадратных метраў жылля ў год (1961–1968 гг. – цэх пры заводзе зборнага жалезабетона, з 1968 г. – уваходзіць у склад домабудаўнічага камбіната; у 1983 г. – здадзена 2-я чарга).

Верасень. У фае кінатэатра "Гродна" была адкрыта выстава мастака Івана Васільевіча Пушкова.

6 кастрычніка. Старшынёй аблвыканкама стаў М.П. Малочка (да 23.10.1972 г.).

29 лістапада. У 2 гадзіны ночы ўзарвана Фара Вітаўта. Рашэнне Гродзенскага гарса-

вета ад 8.03.1961 г. “О сносе аварийного здания бывшего военного костела на Советской площади” выканалі спецыялісты “Ленвыбухпрама” і вайсковыя сапёры.

## 1962 г.

Старшынёй гарвыканкама стаў І.І. Ушацкі (да 1965 г.).

Пачатак распрацоўкі новага генеральнага плана Гродна.

Адкрыта 3-я гарадская клінічная бальніца.

## 1963 г.

Савет Міністраў БССР зацвярджае праект плана рэканструкцыі і развіцця горада на бліжэйшыя гады.

Пачынаюць дзейнічаць заводы гандлёвага машынабудавання і 1-я чарга камбіната буйнапанельнага домабудаўніцтва.

Стварэнне аб’яднання гарбарных прадпрыемстваў.

Адкрыты чытальная зала імя Э. Ажэшкі ў юнацкай бібліятэцы і Дом урача

На месцы яўрэйскіх могілак пабудаваны стадыён “Чырвоны сцяг” (арх. У. Бажко, гал. інжынер М. Філітовіч). У ліку іншых пахаванняў была знішчана і магіла Л. Найдуса.

Раздзяленне аблвыканкамаў на прамысловы (старшыня В.Р. Доркін) і сельскагаспадарчы (старшыня М.П. Малочка).

Пачалося функцыянаванне грунтовага аэрадрома каля в. Караліно.

З песеннай праграмай выступіў М. Забэйда-Суміцкі.

Люты. Адкрыты псіханеўралагічны дыспансер і Гродзенская птушкафабрыка.

3 мая. Савет Міністраў зацвердзіў генеральны план Гродна.

А. Міхед. Галоўны архітэктар праектаў Гродзенскага аблпраекту:

*Пры шырокім размаху будаўніцтва і хуткім росце насельніцтва мэтазгодна будаваць новы горад са сваім грамадскім цэнтрам на новым месцы. Бо з часоў фарміравання старога Гродна (правы бераг Нёмана) мінула некалькі соцень гадоў, і ён будаваўся нашымі продкамі ў адпаведнасці з існаваўшымі тады нормамі і ўкладам грамадскага жыцця. А мадэрнізаваць стары цэнтр, што цягне за сабой пераробку і знос многіх старых будынкаў, перапланіроўку вуліц і плош-*

*чаў, немэтазгодна і з пункту погляду эканомікі, і з пункту погляду эстэтыкі. Яго ж захаванне, пры максімальным добраўпарадкаванні, зрабіла б Стары горад каштоўным архітэктурным помнікам, а кантраст з новай забудовай толькі падкрэсліваў бы прагрэс у галіне архітэктурна-будаўнічай думкі.*

*Апроч таго, рэканструкцыя гэтая не вырашае гэтых праблем. Цяжка, напрыклад, уявіць сабе сучасны горад з размешчанымі ў цэнтры прамысловымі прадпрыемствамі. А гродзенскі тонкасуконны камбінат – яркі прыклад такога няўдалага размяшчэння прадпрыемства. Днём і ноччу на Савецкай плошчы грукочуць ткацкія станкі, а кацельная засцілае неба чорным дымам, і цяпер даводзіцца ламаць галаву над праблемай – як пазбавіцца ад непрыемнага суседа, каб стварыць жыхарам дамоў, што выраслі за апошні час навокал, умовы нармальнага жыцця.*

*Яўна непрадумана вялося ў пасляваенныя гады і аднаўленне вуліц Ажэшкі і Савецкай. Замест таго, каб знесці тут частку непатрэбных каробак і адкрыць выхад да жывапісных берагоў Нёмана, што стварыла б умовы для далейшага развіцця ў гэтай частцы горада больш прыгожай паркавай зоны, дало б магчымасць удала выкарыстаць рэльеф мясцовасці і ўключыць панараму ракі і берагоў у сучасны архітэктурны пейзаж, праекціроўшчыкі слепа пайшлі на повадзе ў сваіх папярэднікаў і аднавілі горад у старым выглядзе.*

*На жаль, будаўніцтва ў многіх выпадках і сёння вядзецца эмпірычна, па прынцыпу: пабудуем, а потым пaглядзім, што атрымаецца.*

*Так "развважалі" яшчэ нядаўна пры забудове галоўнай плошчы горада – Савецкай. Своеасаблівы сілуэт гэтай частцы горада надавалі шэсць касцёлаў. І архітэктары павінны былі так або інакш уключыць іх у ансамбль, увязаць з новымі будынкамі.*

*Але забудова плошчы вялася без выразнай задумы, толькі таму, што паўставала неабходнасць штосьці будаваць. Першыя ўзніклі на плошчы Палац культуры тэкстыль-*

*шчыкаў і дом на рагу вуліц Крупскай і Парыжскай камуны, потым 48-кватэрны дом з магазінам, услед за ім 44-кватэрны з аптэкаю, гасцініца “Нёман” і, нарэшце, дом на рагу з кніжным магазінам.*

*Праўда, на думку праекціроўшчыкаў, будынак гасцініцы павінен быў даміціраваць на плошчы, і таму ў адрозненне ад навакольнай забудовы яго афарбавалі ў іншы (карычневы) колер і ўзнялі на паўтара-два метры вышэй суседніх будынкаў. Але што з гэтага атрымалася? Бясспрэчнай дамінантай на плошчы, як і 300 гадоў назад, застаўся касцёл. А ўся навакольная забудова толькі яшчэ раз пераконвае, што пры падобным праектаванні трэба ісці ад агульнага да прыватнага, улічваць у кампазіцыі выключна ўсё, не пагарджаючы старажытнымі будынкамі нават культавага характару (калі няма намеру іх зносіць). А зносіць касцёл ніхто не збіраўся і не збіраецца!*

*Паколькі гэтага не ўлічылі, гасцініца, нягледзячы на ўсе “акцэнты”, выпадае з агульнай кампазіцыі плошчы. Нязначнае ўзвышэнне яе не дало жаданага эфекту, больш таго ствараецца ўражанне, што гэта простая неахайнасць архітэктара.*

*Не лепш глядзіцца правы бок плошчы. Ён яшчэ не закончаны, але ўжо ясна, што паверхавасць 44-кватэрнага дома з аптэкаю выбрана няўдала, адвольна, без уліку кампазіцыйнай важнасці месца. У сувязі з гэтым узніклі сур’ёзныя цяжкасці пры рэканструкцыі будынка тонкасуконнага камбіната: надбудаваны над ім чацвёрты паверх будзе вышэйшы за рагавую частку жылога дома. Такім чынам, касцёл, гасцініца, жылыя дамы, Палац тэкстыльшчыкаў не маюць нічога агульнага, глядзяцца асобна нейкай какафоніяй аб’ёмаў і зусім не адпавядаюць умовам ансамблевай забудовы. Уражанне ўскладняецца высокімі пачварнымі двухскатнымі дахамі з мноствам вентыляцыйных каналаў і слыхавых вонкаў. А плошча ж будавалася на амаль свободным месцы* (Літаратура і мастацтва. – 1963. – 1 лютага. – С. 1).

23 лістапада. У Гродна пачаў паступаць з Закарпацця (Дашава) прыродны газ.

30 лістапада. Увайшла у эксплуатацыю першая чарга азотна-тукавага завода – цэх слабай азотнай кіслаты і аміячнай салетры.

### 1964 г.

На базе гарбыткамбіната адчынена фабрыка дзіцячай забаўкі і галантарэі.

Створана Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР (сакратар А. Карпюк).

На вуліцы Горкага адкрыты кінатэатр "Космас" на 590 месцаў.

Перад будынкам педагагічнага інстытута па вул. Ажэшкі ўсталяваны бронзавы помнік Я. Купале (скульптар З. Азгур).

Пабудавана першая магістраль цеплатрасы.

Заснавана абласная станцыя юных тэхнікаў.

Створана Гродзенскае вытворчае аб'яднанне тытунёвай прамысловасці "Нёман" (Гродзенскай і Мінскай тытунёвых фабрык) і першы жыллёва-будаўнічы кааператыў.

У часопісе "Архитектурное наследие" А.Д. Квітніцкая апублікавала план Гродна XVI ст., які рэканструявала па вопісу С. Дыбоўскага і Л. Войны 1560 г., а таксама гравюры М. Цюнта 1568 г.

Адкрыццё першага ў горадзе плавацельнага басейна на стадыёне "Чырвоны сцяг".

Здадзена ў эксплуатацыю першая чарга завода вапны і сілікатных вырабаў, нафтабаза.

На Алімпіядзе ў Рыме гродзенская гімнастка А. Ваўчэцкая стала алімпійскай чэмпіёнкай у камандным заліку).

На першынстве СССР сярод каманд 2-й лігі пачала выступаць гродзенская футбольная каманда "Хімік".

У школе № 10 падчас школьнай вечарыны адбылося першае выступленне вакальна-інструментальнага ансамбля (біт-групы) пад кіраўніцтвам Аляксандра Саўчыца.

8 мая. У Фолюшы, на месцы нямецка-фашысцкага лагера смерці, быў адкрыты помнік-абеліск савецкім грамадзянам, забітым у гады Вялікай Айчыннай вайны 1941–1944 гг.

1 ліпеня. Выканаўчы камітэт гарсавета зацвердзіў

Кнігу ганаровых грамадзян горада Гродна.

### 1965 г.

У будынку педінстытута ўсталяваны бюст Янкі Купалы (скульптар У.А. Даненкаў).

Заснавана фабрыка швейных спартыўных вырабаў “Дынама”.

Адкрыта першая аўтазаправачная станцыя (АЗС № 1).

Старшынёй гарвыканкама стаў Г.В. Ахрыменка (да 1973 г.).

Праведзены першы матакрос на прыз імя Д.М. Карбышава (з гэтага часу праводзіцца штогод).

### 1966 г.

На вул. Ажэшкі пабудаваны новы будынак аблвыканкама (паміж будынкамі былой Кантрольнай палаты і палаца віцэ-губернатара Максімовіча).

Адкрыты домабудаўнічы камбінат.

Экспедыцыя мастацкага музея БССР знайшла ў падвале касцёла брыгіцкага кляштара тры партрэты XVII ст.: К. Весялоўскага, яго жонкі Аляксандры і іх прыёмнай дачкі Грызельды Сапегі. Партрэты напісаны ў заходнебеларускім стылю, мастак невядомы.

Адкрыты хіміка-тэхналагічны тэхнікум.

Пачала дзейнічаць хлопкапрадзільная фабрыка.

Адбыўся фэст біт-гуртоў (афіцыйна мерапрыемства называлася “Агульнагарадскі конкурс маладзёжных ансамбляў”.

### 1967 г.

Пачаў працу завод ЖБК (на базе камбіната будаўнічых дэталяў будтрэста № 1).

Здадзены ў эксплуатацыю першы падземны водазабор “Пышкі”: ён падаваў ваду з артэзіянскіх свідравін глыбінёй 270–300 м у лясным масіве Пышкі.

У раёне аўтавакзала пабудаваны першы ў горадзе 9-павярховы жылы дом.

Арганізавана гарадское аддзяленне таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Праведзены першы Усесаюзны мемарыял барцоў на прыз імя Д.М. Карбышава.

Люты. Пачало працу Гродзенскае дрэваапрацоўчае аб’яднанне.

Май. Адкрыта фабрыка пальчаткавых вырабаў.

Жнівень. Створана штучнае возера Юбілейнае.

16 жніўня. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за актыўны ўдзел у партызанскім руху, мужнасць, гераізм, праяўлены працоўнымі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час Вялікай Айчыннай вайны, і за дасягненні ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі Гродзенская вобласць узнагароджана ордэнам Леніна.

18 верасня. Пастановаю ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР Замкавая гара абвешчана гісторыка-археалагічным запаведнікам.

Упершыню праведзены Усесаюзны мемарыял В. Усава па боксу.

Першы выкладчык Гродзенскага педагагічнага інстытута атрымаў вучонае званне "прафесар". Ім стаў доктар гістарычных навук Б.М. Фіх.

23 лютага. На Савецкай плошчы быў усталяваны танк-помнік (архітэктар Г. Федасенка) з надпісам на франтальнай плоскасці: "Доблесным савецкім воінам, вызваліўшым горад Гродна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў".

17 верасня. Адбылася закладка Кургана Славы.

26 снежня. Пачала працу гродзенская абласная студыя тэлебачання.

## 1968 г.

Адкрыты гарадскі Дом культуры (у былым Народным доме) і Дом самадзейнай творчасці Гродзенскага абласнога савета прафсаюзаў.

Арганізавана абласное таварыства кролікаводаў.

Адчынена фірменная крама Гродзенскай тытунёвай фабрыкі.

Пабудаваны Дом сувязі на вул. Карла Маркса, 29.

## 1969 г.

Пачалася забудова бульвара Ленінскага камсамола.

Створаны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні.

Адчынена музычнае вучылішча.

17 верасня. Урачыстае адкрыццё Кургана Славы.

29 верасня. Гарадскі выканаўчы камітэт адводзіць зямельны ўчастак гродзенскаму ўнівермагу

пад пашырэнне вытворчага будынка па вул. Савецкай. Кінатэатр “Спартак” і дапаможны будынак медыцынскага інстытута ідуць пад знос.

Снежань. Гродна ўручаны Памятны сцяг ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Саўміна БССР і Белсаўпрофа.

### 1970 г.

Усесаюзны перапіс насельніцтва: у Гродна жыве 132,5 тыс. чалавек.

На базе азотна-тукавага завода і вытворчасці капралактама створаны Гродзенскі хімічны камбінат.

Гродзенскае аддзяленне Саюза журналістаў БССР пераўтворана ў абласную арганізацыю (старшыня праўлення А.У. Богуш).

11 жніўня. Адкрыццё Аддзела рэгуляцыі абмена рэчываў АН БССР (загадчык Астроўскі Ю.М.).

### 1971 г.

Пабудаваны мост праз Нёман, які злучыў вул. Паповіча і вул. Вясеннюю. Яго афіцыйная назва – Мост будаўнікоў, сярод гараджан вядомы як Новы мост. Падрыхтаваны “Праект рэканструкцыі цэнтральна-гістарычнага ядра Гродна”.

Хімкамбінату нададзена імя С.В. Прытыцкага.

Створана Гродзенская абласная арганізацыя Саюза мастакоў БССР (старшыня праўлення – І.В. Пушкоў, да 1979 г.).

Арганізаваны дарожна-будаўнічы трэст № 6 і пабудаваны завод будаўнічых канструкцый.

Адчынена СПТУ 119 (вясковых будаўнікоў).

У Гродна праведзены V з’езд гігіеністаў, эпідэміёлагаў, мікрабіёлагаў і інфекцыяністаў Беларусі.

У Гродзенскай вобласці праходзяць дні беларускай літаратуры.

Жнівень. Па цэнтральных вуліцах горада прайшла дэманстрацыя хіпі (каля 300 чал.). Успамінае Міхаіл Гуленін:

*“На плакатах напісалі: “Руки прочь от наших волос!”, “The Beatles Forever”, “All you need is love” і інш. Мае сябры сабраліся ў мяне ў падворку (вул. Сацыялістычная)… Ад-*

*туль усё ўзялі і пайшлі ўніз па Сацыялістычнай вуліцы ў бок Савецкай… Так дайшлі мы да Савецкай плошчы, але як толькі на яе ўступілі, плошчу адразу ж перакрылі аўтобусамі. У скверы, дзе быў стары фантан, пачалі мы тлумачыць, па што сабраліся, а тут адразу – хадзіце сюды! Калі пачалі біць дубінкамі, мы сталі ўцякаць і забеглі ў Фарны касцёл. У Рысіка бацька быў арганістам у гэтым касцёле.*

*Пачалі сарціраваць: гэтых сюды, гэтых туды, і ў машыны "пакаваць". Палова маіх сяброў была з суседніх з горадам Путрышак і Верцялішак, дык іх вывезлі за горад і адпусцілі: пехатой пройдзецеся трохі, мазгі праветрыце. Нам тады вельмі добра дапамог генерал Судзілоўскі. Яго сын Слава прымаў удзел у гэтым шэсці. Калі б не ён, мы ў псіхіятрычнай бальніцы дакладна апынуліся б…"* (Саяпин В. Молодёжная субкультура Гродно 1960–1970-х гг. // Гарадзенскі соцыум. Горад і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X–XX стст.: зборнік навуковых артыкулаў / Пад рэд. А.Ф. Смаленчука. – Мінск: Змiцер Колас, 2016. – С. 306–307).

## 1972 г.

Адчынены спецыялізаваны санаторны піянерскі лагер "Нёман".

На Мюнхенскай алімпіядзе ўдала выступілі гродзенскія спартсмены: гімнастка Вольга Корбут заваявала тры залатыя медалі; Іван Ядэшка стаў аўтарам "залатога" кідка ў фінальным матчы баскетбалістаў СССР–ЗША; Яўген Іўчанка – заваяваў сярэбраны медаль у спартыўнай хадзьбе.

31 мая. Рашэнне гарвыканкама "Аб забароне руху аўтатранспарта па вул. Савецкай і Ажэшкі". Ад вуліцы Сацыялістычнай да плошчы Савецкай цэнтральныя вуліцы сталі пешаходнымі.

23 кастрычніка. Старшынёй абласнога выканаўчага камітэта стаў Р.Ф. Фамічоў (да 24.01.1978 г.).

## 1973 г.

Адкрыты басейн "Лазурны".

Здадзены ў эксплуатацыю новы мясакамбінат.

Пры прафесійным тэхнічным вучылішчы хімікаў створаны ансамбль танца "Вянок" (з 1979 г. – народны).

На вул. Савецкай, на месцы, дзе да вайны стаяў помнік К.Е. Варашылаву (а раней Сталіну), быў пастаўлены помнік-скульптура Маршалу Савецкага Саюза У.Д. Сакалоўскаму. Бронзавы бюст (1,55 м) стаяў на гранітным пастаменце (3,7 м).

9 сакавіка. СМ БССР зацвердзіў трэці генеральны план Гродна.

Май. Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта стаў Н.Е. Калацэй (да 1982 г.).

Жнівень. Першыя пахаванні на могілках ва ўрочышчы Сакрэт.

## 1974 г.

На базе завода будаўнічых канструкцый КБ створаны завод КБІ ўпраўлення Гроднасельбуд.

На базе комплекса вытворчасці хлопкапрадзільнай фабрыкі арганізаваны Гродзенскі прадзільна-ніткавы камбінат.

Пабудаваны Дом культуры хімікаў (арх. У. Бажко).

Адкрылася СГПТУ-120 (тэкстыльшчыкаў).

10 лістапада. Пачаўся рух тралейбусаў па маршруце пл. Савецкая – ДВА “Азот”.

## 1975 г.

Адкрыта медыцынскае вучылішча.

Пабудаваны абласны Дом піянераў і школьнікаў (арх. У. Еўдакімаў) і будынак Аддзела рэгуляцыі і абмена рэчываў АН БССР (арх. І. Мазнічка).

Створана Гродзенскае гарадское аддзяленне таварыства любіцеляў кнігі.

Пачалася дзейнасць Гродзенскага гастрольна-канцэртнага аддзялення Белдзяржфілармоніі.

Перад СШ № 15 устаноўлены помнік Д.М. Карбышаву (скульптар А. Салятыцкі, арх. К. Асадаў).

7 мая. На рачной прыстані пачаў працаваць рачны порт.

Снежань. Адкрыццё дзіцячай бібліятэкі № 3.

## 1976 г.

Адкрыццё турбазы “Нёман”, ДК “Юнацтва” (арх. І. Шапавалаў), крытага Скідзельскага рынка (арх. С. Шаціла, Б. Беднарскі).

Стварэнне дзіцячага ансамбля “Крынічка” ДВА “Азот” (у 1982 г. нададзена званне ўзорнага).

Красавік. Адкрыццё Дварца піянераў і школьнікаў у га-

радскім парку імя 40-годдзя ЛКСМБ.

У Гродна лепшыя паказчыкі сярод гарадоў рэспублікі па выніках XXI Алімпіяды. В. Корбут стала алімпійскай чэмпіёнкай.

У горад прыязджаў ураджэнец Гарадзеншчыны, музыкант і спявак з сусветнай славай Чэслаў Немэн. Быў некалькі дзён, даў канцэрт у Доме афіцэраў, сустракаўся з гродзенскімі прыхільнікамі рок-музыкі ў доме Мікалая Вагнера.

## 1977 г.

Адкрыты Дом сямейных святаў, Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі (першы дырэктар А. Карпюк), урачэбна-касметалагічная лячэбніца.

Створана гродзенскае рамонтна-вытворчае прадпрыемства “Кінатэхпром” на базе кінарамонтных майстэрань і аблбытпракат.

Устаноўлены помнік М.Т. Курбатаву (скульптар В. Пятраеў, арх. К. Асадаў).

Пасля прыняцця Канстытуцыі СССР 1977 г. зацверджаны Сцяг горада трэцяга ўзору.

Створаны ансамбль песні і танца “Праліца”.

Красавік. Праходзіць усесаюзная нарада-семінар “Задачы кафедр педагогікі і псіхалогіі педагагічных інстытутаў і ўніверсітэтаў вышэйшых вучэбных устаноў у выхаваўчай працы ў школе”.

## 1978 г.

Пачалося будаўніцтва спецыялізаванага рамонтна-эксплуатацыйнага ўчастка і комплекса 8–10-павярховых дамоў па вуліцы Горкага (арх. В. Давыдзёнак, І. Мазнічка).

Гродна параднёны з французскім горадам Ліможам.

Створаны Дом добраахвотнага таварыства садзейнічання Савецкай Арміі і флоту – метадычны цэнтр патрыятычнай і абаронна-масавай работы.

Да 850-годдзя горада збудавана памятная стэла са скульптурамі старажытнага вайскоўца-латніка і нашай сучасніцы (скульптар Г. Буралкін, арх. А. Каралькоў).

10 студзеня. Пачынае працу першая чарга завода сінтэтычнага валакна.

24 студзеня. Старшы-

нёй абласнога выканаўчага камітэта стаў С.Ц. Кабяк (да 31.10.1983 г.).

Сакавік. Прайшоў фінал рэспубліканскага кросу на прыз газеты “Правда”.

Красавік. Адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па праблемах спартыўнай медыцыны.

6 красавіка. Горад падзелены на Ленінскі і Кастрычніцкі раёны.

1 мая. На базе udinstytuta імя Я. Купалы адкрыты дзяржаўны ўніверсітэт (з 1988 г. – імя Янкі Купалы).

Жнівень. На вул. Савецкіх пагранічнікаў устаноўлены першы кіруемы пешаходны пераход.

25 верасня. Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Гродна ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга ў гонар 850-годдзя з дня заснавання і за поспехі ў гаспадарчым і культурным развіцці.

29 верасня. У Доме сувязі адбылося памятнае паштовае гашэнне: уся карэспандэнцыя гасілася штэмпелем у гонар 850-годдзя Гродна.

2 лістапада. П.М. Машэраў уручыў Гродна ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга на сумесным урачыстым сходзе грамадскасці горада ў Палацы культуры хімікаў (цяпер будынак філармоніі).

## 1979 г.

Студзень. Усесаюзны перапіс насельніцтва: у Гродна пражывае 195 тыс. чалавек.

З мэтаю пашырэння новага будынка аблвыканкама на рагу вуліц Ажэшкі і Сацыялістычнай зносіцца будынак былой Кантрольнай палаты (помнік архітэктуры сярэдзіны XIX ст.).

Адкрыта крама “Забаўкі”.

Створаны народны духавы аркестр завода аўтамагнітол (у 1987 г. – званне народнага).

Арганізаваны цэнтр навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды на базе абласнога аддзела навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды пры Дзяржплане БССР (1968 г.).

Красавік. Усесаюзная нарада па пытаннях масавага развіцця фізкультуры і спорту сярод школьнікаў.

Верасень. У Гродна право-

дзіцца VI чэмпіянат БССР па мнагаборстве.

Адбываецца Дэкада польскай кнігі.

### 1980 г.

Створаны Гродзенскі абласны тэатр лялек. Першая трупа сфарміравана з выпускнікоў Ленінградскага інстытута тэатра, музыкі і кінематаграфіі і Гродзенскага культасветвучылішча.

Створана Гродзенскае абласное аддзяленне таварыства сяброўства і культурных сувязей з замежнымі краінамі.

Археалагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам І.М. Чарняўскага раскапала рэшткі Прачысценскай царквы XII ст.

Сакавік. У горадзе прайшло першынство СССР сярод юніёраў па боксе.

18 мая. Гродзенская абласная студыя тэлебачання пачала весці перадачы ў каляровым выглядзе.

Жнівень. П. Пачынчук стаў сярэбраным прызёрам XXII Алімпійскіх гульняў.

4–25 снежня. У Гродна прайшоў чэмпіянат СССР па рускіх шашках.

Канец снежня. У выставачнай зале па вул. Ажэшкі адкрылася персанальная выстава мастака І.В. Пушкова.

### 1981 г.

Заснавана гідраметэаралагічная абсерваторыя Гродна.

Уведзены маршрутныя таксі.

Археолагі П. Рапапорт і А. Трусаў даследавалі княжацкі царам XII ст. на Замкавай гары.

Фабрыка дзіцячай забаўкі перароблена ў металаапрацоўчы завод.

Май. Адбылася прэм’ера у гродзенскім абласным тэатры лялек: спектакль “Людвіг і Тутта” В. Богача і С. Хрыстоўскага (галоўны рэжысёр тэатра С. Юркевіч).

9 мая. На вайсковых могілках адкрыты помнік савецкім вайскоўцам (скульптар В.В. Церабун, арх. А.П. Каралькоў).

Пасле 22 жніўня. На гродзенскіх могілках пахаваны А.В. Блохін, які быў забіты ў Афганістане 22.08.1981 г.

28–30 верасня. У Гродна прайшла Усесаюзная наву-

ковая канферэнцыя “Сям’я і школа”.

30 верасня. Адчынены Дом грамадзянскіх абрадаў (арх. А. Бабіцын), абласны кардыялагічны дыспансер.

Пасля 20 кастрычніка. На гродзенскіх могілках пахаваны В.В. Юртаў, які быў забіты ў Афганістане 20.10.1980 г.

## 1982 г.

Адчынены Гродзенскі абласны наркалагічны дыспансер.

Старшынёю гарадскога выканаўчага камітэта стаў С.М. Андрыеўскі (да 1989 г.).

Перад ДК “Юнацтва” народнымі майстрамі створана дэкаратыўная скульптурная кампазіцыя, прысвечаная Янку Купалу і Якубу Коласу.

Створаны камбінат надомнай працы, у якім стала выкарыстоўвацца праца інвалідаў і пенсіянераў.

Адчынена другая дзіцячая музычная школа.

Праводзіліся раскопкі на Замкавай гары і даследаванне Барысаглебскай царквы.

Арганізацыя ЖЭС на базе домаўпраўленняў.

29 студзеня. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР “за плодотворную работу по коммунистическому воспитанию трудящихся, мобилизацию их на успешное выполнение хозяйственного и культурного строительства” газета “Гродненская правда” ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў.

## 1983 г.

Аддзел культуры Гродзенскага гарвыканкама арганізаваў ансамбль старажытнай музыкі.

Створаны вытворчыя аб’яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі (ВА ЖКХ) пры гарвыканкаме і ЖРЭУ на базе жыллёвага ўпраўлення, райвыканкамаў і рамонтна-будаўнічага ўпраўлення жыллёвай гаспадаркі гарвыканкама.

Арганізацыя ДВА “Хімвалакно” імя 60-годдзя СССР на базе комплексу вытворчасцей завода “Хімвалакно”.

Адчынена 3-я гарадская паліклініка на вул. Пестрака і дзіцячая стаматалагічная паліклініка па вул. Горкага, 50.

3–6 жніўня. На VIII спар-

такіядзе народаў СССР гродзенцы І. Шылава, А. Курловіч, І. Ларычава заваявалі залатыя медалі.

31 кастрычніка. Старшынёю абласнога выканаўчага камітэта стаў Д.К. Арцыменя.

21 снежня. Здалі ў эксплуатацыю новы будынак абласнога драматычнага тэатра.

### 1984 г.

Адчыніліся Дом тэхнікі, новы аэрапорт у раёне в. Абухава, 4-я гарадская паліклініка па вул. Урублеўскага, 46/1.

Гродзенскай паэтэсе Д. Бічэль-Загнетавай прысуджаецца Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы за зборнік вершаў “Дзе ходзяць басанож”.

Ствараецца ансамбль народнай музыкі “Музыкі” Гродзенскага гарадскога Дома культуры (кіраўнік У. Самуйлін).

17 студзеня. Адкрываецца першая персанальная выстава мастака А. Ларыёнава ў выставачнай зале па вул. Ажэшкі (да 14 сакавіка).

Пасля 16 сакавіка. На гродзенскіх могілках пахаваны Г.Н. Бордан, якога забілі ў Афганістане 16.03.1984 г.

31 сакавіка. Адбылася прэм’ера ў новым будынку абласнога драмтэатра: “Вечна жывыя” В.С. Розава.

Красавік. У новым будынку пачаў працу тонкасуконны камбінат.

Ліпень. На гродзенскіх могілках пахаваны В.У. Бабко, якога забілі ў Афганістане 10.07.1984 г.

Лістапад. На гродзенскіх могілках пахаваны Д.В. Блізнец, які памёр ад ран, атрыманых у Афганістане 18.11.1984 г.

### 1985 г.

Камбінат надомнай працы перайменаваны ў вытворчае аб’яднанне надомнай працы.

Адкрыта атэлье 1-га разраду “Молодежная мода” па вул. К. Маркса.

Пасля 30 студзеня. На гродзенскіх могілках пахаваны В.У. Бажук, які памёр ад ран, атрыманых у Афганістане 30.01.1985 г.

Пасля 10 лютага. На гродзенскіх могілках пахаваны В.В. Цяцюхін, які памёр ад ран, атрыманых у Афганістане 10.02.1985 г.

Май. Напярэдадні 40-годдзя вызвалення Гродна ад нямецка-фашысцкіх захоп-

нікаў на бульвары Ленінскага камсамола адчынена Алея герояў, на якой усталяваны партрэты 37 вайскоўцаў і партызан, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Гродзеншчыны.

1 мая. Выходзіць сумесны 8-палосны нумар “Гродненской правды” і газеты французскіх камуністаў горада-пабраціма Ліможа “Eko do santre”. Адначасова сумесны нумар выходзіць у Францыі.

24 жніўня. У Гродна прайшла абласная нарада па выкарыстанні клубных устаноў і спартыўных збудаванняў.

6 верасня. Аддзел рэгуляцыі абмена рэчываў АН БССР пераўтвораны ў Інстытут біяхіміі АН БССР.

Кастрычнік. У Гродна нарадзіўся 250-тысячны жыхар горада.

14 снежня. У Беларусі нарадзіўся 10-мільённы жыхар. Ім лічыцца і кожны гродзенец, які нарадзіўся ў гэты дзень.

## 1986 г.

На базе спартыўных таварыстваў “Буравеснік”, “Зеніт”, “Чырвоны сцяг”, “Спартак”, “Ураджай”, “Лакаматыў” арганізаваны абласны Савет фізкультурнага спартыўнага таварыства прафсаюзаў БССР.

Пачалася рэстаўрацыя Старога замка.

Пачаў працу новы хлебазавод.

Пабудаваны Румлёўскі мост праз Нёман, які злучыў усходні прамысловы раён Гродна з мікрараёнамі Румлёва і Прынёманскі.

Падрыхтавана “Карэктура генеральнага плана горада Гродна” (фактычна чацвёрты генплан).

На гродзенскіх могілках пахаваны Н.Н. Рыбакоў, які памёр 18.02.1986 г. ад хваробы, атрыманай у Афганістане падчас выканання баявога задання.

10 сакавіка. У выставачнай зале па вул. Ажэшкі адчынілася персанальная выстава У.В. Церабуна (працуе да 28 красавіка).

12 сакавіка. У Гродна, пры гродзенскім ГДК, быў створаны гісторыка-культурны клуб “Паходня” дзякуючы намаганням М. Таранды з Інстытута біяхіміі АН БССР. На першае пасяджэнне прыйшло 19 чал. Сярод іх былі

ўдзельнікі народнага ансамбля “Нёман” В. Зубкоў і В. Ятулевіч, супрацоўнікі Інстытута біяхіміі А. Пацэнка, В. Лучко, Т. Козак, выкладчыкі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы М. Даніловіч, Н. Тарэлкіна, П. Маляўка, мастак У. Кіслы, карэспандэнт “Гродзенскай праўды” С. Астраўцоў і іншыя.

24 красавіка. Здадзены ў эксплуатацыю новы будынак чыгуначнага вакзала (архітэктар Грыгор’еў ).

17 мая. Адкрыўся Дом-музей М. Багдановіча – літаратурны аддзел Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.

10–16 ліпеня. Праходзіў III Рэспубліканскі фестываль тэатраў лялек Беларусі.

24 жніўня. Адбылося першае фальклорнае свята – Дзень народнага майстра.

Лістапад. На гродзенскіх могілках пахаваны С.С. Карней, якога забілі ў Афганістане 12.11.1986 г.

21 снежня. Адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 400-годдзю першага анатаміравання на тэрыторыі Усходняй Еўропы.

## 1987 г.

Пачаў працаваць кінатэатр “Кастрычнік”.

На гродзенскіх могілках пахаваны Г.Н. Лісанаў, які загінуў у Афганістане 23.05.1987 г.

Арганізавана міжабласная спецыялізаваная навукова-рэстаўрацыйная майстэрня Гродзенскага аб’яднання “Белспецрэстаўрацыя”.

Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага тэатральнага таварыства перайменавана ў Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза тэатральных дзеячаў БССР.

Люты. У цэнтральнай выставачнай зале па вул. Ажэшка прайшла пасмяротная персанальная выстава І.В. Пушкова. У 2008 г. на будынку будзе адчынена мемарыяльная дошка).

12 чэрвеня. Установчая канферэнцыя Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры (старшынёй выбраны С.А. Габрусевіч).

19 жніўня. Аб’яўлены конкурс па распрацоўцы новага герба горада.

23 жніўня. Прайшоў Дзень народнага майстра.

Верасень. У Гродна адбыў-

ся пяты з’езд дзіцячых урачоў Беларусі.

5 верасня. Прайшоў Дзень горада “Грайгорад-87”.

4 лістапада. Перад будынкам гарадскога камітэта КПБ адкрыты помнік У.І. Леніну (скульптар З.І. Азгур, арх. В.М. Аладаў).

19–20 снежня. У Гродна прайшла канферэнцыя “Гродзенскай фарнай аптэцы 300 год”.

## 1988 г.

На гродзенскіх могілках пахаваны П.І. Гладышаў, які памёр ад ран, атрыманых у Афганістане 21.12.1987 г.

Гродзенскія школьнікі знайшлі на беразе Нёмана ўзбраенне рыцара-русіна, які, верагодна, загінуў падчас вайны з крыжакамі ў канцы XIII – пачатку XIV ст.

29–30 студзеня. У Гродна прайшла канферэнцыя “150 год К. Каліноўскаму” (з выездам у в. Якушоўка Свіслацкага р-на).

18 лютага. Савет Міністраў БССР узяў пад ахову гістарычны цэнтр Гродна, абвясціўшы яго помнікам горадабудаўніцтва і архітэктуры.

Май. На гродзенскіх могілках пахаваны В.Э. Бараноўскі, якога забілі ў Афганістане 27.04.1988 г.

19–23 мая. У Гродна прайшоў VIII Міжрэспубліканскі фестываль самадзейных драматычных тэатраў “Рампа дружбы-88”.

15 чэрвеня. Пастановай гарвыканкама № 285 зацверджаны новы герб горада з выяваю аленя Св. Губерта, але без крыжа паміж рагамі, а з зорачкай у верхнім полі края шчыта. Аўтарамі выявы лічацца мастак С.У. Ільін і архітэктар У.А. Фралоў з Гродзенскіх мастацкіх вытворчых майстэрань.

10 жніўня. Паўстала культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча.

28 жніўня. Дзень народнага майстра (3-е фальклорнае свята).

5–6 жніўня. У горадзе гасціў прымас Польшчы, кардынал Юзаф Глемб. У горад з’ехаліся каталікі з усёй Беларусі.

9 верасня. На левым беразе Нёмана, насупраць Замкавай гары, пачаўся міжнародны пленэр скульптараў.

18 верасня. "Гродзенскі дзень" на Сеульскай Алімпіядзе: І. Шылава – першая чэмпіёнка алімпіяды (стральба з пнеўматычнай вінтоўкі), І. Басінскі – бронзавы прызёр (стральба з адвольнага пісталета).

28 верасня. А. Курловіч стаў алімпійскім чэмпіёнам у звышцяжкай вазе (штанга).

15 кастрычніка. У тэатры лялек прайшоў вечар памяці мастака, графіка і скульптара Я. Драздовіча, прысвечаны 100-годдзю з дня яго народзін.

## 1989 г.

Пачалася дзейнасць Гродзенскага абласнога аб'яднання яўрэйскай культуры (старшыня Р.Н. Хасід).

18 студзеня. Гродзенскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб правядзенні штогадовага Дня памяці (кожная трэцяя нядзеля красавіка) і Свята горада (першая субота верасня).

16 сакавіка. У рэспубліканскім музеі атэізму і гісторыі рэлігіі адкрылася персанальная выстава А. Ларыёнава "Цветов божественные лица".

22 сакавіка. На гродзенскай студыі тэлебачання адбылася першая перадача "Гарадніца".

26 сакавіка. Выбары ў Вярхоўны Савет СССР па Гродзенскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 560 і нацыянальна-тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 89 (Гродна і Гродзенскі раён). Гэта першыя выбары, якія праходзілі на альтэрнатыўнай аснове. Гарадзенцы вылучылі кандыдатам прафесара Міхаіла Аляксандравіча Ткачова, заснавальніка і кіраўніка клуба "Паходня", чалавека, які ў 1991 г. створыць Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду.

20 красавіка. У газеце "Гродзенская праўда" апублікаваны спісы савецкіх вайскоўцаў, забітых у Афганістане ў 1979–1989 гг. і пахаваных на тэрыторыі Гродзенскай вобласці (усяго 69 чалавек).

21–22 красавіка. У рэспубліканскім музеі атэізму і гісторыі рэлігіі прайшла канферэнцыя "Францыск Скарына і лес беларускай культуры".

14 мая. Паўторныя выбары ў Савет Саюза, у выніку якіх ні адзін кандыдат у дэпутаты не набраў неабходнай колькасці

галасоў. Па большасці галасоў у другі тур выходзяць першы сакратар Гродзенскага абкама КПБ У.М. Сямёнаў і прафесар гісторыі ГрДУ М.А. Ткачоў.

15–20 мая. Праходзіць вострая передвыбарная барацьба. Вуліца Савецкая па вечарах ператвараецца ў гродзенскі “Гайд-парк”.

21 мая. Другі тур паўторных выбараў у Савет Саюза Верхоўнага Савета СССР. Вынікі: па большасці галасоў (“за” – 163 590 / 66,7 % /, “супраць” – 80 729 / 32,9 %) народным дэпутатам стаў У.М. Сямёнаў.

5–30 мая. У Гродна прайшоў міжнародны пленэр мастакоў, у якім удзельнічалі 22 чалавекі з Польшчы, Францыі, Балгарыі, ЧССР, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Арменіі, Грузіі, г. Калінінграда, Беларусі (у тым ліку два гродзенскія мастакі).

27 жніўня. Дзень народнага майстра, на якім прысутнічаў народны артыст СССР Я. Леонаў.

Верасень. Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі перайменаваны ў Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі.

18 верасня. Рашэннем аблвыканкама веруючым перададзена Барысаглебская царква (у кіраванне Пакроўскага сабора) і царква на старых праваслаўных могілках.

20 верасня. Старшынёй гарвыканкама стаў В.М. Кудравец.

9 кастрычніка. “Гродненская правда” ўрачыста адзначыла сваё 50-годдзе. За гэты час было выдадзена 11 937 нумароў. Тыраж – 90 759 экзэмпляраў. Газета аб’яднала звыш 1 200 пазаштатных карэспандэнтаў.

19 кастрычніка. Рашэннем Гродзенскага гарвыканкама для помніка В.-К. Каліноўскаму ў Гродна адведзены ўчастак па вул. Савецкай, каля будынка абласнога Савета прафсаюзаў (пасля грамадскага абмеркавання праз органы мясцовага друку і згодна пастанове ЦК КПБ “О сооружении в Гродно памятника революционеру-демократу К. Калиновскому”).

15 лістапада. Першым сакратаром Гродзенскага абкама КПБ стаў В.М. Сямёнаў (выбары ўпершыню право-

дзяцца тайным галасаваннем з трох кандыдатаў).

Рашэннем Гродзенскага гарвыканкама народных дэпутатаў (№ 705) гродзенскаму Старому парку (быламу батанічнаму саду) нададзена імя Ж.-Э. Жылібера.

22 лістапада. У Гродна прайшоў творчы вечар кампазітара А.В. Бандарэнкі (у музеі гісторыі рэлігіі).

1 снежня. Устаноўчая канферэнцыя Гродзенскага гарадскога аддзялення (суполкі) ТБМ (Таварыства беларускай мовы). Старшынёй рады абраны дацэнт, загадчык кафедры беларускай культуры ГрДУ А.М. Пяткевіч.

11 снежня. На сумесным пасяджэнні бюро гаркама КПБ, выканкама гарадскога Савета народных дэпутатаў і бюро гаркама ЛКСМБ разгледжаны прапановы жыхароў горада аб ўпраўленні Гродна. Прызнана мэтазгодным пакінуць склаўшаяся адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўладкаванне горада.

17 снежня. Прайшла гарадская канферэнцыя, на якой выбралі гарадскую раду Беларускага народнага фронта.

20 снежня. Рашэннем Гродзенскага гарвыканкама народных дэпутатаў (згодна пастанове Савета Міністраў СССР ад 15.09.1989 г.) у Гродна створана спецыяльная матарызаваная частка міліцыі (СМЧМ).

## 1990 г.

На вайсковых могілках установлены помнік-крыж і мемарыяльная пліта з прозвішчамі 168 жыхароў горада – афіцэраў Войска Польскага, расстраляных у савецкіх лагерах.

Студзень. У Гродне створаны дэмакратычны блок “Саветы-90”.

9 студзеня. У Гродзенскай вобласці арганізавана каталіцкая епархія на чале з епіскапам Т. Кандрусевічам (рэзідэнцыя ў г. Гродна).

30 студзеня. Рашэннем Гродзенскага гарвыканкама ў Гродне “в целях оперативной разработки и проведения мероприятий по предупреждению, локализации и ликвидации эпидемий инфекционных болезней человека создана городская чрезвычайная противоэпидемическая ко-

миссия (ЧПК), ...в связи с переводом учреждения здравоохранения на новые условия хозяйственного механизма и происшедшей реорганизации в структуре сети" зацверджаны склад медыка-санітарнага Савета аддзела аховы здароўя гарвыканкама.

Люты. Прынята рашэнне аб стварэнні на базе ГПТУ № 7 (электрыкаў) імя І. Шчаснага Вышэйшага прафесійна-тэхнічнага вучылішча (тэхнічнага ліцэя).

Прайшоў фестываль харавой музыкі.

12–18 лютага. Прайшоў Тыдзень аздараўленчых мерапрыемстваў у рамках спаборніцтва гарадоў Гродна і Пітэрбора (Канада).

17 лютага. Па ініцыятыве Гродзенскай рады БНФ адбыўся гарадскі перадвыбарны мітынг на стадыёне "Чырвоны сцяг".

1 сакавіка. Рашэннем Гродзенскага гарвыканкама ў Гродне створана гарадская пазаведамасная комплексная экалагічная лабараторыя на сродках далявога ўдзелу прадпрыемстваў горада, з падпарадкаваннем Гродзенскай гарадской інспекцыі па ахове прыроды.

Разглядзеўшы пытанне аб стане і мерах па паляпшэнні забеспячэння насельніцтва горада мясапрадуктамі, гарвыканкам вырашыў: паколькі "отсутствие мясопродуктов в необходимом количестве и ассортименте в городе... создает острую социальную напряженность, ...войти с официальным ходатайством в Правительство Республики и ЦК КПБ о пересмотре плановых поставок мясопродуктов в союзно-республиканский фонд. В случае непринятия необходимых решений по улучшению обеспечения продуктами питания населения города Гродно просить трудовой коллектив и парторганизацию Гродненского мясокомбината с апреля 1990 года приостановить отгрузку мясопродуктов в союзный фонд".

4 сакавіка. Прайшлі выбары народных дэпутатаў БССР і народных дэпутатаў мясцовых органаў улады. Дэмакратычны блок "Саветы-90" прыняў рашэнне байкатаваць выбары ў раённыя саветы.

Вынікі выбараў: у Вярхоўны Савет выбрана 6 дэпутатаў (па Гродна – 0), у абласны Савет – 98 (з іх па Гродна – 5), у гарадскі Савет – 24 дэпутаты, па Ленінскім раёне – 7 дэпутатаў, па Кастрычніцкім раёне – 19 дэпутатаў.

9 сакавіка. Адбыўся І Рэспубліканскі фестываль беларускага танца.

Сакавік (паміж 12 і 17). У францысканскім касцёле Маці Божай Анёльскай адбылося першае ў найноўшай гісторыі Гродна публічнае грэка-каталіцкае набажэнства.

17 сакавіка. Паўторнае галасаванне па выбарах народных дэпутатаў у ВС БССР і ў мясцовыя саветы. Вынікі галасавання: у Вярхоўны Савет выбрана 12 дэпутатаў (па Гродна – 10), у гарадскі Савет – 25 дэпутатаў, па Ленінскім раёне – 5 дэпутатаў, па Кастрычніцкім раёне – 2 дэпутаты.

21 сакавіка. Арганізаваны гаспадарчаразліковы футбольны клуб "Нёман" (на базе футбольнай каманды майстроў "Хімік").

10 красавіка. Адбылася гарадская канферэнцыя ветэранаў вайны і працы.

18 красавіка. Прайшоў установчы сход Гродзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі, на якой старшынёй быў абраны доктар біялагічных навук А.Г. Майсяёнак.

22 красавіка. Паўторныя выбары народных дэпутатаў БССР і народных дэпутатаў мясцовых саветаў. Вынікі выбараў: у Вярхоўны Савет выбраны 1 дэпутат (па Гродна – 0), у абласны Савет – 33 (з іх па Гродна – 12), у гарадскі Савет – 51 дэпутат, па Ленінскім раёне – 38 дэпутатаў, па Кастрычніцкім раёне – 36 дэпутатаў.

26 красавіка. Старшынёю Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў стаў А.І. Дубко (да 1991 г.).

Май. У Гродна прайшоў фестываль самадзейнай аўтарскай песні.

5 мая. Паўторныя выбары і паўторнае галасаванне па выбарах народных дэпутатаў БССР і народных дэпутатаў мясцовых саветаў. Вынікі выбараў: у Вярхоўны Савет выбраны 7 дэпутатаў (па Гродна – 2), у абласны Савет –

5 (з іх па Гродна – 3), у гарадскі Савет – 7 дэпутатаў, па Ленінскім раёне – 3 дэпутаты.

10 мая. Згодна рашэнню Гродзенскага гарвыканкама ад 29.04.1990 г., будынак касцёла былога брыгіцкага кляштара перададзены Гродзенскаму рымска-каталіцкаму епіскапату для патрэб веруючых.

11 мая. Паўторнае галасаванне па выбарах народных дэпутатаў БССР. Вынікі галасавання: у Вярхоўны Савет БССР выбраны 1 дэпутат (па Гродна).

15 мая. Старшынёй гарадскога Савета народных дэпутатаў стаў В.М. Кудравец.

16 мая. Паўторныя выбары народных дэпутатаў у абласны і гарадскі Саветы.

28 мая. Паўторныя выбары народных дэпутатаў у мясцовыя саветы. Вынікі выбараў: у абласны Савет выбраны 9 дэпутатаў (з іх па Гродна – 5), у гарадскі Савет – 12 дэпутатаў, па Кастрычніцкім раёне – 8 дэпутатаў.

Чэрвень. Веруючым перададзены Дабравешчанскі касцёл Св. Брыгіты.

Шведска-польская фірма “СКАН-прадукт” і ГПА “Азот” арганізоўваюць сумеснае прадпрыемства “СКАН-ГРОДНА” па вытворчасці дэзадарантаў, духоў, адэкалонаў і іншых парфюмерных і касметычных вырабаў.

16 чэрвеня. У Гродна прайшоў I з’езд палякаў Беларусі, на якім створаны Саюз палякаў Беларусі.

25 чэрвеня. У Гродна прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Дэмакратычнай партыі Беларусі (ДПБ).

30 чэрвеня. Паўторныя выбары народных дэпутатаў БССР і народных дэпутатаў мясцовых саветаў. Вынікі выбараў: у Вярхоўны Савет выбраны 3 дэпутаты (па Гродна – 2), у абласны Савет – 2 (з іх па Гродна – 1), у гарадскі Савет – 7 дэпутатаў, па Ленінскім раёне – 3 дэпутаты. Па Школьнай і Лідскай выбарчых акругах г. Гродна, па Ленінскім раёне выбары прызнаны неадбыўшыміся, бо ў галасаванні прынялі ўдзел менш палавіны выбаршчыкаў, унесеных у спісы.

30 чэрвеня. Памёр вя-

домы гродзенскі ўрач У.Ю. Мірончык.

Ліпень. Адміністрацыя абутковай фабрыкі “Нёман” заключыла пагадненне з уладамі канадскага горада Таронта на пастаўку ім 40 тыс. сваіх вырабаў. Даведка: за год фабрыка выпускае 7 млн пар абутку.

25 ліпеня. У Гродна ліквідавалі Ленінскі і Кастрычніцкі раённыя камітэты КПБ.

1–10 жніўня. У Гродна прайшлі спаборніцтвы Усесаюзнай універсіяды.

18 жніўня. На 45-м чэмпіянаце свету па стралковым спорце ў Маскве гродзенка І. Шылава заваёўвае залаты медаль па стральбе лежачы з малакалібернай вінтоўкі на дыстанцыі 50 м.

22 жніўня. У Гродна пабывалі сенатары-аграрнікі ЗША.

26 жніўня. У музеі гісторыі рэлігіі прайшло фальклорнае свята “Дзень народнага майстра”.

30 жніўня. У Гродна ўведзена талонная сістэма продажу насельніцтву некаторых груп тавараў першай неабходнасці.

1 верасня. На базе школы № 30 адкрылася гродзенская гімназія.

Дзякуючы клопату апостальскага адміністратара біскупа Тадэвуша Кандрусевіча і тагачаснага прадстаўніка Апостальскай Сталіцы ў СССР арцыбіскупа Францэска Каласуона ў комплексе былога мужскога бернардынскага кляштара пачала працу Вышэйшая духоўная семінарыя Гродзенскай епархіі рымска-каталіцкай царквы. Гэта была трэцяя пасля Каўнаса і Рыгі семінарыя на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. На першы год было залічана 37 семінарыстаў, з якіх большасць была з Беларусі, некалькі з Украіны і адзін з Грузіі.

Арцыбіскуп Т. Кандрусевіч казаў:

*“За вернасць Хрысту Касцёл на Беларусі шмат пакутаваў і заплаціў высокую цану, але выцерпеў у барацьбе з ваяўнічым атэізмам і дачакаўся часоў адраджэння і далейшага развіцця семінарыі, якая з’уляецца сэрцам Касцёла, што пачалося біцца на беразе Нёмана ў Беларусі”* (Historia Wyższego Seminarium Duchownego

w Grodnie (Гісторыя Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродна). – Sobolewo: Wydawnictwo BUK. – 2015. S. 9).

8 верасня. У Новым (Калажанскім) парку прайшоў санкцыяваны мітынг, арганізаваны гродзенскай радай Беларускага народнага фронту, рабочым саюзам і аргкамітэтам Дэмакратычнай партыі Беларусі. Выступаючыя канстатуюць цяжкае сацыяльна-палітычнае становішча ў горадзе, катастрафічнае падзенне жыццёвага ўзроўню. У рэзалюцыі мітынга былі напісаны наступныя патрабаванні: спыненне паставак прадуктаў і прамысловых тавараў у саюзныя фонды, дэпалітызацыя ўсіх дзяржаўных структур і сродкаў масавай інфармацыі, нацыяналізацыя ўсіх дзяржаўных прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання і маёмасці КПСС, спыненне раскватаравання ў Беларусі выведзеных з Усходняй Еўропы савецкіх войск.

19 верасня. Нададзены статус помнікаў гісторыі і культуры гродзенскім зачыненым могілкам – праваслаўным, каталіцкім (па вул. Антонава) і яўрэйскім (вул. Паповіча).

Кастрычнік. Выйшаў першы нумар газеты “Glos znad Niemna”. Заснавальнік – Саюз палякаў Беларусі.

1 кастрычніка. Сесія Гродзенскага гарадскога Савета народных дэпутатаў прымае рашэнне аб адраджэнні гістарычнага герба горада, на якім выява аленя Святога Губерта: на блакітным фоне шчыта алень з залатым крыжам паміж рагамі, які пераскоквае праз пляцень.

8–9 кастрычніка. Адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя “Музей і развіцце гістарычнага краязнаўства”, прысвечаная 70-годдзю Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

17 кастрычніка. У Гродна зацверджана камісія па надзвычайных сітуацыях пры выканкаме гарадскога Савета народных дэпутатаў (КЧС) для прыняцця своечасовых і экстранных мер па папярэджанні і дзеянням у надзвычайных сітуацыях, якія ўзнікаюць пры аварыях, катастрофах, стыхійных бедствах, эпідэміях.

22 кастрычніка. Ствара-

ны гарадскі камерны аркестр (кіраўнік А.В. Бандарэнка).

28 кастрычніка. Адбыўся мітынг-рэквіем “Дзяды”.

Лістапад. Выйшаў першы зборнік Гродзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі “Наш радавод”.

3 лістапада. На гродзенскіх вайсковых могілках прайшла цырымонія адкрыцця памятнага знака-крыжа жыхарам г. Гродна – афіцэрам Войска Польскага, якія былі забітыя ў 1940 г. у сталінскіх лагерах.

23 лістапада. Выйшаў першы нумар штотыднёвай незалежнай газеты “Перспектива”. Заснавальнік – аб’яднанне кааператываў Гродзенскай вобласці.

28 лістапада. Прайшла міжрэспубліканская навуковая канферэнцыя па гістарычным краязнаўстве Беларусі і генеалогіі “Вітаўт Вялікі і яго эпоха”.

Каля Барысаглебскай царквы (месца збору ліцвінскіх харугваў перад паходам на бітву з крыжакамі) адкрылі памятны знак “Пагоня на Грунвальд. 1410 г.” (скульптар А. Дранец).

Снежань. Гродзенскі абкам КПБ перадае Новы замак упраўленню культуры аблвыканкама. Прынята рашэнне аб размеркаванні тут гісторыка-археалагічнага музея і абласной бібліятэкі імя Я. Карскага.

Выходзіць першы нумар незалежнай спартыўнай газеты “Пульс”.

4 снежня. Прайшлі паўторныя выбары народных дэпутатаў БССР па Гродзенска-Горкаўскай акрузе № 238. З 19 196 выбаршчыкаў у выбарах прынялі ўдзел 8 965, а таму прызначаны новыя выбары.

5 снежня. Рашэннем прэзідыума Акадэміі навук БССР створаны адзіны ў СССР аддзел праблем рэсурсазберажэння. Дырэктар – заснавальнік акадэмік А.І. Свірыдзёнак.

7 снежня. Выходзіць пробны нумар гарадской вячэрняй грамадска-палітычнай газеты “24 часа”. Заснавальнік – гарадская арганізацыя КПБ (другі пробны нумар выйшаў 12 снежня, а № 1 – 17 снежня).

14 снежня. У Гродна зарэгістравана гарадское аддзяленне Польскага куль-

турна-асветніцкага таварыства імя А. Міцкевіча. Сталася гэта дзякуючы намаганням тых, каму польскасць была мараю: падпалкоўніку Т. Гавіну, дырэктару школы Ю. Лучніку, навукоўцу С. Сянкевічу, інжынеру Ф. Вітовічу, мастаку Я. Парулісу.

І грамадская арганізацыя “Гродзенская хрысціянская місія – Благая вестка”.

18 снежня. Адбылося ўрачыстае адкрыццё першай у СССР транзітнай лічбавай міжгароднай тэлефоннай станцыі, якая змантавана і падрыхтавана да эксплуатацыі ў гродзенскім Доме сувязі сумесна з югаслава-германскай фірмай “Іскра-Сіменс”.

У Гродна зарэгістраваны камітэт памяці А. Міцкевіча.

## 1992 г.

Пачалі працу клуб яўрэйскай культуры імя Л. Найдуса і яўрэйская нядзельная школа.

2 жніўня. У скверы на скрыжаванні вуліц Горкага і Курчатава ўрачыста адкрыты помнік воінам-афганцам. З Гродна загінула ў Афганскай вайне 25 чалавек.

27 верасня. Умураваны вуглавы камень у пабудову Польскага дома на рагу вуліц Дзяржынскага і Міцкевіча.

## 1993 г.

20 студзеня. На пасяджэнні тапанімічнай камісіі гарвыканкама пад старшынствам намесніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Мілінкевіча было прынята рашэнне прапанаваць чарговай сесіі гарадского Савета народных дэпутатаў перайменаваць звыш 30 вуліц: Леніна, Савецкую, Кірава, Суворава, Будзённага, Ватуціна, Горкага, Гогаля, Талстога, Астроўскага, БЛК, 60 год Кастрычніка і д.п.

18 жніўня. Гарвыканкам, абапіраючыся на выннікі абмеркавання ў СМІ, прыняў рашэнне “Аб вяртанні гістарычных назваў вуліцам горада і пераналйменні вуліц” і рэкамендаваў сесіі гарадского Савета народных дэпутатаў разглядзець пытанне аб 12 вуліцах горада: Пажарскага, Марозава, Люксембург, Сацыялістычнай, Урыцкага, Учхозаўскай, Ціміразева, Бялінскага, Чапаева, Купалы, 60 год Кастрычніка і завулку Я. Купалы.

## 1994 г.

28 чэрвеня. Адбыўся аўтарскі канцэрт кампазітара А. Чопчыца.

15 ліпеня. У гербавым матрыкуле Рэспублікі Беларусь зарэгістраваны герб Гродна з выявай аленя Св. Губерта.

20 ліпеня. Адбыўся з'езд камуністычных груповак, называючых сябе Народны рух Беларусі. Галоўныя мэты – вяртанне еднасці трох славянскіх народаў: беларусаў, расіян і ўкраінцаў; наданне расійскай мове дзяржаўнага статуса.

## 1995 г.

Створана Гродзенская капэла (мастацкі кіраўнік У. Борматаў).

2 жніўня. Загад міністра прамысловасці аб ліквідацыі з 15.10.1995 г. завода "Радыёпрыбор".

# СПІС БУРМІСТРАЎ ГРОДНА[1]

Бурмістр – выбарная асоба ў магістрат горадоў з магдэбургскім правам, якая ўзначальвала гарадскую раду. Загадвалі гарадскім правам, старшынствалі на паседжаннях бурмістраўска-радзецкага суда, які разбіраў маёмасныя спрэчкі гараджан. (ВКЛ. Энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн., 2005. – С. 356).

| № | Дата | Прозвішча, імя | Дадатковыя пасады |
|---|---|---|---|
| 1 | 1496 | Федка | Гарадзенскі васкаўнічы |
| 2 | 1502 | Мікуліч Фёдар | |
| 3 | 1507 | Федка Багданавіч (Хрэбтовіч) | |
| 4 | 1528 | Драбышэвіч Мацей | |
| 5 | 1536 | Кудаевіч Раман<br>Хадкевіч Рыгор | |
| 6 | 1538-1541<br>1539-1540 | Пешкі (Пескі) Матыс<br>Пацуціч Ян | |
| 7 | 1538-1541<br>1540-1541 | Пешкі (Пескі) Матыс<br>Міскевіч Адам | |
| 8 | 1540 | Кудаевіч Раман<br>Павел Залатар | |
| 9 | 1540 | Ленковіч Тарас<br>Квач Ян | |
| 10 | 1541 | Бернатовіч Ян<br>Кудаевіч Раман | |
| 11 | 1548 | Павел Залатар<br>Ляшка Ян Бернатовіч | |
| 12 | 1561 | Гранда Шымон (Грандзіч Сымон) | |
| 13 | 1570 | Паўловіч Альберт<br>Рамановіч Іван | |
| 14 | 1571 | Гамнеж Ян | |

[1] Названы толькі выяўленыя на 1.01.2018 г. Гады ўказваюць на той час, калі дадзеная асоба займала пасаду.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15 | 1575 | Гранда Шыман<br>Яцковіч Марцін | |
| 16 | 1600 | Тарасовіч Іван | |
| 17 | 1616 | Неапаліта Станіслаў<br>Дзіва Ян | |
| 18 | 1620 | Паплаўскі Адам<br>Межаеўскі Станіслаў | |
| 19 | 1627 | Фандэберг Ганус (Ганс) | |
| 20 | 1633 | Крашнеўскі Міхал | |
| 21 | 1634 | Яцковіч Тэадор | |
| 22 | 1639 | Вараб'евіч Рыгор<br>Жыбуль Стэфан | |
| 23 | 1641 | Цвікліч Станіслаў<br>Высоцкі Яраш | |
| 24 | 1646 | Цвікла (Цвікліч) Станіслаў<br>Высоцкі Яраш | |
| 25 | 1650 | Шульц Фолцін<br>Адамовіч Ян | |
| 26 | 1653, 1654 | Цвікла Станіслаў | |
| 27 | 04.08.1659 | Адамовіч Ян<br>Васілевіч Мікалай /<br>Шаматула Якуб<br>Цвікліч Адам | |
| 28 | 09.09.1660 | Зелепуга Ян<br>Адамовіч Ян /<br>Паўлсен Ганус<br>Зелепуга Ян | |
| 29 | 04.01.1661 | Адамовіч Ян<br>Ляўковіч Пётр | |
| 30 | 1662 | Цвікліч Адам<br>Паўлсен Ганус | |
| 31 | 17.01.1663 | Вільд Эрхард<br>Зелепуга Ян | |
| 32 | 1663 | Яварoўскі Ян | |
| 33 | 1664 | Цвікліч Адам<br>Дзіва Канстанцін | |
| 34 | 04.02.1665 | Цвікліч Казімір<br>Дзіва Канстанцін /<br>Піатроўскі Войцех<br>Цвікліч Казімір | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 35 | 20.02.1666 | Паўлсен Ганус<br>Дзіва Канстанцін | |
| 36 | 21.01.1667 | Вільд Эрхард<br>Зелепуга Ян | |
| 37 | 17.01.1668 | Паўлсен Ганус<br>Шараўскі Якуб | |
| 38 | 11.01.1670 | Цвікліч Адам<br>Шараўскі Якуб | |
| 39 | 1673 | Концкі Пётр | |
| 40 | 1674 | Паўлсен Ганус | |
| 41 | 1678 | Багдановіч Хведар | |
| 42 | 1679 | Пятроўскі Войцех | |
| 43 | 1689 | Піатроўскі Ян<br>Разумовіч Габрыэль | |
| 44 | 13.01.1690 | Шульц Ян<br>Адамовіч Станіслаў | |
| 45 | 10.02.1691 | Разумовіч Габрыэль<br>Хржаноўскі Людвік | |
| 46 | 1696 | Катовіч Францішак | |
| 47 | 1698 | Разумовіч Ян Казімір | |
| 48 | 1712, 1713, 1717 | Разумовіч Ян Казімір | |
| 49 | 1718 | Мейстер Ян | |
| 50 | 1719 | Разумовіч Ян Казімір | |
| 51 | 1723 | Шульц Зыгмунт | |
| 52 | 1727 | Разумовіч Ян Казімір<br>Судан Юзэф | |
| 53 | 1728 | Судан (Судане) Юзэф | |
| 54 | 1730 | Цяхлевіч Войцех | |
| 55 | 1741 | Ёрдан Ян Каспар | |
| 56 | 1742 | Календа Міхал | |
| 57 | 05.02.1743 | Бадаракі Юзаф<br>Ёрдан Ян | |
| 58 | 20.02.1743 | Бадаракі Юзаф | |
| 59 | 02.05.1743 | Ёрдан Ян | |
| 60 | 21.04.1744 | Мейстер Ян<br>Бадаракі Юзаф | |
| 61 | 15.02.1745 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 62 | 24.04.1745 | Бадаракі Юзаф | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 63 | 01.02.1746 | Бадаракі Юзаф<br>Ёрдан Ян Каспар | |
| 64 | 14.12.1746 | Ёрдан Ян Каспар | |
| 65 | 30.06.1747 | Мейстр Ян | |
| 66 | 16.12.1747 | Бадаракі Юзаф<br>Ёрдан Ян Каспар | |
| 67 | 15.02.1748 | Мейстр Ян<br>Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 68 | 20.04.1748 | Сталінскі Андрэй Францішак Ёрдан Ян Каспар | |
| 69 | 04.08.1749 | Ёрдан Ян Каспар<br>Сталінскі Андрэй | |
| 70 | 04.08.1749 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ, бурмістр старой рады |
| 71 | 18.03.1750 | Бадаракі Юзаф<br>Сталінскі Андрэй Францішак | Сакратар ЯКМ |
| 72 | 28.06.1751 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 73 | 05.10.1751 | Сталінскі Андрэй<br>Бадаракі Юзаф | |
| 74 | 18.01.1752 | Бадаракі Юзаф Міхал<br>Сталінскі Андрэй Францішак | Сакратар ЯКМ |
| 75 | 27.10.1752 | Бадаракі Юзаф<br>Сталінскі Андрэй Францішак | Сакратар ЯКМ |
| 76 | 15.01.1753 | Сталінскі Андрэй Францішак Жылінскі Вінцэнт | |
| 77 | 15.01.1753 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ, бурмістр старой рады |
| 78 | 04.05.1754 | Бадаракі Юзаф<br>Сталінскі Андрэй Францішак | Сакратар ЯКМ |
| 79 | 21.08.1754 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 80 | 18.04.1755 | Сталінскі Андрэй Францішак | бурмістр старой рады |
| 81 | 22.03.1756 | Сталінскі Андрэй Францішак<br>Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 82 | 06.05.1757 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | бурмістр старой рады |
| 83 | 1768 | Абрамовіч Казімір | Каралеўскі сакратар |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 84 | 1784 | Лянкевіч Даніэль | |
| 85 | 1786, 1790 | Гартман (Гертман) Пётр | |
| 86 | 1791 | Рафановіч Якаў (Якуб) | |
| 87 | 1794 | Зелінскі Юзэф-Антоні | |
| 88 | 1832 | Касальскі Ян | |
| 89 | 1836 | Эллерт<br>Гейслер Саламон | |


Склад. па:

Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. – Гародня, Вроцлаў: Wroclawska DrukarniaNaukowa PAN, 2008. – С. 354, 356, 358-362, 364-368 372-373, 376-381.

Сліж Н. Магдэбургскае права ў Гародні ў канцы XV – першай палове XVI ст.: увядзенне і развіццё // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба , грамадства, дзяржава. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф. Смалянчука, Н.У. Сліж. – Мн.: Зміцер Колас, 2012. – с. 16, 27- 29.

Стрэнкоўскі, С.П. Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV – XVIII ст.). Ч. II. / С.П. Стрэнкоўскі. – Мн.: МГІРА, 2013. – С.238-241, 299.

Шаланда А. Геральдыка гарадзенскіх мяшчанаў у XVI – XVII ст.ст.: спроба класіфікацыі // Гарадзенскі социўм. 2013. Гісторыя і памяць. XV - XX стст. / Пад рэд. А.К. Краўцэвіча, А. Ф. Смалянчука Гародня: Гарадзенская бібліятэка, 2014. – С. 56-60.

Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у 1743-1767 гг.// Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба , грамадства, дзяржава. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф. Смалянчука, Н.У. Сліж. – Мн.: Зміцер Колас, 2012. – с. 65-66.

Borowik Prz. Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku. – Suprasl: Collegium Supraliense, 2005. – S. 93, 115, 127, 135, 153-157, 222, 243, 244, 266, 275, 282.

# ГРОДЗЕНСКІЯ СТАРАСТЫ[1]

Стараста - у ВКЛ у 16-18 ст. службовая асоба, якая кіравала адміністрацыйнай акругай (паветам), намеснік вялікага князя (караля польскага).

| № | Дата | Прозвішча, імя | Дадатковыя пасады |
|---|---|---|---|
| 1 | 1463-1476 | Судзівоевіч Станька | |
| 2 | 1512, 1514 | Кішка Станіслаў Пятровіч | |
| 3 | 1516, 1526 | Радзівіл Юры Мікалаевіч | |
| 4 | 1563 | Хадкевіч Рыгор Аляксандравіч | Староста магілёўскі, гетман найвысшы літоўскі, віленскі кашталян |
| 5 | зацверджаны паміж 7.07.1572 і 2.04.1573 | Хадкевіч Аляксандр Рыгоравіч | |
| 6 | 1604 | Скумін-Тышкевіч Тэадор | |
| 7 | 1621 | Касабудскі Станіслаў | |
| 8 | З 29.04.1727 | Масальскі | |
| 9 | 1765-1780 | Тызенгаўз Антоні | Падскарбі надворны літоўскі |
| 10 | 1780-1781 | Жэвускі Францішак | |
| 11 | 1782 | Панятоўскі Станіслаў | |
| 12 | 1920-1922 | К. Рагалевіч | |
| 13 | ? – 1939 |Валіцкі Тадэвуш | |

Складзена па:

Сліж Н. Магдэбургскае права ў Гародні ў канцы XV – першай палове XVI ст.: увядзенне і развіццё // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба , грамадства, дзяржава. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф. Смалянчука, Н.У. Сліж. – Мн.: Зміцер Колас, 2012. – с. 18, 39.

Якубаў В. удзел мяшчан і жыхароў Гарадзенскага павета ва ўзброенных канфліктах пачатку XVII ст. // Гарадзенскі соцыўм. 2013. – Горадня, 2014. – С. 67.

Sypula-Gliwa J. Podroz na Wschod. – Lominki, 2011. – S. 182.

[1] Указаны толькі выяўленыя на 1.01.2018 г.

## Лантвойты Яго Каралеўскай Вялікасці горада Горадні

Лантвойт – службовая асоба ў гарадах ВКЛ, якія мелі магдэбургскае права; намеснік войта. Выконваў яго даручэнні, у час адсутнасці войта - яго абавязкі (ВКЛ. Энцыклапедыя. Т. 2. – Мінск: БелЭн, 2006. – С. 180).

| № | Дата | Прозвішча, імя | Дадатковыя пасады |
|---|---|---|---|
| 1 | 1638 | Цвікліч Станіслаў | |
| 2 | 1639 | Цвікліч Станіслаў (субдэлегат), Марцін Градкоўскі | |
| 3 | 1646 | Каспровіч Анджэй | |
| 4 | 04.08.1659 | Паўлсен Ганус | |
| 5 | 09.09.1660 | Паўлсен Ганус | |
| 6 | 1662 | Цвікліч Казімір | |
| 7 | 17.01.1663 | На месцы: Паўлсен Ганус; Шаматула Марцін, Дзіва Канстанцін | |
| 8 | 1664 | Субдэлегаты: Шаматула Марцін Сапінскі, Дзіва Канстанцін, Цвікліч Казімір | |
| 9 | 04.02.1665 | Паўлсен Ганус | |
| 10 | 20.02.1666 | Цвікліч Казімір | Віцэ-адвакат |
| 11 | 1671 | Шараўскі Якуб | субдэлегат |
| 12 | 1673 | Паўлсен Ганус | |
| 13 | 1674 | Паўлсен Ганус/ Піатроўскі Войцех субдэлегат | |
| 14 | 1676 | Эсмант Лявон | |
| 15 | 1680 | Эсмант Лявон | |
| 16 | 1689 | Шульц Ян | |
| 17 | 13.01.1690 | Шульц Ян Казімір | |
| 18 | 10.02.1691 | На месцы: Матусевіч Казімір, Казакевіч Адам, Зеляпуга Войцех | |
| 19 | 1692 | Зеляпуга Ян | |
| 20 | 1698 | Зажын Ежы | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 21 | 1727 г. | Крупскі Станіслаў | падчашый старадубскі |
| 22 | 20.02.1743 | Чашэйка Міхал | Падчашы смаленскі |
| 23 | 05.05.1744 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | |
| 24 | 15.02.1745 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | |
| 25 | 01.02.1746 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | |
| 26 | 21.08.1748 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | Крайчы Гарадзенскага павета |
| 27 | 28.06.1751 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | |
| 28 | 09.04.1753 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | |
| 29 | 15.10.1755 | Адляніцкі – Пачобут Казімір Ян Непамуцэн Тадэвуш | |
| 30 | 03.10.1758 | Шаняўскі Станіслаў | |
| 31 | 06.02.1761 | Шаняўскі Станіслаў | |
| 32 | 09.02.1762 | Шаняўскі Станіслаў | |

Склад. па:

Стрэнкоўскі, С.П. Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV – XVIII ст.). Ч. II. / С.П. Стрэнкоўскі. – Мн.: МГІРА, 2013. – С.238-241.

Шаланда А. Геральдыка гарадзенскіх мяшчанаў у XVI – XVII ст.ст.: спроба класіфікацыі // Гарадзенскі соцыўм. 2013. Гісторыя і памяць. XV - XX стст. / Пад рэд. А.К. Краўцэвіча, А. Ф. Смалянчука Гародня: Гарадзенская бібліятэка, 2014. – С. 56-60.

Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у 1743-1767 гг.// Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф. Смалянчука, Н.У. Сліж. – Мн.: Зміцер Колас, 2012. – с. 62-63.

Borowik Prz. Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku. – Suprasl: Collegium Supraliense, 2005. – S. 31, 115, 127, 156, 161, 282

# Прэзідэнты Гродна[1]

| № | Дата | Прозвішча, імя | Дадатковыя пасады |
|---|---|---|---|
| 1 | 1743-1745 | Бадаракі Юзаф | |
| 2 | 05.04.1753 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 3 | 05.04.1753 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 4 | 05.04.1753 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 5 | 21.08. 1754 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 6 | 15.10. 1755 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 7 | 15.10. 1755 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 8 | 22.03.1756 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 9 | 05.01.1757 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 10 | 05.01.1757 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 11 | 05.01.1757 | Жылінскі Вінцэнт | |
| 12 | 06.05.1757 | Бадаракі Юзаф | |
| 13 | 06.05.1757 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 14 | 08.04.1758 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ |
| 15 | 08.04.1758 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 16 | 18.05.1758 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ |
| 17 | 03.10.1758 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 18 | 07.05.1759 | Жылінскі Вінцэнт | |
| 19 | 07.05.1759 | Клява Тадэвуш | |
| 20 | 07.05.1759 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 21 | 07.05.1759 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 22 | 26.03.1760 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 23 | 26.03.1760 | Клява Тадэвуш | прэзідэнт старой рады |
| 24 | 02.12.1760 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |

[1] Указаны толькі тыя, якія ўстаноўлены на 1.01.2018г. Гады ўказваюць на той час, калі дадзеная асоба займала пасаду.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 25 | 02.12.1760 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 26 | 06.02.1761 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 27 | 15.06.1761 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 28 | 15.06.1761 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 29 | 02.10.1761 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ |
| 30 | 02.10.1761 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 31 | 09.02.1762 | Жылінскі Вінцэнт | |
| 32 | 09.02.1762 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 33 | 02.06.1762 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 34 | 02.06.1762 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 35 | 02.06.1762 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 36 | 07.04.1763 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 37 | 07.04.1763 | Клява Тадэвуш | |
| 38 | 07.04.1763 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ |
| 39 | 07.04.1763 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 40 | 16.07.1763 | Жылінскі Вінцэнт Тадэвуш | |
| 41 | 16.07.1763 | Клява Тадэвуш | |
| 42 | 05.11.1763 | Клява Тадэвуш | |
| 43 | 05.11.1763 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 44 | 20.06.1764 | Клява Тадэвуш | |
| 45 | 20.06.1764 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 46 | 27.02.1765 | Сталінскі Андрэй Францішак | |
| 47 | 27.02.1765 | Клява Тадэвуш | |
| 48 | 27.02.1765 | Бадаракі Юзаф Міхал | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 49 | 10.03.1766 | Сталінскі Андрэй Францішак | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 50 | 10.03.1766 | Клява Тадэвуш | |
| 51 | 10.03.1766 | Бадаракі Юзаф | Сакратар ЯКМ, прэзідэнт старой рады |
| 52 | 1804-1809 | Урублеўскі Ігнаці | |
| 53 | 1810 | Бервінскі | |
| 54 | 1812, 1817 | Мучынскі Францішак | |
| 55 | 1818-1823 | Крэйбіх Казімір | |
| 56 | 1893 | Міхальскі | |
| 57 | 1893,1907,1912, 05.03.1919-11.05.1922 гг. | Лістоўскі Эдвард Эдвардавіч | |
| 58 | 12.05-17.07.1922 г. | Нелюбовіч Віктар | |
| 59 | 17.07.1922-1927 гг. | Стенпнеўскі Эдвард | |
| 60 | 1930 | Ранчашак Антоні | |
| 61 | 1930-33 | О'Брыен дэ Лясі Маўрыцый Аляксандравіч | |
| 62 | 1933-35 | Сулістроўскі Казімір | |
| 63 | 1934-36 | Міскы Віктар | |
| 64 | 1936-39 | Цэнскі Вітольд | |
| 65 | | | |
| 66 | 1939 | Цыдзік Стэфан[1] | |

Складзена па:

Гардзееў Ю. Магдэбургская Гароднятся. – Гароднія, Вроцлаў: Wroclawska DrukarniaNaukowa PAN, 2008. – С. 356.
Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у 1743-1767 гг.// Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба , грамадства, дзяржава. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф. Смалянчука, Н.У. Сліж. – Мн.: Зміцер Колас, 2012. – с. 63-64.
Sypula-Gliwa J. Podroz na Wschod. – lominki, 2011. – S.177.

[1] На магільнай пліце ў Бержніках (каля Сувалак, РП) напісана “апошні прэзыдэнт”, а з кнігі А.Карпюка “Карані” вядома, што ён быў віцэ-прэзыдэнтам Гродна.

# СПІС СТАРШЫНЬ ГАРВЫКАНКАМА І ГАРСАВЕТА

**Гарвыканкама**

| | |
|---|---|
| Саўкоў Б.М | 1944-1945 |
| Ражноўскі І. В | 1945-1948 |
| Ціханчук М.П | 1948-1950 |
| Пяткевіч Г.В | 1950-1952 |
| Грыбаедаў Мікалай Іванавіч | 1952-1955 |
| Барысік Мацвей Адамавіч | 1955-1960 |
| Воранаў Мікалай Міхайлавіч | 1960-1962 |
| Ушацкі Іван Іванавіч | 1962-1965 |
| Ахрыменка Генадзі Віктаравіч | 1965-1973 |
| Калацэй Мікалай Яфрэмавіч | 1973-1982 |
| Андрэеўскі Станіслаў Міхайлавіч | 1982-1989 |
| Домаш Сямён Мікалаевіч | 1990-1993 |
| Крупенка Генрых Аляксандравіч | 1993-1996 |

**Гарсавета**

| | |
|---|---|
| Ратайка Пётр Іванавіч | 1939-1941 |
| Крупенка Генрых Аляксандравіч | 1993-1995 |

# Змест

## ГРОДНА Ў СКЛАДЗЕ ПОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ



## ПАВЯТОВЫ, АБЛАСНЫ І РАЁННЫ ЦЭНТР У БССР

